


05

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(750) МАЙ, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

**Паштовы адрас:** Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку 19.05.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,87. Тыраж 1462 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 22 100 руб. (2 руб. 21 кап.)

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

## ПРОЗА



## ПАЭЗІЯ



## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## З БОГАМ

## Мікіта Найдзёнаў:

# «Я не хачу, каб усе думалі, што я такі правільны»



**Вынесці паэзію за межы стандартаў, перакладаць вершы, ахвяруючы нечым, пісаць у стане няшчаснасці і выдаць кніжку — гэта пра Мікіту Найдзёнава. Ён выдаў «дэбют» — і назваў «Развітанцы». Шчырае інтэрв'ю з ім пра літаратуру, эспрэса і каханне запісала Маргарыта Дзяхцяр (maladost@zviazda.by).**

## Пра «Развітанцы»

**— Па-першае, скажы, чаму такая назва? Па-другое, вокладка кнігі адрозніваецца ад іншых зборнікаў серыі «Пункт адліку». Як яна стваралася?**

— Для мяне «Развітанцы» — гэта «фініта ля камедыя» пэўнага жыццёвага перыяду. Мне хочацца скончыць нейкі творчы і жыццёвы адрэзак — і тут тое самае яркае і саспелае, што са мной адбывалася цягам трох гадоў, ранейшага няма. А наконт вокладкі — гэта буцінанка, зробленая Надзеяй Букай. Называецца «Не губляйце галавы». Калі шчыра, то і цюльпаны, якія «не схаваю ў кватэры», і танцы, і развітанне — усё ў гэтым вобразе. Мне падалося, што такая вокладка ідэальная.

**— Ты прыдумаў для свайго зборніка незвычайную рэкламную кампанію — «Вершы без межаў». Адкуль прыйшла ідэя?**

— Яшчэ да выхаду кнігі я падумаў, што любая добрая з'ява павінна дайсці да адрасата, таму трэба займацца хаця б крыху прасоўваннем сваёй творчасці. Мне падаецца, што паэзія не павінна жыць выключна ў бібліятэках ці на імпрэзах. І я ўспомніў — у мяне шмат знаёмых, якія жывуць у іншых краінах ці вандруюць па іх, і я звярнуўся да іх з прапановай зняць відэа на мае вершы. Сябры адгукнуліся, а пасля мне пачалі пісаць незнаёмцы і прапаноўваць зняць сваё відэа. Сэнс у тым, каб людзі менавіта слухалі вершы.

**— На відэа тваю паэзію чытаюць людзі самых розных прафесій — ад стыліста да барысты. Калі пісаў вершы гэтай кнігі, ты думаў, для якой яны аўдыторыі?**

— Вершы, якія ўвайшлі ў зборнік, — гэта асабістае. Мне трэба было напісаць гэтыя вершы. Калі б не напісаў, у мяне б заставаліся нявырашаныя пытанні. Вершы самі прыходзілі, а кнігу я ўвогуле не планаваў, таму і аўдыторыю не шукаў. Тым больш, што друкуюся я нерэгулярна, таму для мяне важны паказчык — імпульс, які ідзе ад першых радкоў. Я пішу пра тое, што мяне непакоіць.

## Пра прэміі і самавызначэнне

**— Ты трапіў у шорт-ліст прэміі «Дэбют». Што гэта для цябе? Разлічваеш на поспех?**

— Я вопытны дэбютант. Мне на дэбюты шанцуе — мы з гуртом HURMA атрымалі дэбют, летась я атрымаў «Дэбют» за публікацыю нізкі вершаў. Напэўна, пакуль сівізна не прабʼецца — буду дэбютантам. Але ў паэзіі я не лічу сябе пачаткоўцам, бо вершы пішу даўно. Я вельмі ўдзячны лёсу і людзям, дзякуючы якім выдаў кнігу.

**— А ці важнае тое, як прыме цябе аўдыторыя і ці прыме ўвогуле?**

— Публіка не вельмі гатовая да паэзіі, і калі я буду разлічваць на поспех у аўдыторыі, я выберу няправільны шлях. Я пішу не для літаратурных крытыкаў і не для паэтаў. Паэзія не павінна быць кампраміснай. Калі ў зборнік падбіраліся вершы,

Тое, што адбываецца, — у вершах адбіваецца

мне параілі выкінуць адзін з іх, бо ён можа не спадабацца калегіі журы. А я падумаў, што паэзія для мяне першасная. Некаторыя з маіх вершаў могуць пакрыўдзіць, прынесці боль блізкім, але калі словы прыйшлі, я не маю права іх трымаць, я не магу імі ахвяраваць. Я пішу не адзін дзень і не на адзін дзень, я хачу, каб тое, што я пішу, жыло далей. Паэзія самая шчырая, калі ты не можаш яе кантраляваць.

**— Мікіта, ты і журналіст, і паэт, і музыка. Хто ты ў большай ступені?**

— Я баюся, што журналіста ўва мне менш за ўсё. Паэта больш. Але мне падабаецца, што я магу міксаваць заняткі музыкай з паэзіяй і спалучаць гэта з журналістыкай. Мне б хацелася яшчэ штосьці ўмець.

## Пра тое, як пішуцца вершы, і пра каханне

**— Вершы на адным дыханні пішаш?**

— Ёсць такія, якія пішуцца адразу, ёсць такія, якія могуць ляжаць чарнавіком столькі, колькі ім патрэбна. А бывае, раптам паэзія прыходзіць ноччу ці ў іншы нязручны час, я ўстаю або адкладаю справы і запісваю гэтыя некалькі радкоў. У мяне ёсць адзін верш, які не ведаю як скончыцца. Я не ведаю, што павінна са мною адбыцца, каб ён сябе дапісаў. Верш — як сыр з цвіллю, — павінен выспяваць.

**— Паэзіі павінна быць шмат?**

— Я лічу, што зборнікі вершаў павінны быць маленькімі. Вершы трэба перачытваць. Паэзію лепш даваць маленькімі дозамі — гэта як эспрэса: выпіў і пайшоў. Таму ў маім зборніку 60 вершаў.

**— У кнізе шмат кахання. Як лічыш, хто лепш піша пра каханне — сталыя ці маладыя?**

— У Куляшова ёсць верш, напісаны ім у 14 гадоў. Лепш за гэты верш ён пра каханне не напісаў. Дранько-Майсюк казаў, што паэт пасля сарака памірае. Але сам пасля сарака працягвае пісаць добрыя вершы. Мне хочацца паэзіі, якая пішацца чалавекам да апошняга ўздыху. Паэт — гэта жывы чалавек. Барадулін кідаўся і ў рэлігійную тэматыку, і ў пахабшчыну. І я не хачу, каб усе думалі, што я такі правільны. Таму, калі я падбіраў вершы, дадаваў перцу. Тое, што адбываецца, — у вершах адбіваецца.

## Пра тое, што чытаць

**— Як лічыш, якой тэмы не хапае ў літаратуры?**

— Сучасная беларуская паэзія вельмі любіць верлібры, эксперыментальнае. І часта гэтым закрываецца ўменне пісаць у рыфму, хоць я верлібры пісаць не ўмею. А пра тэмы мне складана сказаць. Можна знайсці ў літаратуры любую тэму. Для мяне важна, каб было пра каханне, менавіта не штучнае, каб тое, пра што піша чалавек, з ім адбывалася, а не было проста моўнай эквілібрыстыкай.

**— Ёсць меркаванне, што ніхто цяпер не чытае. А як прымусіць людзей чытаць?**

— Гэта павінна быць гульня, місіянерска-асветніцкая дзейнасць. Трэба зацікаўліваць дзяцей яшчэ ў школах. У Еўтушэнкі ёсць верш «Выхаванне паэзіяй» — гэта важна, бо адчуваць і разумець паэзію не ўсе могуць.

Не так даўно я ездзіў у Беразіно, выступаў перад школьнікамі. Там былі 14-гадовыя дзеці, якім я чытаў рамантычныя вершы, але я не мог «растапіць лёд». А прачытаў сваё «Дробнае хуліганства» — і аўдыторыя пайшла на кантакт. Усім патрэбны момант разумення, што паэзія — гэта і весела, і сумна, але актуальна і пра цябе. Людзям хочацца шчырай лірыкі.

## Пра тое, чым усё працягнецца

**— Якія навіны ў твайго гурта HURMA?**

— Восенню мы выдалі дэбютны альбом REPEAT. Зараз рыхтуем новую песню (на верш з «Развітанцаў»), на якую будзем здымаць прыгожы

Верш — як сыр з цвіллю, — павінен выспяваць

кліп. Дарэчы, на кліп паспрабуем сабраць грошы праз краўдфандынгавую платформу. А ў маі плануем зладзіць вялікі канцэрт з новымі песнямі. Так што ўсё кіпіць!

**— А пра другую кнігу ўжо думаў?**

— Мне хочацца, каб спачатку першая кніжка пайшла ў жыццё. Нядаўна мы з Міхаілам Камінскім і маладымі танцорамі і акцёрамі зладзілі незвычайную імпрэзентацыю «Развітанцаў». І вырашылі працягваць нашы паэтычна-пластычныя эксперыменты. Хутка можна будзе набыць электронную і аўдыяверсію зборніка ва ўсіх найбуйнейшых інтэрнэт-крамах і праз сайт kniharnia.by. А вершы пішуцца — і ўсё здараецца. Я пазбавіўся ад усяго напісанага. Цяпер мне трэба ствараць нешта новае.



**Мікіта Лаўрэцкі:**

## «Фінансавання няма, не будзе — і не трэба»

**Рэжысёр Мікіта Лаўрэцкі — сціплы 22-гадовы хлопец, які здолеў парушыць зацішша ў айчынным кіно. Яго «Беларускі псіхапат» стаў лепшым мастацкім фільмам у нацыянальным конкурсе «Лістапада-2015», і гэта твор, дакладна варты сваёй узнагароды. Адмыслова для «Маладосці» Мікіта расказаў Хрысціне Чарнушэвіч, чые фільмы любіць, як адмаўляецца ад драматычнай іроніі і калі кладзецца спаць.**

**— Як звычайна праходзіць ваш дзень?**

Вы не можаце нічога ведаць пра сучаснае лічбавае кіно, наогул пра жыццё, калі не глядзелі Сюндзі Іваі! Ён ні разу не быў у Канах альбо Венецыі, але ён не аўтсайдар. Фільмы Сюндзі Іваі сабралі процьму грошай, ён — японскі Уэс Андэрсан

— Нават няёмка распавядаць… Два-тры разы на тыдзень я выкладаю ў ліцэі БДУ матэматыку на вячэрніх курсах. У гэтыя дні я прачынаюся гадзіне а дванаццатай. Снедаю. Потым займаюся лухтой: магу пайсці на шпацыр у Ракаўскае прадмесце, набыць якіх-небудзь булак. Як быццам мне дзевяноста гадоў! Потым іду ў ліцэй, там час бяжыць вельмі хутка — цікавыя заняткі. Вяртаюся дадому, а ўвечары сустракаюся са сваёй дзяўчынай ці сам гляджу фільмы і серыялы. Ужо апоўначы я займаюся творчасцю. Гэта значыць пяць хвілін папрацаваць, дваццаць — паабнаўляць старонкі ў інтэрнэце. Зашмат пракрастынацыі, канешне. Ну, а дзесьці а шостай кладуся спаць.

**— Арганізм не стамляецца ад такога рэжыму?**

— Не, я ўжо шмат гадоў засынаю а шостай! Чым я яшчэ займаюся, калі не хаджу на працу? Часам здымаю рэпартажы для аднаго сайта. Вось апошнія дні праходзіў новую гульню — The Witness. Звычайна я камп'ютарнымі гульнямі не захапляюся, але гэта ад майго ўлюбёнага аўтара, Джонатана Блоў. Чакалі яе выхаду восем гадоў! Гэта шэдэўр, проста 10 з 10.

**— Колькі фільмаў вы паспяваеце паглядзець за тыдзень?**

— Раней у мяне было шмат аўтараў, якія мне падабаліся і чые фільмаграфіі былі мною не даследаваны. Я, будучы чалавекам апантаным, тады праглядаў усю фільмаграфію рэжысёра запар. Усё Вудзі Алена, усё Эрыка Рамера. Але і дагэтуль застаецца шмат белых плям. Зараз я збіраюся паглядзець больш фільмаў японскай «новай хвалі». Праглядаю пяць-сем фільмаў на тыдзень. Маю файл на працоўным стале, дзе занатоўваю назвы стужак, з якімі хачу азнаёміцца. Раней ён рос, а цяпер, хутчэй, памяншаецца.

**— А што значыць «займацца творчасцю»?**

— Я пішу сцэнарыі. Насамрэч на гэта трацішца не вельмі шмат часу, звычайна ў мяне ўжо складваюцца гісторыі. Трэба проста думаць і пісаць. Што датычыцца «Беларускага псіхапата», там быў не вельмі добра напісаны сцэнарый. У рэшце рэшт, дыялогі мы зымправізавалі. Гэта ўсё роўна неблагі вынік, але наступны сцэнарый будзе іншы. Цяпер я ствараю гісторыю пра каханне і партнёрства: там галоўныя героі — студэнты, а дзея адбываецца ў Віцебску. Апроч гэтага, я пішу рэцэнзіі на незалежныя амерыканскія фільмы, сцэнары коміксаў. Часам нават вершы.

**— Ці складана адбываецца пераход ад напісання сцэнарыя да здымак стужкі?**

— Сцэнарый — гэта не праца, можна сказаць. Я не шліфую тэкст, калі ён гатовы, значыць гатовы. Вось здымаць — самы вялікі стрэс. Даводзіцца займацца і арганізацыйнай часткай працэсу, так што я атрымліваю яшчэ і прадзюсарскі досвед. Быць прафесійным рэжысёрам — гэта, канешне, мара. Аднак складана сарыентавацца, як менавіта ім стаць. У Беларусі няма індустрыі, таму няма і дакладных стратэгій. Таму мая справа — здымаць усё лепей зрэжысіраваныя фільмы. Пра астатняе я асабліва не задумваюся.

**— Раскажыце пра сваіх улюбёных рэжысёраў.**

— Мне вельмі падабаецца Джо Свонберг — напэўна, самы цікавы рэжысёр у свеце. Ён пачаў здымаць у сярэдзіне нулявых. Галоўная яго тэма — якое непаразуменне бывае паміж людзьмі і, наадварот, як можна разумець адзін аднаго. Свонберг дасягнуў неверагоднага ўзроўню натуральнасці ў кадры. Можна бясконца на-

Беларусь — краіна андэрачывераў, дзе існуюць вельмі спецыфічныя суадносіны паміж працавітасцю, умовамі працы і разгубленымі маладымі людзьмі

тхняцца тым, як ён паказвае мікраманеры персанажа. Таксама хачу згадаць японскага рэжысёра Сюндзі Іваі. Чамусьці мала хто яго ведае, хоць у Японіі гэта культавая асоба. Я раю яго фільмы сваім сябрам-сінефілам: паглядзіце, вы не можаце нічога ведаць пра сучаснае лічбавае кіно, наогул пра жыццё, калі не глядзелі Сюндзі Іваі! Ён ні разу не быў у Канах альбо Венецыі, але ён не аўтсайдар. Фільмы Сюндзі Іваі сабралі процьму грошай, ён — японскі Уэс Андэрсан. У 2001 годзе ён выпусціў фільм «Усё пра Лілі Чоў-Чоў». Гэта гісторыя пра школьнікаў, якія, паміж іншым, любяць спявачку Лілі Чоў-Чоў. І для фільма быў створаны адмысловы саўндтрэк. Гурт пад назвай «Лілі Чоў-Чоў» дагэтуль выступае з тымі песнямі! Гэта ўжо культурны феномен. Нават Таранціна выкарыстаў іх песню ў «Забіць Біла». У фільмах Сюндзі Іваі заўсёды прысутнічаюць вельмі ёмістыя прыгожыя сцэны, не банальныя і не пошлыя. Сцэнарысты, пэўна, мараць заўважыць хоць адзін такі момант у жыцці. Галоўны яго шэдэўр, на маю думку, — «Хана і Аліса».

**— Аднойчы вы казалі, што стараецеся адмаўляцца ад драматычнай іроніі ў сваіх фільмах…**

— Мабыць, гэта гучыць занадта амбітна (як адмовіцца ад драматычнай іроніі, гэта ж аснова драматургіі з антычных часоў!), але сапраўды так. Іронія — становішча, калі аўтар і глядач ведаюць крыху больш, чым персанаж. Адсюль вынікае маралізм, бо чалавек можа ацаніць, правільна паступіў гэты герой ці не. Сёння розныя рэжысёры сыходзяць у розныя бакі ад гэтай іранічнасці. У ЗША Лена Данэм здымае серыял «Girls», які можна глядзець і ўвесь час не разумець: гэты персанаж агідны, нейкі жах робіць ці ён нармальны, усе ў рэальным жыцці так дзейнічаюць? Ці наогул так трэба рабіць? І там усё будуецца на такіх сітуацыях. Ніякага адказу серыял не дае, няма драматычнай іроніі. А ў філіпінскага рэжысёра

Фінансавання няма, не будзе, і, галоўнае, яно не патрэбна. Варта стварыць якасны сцэнарый і адказна паставіцца да рэжысуры

Лава Дыяса ёсць фільм «Іерамія», які ідзе дзесяць гадзін і здымаўся агульнымі статычнымі дублямі. Часта персанаж там — гэта проста маленькая кропка на экране. Мы не глядзім на яго праз прызму драматурга-маніпулятара. Сэнс вынікае ад самога персанажа, а не ад драматургіі, але гэта не значыць, што драматургіі няма: там адбываюцца пэўныя падзеі. Адсутнічае менавіта іронія.

**— Як вы выпрацоўвалі свае рэжысёрскія навыкі?**

— Уменне з'яўляецца, калі з'яўляюцца сапраўдныя задачы. Мяркую, што вырашаць задачы — адзіны від навучання. Напрыклад, мне хацелася, каб галоўны герой «Беларускага псіхапата» выклікаў у гледача дваістыя пачуцці, каб было незразумела, злодзей ён, ідыёт ці чалавек, варты шкадавання. І я не хаваю інфармацыю пра персанажа, а максімальна агаляю яго, каб глядач не ведаў, што з гэтым рабіць. Паўстае пытанне: якія тэхнічныя сродкі патрэбныя, каб паказаць такое? Тады спачатку я прапаную суб'ектыўны погляд на героя: паказваю яго відэаблог, інстаграм. Потым дэманструю, як ён сам сябе бачыць. І ў кульмінацыі — так званы «погляд бога», то-бок доўгі статычны план. У гэты момант глядач можа рабіць нейкія высновы.

**— Як мяркуеце, ці правільна гледачы ўспрымаюць вашы фільмы?**

— Думаю, разуменне твораў — гэта праблема аўтара. Бо мастацтва — кантакт паміж аўтарам і гледачом, у гэты момант нараджаецца прыгажосць. «Беларускі псіхапат» атрымаўся даволі камедыйным, я быў бы рады, калі б людзі часцей смяяліся. З пункту гледжання інтэлекту яго нельга няправільна ўспрыняць, з пункту гледжання мастацтва — гэта пытанне без адказу. Колькасць людзей, якія знайшлі мой фільм прыгожым, нават перасягнула мае чаканні. Я задаволены. Фільм прынялі на фестываль, ён атрымаў узнагароду — у гэта немагчыма паверыць!

**— Якія бонусы дае перамога на «Лістападзе»?**

— Галоўнае, што цяпер мяне нехта ведае. Магу напісаць у інтэрнэце незнаёмаму аператару, з якім было б цікава папрацаваць: «Вось, не хочаш зняць мой новы фільм? Праўда, заплаціць я не магу». І ён ужо не падумае: «Што гэта за дурань мне піша?» Ён чуў, што я нешта нармальнае магу здымаць, і, мабыць, пагодзіцца супрацоўнічаць.

**— Што з'яўляецца галоўнай перашкодай для творчасці?**

— Не бачу перашкод — трэба напісаць добры сцэнарый, і ўсё. Фінансавання няма, не будзе, і, галоўнае, яно не патрэбна. Варта стварыць якасны сцэнарый і адказна паставіцца да рэжысуры. Прасоўванне фільма і бюджэт не такія важныя, на маю думку. Першых двух пунктаў можна дасягнуць і без іх. Прынамсі, у межах маіх эстэтычных і жанравых інтарэсаў: мне цікава здымаць разможныя фільмы, я не кажу пра экшн.

**— Ці былі ў вас думкі пажыць за мяжой?**

— Думаю, амаль любы чалавек эміграваў бы, калі б яму прапанавалі ўсё гатовае. Калі ласка, дакументы табе аформілі, вось запрашэнне на працу, і кватэру знайшлі, і квіткі на самалёт. Ужо назаўтра б паляцелі. Я, напрыклад, у англамоўнай краіне адчуваў бы сябе камфортна, бо ідэальна ведаю англійскую мову. Здаецца, ніхто нікога не трымае. Але ўсё жыццё складаецца з дробязей. Вялікія механізмы не працуюць, бо не працуюць маленькія. Калі чалавеку лянота пашукаць у гугле, якія паперы патрэбны для эміграцыі, то ўжо няважна, ці хапае яму на гэта грошай ды розуму. Быў бы рады атрымаць досвед жыцця ў іншай краіне. Але Беларусь — добры варыянт для таго, каб займацца творчасцю. Мне цікава тут жыць і здымаць не толькі з-за сентыментальнасці ці нейкіх акалічнасцей. Як аўтара мяне цікавіць само беларускае асяроддзе. Я заўважаю, што Беларусь — краіна андэрачывераў*, дзе існуюць вельмі спецыфічныя суадносіны паміж працавітасцю, умовамі працы і разгубленымі маладымі людзьмі. Думаю, я ўзніму гэтую тэму ў новым фільме.

---

* Андэрачывер — чалавек, які па нейкай прычыне не рэалізуе свой патэнцыял.

## Ес Соя, ці Яўгеній Сцяпанаў:

# «Калі публіка складаная, паэтычны вечар праходзіць нармальна, але не крута»

**Ён адзін з самых папулярных рускамоўных паэтаў, які пачаў сваю кар'еру ў інтэрнэце. У яго вершах перш-наперш зачароўвае рытм, такі ж незвычайны, як і тэмбр яго голасу, — мяккі, нізкі, кранальны. Яго паэзія прасякнута эратызмам і адначасова дзіцячай наіўнасцю, платанічным каханнем. Яна як празрыстая вада пад ранішнім сонцам. Яўгеній — адэсіт, і мора таксама фігуруе ў яго радках. У вясеннім туры ён прэзентуе кнігу «Saudade», што ў перакладзе з партугальскай значыць «настальгія». Мінск сустрэў паэта ў сакавіку ў прасторы «Хто такі Джон Голт?» З ім пагутарыла Анастасія Васілевіч.**

У дзяўчыны ў першым радзе дрыжаць рукі — яна адкрывае новы зборнік вершаў і плача ад шчасця. У гэты час астатнія паклоннікі падпісваюць кнігі і фатаграфуюцца са сваім кумірам. Здаецца, лірыка Еса Соі неадрыўная ад яго іміджу: калі б ён быў іншым — якасць вершаў напэўна не змянілася б, але пераасэнсаванне тэкстаў адбылося б. Высокі бландзін, татуіроўкі на руках і шыі, модны «look» — усё як на фотаздымках у інтэрнэце, ніякага падману не адчуваецца. Падчас выступлення Яўгеній будзе жартаваць, што даўно не піў і не курыў, зачытваючы «амаральныя» радкі вершаў, звяртацца да слухачоў і правяраць атмасферу ў зале. Спачатку здаецца, што Соя спецыяльна расцягвае словы, але пасля паўгадзіннага інтэрв'ю становіцца зразумела: гэта не так…

Павольна раскінуўшыся на канапе, ён адразу выбраў стыль размовы на «ты» — неяк беспантоўна, па-сяброўску. І ніякай штучнасці: гэта рытм яго існавання, яго сапраўдныя манеры, звычайны выгляд. Гэткі чалавек кантрастаў, у якім сумяшчаецца несумяшчальнае. Дзякуючы гэтаму і ён, і яго паэзія такія, якія ёсць. Гэта дае падставу чытачам і крытыкам называць яго паэтам-бітнікам, новым Есеніным, неарамантыкам. А сам Яўгеній? «Усё адбываецца, як адбываецца, усё проста — зараз я размаўляю з табой і п'ю гарбату».



**— Ты быў царкоўным служкам. Як ты пачаў пісаць вершы і піць пакетнае віно ў пад'ездах?**

— Хачу адзначыць, што я быў міністрантам[1] — гэта на ранг вышэй і круцей гучыць. (Смяецца.) Першае ніколі не перашкаджала другому. Я вырас у вельмі рэлігійнай сям'і і працягваю ў ёй расці. Я не шукаў выйсця ў «іншы свет», калі мы кажам пра жыццё і кар'еру, шмат што адбывалася само па сабе — напэўна, лёс. Мяне не хвалілі, калі я рабіў выбар, а потым было бессэнсоўна спрачацца. У мяне невялікая сям'я — фактычна, толькі мама ды бабуля, але я — дарослы чалавек, і яны — дарослыя людзі. Выхоўваць адзін аднаго няма сэнсу, трэба ўзаемадзейнічаць — нас аб'ядноўвае нашмат больш рэчаў, чым раз'ядноўвае. Часам трэба прыслухоўвацца да бацькоў, але калі б я гэта рабіў часта, то, напэўна, мыў бы посуд ці прадаваў дыскі.

**— Скажы, ты спецыяльна ў сваёй творчасці ідзеш супраць сістэмы?**

— Калі мы кажам пра сучасную паэзію і мастацтва, то ў XXI стагоддзі ўжо няма пэўнай сістэмы, плыні, супраць якой ісці. Тое, што ў школе я любіў чытаць Керуака больш, чым глянцавыя часопісы, — гэта не хада супраць сістэмы, а нармальны густ. Калі не было інтэрнэту, я знаёміўся з паэзіяй дзякуючы часопісу «НАШ» — адтуль я даведаўся і пра бітнікаў, і пра «ОБЭРИУ». На самай справе ўва мне нашмат менш кітчавасці і эпатажу, чым здаецца спачатку.

[1] Міністрант — юнак, які прыслугоўвае свяшчэнніку падчас імшы.

**— Адкуль тады пірсінг, татуіроўкі?**

— Гэта падлеткавыя амбіцыі — я ўсё «забіў» гадоў у сямнаццаць.

**— А ці сустракаў ты на сваім шляху дзядзечку-эксперта, які бракаваў твае вершы?**

— У мяне такога ніколі не было, я сам з'яўляюся такім дзядзечкам, якому дасылаюць вершы, просяць сказаць штосьці і тлумачаць, наколькі гэта важна. (Усміхаецца.) Для мяне такі алгарытм дзеянняў выглядае дзіўна — нават калі б у мяне была магчымасць даслаць свае вершы аўтарытэтнаму для мяне чалавеку, напрыклад Ніку Кейву, — не ведаю для чаго б я гэта зрабіў. Канешне, мне цікава, як ставяцца да маіх вершаў сябры, людзі, якіх я паважаю, але для гэтага ёсць спецыяльныя моманты.

**— Бываюць часам дэпрэсіі, калі цяжка пісаць?**

— Дэпрэсіі былі і будуць, гэта адлюстроўваецца на творчасці, але не на колькасці напісанага. Не пісаць немагчыма: гэта бесперапынны працэс пошуку. Вершы — гэта не толькі тое, што на паперы, гэта тое, што ты фіксуеш. Мне лёгка ўявіць, што значыць не друкаваць, не выступаць, не дзяліцца і ў прынцыпе нават не пісаць на чымсьці. Але што такое не фіксаваць, не запамінаць, не адшукваць — уявіць цяжка.

**— Але ўсё ж такі ты пачаў выступаць і дзяліцца. Як адбылася першая сустрэча з гледачамі?**

— Паэт як чалавек мастацтва павінен быць чымсьці незадаволены. Мяне ў гэтым паэтычным свеце штосьці не задаволіла, — і я пачаў пісаць сваё. Выявілася, што і мне тут знайшлося месца. Аднойчы я напісаў у гугле «куды выкласці вершы маладому паэту», ён скіраваў мяне на «стихи.ру», я выклаў і хутка стаў атрымліваць добрыя рэцэнзіі — адкуль узніклі чытачы, не ведаю. Праз два-тры месяцы пасля рэгістрацыі мяне запрасілі выступіць у Кіеве — гэта было нечакана. Фармат быў такі: прыкладна дзесяць паэтаў чытаюць свае вершы па тры хвіліны для прыкладна дзесяці гледачоў. (Смяецца.) Спачатку адмовіўся, а потым пагадзіўся, так і не зразумеўшы, каму патрэбны фармат паэтычнага вечара. Потым праз некалькі месяцаў я паехаў у Данецк, там быў першы сольны вечар, даў першы аўтограф — з гэтага пачалося… Прыемна, калі цябе слухаюць. А мяне слухалі заўсёды — нават калі я казаў поўную бязглуздзіцу. Вечар у Харкаве ў 2009-м дапамог мне зразумець, што паэзія — маё прызначэнне.

**— Якая функцыя ў сучаснага паэта?**

— Гэта складана. Бачыш, ёсць у мяне нейкі «канэкшн» з людзьмі, яны пазнаюць сябе ў маіх тэкстах. Я сябе пазнаю ў чужых вершах рэдка, але, калі пазнаю, — гэта поўная магія. Бывае, чытачы падыходзяць і расказваюць, як некаторыя з маіх вершаў ратавалі ім жыццё. Не ведаю, ці праўда гэта, але, калі ў мяне атрымліваецца выказаць іх пачуцці сваімі словамі, я радуюся.

**— Што ты робіш, калі публіка «складаная»?**

— Кажучы пра складаную публіку, мы маем на ўвазе аднаго-двух індывідаў. А ў цэлым, калі публіка складаная, паэтычны вечар праходзіць нармальна, але не крута — вось і ўсё. Кожны чалавек — гэта тварэнне Бога. Ёсць нейкія якасці, якія зусім непрымальныя ў адным чалавеку, але прымальныя ў іншым.

**— Ты ўзаемадзейнічаў і з тэатральнай публікай…**

— Я ставіў спектакль пра Аляксандра Вярцінскага — гэта быў аднаразовы праект. Да Вярцінскага ў мяне вельмі глыбокае стаўленне, мне было важна зрабіць гэтую пастаноўку, на той момант я ведаў пра яго ўсё. Праект рабілі ў Днепрапятроўску разам з паэтам Максімам Валаханем — я не ведаю, як склалася б далей, але Максім паехаў жыць у Польшчу, а варыянт, што я буду рабіць праект самастойна, не абмяркоўваўся. Для мяне чарадзейства, калі думкі пераходзяць на паперу, а тут яшчэ больш складаны працэс: галава — папера — прастора.

**— А якому мастацтву аддаеш перавагу пасля паэзіі?**

— Мне вельмі блізкая музыка, але я ёй не займаюся: можа таму я люблю музыкантаў, а іх цягне да маіх радкоў. Паэзію я рэдка цяпер чытаю, тым больш сучасную. Перачытваю Пабла Нэруду, Арцюра Рэмбо, але часцей выбіраю прозу.

**Яна Мусвідас**

# Схаваны патэнцыял



Вось ужо некалькі гадоў мой будзільнік працуе без выхадных — сем дзён на тыдзень. Па натуры я непапраўная соня і магу праспаць усё на свеце, таму паслаблення сабе не даю. Па суботах мне як ніколі хочацца застацца ў ложку, але воляю лёсу я вымушана ехаць у басейн — там праходзяць заняткі па фізічнай культуры. Дарэчы, халодную ваду і навалач людзей я не люблю, так што вы павінны разумець, наколькі вялікая мая незадаволенасць у гэты дзень.

Звычайна пасля сарака хвілін у хлараванай вадзе я павольна апранаюся і гэтак жа павольна плятуся ў метро. Усё гэта раблю «на аўтамаце»: не задумваюся, калі прыкладваю праязны да валідатара, не магу сказаць, як саджуся ў цягнік — ды і наогул, з цяжкасцю памятаю дарогу дадому.

Але на гэты раз мой «аўтамат» зламаўся. Нічога так не бадзёрыць з раніцы, як удар турнікета па нагах. Я не адразу зразумела, за што гэтая злосная штука мяне «пакарала». Ужо ў вагоне да мяне дайшло, што я пераблытала «права» і «лева», а на зялёную стрэлку проста не звярнула ўвагі. Так звычайна і здараецца, — гэтыя жалезныя монстры караюць невінаватых.

У гэты дзень пра ўнутраныя турнікеты я думала не ўпершыню. Каму прыйшло ў галаву схаваць перашкоду для безбілетніка, а, галоўнае, — навошта?

Прынцып адной з кніг, якая дасталася нам у спадчыну ад савецкага дзяцінства — «Шкодныя парады», — заключаецца ў тым, каб даць дзіцяці няправільныя парады, тым самым справакаваўшы яго на зваротны — правільны — ўчынак. Верагодна, з дзецьмі гэты спосаб і працуе, але няўжо ён патрэбен у дарослым жыцці? Навошта ствараць ілюзію прахода там, дзе яго няма? На што разлік, на правакацыю правапарушэння?

Пару гадоў таму я была ў Іспаніі. Там мяне шчыра здзівілі работнікі транспартнай паліцыі. Прынцып іх работы такі: службовая машына (з маркіроўкай і іншымі апазнавальнымі знакамі) стаіць на дарозе з уключанымі мігалкамі, і супрацоўнікі добра бачныя кіроўцам. Ніхто не хаваецца «ў кустах» і не спрабуе кагосьці падлавіць. А кіроўцы, у сваю чаргу, не спадзяюцца «а можа пракаціць». Няма гэтай самай правакацыі правапарушэння, усё сумленна і адкрыта.

І тут узнікае самае папулярнае пытанне жыхара постсавецкай прасторы: «Хто вінаваты?» Вінаватых можна знайсці шмат, але галоўны вінаваты — псіхалогія «савецкага чалавека», псіхалогія, якая перадалася і нам — дзецям новай эпохі, псіхалогія, якая праіснуе, верагодна, яшчэ не адно стагоддзе.

*P.S.* Дарэчы, вінаватых канкрэтна ў стварэнні турнікетаў са схаванай перашкодай я знайшла. У 1957 годзе ў Савецкім Саюзе праходзіў конкурс на распрацоўку лепшага турнікета. Усю віну на плечы пераможцы і яго праекта я перакладаць не буду: мы не можам ведаць, чым было жаданне схаваць пагрозу жалезнага «монстра» — дзяржзаказам ці асабістай ініцыятывай праекціроўшчыка, — але факт застаецца фактам: многія постсавецкія краіны ўсё яшчэ жывуць па такой сістэме. На ліквідацыю такіх «турнікетаў» пойдзе яшчэ не адно дзесяцігоддзе.



Кацярына Роўда

**нарадзілася 10 мая 1988 года ў вёсцы Савічы Валожынскага раёна. Студэнтка чацвёртага курса філалагічнага факультэта БДУ (завочнае аддзяленне). Працуе бібліятэкарам у фундаментальнай бібліятэцы БДУ. Неаднаразова станавілася лаўрэатам агульнаўніверсітэцкага паэтычнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп». Друкавалася ў часопісах «Белая Вежа», «Вожык», альманахах «Дзьмухавец» і «Сафія». Актывіст клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа».**

## У вальсе думак

***

У акенцы гэтым
Светла адвячоркам.
Дроў паленцы ў печы
Ціхенька трашчаць.
Сціпленькая хатка
Ў весцы на пагорку
Затужыла, пэўна, —
Смеху не чуваць.

Тут павырасталі
І сынок, і дочкі.
Сем’ямі сваімі
Ў гарадах жывуць.
Толькі гаспадыня
Праглядае вочкі:
«Можа, хто прыедзе?..
Можа, забягуць?..»

Моліцца да Бога,
Паглядае ў сенцы,
А ў суботу ставіць
Зноўку ў печ пірог.
Сціснецца ад жалю
У матулі сэрца,
Што яе наведаць
Зноў ніхто не змог.

Ды ўсё роўна любіць,
Крыўды не трымае,
Хоць, вядома, сумна
І душа баліць.
Маці сваіх дзетак
Кожны дзень чакае.
Ды закрыта брамка…
Тэлефон маўчыць…

## Восень

Намалявала восень новы
Чароўна-велічны пейзаж!
Я не магу прамовіць слова
Ад прыгажосці, што наўсцяж.

І хай не вельмі сонца грэе —
Цяплом атуліць мяккі шаль...
Імжыцца дожджык, вечарэе —
Кастрычнік правіць пышны баль!

Туману вэлюм пад нагамі,
Лістоты фарбы, ліхтары...
І думкі ў вальсе кружаць самі
Ад чараў восеньскай пары.

Я гэтым цудам наталюся,
З палёгкай светлай уздыхну
І радаснай дамоў вярнуся,
І да паўночы не засну:

Вазьму аловак, сшытак новы,
Прысяду, лямпу прытушу...
Усё ўначы невыпадкова:
Я не паэт, але пішу.

Нарэшце восень адчыніла
Душы іржавыя замкі
І сэрца соннае натхніла
На паэтычныя радкі.

Дапамагла тугі пазбыцца —
І мне адразу стала лепш, —
Каб змог нарэшце нарадзіцца
Мой светлы, хоць і просты, верш.

***

Сагрэтыя сонейкам, кветкі на полі
Так пахнуць духмяна, цвітуць, як ніколі!
І шэпчуцца травы, нібы маладзіцы,
І спеюць у промнях гарачых суніцы!

Пагодна! У рэчцы вада пацяплела,
Прайдуся па беразе моўчкі нясмела.
Прыпомню, як некалі тут разам з братам
Збіралі чабор, і мелісу, і мяту…

Як дзеда з лазы выразаў нам свістулькі
І вершы ды байкі чытала бабулька.
Нас вабіла поле, нас клікалі травы,
Нам праца — і тая была за забаву:

Давалася лёгка, ды й часу хапала…
Для шчасця патрэбна было вельмі мала!
І толькі душа бесклапотнасць адчула —
Як тут жа дзяцінства маё прамільгнула.

Гады праляцелі, нібыта хвіліна…
І я не дзяўчынка даўно, а жанчына,
Ды промнем лагодным вясковага лета
І сёння дарослае сэрца сагрэта.

***

На шчаках застылі слёзы-дыяменты,
Як узнагарода за яе каханне.
Скончылася стужка. Што ж — апладысменты,
Хоць фінал банальны — горкае расстанне.

Што яе ратунак? Музыка ды кніга,
Ад якіх надзея ў сэрцы задрыжыць.
Там, дзе сонца грэе, будзе і адліга,
Там, дзе ёсць цярпенне, будуць сілы жыць.

***

Выразалі сад стары з карэннем,
А ні дрэўца — голая зямліца,
Спала долу квецені адзенне —
Сціпла ў чорным вёсачка глядзіцца.

Выразалі сад, як частку сэрца.
Яблынькі, каму ж вы заміналі?
Дождж вадой гаючаю ліецца…
Пуста стала, быццам абакралі.

Выразалі сад. Хаваю вочы,
Каб не бачыць жудаснай карціны.
Па ўзараным полі ціха крочу,
А за мной плятуцца успаміны.

Коле ў сэрца памяці іголка,
Прадзімае роспачны вятрыска…
Выразалі сад. Нясцерпна горка
За дзяцінства светлага калыску.

***

Звіняць званы, трывожныя званы…
Замест будынкаў — шэрыя руіны.
Кляймом вайны, бязлітаснай вайны
Пазначыў лёс суседку-Украіну.

Майдан… Разлад, агонь і барацьба,
Радзеюць сем'і і пусцеюць хаты,
А множыцца — да Госпада мальба,
І палыновы плач, і болеч страты.

Звіняць званы, трывожныя званы…
Як страшна жыць — там брат пайшоў на брата!
Няўжо забыты вопыт той вайны,
Што адпусціла нас у сорак пятым?

Няўжо зруйнуюць, знішчаць, разарвуць
І край чароўна-кветкавы загіне?
Не давядзі , Гасподзь! І дай пачуць
Пра дабрабыт і мір ва Украіне!

## Вікторыя Сінюк



**нарадзілася 21 жніўня 1988 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, магістратуру і аспірантуру. Пагружаецца ў літаратуру і як даследчык-літаратуразнаўца, і як літаратар, утвараючы пранікнёныя, душэўныя творы, кожны — з асаблівай нотай. Працуе ў школе, выкладае рускую мову і літаратуру**

# Нота

## I

У Траццякоўцы ён доўга стаяў каля васільеўскай «Адлігі» — свяціўся ціхім захапленнем і, усміхаючыся, уважліва вывучаў кожны сантыметр палатна, кожны мазок геніяльнага пэндзля. Алена адчула інтымнасць, якая ўсталявалася паміж ім і карцінай і, каб не перашкаджаць гэтай доўгачаканай для яго сустрэчы, скіравалася блукаць па суседніх залах. Па праўдзе кажучы, яна трохі зайздросціла яму: апошнім часам, з той пары, як яна адчула і прызнала ў сабе гэтую тужлівую прыхільнасць, якая раптоўна зрабіла яе самотнай, усё вакол зрабілася быццам пабляклым, прыглушаным, болей не паглынала і не зачароўвала. А кажуць яшчэ: пакахаеш — і свет зайграе новымі фарбамі, загучыць новымі нотамі, расчыніцца космас, і зоркі матылькамі пасыплюцца з нябёсаў. Дзе там!

А раней жа так і было: і расхіналася ўсё неяк па-вясноваму, і гучала на розныя лады, і такая ж адліга, як на гэтай карціне, дарыла прадчуванне раскошнага бэзавага траўня. Зараз іначай. Зараз усё ў душы, як на гэтым палатне: тая ж нязбыўная адзінота, тая ж закінутая поўнач і цяжкае неба над ёй. Вось ён, чалавек, поруч — можаш дакрануцца, прашаптаць якое-небудзь ласкавае глупства — і ўсё роўна нязбытны, бязлюдны, ветраны стэп унутры.

Калі яна вярнулася, Аляксей усё стаяў на тым жа месцы, скрыжаваўшы рукі на грудзях. Ягоны твар пабялеў, скрывіўся — гэта, мабыць, васільеўскія фарбы кінулі на яго свой пануры, цяжкі водсвет. Яна ўстала побач і ўзяла яго пад руку. Ён нават не варухнуўся — ізноў гарчынка, зноў колкі званочак адчужэння. Колькі хвілін маўчалі.

— Чуеш яе, гэтую нотку, так? Яна ж лёсам аплачаная... Дваццаць тры гады хлопец пражыў...

— Аляксей памаўчаў. — Усё, далей не пайду. Дамоў.

— А Сурыкаў?

— Заўтра. Зараз дамоў.

Алена адвярнулася — слёзы падкацілі да вачэй. Зноў развагі пра «ноту» — цёмныя, поўныя нейкай нядобранадзейнасці і неўладкаванасці, якія яго ніколькі не палохалі, а, хутчэй, зачароўвалі, як нешта запаветнае, як... верны ўзор лёсу, напэўна. Зноў парадокс: менавіта гэтыя ягоныя развагі яна і ўпадабала, на гэтую непрыкаянасць і павялася. Меркавала: сагрэе, пашкадуе (ніколі раней не хацела ані грэць, ані шкадаваць — «моцныя» падабаліся, такія, для якіх шкадоба раўназначная насмешцы). Усё ж душа, як за ёй ні сачы, вечна ў нейкай шалёнай самаволцы, думалася ёй зараз. Тое, што здавалася стрыжнем, апірышчам, зараз бесхрыбетна выгінаецца, калышацца ў розныя бакі. Усе змялася, скамячылася — апрача напружанага жадання быць каханай гэтым чалавекам, быць патрэбнай яму болей за ўсе абрыдлыя «ноты».

**II**

Дамоў — значыла ў гасцініцу. Здаецца, у дзясятую за гэтае лета. Амаль тры месяцы яны вандравалі па Расіі, у асноўным па маленькіх гарадах са старажытнымі цэркаўкамі ды манастырамі, з двухпавярховымі драўлянымі хацінкамі на цэнтральных вуліцах, з бездарожжам, з разлогам вакол. Масква была апошнім пунктам іх доўгага падарожжа, за час якога абое стаміліся і зрадніліся, зросліся — хай сабе і па-рознаму. Яго карэньчыкі чапляліся за яе і за нешта яшчэ — іншае, важнае і прыхаванае, а яе карэньчыкі — толькі за яго.

Спачатку ёй здавалася, што яна цалкам разумее гэтае ягонае «важнае» і што яны аднадумцы і сябры, але ён неяк мімаволі адхіляў яе ад гэтага, быццам бы песціў у сабе нейкую абранасць і аберагаў сваю адзіноту. І вось яна адсунулася — са *свайго хлопца* ператварылася ў *жанчыну*, упершыню ў жыцці адчула цёплую тугу па гнёздах, па доме, які замаячыў раптам за ўсімі гэтымі пераездамі, дарогамі, цягнікамі, старажытнымі сценамі — за ўсёй гэтай ашаламляльнай Расіяй, якой яму было мала і мала: «яшчэ адзін гарадок, яшчэ вёсачка, яшчэ стэп, і тады — дом». «Дом трэба выпакутаваць, інакш у ім чэрці завядуцца...» — казаў ён. А яшчэ трэба было «аплаціць лёсам» гэтую «ноту», якая яму — ужо знакамітаму ў свае трыццаць чатыры віцебскаму мастаку — аніяк не давалася. Не давалася пранізлівая мяжа, пераходнасць, паўзмрок. Усяго на яго палотнах было з лішкам: сонца — сляпіла яркім святлом, а ноч — густою, непрагляднай цемрай, навальніца — бушавала апантана, і не было ў ёй прадчування доўгага, сухога спакою. Змешваў фарбы, біўся над нюансамі — выходзіла няскладная мазаіка настрояў, якую, аднак, добра куплялі «аматары». На яе, на гэтую сваю «пранізлівую ноту», ён і паляваў, яе падслухоўваў, яе выпытваў і выглядаў паўсюдна.

Пэўны час — яны тады гасцявалі ў яе сваякоў у Ленінградскай вобласці — ёй падалося, што ўсё ў ім праяснілася, усё ўстала на свае месцы. Так уразіла яго гэтая дружная, цёплая, сардэчная сямейнасць, бясконцыя шумныя вячэры пасля лазні, перакуры каля вогнішча з гутаркамі на гаспадарчыя тэмы, праца ў агародзе — за яе браўся з дзіцячым захапленнем, з ім жа сек дровы, карміў цётчыных коз і ганяў на ровары з яе, Ленінымі, падрослымі пляменнікамі. Не згадваў тады сваю «ноту», не хапаўся за аловак, быццам яго адбіралі нейкія невядомыя сілы. Быў гарачым і адданым, прымяраў ролю мужа, казаў: «мы з Ленай», «а ў нас з Ленай», «вось калі мы з Ленай...» Яна засвяцілася. Вось калі неба ўрэшце адчынілася ў космас, і зоркі паляцелі матылямі — калі домам павеяла. Свежаю дзіцячай бялізнай, бяссоннымі начамі пры калысцы, стомленасцю ад дарагіх клопатаў. Вось закон жаночай душы — і паспрабуй сказаць, што ён не сусветны.

Планавалі тады, па начах у невялікім дзедавым пакойчыку, што з часам, пасля заканчэння кансерваторыі, Алена перабярэцца з Мінска да яго, у Віцебск — і пачнецца новая, хвалюючая паўсядзённасць. Яна ўладкуецца настаўнікам у музычную школу, увечары стане іграць яму Глінку і Рахманінава, будуць разам чытаць Талстога і абмяркоўваць усё-ўсё-ўсё на свеце. А ўлетку ізноў паедуць да тых самых сваякоў— ужо сям'ёю, а не пыльнымі, вандроўнымі бабылямі. А потым яны з'ехалі з вёскі, — і дарога зноў скруціла радасную яснасць у нейкі дзіўны вузел ...

*«Адліга».* Фёдар Васільеў (1850–1873).



*«Адліга»* – карціна рускага мастака Фёдара Васільева (1850–1873), створаная ў 1871 годзе. Знаходзіцца ў Траццякоўскай галерэі.

Па значнасці і ўзроўні майстэрства гэтую карціну часам параўноўваюць са слыннай «Джакондай». На палатне мы бачым панылы сыры пейзаж з размытаю дарогай, на якой стаяць дзве фігуры – дарослага і дзіцёнка. Падталы снег, паўразбураная хата, шэрае неба – усё быццам бы патыхае пранізлівай безнадзейнасцю. Эфект толькі ўзмацняецца фарматам палатна: яно выцягнутае ўшыркі.

Карціна была напісана за адзін месяц, і адразу пасля стварэння ўдзельнічала ў выставе Імператарскага таварыства заахвочвання мастацтваў, атрымала там першую прэмію. Яшчэ да заканчэння выставы карціну набыў Траццякоў.

Падчас працы над гэтай карцінай Васільеў моцна захварэў, у яго былі выяўлены сухоты. Граф Строганаў запрасіў мастака правесці лета 1871 года ў сваіх маёнтках у Варонежскай і Харкаўскай губернях, але Васільеву гэта не дапамагло.

Былі сабраны грошы, Васільева выправілі ў Крым, дзе ён і правёў два апошнія гады жыцця. Там ён шмат працаваў, утварыўшы шмат малюнкаў і карцін, прысвечаных як крымскай прыродзе, так і роднай паўночнай.

На жаль, інтэнсіўная праца канчаткова падарвала здароўе маладога мастака, і восенню 1873 года яго не стала.

## III

На наступны дзень яны нікуды не пайшлі, не вярнуліся ў Лаўрушынскі завулак паглядзець Сурыкава і Ге: Аляксея ўвесь дзень трэсла ліхаманка. Упершыню за ўвесь час іх падарожжа ён захварэў. «Надыхаўся гэтай золкай адлігай...» — пасмейваўся скрозь кашаль. І ёй захацелася раптам, каб ён расхварэўся на ўсю моц, каб прыйшлося абмяняць квіткі і застацца тут, у горадзе велізарнага неба, яшчэ на некалькі дзён. Яна два разы бегала ў аптэку — нейкая надзвычай натхнёная — і, саромеючыся гэтага натхнення, паіла яго булёнам і мікстурай, захутвала ў тонкі гасцінічны плед і цалавала, не баючыся падхапіць нездароўе.

Пад раніцу яму зрабілася лепей — і пасля сняданку пайшлі па крамах: трэба было купіць чагось у дарогу. Узялі вяндліны, сыру, булачак да гарбаты, віна. Пакуль ішлі, ён трымаў яе за руку, у краме з гаспадарскай пераборлівасцю выбіраў прадукты. І зноў павеяла падступнымі надзеямі, і яна, насуперак вопыту, гнала з душы ўсе цёмныя цені, пакідаючы ў ёй адно святло і цеплыню чакання. Хай не спраўдзяцца, хай пакружаць журавамі ды згінуць — не спяшайся апускаць галаву, казала яна сабе і ўяўляла журавоў і палоску святла вогненнага захаду над сонным полем.

Вечарам селі ў цягнік — і амаль да паўночы, пакуль на адной дробнай станцыі не падсяліліся іншыя, ехалі ў купэ ўдваіх. Пілі віно, і Аляксей зноў глядзеў на яе з нейкай попельнаю цеплынёй, гатовай ці то ўспыхнуць, ці то развеяцца дарэшты. Толькі на світанні, прачнуўшыся праз храп, які далятаў з суседняй паліцы, Алена раптам адчула, што ёй цалкам зразумелы гэты вось цёплы попел...

У акно вагона бадзёрым дымком струменіла нясмелае, ранняе святло Радзімы. Жнівеньскія світанкі, ужо настылыя, расцвіталі зараз пазней і пазней — гэта восень ўзялася паціху красці імгненні летняга дня. Ружаватыя туманы, воблачна звісаючы над высокім разнатраўем, ціха раставалі, і адусюль чуліся першыя званочкі ранка, якія хутка набіралі сілу і былі гатовыя вось-вось сарвацца, зліцца ў шчыльны шум летняга дня; гэты шум сціхне да ночы — і толькі тады раптам зразумееш, што ён быў — і заўсёды будзе на свеце.

Раптам з вясёлым грукатам цягніка паехалі цераз вялікі мост над невядомай ракой, і Алена ўспомніла...

## IV

...Неяк у вёсцы, у самы разгар сваёй кароткай ідыліі, яны з Аляксеем рушылі агледзець наваколле. Прайшлі гародамі, перабраліся праз равок і зараснік ляшчыны — пачалася пясчаная дарога, пабегла бясконцай жоўтай хваляй паміж палёў і бярозавых гаёў. Па ёй і пайшлі, ведаючы, што дзесьці там пачнецца старадаўняя вёсачка, якая, як казалі, амаль ператварылася ў звычайнае дачнае паселішча. Гэтым ветрам, што свістаў у прагаліне паміж эпохамі, ім і хацелася надыхацца. Пад такім ветрам, казаў Аляксей, адчуваеш, што існуеш у гісторыі і ў вечнасці адначасова. І Алена, пранікнутая прыгажосцю гэтай, як ёй здавалася, супярэчнасці, таксама вучылася адчуваць такі вецер...

Не даходзячы да вёсачкі (так і не дайшлі яны да яе ў той вечар), нечакана выйшлі да ракі, не надта шырокай — такой, што пераплывеш спакойна і не стомішся асабліва. Вада бурая, непраглядная, хуткая, і топкае глінянае дно тут, пэўна, з раптоўным абрывам... На другім беразе— густы лес, у які сонца не зазірае, толькі рэдкія промні блытаюцца ў яловых галінках бледна-залатою павуцінкавай сетачкай. Ды больш за ўсё тут уражвала вось што: з аднаго берага на іншы быў працягнуты тонкі канатны мост — відаць, ходзяць у гэты гушчар у грыбы ды ў ягады дачнікі.

Алена і Аляксей селі на бязлюдным беразе, дасталі бутэрброды з салам, свежыя агуркі і цётчын морс з леташніх журавін — усё гэта ўпрыкуску з рачным паветрам здалося нябачаным банкетам з водарам свабоды і раздольнага лета. Як пад'елі, Алена, сама сабе здзівіўшыся, скіравалася «паспрабаваць» мост — так гарэзліва-заклікальна красаваўся ён паміж высокімі берагамі безназоўнай ракі. Спачатку яна, моцна схапіўшыся за тонкія поручні, паставіла на канат адну нагу — і мост трывожна захістаўся. Алена ўскрыкнула і засмяялася.

— Лёшка, ну што ж ты? Хадзем на той бераг! Я ўжо амаль не баюся. Глядзі! — яна зрабіла некалькі маленечкіх крокаў па канаце і, павярнуўшыся да яго, зноў засмяялася.

Аляксей дажаваў бутэрброд, склаў пакінутае пасля балявання смецце ў пакет, кінуў яго ў заплечнік і пайшоў да моста.

— Іду, іду. Выдатны мост. Проста цуд мостабудавання. Першы раз такое бачу ў жывую.

— Я таксама! Не мост, а атракцыён нейкі. Хадзі сюды, не бойся! Толькі ўніз не глядзі і трымайся добра.

— Ёсць трымацца і не глядзець!

Ён асцярожна зрабіў першыя крокі на мосце — і Алена, жадаючы прадэманстраваць яму ўсю ўдаласць, што так нечакана прачнулася ў ёй, зухавата пайшла па канаце, напяваючы нейкую вясёлую песню.

— Ідзеш? — крыкнула яна, не паварочваючыся, і пачула свой голас у лесе. Лес быў усё бліжэй і бліжэй: яшчэ метраў дваццаць — і вось ужо бераг, які стрэне цёмным гушчаром; а нетры здаваліся жывымі, змрочна глядзелі на тых, хто адважваецца да іх падабрацца. У-ух! Алена раз-пораз кідала хуткія погляды ўніз, на бурую ваду — і ад калючага жаху ёй хацелася смяяцца і спяваць яшчэ гучней.

— Іду! — азваўся Аляксей.

— Цудоўна, праўда?

— Ага. Нервы казыча хвацка.

Праз некалькі хвілін яна, радасная ад таго, што пераадолела сваю даўнюю боязь вышыні і не паддалася небяспечнаму гіпнозу вады, зрабіла апошні крок па мосце і, ступіўшы на зямлю, павярнулася, спадзеючыся ўбачыць, як Аляксей крочыць следам.

Але Аляксей сядзеў на тым беразе, нахіліўшы галаву, а над ім віўся густы цыгарэтны дымок. Алена збянтэжылася. Нетры за спінай дыхалі насмешлівым ветрыкам, і глухія гукі цёмнага лесу аддаліся ў сэрцы непрыемным рэхам. Яна села на траву, адчуваючы, што вось-вось заплача, але на вочы трапіліся ягады саспелай буйной суніцы. Алена сабрала іх у далоньку і разам кінула ў рот. Зусім нечакана прыкрасць развеялася — і ёй раптам стала добра ад таго, што яна тут адна, а ён адзін там, на другім баку ракі, і паміж імі цёмная вада і нетрывалая металічная вяроўка... Адасобленасць — вось чаго ёй, аказваецца, не хапала. Падумалася: і праўда, чаго ж гэта яна, свабодалюбівая, няўрымслівая, так прырасла да гэтага, па сутнасці, чужога чалавека з непраходным ламаччам у галаве?

— Гэй, Лёха! — весела гукнула яна.

Ён падняў галаву.

— Пайшоў ты да д'ябла! Чуеш? Да д'ябла! — і лясное рэха гэтак жа весела паўтарыла яе словы. Яна засмяялася і вольна, і лёгка. Аляксей махнуў рукой — мабыць, ён не пачуў — і зноў апусціў галаву. Алена здагадалася: ён малюе. І тут свабода ў душы пачала згасаць. Яна сядзіць тут, на жудасным беразе, ісці па гэтым мосце, які павесілі вар'яты рускія, небяспечна, а яму — аніякай справы. Пашукаўшы яшчэ суніц і паласаваўшыся на развітанне, Алена вярнулася.

Сварыцца з Аляксеем яна не збіралася — а вось разарваць дурны накід, на які ён яе прамяняў, вельмі хацелася...

Зараз гэты эскіз алоўкам, на якім яна, тоненькая, ішла над ракой па хісткім канаце ў напрамку лесу, ляжаў у чамадане, у альбоме з рэпрадукцыямі Фёдара Васільева, набытымі імі ў Траццякоўцы. Алена радавалася, што тады, так-сяк вярнуўшыся з другога берага, не паддалася гневу і не ўчыніла расправу над малюнкам. А на ім сапраўды была яна — з усёй сваёй безабароннай удаласцю і адзінотай, са шчаслівым ветрам у валасах, хуткаю ракой пад нагамі і густым змрокам наперадзе...

Аляксей паабяцаў, што гэты накід ператворыцца ў карціну, і яна зноў адчула, што ўсё ў ёй — належыць яму. Яна і зараз, у цягніку, які даўно прамінуў вялікі мост цераз вялікую раку, адчувала тое ж самае, і гэта пачуццё здавалася невычэрпным, цёмным і адзіным; так адчуваецца лёс, думалася ёй.

## V

А тым часам у купэ стала зусім светла. Аляксей, ускалмачаны і пахмурны, сядзеў за сталом і нешта засяроджана крэмзаў у сваім нататніку. Нейкія сінусоіды, якія ўразаліся ў край паперы. Алена спусцілася з верхняй паліцы, прычасалася, села побач і, не баючыся абудзіць суседзяў, сказала цвёрда, без той затоенай нясмеласці, з якой звярталася да яго апошнім часам:

— Я зразумела, дзе ты збіраешся здабыць сваю ноту.

Ён не падымаў галавы, працягваў крэсліць, перайшоў на новы аркуш і зноў стаў цягнуць свае алоўкавыя лініі, падобныя да хваляў, якімі іх малююць дзеці.

— У нашым расстанні. У тым, што мы больш ніколі не ўбачымся. У тым, што нічога не будзе, акрамя дарог, гасцініц з заляпанымі пледамі, халоднай майстэрні і сяброў, што завітваюць з каньяком па пятніцах...

— Лёша, паглядзі на мяне! — нарэшце ён падняў галаву, зірнуў цяжка, як глядзеў пасля сварак і бяссонных начэй, і гэты цяжар падаўся ёй такім родным, што ўнутры ўсё завыла. — Чаму гэтай нотаю не можа быць шчасце? Д'ябал цябе вазьмі, чаму?!

Пакуль яна, доўга праплакаўшы пасля гэтых слоў, прыводзіла сябе ў парадак, ён, пасміхаючыся так, як заўсёды хмыліўся на яе дурасці, збіраў іх рэчы — ручнікі, зубныя шчоткі, сурвэткі, беражліва складаў касметыку ў яе касметычку.

Неўзабаве замільгалі знаёмыя пераезды, маленькія станцыі, кварталы на ўскрайках і трубы, што выдыхалі ў светлае неба цяжкі дым заводаў, — і ўжо праз гадзіну яны, трымаючыся за рукі і гледзячы ў розныя бакі, ехалі ў таксі па мінскіх вуліцах, глянцавых ад начнога дажджу і святла прахалоднага жнівеньскага сонца.



Кацярына Захарэвіч



**нарадзілася 27 жніўня 1994 года ў Докшыцах. Студэнтка 5 курса Інстытута журналістыкі БДУ, рэдактар аддзела спецыяльных праектаў часопіса «Бярозка», карэспандэнт часопіса «Маладосць». На вяртанне да напісання вершаў Кацярыну натхніла творчасць Людмілы Рублеўскай і Анхелы Эспіносы.**

# Кола сонечнага цяпла

***

Перамелецца, кажуць,
і будзе назаўтра мукой.
Не хачу быць мукой!
Я хачу быць каменнем на жорнах!

Абяцаюць з узростам спакой —
мне не трэба спакой!
У спакоі душа вільгатнее,
гніе, быццам порах.

А раз порахам быць — дык не гніць,
А цудзіць і здзіўляць!
І гарэць феерверкам,
Ды хто нашы лёсы прадкажа?

Перамелемся, будзем мукой.
А здабыты спакой
Вуркатліваю коткай
на грудзі старэчыя ляжа.

***

З лаўца[1] над ложкам спрэс лунаюць мроі,
Якія ў хітры трапілі палон:
На павуцінку, што над галавою
У колцы беражэ няўлоўны сон.

Мне мроіцца рака, што хуткай плынню
Змывае вехі, дзеі, гарады.
Імёны і пачуцці — ўсё абрыне,
Усё, што меркавалі назаўжды.

Мне мроіцца, што я стаю ў вадзіцы —
Яна мне прахалодзіць скуру ног,
Пяшчотная, што нельга наталіцца —
Ды адчуваю ціхі вір эпох.

[1] Лавец сноў — індзейскі талісман, які аберагае чалавека падчас сну ад злых духаў. Дрэнныя сны заблытваюцца ў павуціне, а добрыя вылятаюць праз адтуліну ў сярэдзіне.

***

Аскепкі паперы ўгрызаюцца ў мякіш далоні,
Аскепкі надзеі ўпіваюцца ў мякіш душы.
Істота, якую ты вечна лічыла сабою,
Параненым зверам да ўласнай канчыны бяжыць.

Аскепкі паперы калісьці ты вершамі звала,
Пакуль не ўзляцелі яны чарадой жаўрукоў.
Надзея, яшчэ не разбітая, іх акрыляла
Пакуль не запляміла пер'е бялюткае кроў.

***

Я калі-небудзь захлынуся ва ўласным смецці:
Ў маім левым паўшар'і вечна гуляе вецер.
Нібы болей пустога месца няма на свеце.

Ў маім правым — наадварот — не знайсці паветра.
Там не тое што ветру — месца няма для ветру.
І ніяк не даходзяць рукі разгрэбці нетры.

Ў маім правым — валізка з комплексамі і страхам.
Яе дно на падлозе, верх — аж пад самым дахам.
І яны вечна сыплюцца, падаюць мне на галаў.
І за чым не хавайся, а перад імі — голы.

Ў маім правым — пад смеццем планаў і недапланаў
Каляровы малюнак-мара «Такой я стану,
калі вырасту». Але перш чым туды пралезці,
Я хутчэй за ўсё захлынуся ва ўласным смецці.

***

А мне хапіла аднаго дотыку,
Каб канчаткова зразумець, хто ты.
Калі ты з кропкі недзе над воблакам
Увасобішся пакрысе,
Ператворышся ў маё Сонейка,
У свеце абрынуцца ўсе
Аэрапорты.

***

Колькі колераў, колькі твараў
Ў коле сонечнага цяпла
За вялікай і цяжкай хмарай,
Што, нябачная, наплыла!
Шэра-чорнай, на дождж цяжарнай,
(Ды, здаецца, народзіць лёд).
Мне лепш з полымя ды ў пажары,
Чым халоднай вады прыгнёт.

Дай руку — развядзём цяпельца
Ў пераплеценых пальцах мы.
Колькі холаду застаецца?
Проста дробязь — на паўзімы.

***

Я тваё каханне несла, бы каменне,
Што калісьці ты да шыі прывязаў.
Я ішла за незапаленым агменем,
Ты сачыў, каб не звярнула я назад.

Ты трымаў мяне так важна за руку,
Хоць не моцна, але волі мне не ўрваць.
Я жывілася спадзевам, што ўцяку,
Ды не здолела вяроўкі адвязаць.

Ты трымаў мяне так важна за руку,
Дотык твой то саграваў, то апякаў,
І апёкі не загояцца, пакуль
Мне здаецца, што агнём гарыць рука.

За каханнем я іду, як за агменем,
З урачыстасцю, што так цябе кране…
А маё цябе сагнула, бы каменне,
І ўсё роўна — гэта ты вядзеш мяне.

***

*В. К.*

Набрынялі павекі тугой, несыходнай і шэрай.
Нібы ціха, але не ўлагоджвае гэты спакой.
Развітацца з табой загадае уранку мне шэрань,
І ты вернешся ў холад Сібіры з маёй цеплынёй.



## Ганна Чакур

**нарадзілася 21 сакавіка 1959 года ў Астраўцы. Па адукацыі — аграном, але па прызванні — журналіст, здольны фіксаваць на паперы самыя няўлоўныя адценні жыцця. Піша вершы, казкі, апавяданні.**

# Станіслаў

Яму за шэсцьдзясят. Рухавы. Дабрадушны. Гладзенька-акруглы. Гэткі Агасфер Лукіч з «Абцяжараных злом». Толькі тае і розніцы, што без знакамітага партфеля, нашпігаванага купчымі на душы. Зрэшты, ёсць і яшчэ адна адметнасць: час ад часу з-пад па-агасфераўску прыемнай нон-стоп усмешкі ў яго павялічаных акулярамі вачах прабіваецца раптам, успыхвае лазерным праменем пранізлівы позірк. Адстаронены. Халодна-ацэньваючы. Пазбаўлены найменшых эмоцый. Не позірк — рэнтген. Трапіш пад такі, і пад нагамі затрашчыць лёд…

Гэты позірк праявіўся не адразу — добрую палову дня мне прыемна размаўлялася з мілым чалавекам. Балагурам. Жартаўнікам. Дасціпнікам, гатовым разрагатацца нават ад самых «барадатых» жартаў.

Мы грызлі печыва, запіваючы яго бледнатварым «Сняжком», і размаўлялі ні пра што. Як размаўляюць людзі, якім вымушана трэба бавіць разам добры адрэзак часу. Хоць, калі ўжо быць дакладнай, «размаўлялі» — сказана моцна.

Я даўно заўважыла за сабой гэтую камунікатыўную асаблівасць і нават, як любіла паўтараць наша школьная матэматычка, «мысленным взором» прымацавала да ўласнага лба шыльдачку з надпісам «Вуха». Чамусьці людзі ва ўпор не бачаць у маёй асобе паўнавартасную субяседніцу: мяне не слухаюць — мне расказваюць. Шматслоўна. З лірычнымі адступленнямі, шчодра перасыпаючы аповед больш ці менш дакладна падабранымі метафарычнымі ўпрыгожваннямі. Не шкадуючы ні майго часу, ні ўласных звязак.

Пэўны час я спрабавала, так бы мовіць, выступіць алаверды. Кшталту: «Ого! Не слаба! Са мной, дарэчы, таксама быў падобны выпадак…» Ні разу ў жыцці мне не ўдалося дайсці і да сярэдзіны гэтага самага «выпадку»…

Маналог Станіслава пераваліў на другую гадзіну. Печыўцы былі свежыя. Левая туфля прыкметна муляла «костачку». Напэўна, учора ўсё ж такі трэба было падняць тэлефонную трубку…

— Леначцы тады толькі-толькі споўніліся два годзікі… Я думаў, звар'яцею… — фраза, сказаная без прывычнага «манілагізму», вярнула мяне ў рэчаіснасць.

— Мы з жонкай літоўскім дактарам тады не паверылі, — вусны Станіслава па інерцыі працягвалі ўсміхацца, а голас жыў як бы сам па сабе, прыкметна вібрыраваў. — Ну як гэта можа быць, каб у двухгадовага дзіцяці і рак вочка?! Праўдамі і няпраўдамі… Праз знаёмых знаёмых маіх знаёмых… Без грошай… З часовай «прапіскай» на вакзале… Дабраліся да адпаведнага цэнтра ў Маскве… Прафесар пацвердзіла дыягназ: «Гарантый ніякіх, але спрабаваць трэба: будзем рабіць аперацыю»… Вазьміце для перасадкі маё вока, маліў дактароў. Не ўзялі — не падышло. Паставілі штучнае.

Сёння Леначцы ўжо за трыццаць. Шкляное вока ёй — не перашкода: у дачкі добрая праца, талковы муж, майму ўнучку ўжо сем гадоў. Так дае «будзь-здароў», што я напружваюся… І з зяцем любім па піўку ўжыць. Ёсць такі анекдот: прыходзіць зяць да цесця…

Прыемны чалавек Агасфер Лукіч вярнуўся. І яго круглы твар зноў заіскрыўся вясёлай дабрадушнасцю. Зноў пасыпаліся жарты. І мне нічога не заставалася акрамя як вярнуцца на сваю планету і прыняцца за недаполатыя баабабы.

Прайшло добрых паўгадзіны.

— Я думаю, гэта здарылася праз перажыты стрэс, — голас Стаса зноў зажыў уласным, адасобленым ад твару жыццём. — Тады з-за Леначкінай хваробы… Пасля перажытага жонка так да канца і не аправілася. Худзела, чахла, урэшце ў яе выявілі лейкемію. Што мне заставалася? Зноў замарафоніў ад аднаго прафесара да другога… Больш года Святлане не даваў ніхто з іх...

Калі ад яе адмовіліся дактары, я лячыў жонку сам. Травамі. Знаходзіў рэцэпты, перапісваўся з людзьмі з аналагічным дыягназам. Света пражыла амаль пяць гадоў. Але гэта былі няпростыя гады. Мякка кажучы… Дарэчы, пра «мякка кажучы». Прыйшла бландзінка ў магазін…

— Пачакайце, Станіслаў… — не вытрымліваю. — А дочкі… Яны ж яшчэ былі малымі… Хто гадаваў іх? Вы зноў ажаніліся?

— Як гэта хто? Хіба ў іх бацькі не было?.. Ці, па-вашаму, я «не рублю фішку»? Як умеў, так і гадаваў. Так, канечне, была яшчэ мая маці… Пасля пахавання Светы яна прагасцявала ў нас роўна тыдзень. А потым: «Не магу, Стасік, кароўка ў хаце і курачкі…» Больш парог нашай кватэры яна так ніколі і не пераступіла… Цяпер ёй восемдзесят шэсць гадоў. І мне прыходзіцца «гадаваць» ужо яе. Не скажу, што з гэтай нагоды ў сэрцы маім штыль… О! Успомніў! Плывуць на караблі рускі, амерыканец і француз…

Прадчуваючы будучы жарт, Агасфер Лукіч пачаў энергічна паціраць свае пухлыя ручкі.

…Гэтым разам з «астралу» мяне выцягнула цішыня. Паўза была як кароткае замыканне — у паветры нават злёгку запахла паленым. Ці ўсё ж такі серай?..

Вось тады, адарваўшы вочы ад кубка са «Сняжком», я і наткнулася ўпершыню на фірменны позірк Станіслава — нібы праваліласяў ледзяную палонку.

— «Другі пляж»… Не чулі? Такую назву носіць адзін куток нашага горада… Месца, кажучы сённяшнім слэнгам, тусоўкі рознага неспакойнага люду. Напрыклад, карцёжнікаў. Мяне туды прывёў адзін мой прыяцель. Ды не збіраўся я гуляць! У мяне і грошай асаблівых пры сабе было, так нейкая драбяза. Стаяў, назіраў. А потым не вытрымаў — сеў за стол. Ну покер жа, ё-маё!

У покеры што галоўнае? А вось і не ўгадалі. Адным шанцаваннем у ім доўга не пратрымаешся. У покеры выйграе той, хто хутчэй лічыць. А у мяне, бач ты, талент лічыльніка… Распачаў тады «па маленькай» і сам не заўважыў, як пайшла вялікая гульня. На нейкім этапе выйграваў каля 100 тысяч долараў. Сума для мяне тагачаснага, лічы, абстрактная — яе памеры я не ўсведамляў… Натуральная справа, спыніцца своечасова розуму не хапіла… Карацей, гульню я закончыў з доўгам у сорак тысяч зялёных… Гэта пры сямідзесяцірублёвай зарплаце токара-пачаткоўца… Адным словам, бліжэйшы мост прыспусціў свае парэнчы — самы час было з яго кідацца.

Пазней высветлілася, што там, на Другім пляжы даходныя рабяткі спецыяльна абсочваюць сітуацыю: шукаюць ахвярных ягнят. Яны мне потым самі, смеючыся, расказвалі, як пусцілі ў ход мечаныя карты, а я, лашара, і не заўважыў…

Вось так я стаў покерным батраком «абшчака». Дзесяць гадоў адпрацоўваў доўг. Я і цяпер час ад часу гуляю. Калі паклічуць. Так, да гэтай пары. Не за свае — за грошы «абшчака». Выйгрыш, ясная справа, ідзе ім. Колькі? Мой асабісты рэкорд — дзвесце пяцьдзясят тысяч даляраў за «змену». Я цікавіўся, адказалі: бывае і больш. Мне ў выніку не перападае нічога, ні цэнта. Адзін плюс: там смачна кормяць і пояць. Ну і задавальненне ад гульні, вядома, таксама маё.

Якое казіно?! У казіно не покер — падробка. Там жа карты раздае аўтамат. А тут — чалавек. Жывы! З пульсуючымі нервамі, якія, як ён ні стараецца, усё роўна дзе-небудзь ды выб'юцца. Прынамсі, уважліваму воку гэта бачна. Зноў жа на прыватным стале ляжаць не безаблічныя казіно-фішкі, а «жывыя» грошы. Калі перад пачаткам гульні кожны з яе ўдзельнікаў кідае на стол дзесяцітысячную пачку зялёных, адрэналінчык узлятае да чырвонай рыскі…

Унук, дарэчы, пайшоў па мне — у лічэнні абганяе калькулятар. Гуляю з ім, канечне. І ў падкіднога, і ў покер, і ў картачны футбол — гульню, якую, падобна, ён сам прыдумаў. Прынамсі, яе правілы мяняюцца ў залежнасці ад раскладу ягоных карт.

Але што гэта мы ўсё пра карты ды пра карты?.. Давайце лепш па кубку кавы. У мяне ёсць распушчальная. Вы як любіце — мацнейшую ці слабейшую? Любы капрыз… Цукру, прабачце? О, вы як я — ласуха… А торцік у вас які любімы? Цудоўна. І я такі люблю. А цукеркі? А кава-глясэ? Дык у мяне ж недзе у маразілцы ёсць пламбір… А як бландзінка крэм-бруле купляла, ведаеце? Прыйшла бландзінка ў кавярню і кажа…

Агасфер Лукіч замітусіўся, забегаў з кухні ў пакой і назад. Дабрадушна-праставатая ўсмешка зрабіла яго злёгку чырванаваты твар падобным на сонца. Ён лоўка заварыў каву, прыгожа сервіраваў прыстаўны столік. І пакуль мы кавярнічалі, літаральна іскрыўся гумаркам. Было смачна і смешна, момантамі — па-сапраўднаму.

Вось толькі заглянуць у вочы Станіслава я больш так і не адважылася.



Яўген Казарцаў



**нарадзіўся 18 лютага 1992 года ў Мінску. Журналіст. Любіць творчасць Таццяны Талстой, Уладзіміра Набокава і яшчэ шмат якіх пісьменнікаў. Піша з дзяцінства: ідэі і тэмы самі прыходзяць у галаву, і нічога іншага з імі зрабіць нельга, акрамя як запісаць. Любіць падарожнічаць — асабліва ў Санкт-Пецярбург, дзе заўсёды і дыхаць лёгка, і танцаваць.**

## Алена і яе прынцы

Алена цвёрда вырашыла чакаць прынца.

У гонар гэтага яна правяла ўборку дома, выкінула старыя памады, нажніцы, лакі, малаток, тры кубкі, адзін набор шахмат, калоду карт для гульні ў «Уно», калоду карт Таро, дзве кнігі, некалькі старых дзённікаў і ўпакоўку даўно высмаглага зефіру. Пазбавілася ад усяго гэтага Алена, агледзелася — вось зараз добра, цяпер сюды прыйдзе прынц, у кватэру без высмаглага зефіру!

Надзела прыгожы сарафан, пасядзела ў ім каля акна. Потым перадумала, надзела іншы, пакруцілася ў ім перад люстэркам. Не вытрымала і надзела джынсы з майкай — гэтак больш звыкла, а прынцэсай яе зробіць ўжо той самы прынц, які вось-вось патэлефануе ў дзверы, абтрасе з плячэй снег і прапануе скакаць далёка-далёка на кані, заб'е дзеля яе цмока і знойдзе самы прыгожы сапфір ў свеце.

Планаў, словам, было не злічыць. І як усё паспець за адно кароткае жыццё і яшчэ больш кароткую кар'еру прынцэсы?

Толькі пайшла Алена ў сваіх джынсах і вясёлай майцы наліваць сабе мятную гарбатку, як у дзверы пазванілі. Ад нечаканасці ў дзяўчыны нават чайны пакецік з рук выпаў, ды так і застаўся ляжаць на халодным паркеце.

Дабегла да дзвярэй, адчыніла іх і адразу зажмурылася. А за ёй — ён, той самы, прынц выдатны. Можа, ён не такі ўжо і выдатны быў — гісторыя пра гэта маўчыць, — але затое, напэўна, разумны. І пахла ад яго добра — яблыкамі. А як Алена любіла пах яблыкаў!

Яна расплюшчыла вочы, прынюхалася, агледзела прынца з ног да галавы, адзначыла лёгкую гарбінку на ягоным носе і наяўнасць шчаціння. У думках падзякавала Сусвету, паставіла галачку і ўзяла яго за руку — каб скакаць хутчэй у далёкія далі, за гарызонты і акіяны, ці то ў трыдзявятае царства, ці то на востраў Буян. Гэта ўжо куды ногі прывядуць.

Прынц акуратна ўзяў яе за руку, пацалаваў у костачкі і павёў за сабой. У ліфце ехаць з ім было для Алены незвычайна, але ж чакаць ад прынцаў нейкага адмысловага спосабу падымацца ў шматпавярхоўках — лухта несусветная.

Яны выйшлі з дома, селі на варанога каня і паскакалі кудысьці на ўсход. Алена трымалася за прынца, прымружвала вочы ад шчасця і радавалася, што надзела джынсы, — інакш было б зусім нязручна.

Толькі прыехалі да жылля прынца, як адразу ўсё пайшло не так. Палаца, вядома ж, у прынца не было — так, асабнячок, ці нават сядзібачка. Але гэта не самае страшнае. Жудаснай была нават не адсутнасць у прынца прыгожых фантанаў у садзе і нават самага саду, а тое, што ён адразу павёў Алену ў стайні.

І праседзелі яны ў тых стайнях цэлы дзень. У прынца аказалася вельмі шмат коней — так шмат, што ён нават галіцца не паспяваў. І прыемны яго яблычны пах — ад таго, што карміў прынц сваіх коней толькі яблыкамі. У астатні жа час ён іх мыў, расчэсваў ім грыву, доўга вывучаў іх капыты і нават гутарыў з жарабятамі. Алене прыйшлося рабіць тое ж самае і нават яшчэ горш: прыбіраць гной.

Да гэтага жыццё яе зусім не рыхтавала, бо прынц нават слоўцам з ёй не абмовіўся, ніводнай палявой рамонкі не падарыў, не прысвяціў зборніка постмадэрнісцкай паэзіі.

«Так з прынцэсамі не абыходзяцца», — прабурчала Алена і загадала вярнуць яе дадому.

Прынц патрабавання яе нават не заўважыў: ён нешта буркатаў сабе пад нос і корпаўся ў стозе сена. Прыйшлося Алене ўскочыць на каня і паскакаць дадому.

Спала яна дрэнна, а на наступны дзень устала зусім без настрою. Хадзіла, блукала, кружыла па кватэры, сумавала па сваім засохлым зефіры. І спадзявалася на з'яўленне нармальнага прынца. А то гэтыя, са скакунамі сваімі, ну ні ў якія вароты не лезуць!

Надзела сарафан у кветачку, села каля акна і зноў пачала чакаць. Ад думак Алену адцягнуў дзвярны званок — яна паважна прайшла да дзвярэй, а за ёй апынуўся яшчэ адзін прынц. Толькі лепшы. У яго не было шчаціння і паху яблыкаў — значыць, і з конямі ён гадзінамі не сядзеў. Затое ён быў у латах, з сапраўднай кальчугай і пры ножнах на сцягне.

Алена забылася на ўчарашняе расчараванне, паправіла прычоску і рушыла за другім прынцам. Яны ехалі кудысьці на поўнач, праміналі лясы і рэкі, несліся разам з ветрам насустрач цёмнай ночы.

Прыехалі ў рэшце рэшт да нейкай вежы. Прынц спешыўся, кудысь адышоў і вярнуўся з каронай — прыемнай залатой драбязою з сапфірамі. Алена яе адразу надзела, засмяялася, сарамліва пацалавала другога прынца ў куток вуснаў. Ён глядзеў на яе і ўсміхаўся, бразгаючы кальчугай. Потым працягнуў руку і павёў яе ў вежу.

Яны ўвайшлі ў адзіны пакой, проста пад конусападобным дахам, і Алена ахнула. Агромністы ложак з аксамітным пакрывалам, а над ім — балдахін з срэбнаю тасьмой. Гарэў камін, у куце стаяў туалетны столік з наборам дарагой касметыкі, а прама насупраць ложка вісеў вялікі плазменны тэлевізар. Алена зажмурылася ад шчасця і хацела абняць свайго прынца, але рукі яе схапілі пустэчу.

Прынца ў пакоі ўжо не было. Лагічна было выказаць здагадку, што гэта такая ролевая гульня — маўляў, знайдзі мяне, знайдзі і адшукай, а я буду тваім бравым мужам. Але не. Алена нават пад ложкам шукала, але нідзе другога прынца не знайшла. А дзверы ў пакой апынуліся зачыненымі.

Узлезла Алена на ложак, уключыла тэлевізар і засмуцілася. Знік яе прынц і не папярэдзіў.

Можа, у аптэку збег? Ці па віно і мідый? Ні халеры іх не разбярэш, гэтых прынцаў. З такімі думкамі яна і заснула. Праўда, сон доўжыўся нядоўга.

Ачомалася Алена ад страшэннага гармідару ды выцця за вокнамі. Падбегла да акна — дакладней, да байніцы, — а там цмок лётае, зубамі скрыгочa, вачыма зіхаціць. А пад вежаю сноўдаўся яе прынц — ах, які маладзец, ён нават і шабельку дастаў, і трос ёю перакананаўча, і нават прымудрыўся падміргнуць Алене. Паказаў ёй пальцамі «акей» і накінуўся на цмока.

Колькі было шуму, колькі цмокавага рыку і ляскату сталі, колькі дыму! Нават курава з байніцы пайшло. З першымі промнямі сонца цмок паляцеў прэч — здаўся, ведама.

Алена прысела на ложак і ўжо гатовая была ганарыцца і абдымаць свайго прынца, але ўвайшоў ён нейкі пахмурны. Прысеў побач, кінуў шабельку на падлогу і падпёр галаву рукамі.

— Чаго ты? Ты ж мяне абараніў, — зашчабятала Алена і паспрабавала пагладзіць яго па русых валасах, але прынц адхіснуўся і няўцямна паглядзеў на яе.

— Гэта ты чаго? Мне ж цяпер зноў ночы чакаць, каб ён прыляцеў — дамова ў нас такая. Кожную ноч цябе ад яго ратаваць буду, а ты павінна быць тут і заставацца шчаслівай, — нецярпліва патлумачыў ён.



Ілюстрацыя Марыі Кірыльчык.

Непарадак! Алена перапытала, ці дакладна яна яго зразумела. Той кіўнуў і ўсміхнуўся — бо менавіта таго ты і хацела, бэйбі. Але дзяўчына не пагадзілася. Як гэта так, абуралася яна, я буду тут вечнасць сядзець, а табе ўсё роўна — абы з шабляй сваёй пакрасавацца і з арандаваным цмокам пабіцца?

Сабрала з туалетнага століка ўсю касметыку, паправіла карону і з'ехала на перакладных дадому — далей ад другога прынца.

Наступная раніца выдалася панурай. Алена дрэнна выспалася, пакуль доўга дабіралася дадому, а ад сарафана яе пахла цмокавым дымам. І тое арандаваным. Схадзіла Алена ў душ, нафарбавалася дарагой касметыкай ды села сабе на канапку.

Вядома ж, тут зноў пачуўся званок. Алена недаверліва падышла, паглядзела ў вочка — шчасце якое, яшчэ адзін прынц прыйшоў!

Прынц аказаўся сціплым, у акулярах і з кнігамі ў руках. Кнігі падаліся Алене цікавымі: адна была нават тым самым зборнікам постмадэрнісцкай паэзіі, пра які яна так марыла. Алена вырашыла адразу не несціся ў невядомыя далі — праходзіла ўжо ўсё гэта, ведае. Запрасіла трэцяга прынца ўвайсці, каб пакаштаваць віна і расказаць пра сваё жыццё. Той ніякавата ўсміхнуўся і прысеў на канапу.

Няёмка спачатку было. Трэці прынц піў віно і маўчаў, Алена ўсміхалася яму і не магла нарадавацца — такі ціхі, хатні, мілы прынц! Парушыў ён маўчанне толькі калі заўважыў на паліцы карону, што засталася ад мінулага залётніка. Удакладніў, ці сапраўды карона гэта. Ці залатая. Алена кіўнула, але ў падрабязнасці вырашыла не ўдавацца: хай лепей думае, што ён яе першы прынц.

Час ішоў, зноў надышоў вечар. У вокны білася завіруха, білася і сэрца Алены — маленькае і шчаслівае. Але прынц нешта не асабліва біўся — ён, дакладней кажучы, папросту напіўся. Ва ўсякім выпадку, яго акуляры трохі перакасіліся, а яшчэ раз-пораз ад яго даносілася ікаўка. Ну і хай сабе дрэнненькі, разважала Алена, затое свой.

Калі прынц дапіў апошні келіх, на гадзінніку было ўжо за поўнач. Алена была рашуча настроена аддацца пяшчоце, абдымаць трэцяга прынца ў сне і тыцкаць носам у ягоныя плечы, але тут ён пачаў расказваць гісторыю. Аказалася, што і прынц ён толькі дэ-юрэ, каралеўства ў яго адабралі разам з каронай, а яго галоўная мара — вярнуць сабе карону, інакш што ж ён за прынц такі, без кароны.

Потым ён зачытаў Алене пару сваіх вершаў. Пасля вершаў зноў пачаў гаварыць пра вяртанне кароны. І зноў. І зноў.

Усё гэта Алену ўжо трохі раздражняла, так што яна вырашыла схадзіць на кухню па крэкеры. Вярнулася, а прынца ўжо і не было. І кароны не было. Вярнуў, блін. Вось і пускай п'яных прынцаў да сябе дадому, называецца!

Алена паплакала каля акна. Праўда, зусім нядоўга, проста для прыстойнасці. Потым вырашыла пайсці піць гарбату.

Падняла з паркету пакецік мятнай гарбаты, не асабліва клапоцячыся пра яго чысціню. Заварыла, села, уключыла маленькі тэлевізар і задумалася. Зефіру да гарбаты яўна бракавала.

Ну да чорта гэтых прынцаў, бракаваныя нейкія, прыйшла да высновы Алена і вырашыла больш не чакаць гэтых прыдуркаў.



Святлана Магілеўчык

**нарадзілася 28 чэрвеня 1980 года ў вёсцы Васількі Бялыніцкага раёна. Фотакарэспандэнт райгазеты «Зара над Друццю». Вучыцца завочна на журналіста. Аўтар вершаў, гумарэсак, замалёвак і апавяданняў. Пісаць пачала з дзяцінства, натхніўшыся казкамі і гісторыямі, якія расказвала бабуля. А часам, верагодна, на творчасць могуць натхніць і сны.**

## Сны

Гэта быў вельмі дзіўны і незвычайны сон. Я стаяў каля вялікай халоднай аўдыторыі і трымаў экзамен па англійскай мове. Недзе за спінай шушукаліся і хіхікалі аднагрупнікі, на якіх раз-пораз сурова паглядаў маленькі, зморшчаны, як сухая скарынка, прафесар з рэдкай казлінай бародкай і тонкімі вусікамі. Я і сам гатовы быў рассмяяцца з яго выгляду. Прафесар нешта пісаў у маёй залікоўцы, а я ўсё гаварыў і гаварыў па-англійску, хоць, паверце, на самай справе ніводнай замежнай мовы не ведаю, ды і на сваёй пішу з памылкамі.

— Вы — перспектыўны малады чалавек, — прыпыніў маю прамову прафесар. — Буду рэкамендаваць вас як лепшага з перакладчыкаў для замежных дэлегацый. У вас прыгожы акцэнт. Часам не ўэльскі?

— Э-э-э…— я ледзь варочаў языком. — Уэльскі, канечне…

Па аўдыторыі прабег лёгкі смяшок.

— Каму вельмі смешна? — прафесар агледзеў маладых людзей сярдзітым позіркам. — Вам бы яшчэ павучыцца так адказваць. Вялікі дзякуй! — звярнуўся ён да мяне. — У вас, малады чалавек,— выдатна! Можаце быць свабодны!

Я куляй вылецеў з аўдыторыі. Хлопцы і дзяўчаты абступілі мяне, паціскалі рукі, віншавалі… Выслабаняючыся з цесных абдымкаў, злавіў свой адбітак у вялікім люстэрку фае і ледзь сябе пазнаў. Твар быў мой і не мой, чыста паголены, акуратна прычэсаныя валасы. Шэры дыхтоўны касцюм сядзеў на мне як уліты. Раптам паветра разарвалі гукі шансону. Гэта так не вязалася ні з універсітэтам, ні з маім выглядам… Стала вельмі няёмка, і я прачнуўся. Каця Аганёк надрывалася некалькі хвілін, пакуль я расчухаўся і падняў трубку.

— Алё, Сярога, — пачуў праз шум голас свайго зменшчыка. — Хопіць спаць, выручы чалавека!

— У мяне выхадны, — буркнуў я і націснуў адбой. Мабільнік зноў ажыў.

— Браток, ратуй, — ласкава праспявала трубка. — Я сёння край, не магу. Перабралі з хлопцамі ўчора. Галава як кувалда.

— Добра, — пагадзіўся нехаця, канчаткова не развеяўшыся ад сну. Грошы, якія паабяцаў напарнік, былі не лішнія, таму што я хацеў купіць сабе добрую машыну. А хто, як не аўтаслесар разумее ў добрых машынах. Вельмі люблю тэхніку і сваю працу. У школе ледзь адседзеў дзевяць класаў, а вучылішча скончыў толькі дзякуючы таму, што рамантаваў машыны дырэктару і яго намесніку па вучэбнай часці. Яны ж і дапамаглі мне знайсці гэтую работу. Грошы прыходзілі да мяне лёгка і так жа лёгка сыходзілі. Сябры, матагонкі, начныя клубы… Якая можа быць навука, калі я ў свае дваццаць два жыў на ўсю катушку. Ад жыцця хацелася браць усё і нават з верхам.

Чыхвосцячы рознымі словамі нягеглага сябра, я патупаў у ванну і прывёў сябе ў больш-менш належны выгляд, пагаліўся — упершыню за тыдзень, прыгладзіў крыху вадой шавялюру на галаве. Пасля змены трэба заехаць у цырульню, аббалваніцца пад нуль, каб не перашкаджалі валасы.

Дзень выдаўся ажно занадта насычаны, але пачак грошай, атрыманых за працу, прыемна саграваў кішэню. І, хоць ледзь цягнуў ад стомы ногі, я ўсё ж такі заехаў у цырульню.

— Што будзем рабіць? — запытала расфуфыраная маладая дзяўчына.

— Каб было прыгожа! — запатрабаваў я. Майстрыха так доўга завіхалася над маёй галавой, што я паспеў закімарыць.

Сон працягваўся. Мы сядзелі з аднагрупнікамі ў кафэ. Трое хлопцаў і чацвёра дзяўчат. Напэўна, мы сустракаліся часта, сябравалі…Таня, адна з аднакашніц, пачырванелая, няёмка коўзалася на сваім месцы.

— Сярожа, ну што ты нарабіў, — ціха шаптала яна мне на вуха. — Ну навошта ты насварыўся на свайго лепшага сябра? З-за нейкай дробязі?

— Я не люблю, калі мае сябры мацюкаюцца, асабліва на дзяўчат, — парыраваў я. — І не дазволю яму гаварыць дрэнна пра цябе.

Таня ўсміхнулася, і я сціснуў пад сталом яе руку.

— Асцярожна, зламаеце фен, — пачуўся над вухам незадаволены голас цырульніцы. Я хуценька падхапіўся, выпусціў фен, які невядомым чынам патрапіў у рукі, агледзеўся па баках, каб крыху прыйсці ў сябе, потым кінуў здзіўленай дзяўчыне нейкія грошы і выскачыў вонкі. Ужо дома зазірнуў у невялікае люстэрка ў ванным пакоі. Адбітак, падобна як у сне, спадабаўся, але я не прывык доўга разглядаць свае рысы, таму хутка скінуў з сябе перапэцканае адзенне і ўключыў душ.

Сон адбіваў трэцюю серыю.

Мы гулялі па парку пасля заняткаў. Звычайна я рэдка аддаю перавагу пехаце, але гэтым разам я быў вельмі рады, што магу пабыць з Таняй, ісці побач з ёй, слухаць яе размову, лёгкі смех…

Нечакана з-за рога выскачыў хуткасны аўтамабіль з адкідным верхам, на якім двое малайцоў з дзікім гіканнем разганялі мінакоў і прымушалі сустрэчных кіроўцаў мацней трымацца за руль. Я ведаў гэтых хлопцаў, яны часта рамантаваліся ў нас. За бацькоўскія грошы, канечне ж… Яны ліха пранесліся побач з намі, і адзін з іх маланкава выхапіў сумачку

з Таніных рук. Дзяўчына закрычала… Нешта рабіць было позна. Я падхапіў з зямлі камень, з сілай шпурнуў услед машыне. І… прачнуўся.

На душы пасля ночы застаўся горкі асадак. Было шкада дзяўчыну, тым больш, што ў сумачцы былі грошы, дакументы. Выкінуўшы з галавы невясёлыя думкі, паехаў на працу.

Напарнік быў вельмі здзіўлены, убачыўшы мяне ў майстэрні.

— Сярога, што з табой? — запытаўся ён, аглядаючы мяне з усіх бакоў. — Не захварэў часам?

— Ды так… нічога, — крыху сумеўся я. — Проста падумаў, што табе не пашкодзіць дапамога.

— Ты своечасова, — усміхнуўся сябар. — Тут нашы «мажоры» прыехалі. Нехта ў новай машыне ім шкло пабіў. Каменем. Трэба замяніць. Шкло ў нас ёсць, не праблема. Але ж яны замовілі самага лепшага майстра.

Мы накіраваліся ў ангар, дзе рамантаваліся асобныя катэгорыі кліентаў. Там стаяла машына, якую я бачыў у сне. Пакамечаны і ўстрывожаны гаспадар блытана ўводзіў мяне ў курс справы, абяцаў знайсці зламысніка і паадбіваць яму рукі. Я хуценька прыкінуў фронт работ, а потым краем вока зазірнуў у салон. Там на падлозе ляжала Таніна сумачка! Унутры ў мяне ўсё пахаладзела, але неяк справіўся з хваляваннем, адправіў «мажора» на некалькі гадзін пагуляць з абяцаннем зрабіць усё чыста, каб нават следу ад рамонту не было відаць.

Застаўся адзін і задумаўся. Ці існуе Таня ўвогуле? Рэчы ў машыне могуць быць і не яе. Можа, гэтыя падзеі ўсяго толькі сон, непрыемны і прыкры… Разгарнуў дакументы. Усё правільна, рэчы належалі Таццяне. Хуценька выцягнуў з сумачкі самае неабходнае, што на маю думку, магло спатрэбіцца дзяўчыне, а астатняе паклаў, як і ляжала. Затым стаў паціху здымаць пашкоджанае шкло.

Праз некалькі гадзін удзячны «мажор» ад'ехаў, а я з усіх ног паляцеў да ўніверсітэта, каб сустрэцца з Таняй і вярнуць ёй скрадзенае. Але, прыехаўшы на месца, збаяўся і рэзка завярнуў свой матацыкл назад. Хто яго ведае, як абернецца справа. А раптам я ўбачу там сам сябе? Сны, якія сніліся апошнім часам, былі такія рэальныя, што я пачаў сам блытацца ў іх. І ўжо дрэнна ўсведамляў сабе, дзе рэальнасць, а дзе мроя. Вырашыў крыху выспацца, а заўтра хоць бы прывесці сябе ў парадак. Я прыехаў дадому, але сон не ішоў, праварочаўся ўсю ноч, толькі бакі намуляў.

Раніцой чакаў Таццяну ў парку перад універсітэтам. Калі яе не ўбачу, думаў, значыць, маё сумленне будзе чыстым, рэчы аддам у міліцыю і няхай сабе шукаюць. За гэтымі думкамі сон нечакана змарыў мяне.

Сніліся хлопцы, якім я рамантаваў машыну. Яны распатрашылі Таніну сумачку, канечне ж нічога каштоўнага не знайшлі.

— Ведаю, хто пабіў мне шкло! — раптам выкрыкнуў гаспадар аўто. — Знайду яго, абавязкова! Адарву не толькі рукі, але і галаву!

У кішэні затарабаніў тэлефон. Мне падалося, што «мажоры» пачулі мелодыю, я падрыхтаваўся абараняцца і… прачнуўся.

Мабільнік працягваў спяваць.

— Сярога, — пачуў у трубцы ўсхваляваны голас свайго зменшчыка. — Там цябе ўчарашнія кліенты шукаюць. Што ты нарабіў?

— Якія кліенты? — не зразумеў я.

— Ты што, спіш? — устрывожыўся зменшчык. — Хутчэй збірай манаткі і ўцякай з хаткі! Магчыма, яны едуць да цябе.

— Ужо ўцёк, — супакоіў я сябра і, падзякаваўшы, адключыўся. Хоць, добра, што прыснуў у парку, ісці мне ўсё адно не было куды. Але ж, чакайце, а Таня?

Тоненька пілікнуў званок, і маё сэрца пакацілася некуды ўніз. Дзверы адчыніла сама гаспадыня.

— Ты? — здзіўлена вымавіла яна. Я праглынуў даўкі камяк і моўчкі сціснуў яе ў абдымках…

— Так не бывае! — гаварыла яна мне потым на кухні, крыху адчужаная, пасля таго, як я выклаў ёй сваю гісторыю. Канечне, не прамінуў і мацюкнуцца, але яна нават не звярнула ўвагі, і так гэтымі навінамі была агаломшана па самае не магу. — Я ведаю цябе з першага курса. Лепшы на патоку, надзея ўніверсітэта… Дзяўчаты марылі з табой сустракацца… Сябры…

— А што ў мяне ёсць яшчэ? Бацькі? Захапленні? — запытаўся я, гучна адсёрбваючы каву.

— Я так мала пра цябе ведаю, — Таня церабіла край абруса. — Ты — узорны, нідзе не ходзіш, у благім не заўважаны, да адказнасці не прыцягваўся… (Я прыхаваў усмешку. Ведала б яна пра мае стасункі з аўтаінспектарамі!) Некалькі разоў бываў за мяжой… Наконт бацькоў нічога не ведаю, мы не кантактавалі з табой так блізка. А ўвогуле… — яна задумалася, — дарэчы, ты сёння прапусціў заняткі.

— Не люблю вучыцца, — прамямліў я, глытаючы Таніны бутэрброды. — Колькі сябе помню, цікавіўся тэхнікай, зараз працую ў аўтасэрвісе. Апошнія некалькі дзён дрэнна сплю, сніцца ўсялякая лухта…

Таня засмяялася, а я ледзь не падавіўся, бо зусім не да смеху было, адставіў у бок яе пачастункі і працягваў:

— Мне цяпер нельга дадому, там мяне будуць шукаць. Можна застацца ў цябе?

Дзяўчына маўчала. Я зразумеў, што змарозіў глупства, таму марудна пасунуўся ў вітальню па красоўкі.

— Заставайся, — пачуў за спінай ціхі голас. І я застаўся. Спаць не мог. Які можа быць сон, калі побач, літаральна за два крокі знаходзіцца дзяўчына маёй мары, пазірае сваімі вялікімі прыгожымі вачыма. Але ж раптам усё некуды паляцела, закружылася…

…Яны рагаталі. Бацькоўскія сынкі, «мажоры», спешчаныя грашамі «продкаў» і з поўнай адсутнасцю тармазоў. Магчыма, хлопцы ўжо былі пад кайфам, таму паводзілі сябе са мной, як у кінафільмах, білі моцна і стараліся, каб патрапіць па твары. Я і так быў увесь у крыві, выдатны некалі касцюм быў пакамечаны і брудны.

— Слухайце, давайце дамовімся, я заплачу вам за шкло, — пачуў свой зусім ненатуральны голас, як бы здалёк.

— Га-га! Ён з нас здзекуецца! — закрычаў гаспадар машыны. Ён падскочыў да мяне і моцна ўдарыў пад дых. — Назаўсёды запомніш, як выскокваць наперад!

— Ты ніхто! Пыл! — штурхануў мяне яго сябар. — Не разумееш, куды ты ўлез, вылузак? Ты перайшоў дарогу мне! — ён пагардліва скрывіў рот і цыркнуў слінай. Я нічога не разумеў. Справа, значыць, не ў шкле…

— Адкуль ты такі ўзяўся? — зноў пачаў прыставаць да мяне першы. — Без роду, без племені? Захацеў замежнага цёплага месцейка? Ды не! Мае бацькі купяць усё: і прафесара, і цябе з трыбухамі!

І тут да мяне дайшло! Гэта ж сон! Але ж трэба было нешта рабіць, і як мага хутчэй. Мае к**а**ты тым часам няспешна пачалі раскурваць цыгарэты. Ну, канечне, хлопцы вырашылі

зноў «злавіць» кайф. Я крыху агледзеўся навокал. За некалькі метраў ад нас ляжаў на баку матацыкл, мой, з сапраўднага жыцця. Невядома, як там ён апынуўся, але ў мяне з'явілася нечаканая ідэя.

— Куды спяшаешся? — насустрач ішоў «мажор», ляніва пагойдваючы ключамі ад байка. — Ты нічога не забыў?

Ён яшчэ не ведаў, што гэта мой матацыкл і што я магу падняць яго з небыцця. Некалі зрабіў так, што яго можна завесці без ключа, а зараз гэтая вынаходка магла выратаваць мне жыццё.

— Бывай! — адпіхнуўся нагой ад зямлі, і толькі пясок паляцеў у розныя бакі.

— Хутчэй, ён зараз з'едзе! — зароў нема сябар і ўцягнуў яго ў машыну. Яны паімчалі ўслед за мной.

Мы вылецелі на нейкую дарогу. Было цёмна, я дрэнна ўсведамляў, дзе еду. Мае праследнікі не спяшаліся адставаць. Удалечыні заблішчалі металічныя апоры нейкага моста. Я крыху скінуў хуткасць, каб адлегласць паміж намі скарацілася да мінімуму, а потым рэзка развярнуў матацыкл ім пад колы. Апошняе, што ўбачыў — пазелянелыя ад жаху твары абкураных малайцоў.

Я прачнуўся. Усё цела балела, галава кружылася, ледзь падняўся. Здаецца, выпіў усю ваду на кухні, пакуль прыйшла з заняткаў Таня.

— Сёння ноччу на выездзе з горада адбылася аварыя, — заклапочана сказала яна мне. — Двое нашых студэнтаў сутыкнуліся з матацыклам і разбіліся насмерць, кажуць, што не справіліся з кіраваннем.

— Дрэнная навіна, — пазяхнуў я. — Якая зараз гадзіна?

— І гэта ўсё, што цябе цікавіць? — здзіўлена прамовіла дзяўчына. — А тое, што яны спрабавалі падкупіць прафесара, каб ён не ставіў табе выдатную адзнаку, не цікава? А што цябе абшукаліся ва ўніверсітэце, таксама — нічога страшнага?

— Я там ніколі не вучыўся!

— Ой, прабач, — яна асела. — Зусім забылася. Табе, пэўна зноў прысніўся кашмар? Той дзіўны сон?

Я кіўнуў галавой. Таня падышла да мяне на небяспечную адлегласць.

— Што ж мы будзем з табой рабіць? — запытала яна, прыгладжваючы мае ўскалмачаныя валасы. — Я мала ведала пра цябе тады і яшчэ менш ведаю зараз.

— Хто многа ведае, той дрэнна спіць, — іранічна адказаў я, прыціскаючыся вуснамі да яе тоненькіх рук . Зусім няпраўда, што мяне не цікавілі навіны. Яны паставілі ўсё на свае месцы. А сон? Ён для таго і прысніўся, каб раніцою развеяўся, як лёгкі туман.

…Я застаўся працаваць у аўтасэрвісе. Ніхто больш не цікавіўся мной, акрамя міліцыі, канечне. Вартаўнікі законнасці так да канца і не ўцямілі, як на месцы аварыі аказаўся мой матацыкл. Але ж усё неяк само сабой усталявалася, і нават я атрымаў неблагую страхоўку за сваю тэхніку. Гэтай сумы хапіла на вясельнае падарожжа. Так, так, мы з Таняй сціпла распісаліся, без пышнага святкавання і ўсяго таго, пра што марылі яе бацькі. Ну і няхай сабе, я ж не прынц.

Хаця… Не так даўно ў нас рамантаваліся замежнікі, і я на прыстойнай англійскай мове вельмі добра з імі паразмаўляў, дапамог вырашыць іх праблемы хутка і якасна. Адкуль ведаю замежную мову? Не скажу! А калі яны з'язджалі, то краем вуха пачуў урывак з іхняе размовы?

— Ты не ведаеш, Джэймс, адкуль у гэтага хлопца такі чысты ўэльскі акцэнт?

…А незвычайныя сны мне болей не сняцца.



Сяргей Махнач

**нарадзіўся 20 студзеня 1976 года ў Архангельску. Па адукацыі інжынер-механік. Вершы піша са школьных гадоў. З 2005 года ўдзельнічае ў розных літаратурных інтэрнэт-конкурсах.**

## Мова валодае мной!

### Шлях

Я знаю, я ведаю: лёгка не будзе,
Бо вырашыў рухацца толькі наперад.
Мае памагатыя — добрыя людзі,
Мае спадарожнікі — Слова і Вера.

Наперад іду: дзень за днём, паступова,
Упарта, нягледзячы на эківокі.
У левай кішэні — адметнае слова,
З якім я раблю самастойныя крокі,

У правай кішэні — аловак з паперай
(фіксую цікавыя словазлучэнні).
З чарговым радком я сілкуюся верай:
Урэшце сустрэну сваё прызначэнне.

### Час пакуль што ёсць!

Мне сказаў адзін мудры чалавек,
Што жыццё цячэ, як вада ў рацэ.
Людзям не спыніць воды ўласных рэк,
Як не затрымаць кроплі на руцэ.

Не дарма пражыў я сваё жыццё,
У мяне сям’я — жонка, дзве дачкі.
Сэрца не баліць — шчасця пачуццё
Лечыць раны дзён, нібы плынь ракі.

Уцячэ вада, выпарыцца час,
Хто чаго паспеў — кожнаму свой лёс.
Будзе новы дзень, ды не будзе нас.
Трэба зараз жыць. Час пакуль што ёсць!

## Прачынацца кожны дзень

Чэрвень. Неба чыстае. Рамонкі.
Нерухомы позірк. Цішыня.
Думкі-слімакі не лезуць вонкі —
Словы не прачнуліся зрання.
У зямлі сваёй прашу парады,
Моўчкі нахіліўся да травы.
Прывітанне, сонейка! Я рады
Размаўляць з табой, пакуль жывы.

## Я не валодаю мовай

Я не валодаю мовай —
Мова валодае мной.
Чую, здаецца, нанова
Гукаў абуджаных рой.

Мова мяне вывучае:
Хто я, чаму і куды?
Сумнай усмешкай вітае
Скрозь рускамоў'я гады.

Нешта мяне падштурхнула,
Нехта вядзе за руку.
Роднае слова кранула,
Каб апынуцца ў радку.

Просіцца верш на паперу,
Птушкаю б'ецца ў акне…
Здолее мова, я веру
Вывучыць зноўку мяне.

***

Жоўтае сонца, блакітнае неба,
Збан малака і кавалачак хлеба —
Што яшчэ трэба табе, чалавек?
Што табе трэба?

Кветак вясновых дыван каляровы,
Сценамі ўсталі лясы і дубровы —
Толькі чаму ты маўчыш, чалавек,
Хмурачы бровы?

Толькі наступіш на коўдру з лістоты,
Думкі пачуеш далёкай істоты.
Хто ты на гэтай зямлі, чалавек?
Ведаеш, хто ты?

Дождждык напоіць, а вецер — абсушыць.
Гэтае дзіва так лёгка парушыць.
Стань для прыроды сваім, чалавек, —
Выратуй душы…
Тых, за каго ты ў адказе.

## Сустрэча з Вамі так дарэчы

Сустрэча з Вамі так дарэчы:
Хадзіў пахмурны, нібы ў сне,
А зараз я расправіў плечы,
Няма на сэрцы той пустэчы,
Што болем дапякала мне.

Няма турбот і хваляванняў —
Вы мне ўсміхнуліся. І вось,
Бывай, галоўнае з пытанняў,
Збылося лепшае з жаданняў:
Я сёння Ваш таемны госць.

Пачуцці Вашы не абражу,
Мне гэты момант дарагі.
Юрлівасць змыў з сябе, як сажу.
Дазвольце, вершам Вас уражу?
Дазвольце прачытаць другі?

Пішу, а потым Вам чытаю,
З душы прагнаўшы зграі хмар.
Я перад Вамі снегам таю,
Травой калені абдымаю,
Цалую ветрам любы твар.

## Час

Не варушыцеся, думкі, стаміўся ад вас.
Дайце паслухаць секунд незваротных урокі.
Сэрца-гадзіннік адлічвае ціхія крокі…
З кожнай хвілінай жыцця памяншаецца час.

З кожным імгненнем жыцця паскараецца бег.
Так, неўзабаве, і часу ўжо не застанецца.
Добры настаўнік — маё неспакойнае сэрца,
Бо спадзяецца, што выйдзе з мяне чалавек.

Той чалавек, што не будзе дарэмна чакаць
З неба надвор'я, а зробіць сябе самастойна.
Ставіцца трэба да часу заўсёды прыстойна:
У вечным пошуку кожны світанак страчаць.

## Самалёты не птушкі

Самалёты — не птушкі, не лётаюць самі,
І калі адбываецца дрэннае нешта,
Неба плача бяссільна сухімі слязамі
І зямля адгукаецца небу няўцешна.

Скрозь навіны ляцяць спачувальныя стужкі,
Стужкі чорныя ціха павяжуць на фота.
Больш не вернуцца людзі. У небе, як птушкі,
Памахалі яны нам крылом самалёта.

***

Вы прабачце мне — кветак больш няма,
Скончыліся думкі, скончыліся жарты.
За акенцам лета, ува мне — зіма.
Больш увагі вашай я, сябры, не варты.

Дагарэў агеньчык таленту майго.
А ці быў той талент? Добрае пытанне.
На вусах паэта скісла малако,
У душы паэта вечнае змярканне.

Я макулатуру не хачу пладзіць,
Лепей вып'ю кавы. Дзе мая «Лавацца»?
На бязмежным небе зорка зіхаціць.
Выйду ноччу ў поле — з ветрам цалавацца.

## Дачцэ

У мяне дачка —
Нібы кветачка,
Ясна зорачка
У мяне дачка.

Ад яе вачэй
Сонейка ярчэй
І жыццё лягчэй
Ад яе вачэй.

Цеплыня яе
Сілы надае,
Смутак растае
Ад цяпла яе.

Ад ружовых шчок —
Сэрца ў камячок,
Я ўпадаю ў шок
Ад пунсовых шчок.

Каб жыццё прайсці
І сябе знайсці,
Ты, дачка, расці
У сумленнасці.

На тваім шляху
Не бываць граху.
Будзь мацней крыху
На сваім шляху.

У маёй дачкі
Рукі-лодачкі,
Рухі плотачкі
У маёй дачкі.

Мне не хопіць слоў
Паўтарыць ізноў
Пра сваю любоў —
Не хапае слоў.

Кацярына Мядзведзева



**нарадзілася 10 чэрвеня 1980 года ў Брэсце. Філолаг, казачніца, мама маленькага хлапчука. Не ўяўляе жыцця без духмянай гарбаты з бергамотам, чытае кнігі адну за адной, вядзе блог, калекцыянуе навагоднія паштоўкі ды шчаслівыя імгненні жыцця. У гэтым нумары вас чакае падвойная прыемнасць: адразу два апавяданні казачніцы Кацярыны.**

## Жыў-быў ты...

Жыў-быў ты. Моцны, спрытны, ваўкаваты. Калі з'яўляўся ў горадзе, прыносіў з сабой пах вогнішча, рачной прахалоды, дарогі і незалежнасці. Мужчыны хмурылі бровы і ўздыхалі, тужачы пра недасягальную вольнасць. А жанчыны адводзілі ў хату дзяцей і паспешліва крэслілі ў паветры ахоўныя знакі, таму што бачылі ў тваіх зрэнках пустэчу і страшыліся яе. Пануры доўгавалосы валацуга, самотны і абыякавы да любых праяў жыцця. Прайсці па хісткім мастку над безданню, удыхнуць свежы водар крэмава-белых гронак язміну, разарыць гняздо пеначкі ці гадзінамі глядзець у агонь, — няма розніцы, як бавіць час. Суравымі нефарбаванымі ніткамі сплятаўся лёс, а сэрца шчымела, сцягнутае трывалымі швамі. Адзінцом прасцей, ці не так? Нікога не ўспамінаць днём, не сніць уначы; увечар не вымаўляць запаветнае імя ў малітве, раніцай не чакаць прывітання... Можна сказаць, цябе й не існавала. Прынамсі, да сустрэчы на скрыжаванні, каля закінутай студні пад ясакарам.

Ты ішоў услед за дарогай, не мяркуючы, куды патрапіш. Калі не імкнешся да мэты — то ўсё роўна, свеціць сонца ў патыліцу альбо ўсыпае бацянькамі шчокі, камень ці пясок шалпоча пад ботамі, авявае твар калючы, са сняжынкамі, вятрыска ці скразная духмянасць ружаватых кветак каперса. На поясе ў скураным чахле — нож, за спінай — заплечнік, наперадзе — невядомасць. Прыглядаючы мястэчка для адпачынку, убачыў прыдарожную студню. Рунеў па камянях сакавіты мох, валялася на зямлі знятае вечка, побач — катанка ды стаптаныя чаравікі. Значыць, варта зазірнуць унутр. Дрыжала зубчастае лісце ясакара, чарнела шкарупа, сіратліва матляўся абрывак вяроўкі, прывязаны да камля. А ў перасохлай студні хтосьці сядзеў.

Хлапчук. Ён слаба ўзмахнуў рукой, вітаючы тваю пругкую вяроўку. Ты выцягнуў яго, агледзеў. Косці цэлыя, а садно зажыве. Ён прагна піў ваду, спусташаючы тваю біклагу, і тут з каўняра пыльнай кашулі з'явілася бурнатная мыска, раздаўся патрабавальны галодны піск. Складаныя версіі ўчынку, — пошукі скарбу, хованка ад разбойнікаў, спроба ўбачыць днём зоркі, — разбіліся аб наіўны дзіцячы адказ...

— Палез у студню за вiверай? Навошта?

Звярок глядзеў велiзарнымi вачыма, выпускаў i ўцягваў кiпцiкi, прыняўся варкатаць, калi хлопчык пагладзiў залацiста-бурую скурку. На спiнцы i галаве падсыхалi ранкi — сляды ад кiпцюроў i дзюбы драпежнай птушкi. Пугач, цi што, нёс ды ў студню выпусцiў? Так, маленькай вiверы буйна пашанцавала.

— Яна енчыла, — хлопец вiнавата ўсмiхнуўся, i ты адчуў — з пранiзлiвым, нiкому не чутным звонам лопнула першае шво на сэрцы. Хлопчык умеў выклiкаць прыязнасць — гэтак жа, як вiвера ўмела плаваць цi лазiць па дрэвах. Ускалмачаныя светлыя валасы i худая шыя, засiвераныя вусны i далiкатныя пальцы, якiя абдымаюць звярка, — усе гэта зрабiла цуд з тваёй беспатольнай душой. Прачнулiся даўно забытыя жаданнi — абняць, сагрэць, накармiць. Раптам спатрэбiлася хата, пажадана цёплая i ўтульная, i каб у куфры захоўвалася чыстая адзежа, а на стале, накрытыя ручнiком, чакалi хлеб i малако... Умельства не выбiраюць, з iм нараджаюцца. I хлапчук глядзеў на цябе нясмела, бо разумеў: памiж вамi працягнулася грубая барвовая нiтка, якая пакуль не мела назвы. Каханне цi сяброўства, адносiны бацькi й сына цi вучня й настаўнiка, — але вузельчыкi ўжо зацягнулiся, i са скрыжавання вы сышлi разам...

Мальца клiкалi Уюнок, а пухнатае зверанё засталося безназоўным. Ды i не патрабавалася яго прынаджваць — вiвера неадступна iшла за Уюнком, церлася аб ногi, варкатала i прыносiла задушаных пацукоў у падарунак. Увогуле, паводзiла сябе з гаспадаром, як вялiкая даверлiвая котка, а да ўсiх iншых ставiлася насцярожана i, пэўна, укусiла б працягнутую руку. Можа, таму жаданне прылашчыць яе ў цябе не ўзнiкала.

З таго вечара вы не разлучалiся i блукалi па зямлi ўтраiх. Атрымаць хлеб i прытулак больш не патрабавала вялiкiх намаганняў. Адна справа, калi сiнiм зорным вечарам у дзверы стукаў падазроны валацуга: такi i абрабаваць, i забiць можа. I зусiм iнакш глядзелi людзi на двух сяброў-пабрацiмаў, што падарожнiчаюць у кампанii ручнога звярка i прываблiваюць да доўгай гутаркi за кухлем пiва. Мужчыны больш не цуралiся цябе, па-прыяцельску пляскалi па плячы — калi з сябрам, значыць, добры чалавек. А Уюнку досыць было ўсмiхнуцца, каб гаспадынi заспрачалiся, у каго вы заначуеце. Нiбыта вабныя чары зыходзiлi ад паўдзiцячай постацi: людзi раптам рабiлiся лагоднымi i даверлiвымi. Нават ты, мармоль па натуры, з жахам думаў пра гадзiну расстання. А гадзiна гэтая няўмольна наблiжалася.

Уюнок рос, з худзенькага хлапчука ператвараючыся ў ладнага, хупавага падлетка з кацiнымi звычкамi i няўлоўнай, вабнай усмешкай. На яго заглядалiся дзяўчынкi, а жанчыны ўздыхалi i, хаваючы нешта iншае за матчыным клопатам, наравiлi прылашчыць, пагладзiць. Ты асцерагаўся з'яўлення асобы, якая звядзе ў цябе сябра.

I аднойчы яна з'явiлася.

Сонца садзiлася, лiловае неба адцяняла чорны яловы лес, дарога станавiлася больш шырокай i дагледжанай. Прысадзiстымi хаткамi i брукаванай вулiцай, пахам сачавiчнай полiўкi i запаленымi лiхтарамi на веснiчках, цiхiм сонным парыпваннем флюгераў пачынаўся чарговы маленькi горад. Вы не ведалi назвы, але бачылi — тут файна. На пытанне пра гасцiнiцу сустрэты стары-лiхтаршчык агледзеў вас, заўважыўшы i брудную патрапаную адзежу, i пустыя кашалькi, i дарослую вiверу, якая карычнева-залацiстай аблачынкай круцiлася каля ног. Пакруцiў галавой:

— У гасцiнiцу не пусцяць. Iдзiце лепш да Альбiны-вышывальшчыцы.

Усмешка Уюнка, безабаронная i прывабная, падзейнiчала i на яго. Прыхапiўшы палатняны мяшок з прыладамi, стары прапанаваў паказаць дарогу. Разглядаючы акуратна падстрыжаныя жывыя загарадзi i прадчуваючы гарачую вячэру, ты краем вуха слухаў нетаропкую гаворку лiхтаршчыка.

— Не крыўдзіце нашу Альбіну, — папрасіў ён на развітанне. — Яна добрая, хоць і з дзівацтвамі.

Кульгаючы, ён падаўся ўгару па вуліцы, запальваць ліхтары на веснічках. Уюнок усміхнуўся:

— Альбіна спадабаецца нам, праўда? Бо мы таксама з дзівацтвамі.

Ты пацiснуў плячамі. Якая розніца. Абы ў хаце адшукалася спальнае месца і трохі ежы.

Парослая гваздзікамі-травянкамі і дзікім аўсом дарожка вільнула і шмыгнула ў гарод, пакінуўшы вас на парозе. Малаточак далікатна стукнуў тры разы. Праз імгненне Альбіна адчыніла дзверы. Абхоплены цьмяным святлом лямпы, высвеціўся твар — і напалову схаваўся за распушчанымі валасамі. Бліснуў і знік у цені вузкі футаральчык, які вісеў у дзяўчыны на шыі, рысавальным швом прабеглі па гарсажы іскрыстыя змейкі, калыхнуўся падол доўгай сукенкі.

— Пусціце пераначаваць, гаспадынька, — ветліва папрасіў Уюнок. Яна збочыла, упускаючы вас. Моўчкі паказала, дзе ўзяць ежу, куды класціся спаць, — і знікла ў мяккім змярканні.

Вівера хлябтала малако з міскі, на вусах віселі белыя пацеркі, доўгі хвост нерухома ляжаў на падлозе. Ты ленавата глядзеў на агонь у камінку і думаў, што зусім не дрэнна — мець дах над галавой. Цёпла, утульна, мірна... У цішыні спявалі цвыркуны, цені ад агню хваляваліся на сценах, ад сухіх паленаў пахла мёдам і смалой. Уюнок блукаў з лямпай па пакоі, разглядаў вязаныя дарожкі на падлозе і посуд у арэхавай горцы. Потым не вытрымаў і прыадчыніў разьбяны куфэрак, які стаяў каля акна. У няроўным святле бліснула золата.

— І праўда, дзіўная. Звычайна людзі хаваюць каштоўнасці, а яна выстаўляе напаказ...

— Можа, золата — не галоўнае ў яе жыцці? — задуменна адказаў Уюнок, перасыпаючы манеты з далоні ў далонь. — Халодныя, — ён зачыніў куфэрак, падсеў да агню сагрэць рукі і хутка задрамаў. Усё радзей узляталі і апускаліся вейкі, сонная ўсмешка паступова сыходзіла з твару, і толькі куткі вуснаў заставаліся прыўзнятымі. Нават у сне хлопчык чамусьці цешыўся. Ты дагэтуль не прызвычаіўся да яго сонечнай ціхамірнасці, бо сам ніколі не ўсміхаўся: гэта адкрывае чалавека і робіць безабаронным. Давяраць без аглядкі — недазвольная раскоша. А Уюнок, здаецца, думаў інакш, ператварыўшы ўсмешку ў чароўную зброю, далёка да якой твайму нажу...

Вы не дачакаліся вяртання гаспадыні і пад ціхі шолах дажджу за акном прыняліся рыхтавацца да сну.

— Яна прамокне, — прагаварыў Уюнок у забыцці.

Ты прыкрыў хлопчыка коўдрай, пагладзіў па мяккіх валасах і вярнуўся да агню. А можа, закінуць заплечнік у пыльны кут і не ўспамінаць пра дарогі, аддаўшыся няхітраму хараству мернай аселасці? Нібы падтрымліваючы твае думкі, вівера забралася да цябе на рукі і згарнулася клубком, сыта заваркатала. Пухнатая тушка ледзь змяшчалася на каленах, цёплая, паслабленая — як умеюць паслабляцца коткі. Нечаканы акт даверу. Што за змены ён абяцае? Але думаць і аналізаваць не хацелася, вочы зліпаліся, цела патрабавала адпачынку. Вівера дазволіла перанесці сябе на пасцель, і хутка хата пагрузілася ў бязмесячную шэрую дрымоту.

Раніца падкралася на мяккіх лапках і асцярожна кранула за нос водарам свежага хлеба. Прачнуўшыся, ты доўга не мог зразумець, дзе знаходзішся. Глядзеў на беленую столь, сцены з бярвення, знаёмы разьбяны куфэрак і прыпёртую да стала альховую мяцёлку. На куфэрку сядзела вівера і аблізвалася, потым пацягнулася і выскачыла ў адкрытае акно. А дзе Уюнок? Так, трэба ўстаць, пацягнуцца, прыслухацца. У суседнім пакоі гутарылі і смяяліся. Тужлівая рэўнасць уторкнула ў сэрца першую калючку. Раней Уюнок не шукаў жаночай кампаніі. Што змянілася за ноч?

Ты надаў твару абыякавы выраз і пхнуў дзверы, апынуўшыся, мяркуючы па ўсім, у майстэрні. Па лаўках ляжалі стосы палатна, бліскучыя рознакаляровыя адрэзы шоўку, цяжкія рулоны аксаміту. У кошыках яркімі плямамі мясціліся скруткі фарбаванай поўсці, зіхацелі залатыя і срэбныя клубкі. Злучаныя косамі, стракацелі вышывальныя ніткі,ігольніца тапырылася тоўстымі шаршаткамі ды тонкімі цыравальнымі іголкамі. У расчыненай берасцяной скрыначцы ўперамешку туліліся напарсткі, шыльцы, скуматкі, карункі і шыдэлкі.

За сталом каля акна сядзела Альбіна — круглатварая, стройная дзяўчына, перацягнутая ў таліі кваціcтым поясам паўзверх светлай бэжавай сукенкі. Бледная скура, гладкія валасы, сабраныя сетачкай, на грудзях даўгаваты скураны футаральчык. Вусны сціснуты, вейкі апушчаны. Круглыя маленькія пяльцы, прышрубаваныя да стала, адпачывалі з нясканчаным пярэпляткам, а майстрыха працавала над матэрыяй, складзенай у прастакутную драўляную рамку. Побач прыладзіўся Уюнок і распавядаў байкі, на якія дзяўчына часам адклікалася кароткім смяшком.

— Альбіна вышывае мне кашулю! — выгукнуў хлопчык у адказ на тваё «добрай раніцы».

Ты па звычцы пацiснуў плячамі, але ветлівасць прымусіла паглядзець на тканіну. Так, павоі, белыя, ружаватыя, пераплеценыя зялёнай завітушкай сцябла. Тут майстрыха падняла галаву і паглядзела на цябе ва ўпор. Сэрца ёкнула, падскочыла і спынілася... Барвовая нітка нацягнулася, уразаючыся ў жывое, прычыняючы боль. Вось яна, разлучніца. Лёгкім вязьмом рухаў, бязважкімі рыскамі поглядаў, мімалётнымі віньеткамі ўсмешак — шывок за шыўком — прывяжа да сябе Уюнка, прышые яго лёс да свайго, прымусіць забыцца на мінулае. Маленькія нажніцы з вострымі канцамі хутка перарэжуць трывалую сувязь вашага сяброўства. Дыхаць стала немагчыма, у горле перасохла. Ты замёр, як дурань, утаропіўшыся на Альбіну, дзяўчына збянтэжылася і зноў схавалася за мільготкай чорнай іголкай.

— Яна і табе кашулю вышые, — радасна паведаміў Уюнок. — Ахоўны ўзор, чароўны.

Ты кіўнуў і паспяшаўся на вуліцу. Удыхнуў пах начнога дажджу, плюхнуў у твар ледзяной вадой з мыйніка, сцепануўся ад свежасці. Сэрца апамяталася і зноў загрукала, спрабуючы вярнуцца ў ранейшы рытм. Чакаючы, пакуль пачуцці ўлягуцца, ты прыняўся разглядаць двор. Абвіты бальзамінай палісад. Недагледжаны гарод, дзе раскінула плямістае лісце растаропша, жоўтымі язычкамі пялёсткаў цвяліўся асот, паблісквала бірузовымі расінкамі лебяда. Студня. Дрывотнік. На кастры сядзела вівера і прынюхвалася, насцярожыўшы вушы. Котцы тут падабалася. І Уюнку... Яны абодва не прочкі пасяліцца ў гэтай хаце. А ты збіраўся цяпер паснедаць і сысці. Але вярнуўся ў пакой — і натыкнуўся на ўмольны погляд хлопчыка.

— Давай затрымаемся, калі ласка, — папрасіў ён. Хацеў дадаць штосьці, але збянтэжыўся. І зноў нуда і боль прашапталі: бачыш, які ён ужо сталы, прывабны, жаданы? Бачыш, як ласкава глядзіць на яго Альбіна? ЗУюнком яна размаўляла і жартавала, з табой — спалохана маўчала, баялася твайго нерухомага, без эмоцый, твару. Так, што зрабіць, ты ўмееш толькі палохаць, а не выклікаць каханне. Раней ганарыўся, а зараз засмуткаваў.

Вы засталіся ў майстрыхі. Абмінуў тыдзень, потым другі, марудлівыя гарадскія будні зацягвалі, становячыся звыклымі і прыемнымі. Круціўся флюгер, квітнела бальзаміна, палявала на мышэй вівера. І ўсё ж ты разумеў: аднойчы сыдзеш адгэтуль— калі пакліча дарога. А пакуль не нажыляўся ды імкнуўся плаціць за гасціннасць. Змайстраваў Альбіне рассоўныя ясянёвыя пяльцы, навучыў мацаваць калкі і запяльваць тканіну. Тачыў нажніцы, касцяным дзіраколам рыхтаваў палатно для белай гладзі, вымочваў ніткі ў гарачай вадзе, правяраючы якасць афарбоўкі. Ручная праца прыносіла спакойнае задавальненне, у памяці ўсплывалі нечаканыя веды.

Аднойчы гандляр прынёс Альбіне іголкі. Дзяўчына няўпэўнена разглядала тавар, і ты не вытрываў. Якасная іголка — пругкая. Каб праверыць, трэба проста пераламаць адну. Тыя, што ломяцца, як шкло, ці хіляцца, як дрот, — не падыходзяць. А вось калі супрацівяцца пальцам і пералом выходзіць гладкім, — варта браць. Гладкім павінна быць і вушка, інакш кончык ніткі рассучыцца і прарэжацца. І ўжо вядома, нельга аддаваць перавагу скрыўленай іголцы, — шыўкі атрымаюцца няслушнымі, і ўсе намаганні пойдуць у глум.

Захапіўшыся, ты падабраў поўны камплект — кароткія і доўгія, цыганскія і габеленавыя, пакінуўшы Альбіне толькі заплаціць. Здзіўленая майстрыха прапанавала выпрабаваць пакупку. Ты няўпэўнена зрабіў першы пракол, вышыў шэраг крыжоў на блакітным батысце, закругліў контур — і, выпусціўшы пяльцы, схапіўся за грудзі, дзе выбліскам іскраў разарвалася другое шво...

У хату Альбіны кожны дзень прыходзілі людзі. Маленькія сашэ і неабсяжныя абрусы, карункавыя сурвэткі і раззалочаныя магалейкі, — праца спорылася, гарэла. Уюнок дапамагаў, выконваючы нескладаныя даручэнні, — прымятаць ці выскубці канву, аднесці гатовыя вырабы. Ён фарсіў у кашулі, пакрытай выпуклымі кветкамі, а табе дзяўчына дагэтуль не падарыла абноўку, хоць быццам і абяцала. Памятала, вядома, але чамусьці марудзіла, нібы не магла разгледзець малюнак тваёй цёмнай душы. А ты назіраў, як пад спрытнымі пальцамі нараджаюцца пераплётныя арнаменты, рэльефныя манаграмы, дваранскія і княжыя кароны, — і заўважаў: для аздаблення хрысцільных кашуль і шлюбных убораў майстрыха дастае вострую чорную іголку з футаральчыка на грудзях. Аднойчы Альбіна вярнула маладой маці дзіцячую хрысцільную кашулю, не ажыўленую ніводным віткам ці гафтачкай. Жанчына расплакалася. Дзіўная рэакцыя — можна ж аддаць замову іншай вышывальшчыцы, чаго гараваць?

Аднойчы ўвечар вы сышліся на вячэру. Уюнок цярабіў край абруса, апраўлены васількамі і пяцікутным лісцем, дражніў віверу. Ты рэзаў хлеб і наліваў віно, зрэдку пазіраючы на майстэрню Альбіны. Сёння дзяўчына нязвыкла затрымалася, ніколі раней не працавала пры лямпе, берагла зрок. Уюнок таксама турбаваўся і ўздыхаў, прыслухоўваючыся да вячэрняй цішыні.

Нарэшце Альбіна з'явілася, заплаканая і нібы згаслая.

— Іголка зламалася, — прагаварыла яна.

— І толькі? Купіш новую, — усміхнуўся Уюнок.

— Такія рэдкасці водзяцца не ў латку гандляра, а толькі пад зборамі таямнічага замка пані Мулінэ, — майстрыха паклала на стол пусты футарал. — Больш я не змагу накрэсліць чужы лёс, залатаць сардэчныя раны, сцягнуць краі глыбокага гора, адцяніць і зрабіць больш насычаным цьмянае, сумнае жыццё... — Альбіна ўсхліпнула. — Бачыў жа — хрысцільныя кашулі і вясельную адзежу я вышываю адмысловай іголкай.

— І саваны? — спытаў ты. Дзяўчына асалапела:

— Савану выгафтоўка не патрэбна, хіба не ведаеш?

Тут жа ў памяці паўсталі няўцешная маці і белая хрысцільная кашулька.

— Хто гэта — пані Мулінэ? — спытаў Уюнок.

— Выдумка, дзіцячая казка, — адрэзаў ты.

— Не, не казка! — горача запярэчыла Альбіна. — Сярод шэрых вязаў, каля возера, стаіць белаблакітны замак. Валодае ім пані Мулінэ. Прыўкрасная і бессардэчная чараўніца стварае дзівосныя рэчы пры дапамозе чар і людскіх эмоцый. Чым мацней пачуцці, прынесеныя ў ахвяру, тым магутней створаны прадмет. Маю іголку здабыў дзядуля — для бабулі. Усё забрала ў яго пані Мулінэ — каханне, сяброўства, жаданне працаваць. А наўзамен тры швы наклала на сэрца, каб вытрымала яно дарогу. Дзядуля адчыніў дзверы, моўчкі аддаў вузкі футаральчык — і памёр на парозе...

— А гісторыю бабулі распавяла здань? — не ўтрымаўся ты. Майстрыха сумна зірнула, паднялася і пакінула вас. Уюнок кінуўся следам. Абаўе, суцешыць, сагрэе ўсмешкай, ён умее. Вячэраць давялося ў адзіноце. Вівера глядзела дакорліва, але не адмовілася ад смажанага курынага крыла. Потым выскачыла ў акно. Ты доўга сядзеў ля камінка, чакаў сябра, але Уюнок не вярнуўся з пакоя Альбіны. Вось так. Яны ўдваіх, хлопчык зрабіў выбар, і трэцяму лішняму час развітацца.

Раніцай высветлілася, што Уюнок таксама збіраецца. У замак пані Мулінэ.

— Можа, узяць грошай? — задуменна спытаў ён. — Купіць іголку за куфэрак з золатам?

— Для пані Мулінэ грошы не маюць каштоўнасці, — адказала заплаканая Альбіна. — Яна запатрабуе самае дарагое, што ёсць у чалавека... Не хадзі, Уюнок!

— Вярнуся, — паабяцаў ён.

— Вернецца. Я паклапачуся.

— Пойдзеш са мной? —заззяў Уюнок. — Тады баяцца няма чаго!

І твар майстрыхі пасвятлеў. Што ж, хоць на ролю ахоўніка спатрэбіўся, нявесела падумаў ты. Завастрыў нож, праверыў боты, напоўніў вадой біклагу. Дарога клікала, цягнула. Недзе там, наперадзе, — зялёны пакаты ўзгорак і зацягнутая смугой лагчына, легкадумны перасвіст ветру ў чаратах, водар ядлоўцу, аскомісты густ пярэстых ягад абляпіхі...

Наблізілася, трымаючы на выцягнутых руках акуратны скрутак, Альбіна.

— Прымі ад мяне падарунак, — голас зрываўся, прадзімаў трывогай. Не, ты не здрыгануўся, умеў стрымлівацца. Але халодная, калючая далонька сціснула сэрца, зазмяўся праз шчылінкі страх. Падораная кашуля асляпіла некранутай беласцю. У такіх — хаваюць, праненеслася ў галаве.

— Іголка зламалася, калі я хацела зрабіць першае шво. Прабач.

Ты пацінуў плячамі, імкнучыся здавацца абыякавым.

Выпілі малака, памаўчалі на развітанне — і пакінулі горад. Шчымлівая нуда прымусіла азірнуцца на жоўта-чырвоныя, са шпорцам, кветкі бальзаміны, брамку з ліхтаром, нерухомы флюгер і побач, на даху, — цёмны сілуэт вялікай коткі. Альбіна стаяла, гледзячы на вас... не, мабыць, на Уюнка. У вачах дзяўчыны плюскалася гэтулькі ласкавага захаплення, што хапіла б на дваіх, але ўсе яно прызначалася тоненькаму, далікатнаму падлетку ў вышытай кашулі... Выразна бачылася, як пяшчота ахутвае Уюнка, цалуе, прыгладжвае мяккія светлыя валасы, асцярожна бярэ за руку і вядзе па дарозе. Нея трэба яму ахранкі-талісманы. Ідучы за хлопчыкам крок у крок думкамі і малітвамі, Альбіна не дазволіць яму загінуць. А вось табе засталося надзець белую кашулю і крочыць насустрач прыгодзе. Нават калі яна апынецца апошняй...

На скрыжаванні, каля студні пад ясакарам, Уюнок спыніўся ў разгубленасці.

— Кінем жэрабя? — спытаў ён, узіраючыся ва ўцякаючыя дарогі.

— Навошта лёсаваць? Нам направа.

— Ведаеш, дзе жыве пані Мулінэ? А казаў — выдумка...

— Для таго і казаў, каб цябе зберагчы ад дурасцяў.

Ён уздыхнуў. Ты прамаўчаў, па-вар'яцку шкадуючы і не ў сілах нічога змяніць. Эх, марыў стаць яму бацькам, сябрам ці настаўнікам. А станеш — успамінам, які паступова выліняе, спарахнее. Перацёрцца барвовая нітка, знікне, саступіць месца вясёлкаваму гафту кахання...

— Хадзем. Калі паспяшаемся, паспеем дацямна...

Хлопчык азірнуўся на горад. Дзесьці там Альбіна схілілася над жамчужным швом, накасяк зацягваючы вузельчыкі, а вівера адправілася лавіць птушак і тачыць кіпцюры аб ствол старой слівы. Ён рашуча ўздыхнуў і пагадзіўся:

— Хадзем.

Ужо шмат гадоў ніхто не жадаў трапіць у замак пані Мулінэ, таму дарога імкнулася на ўсе жылы дагадзіць вандроўцам, якія нарэшце ступілі на яе. Прыбірала з-пад ног каменьчыкі, пракладала масткі праз лужыны і раўчакі, рассыпала па абочынах пунсовыя пазёмкі, крыніцы і цяністыя ліпы. Апоўдні замак паўстаў у далечыні, блакітна-белы, філіграны, вытанчаны, нібы вытканая карціна ў залацістай раме сонечных прамянёў. Замерлі гладкія, матава-шэрыя вязы, баяліся варухнуцца мяцёлкі травы, не прыляталі пчолы да яркіх суквеццяў гарлачоўкі. Па возеры не прабягаў ветрык, і лебедзі застылі парай пераламаных ліній.

— Неймаверна! — прашаптаў Уюнок. Нібы перасякаючы нябачную мяжу, ступіў на лужок — і ілюзія знікла…. Скаланулася шурпатае лісце вязаў, скамячылася трава, загудзелі пчолы, рабізной зацягнула возера, і лебедзі ўзляцелі, цяжка махаючы крыламі. Ты агледзеўся — і ступіў следам. Вы прайшлі па нерэальным, нібы мазаічным швом расквечаным, садзе. Замкавыя вокны ветліва паблісквалі, у іх шкле адбівалася сонца, прыадчыненая брамка чакала госцяў, нібы цудоўная іголка пані Мулінэ загадзя вышыла ваша з'яўленне на туга нацягнутым шоўку... Запрашаючы, расчыніліся вітражныя дзверы, падняліся цяжкія махрыстыя фіранкі, у яркім паўдзённым святле паўстала перад вачамі габеленавая зала.

І зноў немагчымая, ілюзорная раскоша прымусіла вас моўчкі аглядацца, губляючыся на фоне ўрачыстай пышнасці абстаноўкі. Мэбля тут здавалася тканіннай, несапраўднай, створанай са шчыльных магічных нітак. Звязаныя шыдэлкам ажурныя спінкі крэслаў. Размаляваныя стразамі й паеткамі інкруставаныя куфры. Сцяблістым швом выпаленыя гірлянды на белай лаве, а парцэлянавыя медальёны кабінетаў і львіныя лапкі фатэляў — па-майстэрску прымацаваная аплікацыя... Хацелася ўзяцца за краі і зазірнуць на сподні бок: ці не пакінула вышывальшчыца неахайных вузельчыкаў, ці ўсе канцы схавала пад шыўкамі?

Уюнок ахнуў здзіўлена. Ты павярнуўся ўслед яго захопленаму позірку — і без сіл апусціўся на кушэтку, загароджаную кармінавай, у пацеркавых бутонах і зорках, шырмай. Паліла, рэзала, рвалася на часткі, не жадаючы знікаць з сэрца, трэцяе шво... Ад нясцерпнага болю выступілі слёзы, але адвесці погляд не атрымлівалася. Па вінтавых апалавых сходах павольна спускалася гаспадыня замка. Пані Мулінэ. Нядбайна раскіданыя ружовыя макі бязважкай роўняддзю абсыпалі чорную сукенку, цьмяна свяціліся жамчужыны, што змацоўвалі прычоску. У руцэ чараўніцы — маленькія срэбныя пяльцы, а да аксамітавай шэмізеткі прышпілена іголка — тая, за якой вы прыбылі сюды. Але для цябе цяпер існавала толькі яна, чароўная жанчына ў чорным. Каханне калючай цярновай пугай аблытала душу, кроў бегла з апошняга разарванага шва...

Уюнок пакланіўся і раскрыў рот для прывітання, калі пані Мулінэ прагаварыла:

— Які юны... Для каго просіш іголку?

— Для нявесты. Альбіна клапоціцца пра людзей, дорыць ім шчаслівы лёс...

— Дурненькая. Клапацілася б лепш пра сябе.

— Пра яе паклапачуся я! — успыхнуў хлопчык.

— Не спадзявайся. Вып'еш эліксір і забудзеш нявесту, сяброўства, запаветную справу. Знікнуць пачуцці. Станеш пустым і абыякавым.

Уюнок нахмурыўся, знікла заўсёдная ўсмешка. Спытаў глухім голасам:

— Я змагу аднесці падарунак Альбіне?

— Наўрад ці. Не кожны мужчына вытрымлівае падобнае выпрабаванне, дзе ўжо дзіцяці. Аддасі іголцы пранізлівае каханне — каб праколвала камень, лёд і паветра. Нязломнае сяброўства — каб не ламалася і не хілілася. Патаемнае майстэрства — каб не вычэрпваліся магічныя ўзоры. Самы востры боль — каб кончык іголкі ніколі не тупіўся. І ад гэтага болю — памрэш.

— Я гатовы, — ледзь чутна сказаў ён.

У руках пані Мулінэ з'явіўся шкляны келіх. Чараўніца ўзбоўтала празрыстую вадкасць, смакуючы, удыхнула водар — і працягнула напой Уюнку.

— Хочаш атрымаць іголку — выпі да дна.

Хлопчык паглядзеў на цябе. На твары яго чыталіся страх, адчайная рашучасць і — адданасць. Не, ён бы не забыў ваша сяброўства... Захоўваў бы ўсё жыццё ва ўтульным закутку, уплёў бы барвовую нітку ў кветнік любоўных перажыванняў.

— Пі, — сумна прыспешыла пані. — Ці не адымай мой час. Баязлівец не варты каштоўнага падарунку.

Уюнок павярнуўся да цябе:

— Калі я памру, аднясеш Альбіне іголку?

— Не, — ты выйшаў з-за шырмы, са здзіўленнем назіраючы за пані Мулінэ. Як валокны канвы выдзіраюць з-пад гатовай вышыўкі, так нітачка за нітачкай спаўзалі з твару чараўніцы пагардлівасць, халоднасць, абыякавасць. Нічога напускнога не засталося. Перад вамі стаяла слабая, разгубленая жанчына, якая больш не валодае сітуацыяй.

— Іголку Альбіне ўручыш сам, — ты забраў келіх з дрыготкай рукі сябра. — Нявеста чакае жаніха. І звярку нядобра без гаспадара заставацца.

— Пачакай! — выгукнула пані Мулінэ.

— Не турбуйцеся, пані. Не заўважылі хіба? На хлопчыку ахоўны талісман. А я ў пахавальнай кашулі.

Ты ўсміхнуўся Уюнку. Аказваецца, усмешка — гэта не цяжка і нават прыемна. А потым выпіў празрыстую вадкасць і ўжо не чуў гаротны выкрык сябра і пераможны смех пані Мулінэ.

У кругавароце зноў распушваліся кутасы, віліся гафтачкі, перапляталіся карункі, а пасля свет ізноў стаў даступны ўспрыманню. Ты ачуўся. Сэрца не балела, стукала мерна й ціха. Галава патанала ў мяккай падушцы, а белую кашулю змяніла чорная, вышываная ружовымі макамі.

Каля падгалоўя ложка сядзела пані Мулінэ. Тонкі профіль, цёмныя завіткі прычоскі, бледнасць скуры па-майстэрску падкрэсленыя чорным аксамітам сукенкі. Доўгія пальцы камячылі беласнежную хустачку, а на безназоўным звіўся залатой змейкай заручальны пярсцёнак.

— Вы — замужам, пані? — ускрыкнуў ты, забыўшыся пра прыстойнасць. Яна спалохана паглядзела, потым уздыхнула.

— Была. Увесь строй замка стварыў майстар Мулінэ. Ён абагаўляў мяне, але лічыў занадта жорсткай. Шкадаваў людзей, якія паміралі за дурны кавалачак металу. Паступова яму стала ў цяжар каханне і... аднойчы папрасіў... Адным словам, ён сышоў вольным і пустым, пакінуўшы вострую чорную іголку. Якую, дарэчы, забраў твой сябар...

— А я?..

— Страціў прытомнасць, выпіўшы крынічнай вады, — усміхнулася чараўніца.

Ты збянтэжыўся. Мноства думак вілося ў галаве, спытаць бы адразу аб усім.

— Хадзем, я раскажу табе пра майстра Мулінэ, — яна жэстам запрасіла сесці побач, у суседні фатэль. Узяла срэбныя пяльцы з туга нацягнутай тканінай. Вытачаныя пальцы ўсунулі нітку ў іголку...

Шво за швом — і карціна на шоўку пачала праясняцца.

Пані Мулінэ павольна загаварыла:

— Жыў-быў ты...

# Чацвёрты, самы чароўны

Мядункі не жадалі распускацца. «Пчолы зноў забяруць наш пылок», — нылі яны і ўпарта сціскалі пялёсткі. «У нас яшчэ не паспелі тычынкі», — бубнілі званкі і дэпрэсіўна гойдаліся на крывенькіх валасатых сцяблінках. Мак-самасейка і зусім адмовіўся размаўляць, адвярнуў бутоны і прыхаваў іх лісцікамі. Ільвіная зяпа пазяхала, не перастаючы, сон-трава бессаромна храпла, а світанак няўмольна набліжаўся.

Раставалі зоркі, ружавела неба, і вось ужо прычуліся крокі Лесніка. «Гэта што яшчэ за агіднасць?! Чаму паляна не гатовая да прыёмкі?! » — раздаўся яго грозны гулкі голас, ад якога кветкі распласталіся па зямлі, у жаху пакрыўшыся не ўласцівымі ім пухіркамі.

Лілле расплюшчыла вочы. Ну і ну… прысніцца ж…

Пацягваючыся і пазяхаючы, яна паплялася ў гасціную. Там каля стала клапатаў Нікчэмка. Расстаўляў кубкі, папраўляў абрус. Яго рука была перавязаная анучынай. І дзе ўжо паспеў парэзацца?

— Добрай раніцы! З днём нараджэння! — выклікнуў ён.

— Ці добрая раніца? — прамармытала Лілле, яшчэ пад уражаннем ад сну. — Што пірог?

— Дык вось жа! — Нікчэмка кінуўся ў кухню. Не чакаючы, пакуль ёй прад'явяць пірог, Лілле выйшла на ганак, зажмурылася ад паўдзённага сонца. Так, заспалася яна. Ну нічога, раз на год — можна.

Лес, а ці памятаеш ты, што сёння ў тваёй кветачніцы дзень нараджэння? Вядома, тэрыторыя Лілле распасціраецца ўсяго толькі ад узлеску да Мядовай прасекі, не так і многа, — але ж не так і мала! Адных канюшынавых палянак больш за сто. А зараснік чабару? А стрэлкаліст каля раўчука? А капрызныя дзікія ружы, што не жадаюць распускацца ў тэрмін? І гэта ў першай дэкадзе чэрвеня, калі трэба паспець з квітненнем ліпавых дрэў на ўзлеску, бо да іх прыляцяць пчолы. Добра, што грэчкавае поле за прасекай — ужо не яе клопат, інакш яна б звалілася з ног ад стомы.

Сёння ў Лілле вольны дзень. Дзень нараджэння. Госці, падарункі, застолле і іншыя прыемныя рэчы, якіх часам заслугоўвае нават самы заняты чараўнік. Сёння яна магла заплюшчыць вочы, заткнуць вушы і спакойна сядзець дома, — але па звычцы агледзелася і прыслухалася. Пра што балбочуць кветкі гэтай раніцай?

Маленькая белая кускута ўпарта караскалася па бярвёнах сцяны Ліллінай хаткі. Рамонкі, штораслі непадалёк, пакрыўджана назіралі за яе стараннямі і шапталіся:

— Ну як не сорамна? Вось нахабства! Мы стараемся, на досвітку раскрываем пялёсткі, а гэта вытычка … Ды што яна сабе дазваляе?!

— Паўзучка бязродная! У яе і кветак жа няма! — падтаквала, ківала тоўстым лямцавым сцяблом жоўтая дзіванна. Яна расла крыху далей ад хаты і, каб лепш бачыць, на ўсе жылы выцягвала доўгую шыю.

— Ціха! Лілле прачнулася! Вунь яна, на ганку! — шыкнула галінка бружмелю, што навісала па-над дахам. — І абудзіў яе мой далікатны водар. Вось так! Нездарма я вышэйшая за вас!

Кускута моўчкі працягвала свой шлях. Яна вельмі хацела апынуцца першай, хто павіншуе з днём нараджэння гаспадыню хаткі.

Лілле павярнулася. Убачыла кускуту, якая з апошніх сіл учапілася ў дзвярны вушак. Малая піснула:



Графіка Марыны Жвірбля.

— З днём нараджэння! — і звалілася б уніз, на радасць кплівым рамонкам, але ж Лілле падхапіла сцяблінку пальцамі і ўмацавала яе на вонкавай сцяне хаты. Кускута шчасліва ўздыхнула — як уздыхала любая кветка, апынуўшыся ў далікатных руках кветачніцы.

— Дзякуй, мілая, — прагаварыла Лілле, пагладзіла дробныя, ледзь прыкметныя кветачкі. Дзіванна зайздросна засапла і адхінулася, робячы выгляд, што ёй зусім нецікава. Бружмель паціснуў галінкамі, запах яшчэ мацней.

— Хто будзе зайздросціць і зласловіць, той атрымае на два дні квецені менш, — сталёвым голасам папярэдзіла Лілле. — Я не жартую!

Рамонкі дружна чмыхнулі ёй у адказ.

Яна павярнулася, каб ісці дахаты, і запнулася аб штосьці, што ляжала на ганку. Вось няўклюда! Гэтулькі прастаяць, слухаючы дурную балбатню, — і не заўважыць першы дзень-нараджэнны падарунак! Абгортка са свежага лісця лопуху, а ўсярэдзіне штосьці невялікае і лёгкае… і напэўна чароўнае…

— А мы ведаем, ад каго гэты падарунак, — прашыпелі рамонкі.

— Ведаем-ведаем, — паўтарыла за імі дзіванна, хоць насамрэч яна не магла нічога ўбачыць з таго месца, дзе расла. А маленькая белая кускута змаўчала. Яна таксама бачыла, хто паклаў скрутак на ганак. Але ніхто, нават самыя шкодныя рамонкі, не мае права выдаваць таямніцу і псаваць неспадзеўку. Гэта правіла з разраду няпісаных….

Лілле прыціснула падарунак да грудзей і вярнулася ў хату.

— Глядзі! — выгукнула яна. — Як думаеш, ад каго?

Нікчэмка паціснуў плячамі. І праўда, адкуль яму ведаць.

— А я ведаю, — прашаптала Лілле. — Гэта ад Яго… Сапраўды ад Яго! Як кранальна і рамантычна!

Нікчэмка зноў паціснуў плячамі. Ён трымаў на выцягнутых руках тоўсты падрумянены пірог і чакаў, калі Лілле гэта згледзіць. А яна безуважна разглядала свой першы падарунак. Бо гэты лопухавы скрутак напэўна ад Лесніка! Ад самага магутнага і строгага чараўніка, ад Уладара лесу!

Праўда, Уладаром Лесу яго звалі толькі ў вочы. А паміж сабой клікалі проста — Ляснік. Таму што ён і быў менавіта Леснікам. Велізарны, барадаты, у гумавых ботах і брызентавым плашчы, ён блукаў па непрывабных курцінках і непралазнай багне, ведаў напералік усе ветраломы і травастоі, парослыя быльнікам лагчыны і ўскудлачаныя вароніны гнёзды… Як з'едліва жартавала Цыкута, кожная барсучыная нара ў яго пад наглядам.

Ён вельмі рэдка ўсміхаўся — і далёка не ўсім. Лілле пашанцавала толькі раз — калі на вясновы агляд яна прыгатавала выключную, чароўную палянку, аздобленую белымі амарылісамі. Яна не спала некалькі сутак, пакуль няньчыла ўпартыя цыбуліны: не давала закіснуць зямлі, выклікала цёплыя дажджы, адганяла настырных пражэрлівых чарвяцоў. Так, яна выдатна разумела: патрапяць сюды людзі — бяздумна загубяць працу, збяруць бессэнсоўны груваcткі букет і выкінуць яго потым на ўзлеску, бо сарваныя амарылісы так хутка вянуць. І калі гэта здарыцца, яна будзе доўга і горка плакаць. Разумела — і ўсё адно стварала прыгажосць, вырашыўшы, што потым папросіць сяброў атачыць амарылісы непраходнымі страшнымі нетрамі, каб не ступіла сюды нага чалавека.

І вось, калі іншыя кветачніцы прыгатавалі для агляду звыклыя незабудкі ды пралескі, а Лілле прад'явіла сваю неспадзеўку, — тады яна і ўбачыла, як пасміхаецца Ляснік. Калматы, перакітаваны брудам, у даўгакрысым капелюшы і рваным плашчы, — з выгляду звычайны чалавек, а не магутны чараўнік, — ён стаяў на краёчку духмянага беласнежнага азярца, асцярожна дакранаўся да глянцавых пялёсткаў і ўсміхаўся ад душы. А потым сказаў Лілле:

— Пацешыла ты мяне, малая. Не чакаў!

Гэтыя словы абляцелі ўвесь лес. Шмат хто прыходзіў потым палюбавацца Лілліным цудам. І хоць водгукі былі часцей зайздросныя — «Нічога асаблівага! Я таксама так магу, а вось зладзілася б яна за ноч з дзесяццю льнянымі палямі?» ці скептычныя — «Ну і каму гэта трэба? Камарам ды жабам? Пусці сюды людзей — праз пяць мінуць ні лускавінкі, ні цыбуліны не застанецца», — але Лілле ўсё адно ўславілася. І здарылася гэта пару месяцаў назад.

— Лілле, — паклікаў Нікчэмка, адцягваючы кветачніцу ад салодкіх мрояў. — Пірог нарэзаць?

— Пірог? Які пірог? — Лілле ачулася. — А, рабі як ведаеш… Няўжо я павінна вырашаць за цябе такія дробязі?

Памарудзіўшы, ён сышоў на кухню. А Лілле зноў адправілася вонкі, прыбірацца. Прымерала вінна-чырвоную, расклёшаную лілею саранку — здалося залішне ўрачыста. Пакружылася ў прыталенай спадніцы-зорачцы дурнап'яну, — так, вельмі падыходзіць для танцаў на балі, але вось на кухню па чай бегаць — толькі заблытаешся. Растрапаны парасонік дзягліцы — зручна, ды непрыстойна, ногі апынуцца ўжо занадта навідавоку. Лілле пакруцілася, пакруцілася і абрала бэзавыя крыльцы-разлятайкі шалвеі. Убор атрымаўся трохі легкадумным, але ж ёй не сто гадоў спаўняецца, а ўсяго вось…

Яна прыкархнула каля акенца і стала марыць. Хутка прыйдуць сябры. Цікава, хто паспее першым? Тыдзень назад яна прызналася ім, што жадае атрымаць незвычайны падарунак, чароўны. Такі, каб выбавіў у цяжкую хвіліну. Паслён, вядома, не прамінуў з'едліва сказаць, маўляў, якія там у Лілле могуць быць цяжкія хвіліны? І Паганка змрочна ўхмыльнулася, а нешматслоўная Цыкута моўчкі тузанула бровамі. Але вядома, яны ўсё выдатна зразумелі. Бо сапраўдныя сябры адгадваюць тваё жаданні без слоў. Лілле задаволена ўздыхнула. Ізноў і зноў думкі яе вярталіся да лопухавага скрутка. Жудасна цікава, што там усярэдзіне. Але па старой традыцыі, прынятай у іх лесе, падарункі яна разгорне ўвечары, калі госці разыдуцца па хатах ды на небе праглянуць зоркі…

З кухні пацягнула гарачым канюшынавым мёдам. Штосьці бразнула і пакацілася. Нікчэмка сёння зусім нязграбны. І рука ў яго перавязаная. Трэба б спытаць, што здарылася. Але гэта потым, потым — бо па сцяжынцы, аброслай рамонкамі ды дзіваннай, ужо хтосьці ішоў. «Ляснік? » — ёкнула сэрцайка. Але гэта ўсяго толькі Цыкута, сяброўка-траўніца, спяшалася на дзень нараджэння да Лілле. Яе абадраная сукенка, з якой тут і там тырчалі травінкі, шамацела на кожным кроку.

— Збіраюцца госці. Накрывай на стол. Пра попельніцу для Цыкуты не забудзься. Калі з Паганкі пасыплюцца зярліцы, не падмятай пры ёй, гэта няветліва. І не заманіся каштаваць варэнне, якое прынясе Паслён, — хутка сказала Лілле. Нікчэмка толькі ківаў, наморшчыўшы лоб, але яна ведала — усё зробіць і нічога не пераблытае.

Яна акінула поглядам стол, абрусок, клышаногія крэсліцы-карчакі, і яе наведала жахлівая думка: калі Ляснік прыйдзе — дзе ж яго пасадзіць? Крэслаў толькі чатыры! Лілле падскочыла ад жаху. Куды яна яго пасадзіць?!

— Тэрмінова патрэбна пятае крэсла!

— Праўда? — узрадаваўся Нікчэмка. І тут жа прынёс з кухні яшчэ адзін аблезлы карчачок. У Лілле адлягло ад сэрца. Не, што ні кажы, а не зусім ён нікчэмны. А што чараўніцтва не ведае, — так што ж узяць са звычайнага чалавека? Таму сябры Лілле і далі яму мянушку — Нікчэмка. А быццам бы ў яго было звычайнае, чалавечае імя… Як жа гэта? Лілле паспрабавала ўспомніць, але Цыкута ўжо стукала ў дзверы.

— Я першая? — пацікавілася яна. Зазірнула ўнутр, кінула Нікчэмку мяшэчак:

— Гэй, як цябе там, завары гэтую гарбату. Толькі сам не пі, а то да вечара не дажывеш!

Нікчэмка злавіў мяшэчак, асцярожна панюхаў і панёс на кухню. Цыкута паляпала сябе па кішэнях і ўручыла імянінніцы маленькі скрутачак з пераплеценых травінак, падобны на птушынае гняздо. Падарунак.

Калі Нікчэмка выйшаў, госця задзёрла бровы і прагаварыла:

— Не, Лілле, я не разумею, ну навошта ты трымаеш у хаце чалавека?

Лілле збянтэжылася.

— Так атрымалася, — прагаварыла яна, пацiскаючы плячамі. Ёй сапраўды стала няёмка: і праўда, для чаго патрэбны Нікчэмка? Нічога карыснага не ўмее — ні з кветкамі размаўляць, ні надвор'е вядзьмарыць, ні па вадзе прайсціся. Нават семка на далоні ў яго не прарастае. Адным словам, чалавек. Бессэнсоўнае стварэнне.

— Няўжо табе не страшна заставацца з ім сам-насам? — працягвала Цыкута. — Вунь ручышчы якія, схопіць — пераломіць напалам. І гэтыя дзіўныя саламяныя валасы, і гэты незразумелы пагляд. Ты заўважала, як ён глядзіць на цябе? Утаропіцца, замрэ — і вачэй не зводзіць. Жудасць!

Лілле ўсміхнулася. Вядома, Цыкута моцна перабольшвае. Нікчэмка зусім не страшны і ўжо тым больш не небяспечны. Так, яна ледзь дастае лбом да яго пляча, але гэта ж не нагода баяцца! Ён нават дапамагае Лілле, па-свойму, па-чалавечы. Цягае за ёй цяжкія кошыкі з насеннем, праводзіць з ліхтаром, калі яна прыцемкам адпраўляецца гадаваць начныя кветкі. Праз раўчукі пераносіць. Калі ён зрабіў гэта ўпершыню, Лілле хацела сказаць, што ўмее хадзіць па вадзе, — а потым чамусьці прамаўчала. Ёй — і ў гэтым яна б ніколі не прызналася сябрам — вельмі спадабалася ляжаць у цёплых і ўтульных руках Нікчэмкі.

— Паліць будзеш? — траўніца выцягнула капшук.

— Не, што ты, — схамянулася Лілле. Безуважліва пасунула попельніцу. Пазяхнула.

— Не выспалася?

— Ды я пасля агляду ніяк супакоіцца не магу, — прызналася Лілле. — Так перахвалявалася — дагэтуль кашмары сняцца!

— Ох ужо гэтыя агляды, — буркнула Цыкута. — І чаго вы, кветачніцы, так носіцеся з гэтымі палянкамі? Уторкнуў пару кветачак паярчэй, водару дадаў — і шпацыруй на здароўе. Якая розніца, хто пераможа?

— Табе з тваёй травой гэтага не зразумець.

— Ды ўжо вядома. Трава — яна і ёсць трава, — кіўнула Цыкута, пыхкаючы. — Травой не любуюцца. На ёй валяюцца, яе топчуць, косяць ці ў лепшым выпадку паляць. Не бачу сэнсу напружвацца дзеля нейкай там травы.

Дакладна, яна не перапрацоўвала. Але калі казала, што ёй няма справы да гэтых гідкіх казытлівых травінак, — то, вядома, крывіла душой. Успомніць толькі, як яна песціла свае ненаглядныя пустазелле. Адзін час ад узлеску да Мядовай прасекі толькі і рунелі, што асот, лебяда, багаткі і атрутны латук. А як клапатліва яна сачыла, каб усё расло, налівалася сокам і каласавала. Калі аднойчы ў мышынага гарошку не завязваліся вусікі, падняла на ногі ўвесь лес! Сяброўкі часта працавалі разам, бо травы таксама квітнеюць. Часам траўніца яшчэ да світання біла ў дзверы бярвеністай хаткі: «Ты што, пазабывала пра гусіныя лапкі і метлюжок? Яны даўно ў пару ўвайшлі! »

Лілле ўсміхнулася краёчкам вуснаў. Так, Цыкута схільная перабольшваць, але схільная і прымяншаць, — гледзячы пра што гаворка.

— Ох ужо гэты Ляснік, — прабурчала Цыкута, шпурнуўшы недакурак міма попельніцы. — Выдумаў таксама: агляды, абыходы, праверкі. Не сядзіцца яму дома.

— Цікава, якая ў яго хата?

— А ты не ведаеш? Ну так, табе ж гадкоў усяго нічога. А я наведвалася да яго ў госці пару разоў. Хата як хата, вось толькі не кожнаму пад сілу дабрацца туды…

«Чаму гэта?» — хацела спытаць Лілле, але тут у дзверы зноў пастукалі. На парозе з'явіўся Паслён.

— Прывітанне, дзяўчынкі! — ён хлюпнуў носам. — Я не спазніўся? Важдаўся з журавінамі на балоце, азяб смяротна! Здаліся Лесніку гэтыя ягадныя купіны… Лілле, зазірнеш туды заўтра, нагледзіш за журавінавымі кветачкамі, добра?

— Ці не запозна для квітнення? — нахмурылася Лілле. — Дзе цябе раней насіла?!

— У святочны дзень не размаўляюць аб працы, — перабіла іх Цыкута. — Паліць будзеш?

— Не адмоўлюся, — ён паставіў на стол пару збанкоў, напоўненых неапетытнага выгляду сочывам. — Частуйцеся, дзяўчаткі. Чаромхавае. Ландышавае. І ваўчынаягаднае — для самых дарагіх гасцей. А дзе наш чалавечак? Можа, яго пачастуем?

Лілле нацягнута ўсміхнулася. Пачынаецца. Добра, што Нікчэмку з кухні не чуваць гэтых брыдкіх жартачак. І гэта ж яшчэ няма Паганкі. Калі яна з'явіцца, то хоць вушы затыкай.

Паслён запаліў, зажмурыўся ад задавальнення. Вось ужо зусім бязладны тып. Калі б Лілле не вяла каляндар квітнення ягад, то ні маліны, ні суніц даўно б на іх тэрыторыі не мелася. Паслён захапляўся вылучна атрутнымі раслінамі і на гэтай глебе пасябраваў з Цыкутай. Іх плантацыі мудранкі і заячага хмелю славіліся далёка за межамі лесу. Ды і ваўчынаягаднае сочыва карысталася папулярнасцю сярод ляснога народа.

Вось людзей Паслён не пераносіў. Замест правай рукі ў яго было жалезнае скрэбла. Каб выдрапваць вочы людзям, якія без меры грабуць ягады на паляне. «Глядзець млосна», — кажа ён і праводзіць чалавеку скрэблам па твары. Лілле зябка здрыганулася. Пра гэту звычку сябра яна імкнулася не ўспамінаць — але хіба ж такое забудзецца?

— Лілле, ачуйся, — затармасіў яе Паслён. — Аб кім марыш? Няўжо аб сваім нікчэмным чалавечышку? Трымай, вось мой падарунак. Толькі акуратна, не разлі, ён перапоўнены чараўніцтвам. Як ты і прасіла — для самых цяжкіх хвілін, — ён хіхікнуў і задыміў з падвоенай сілай. — Моцнае зелле, — прагаварыў здушаным голасам.

— А то, — хмыкнула Цыкута.

У клубах дыму шалвейная сукеначка імянінніцы хутка звяла. Лілле разгублена разглядала яе і разважала, ці не збегаць за свежымі пялёсткамі? Але не паспела: пляснуўшы дзвярамі, як заўсёды, спазняючыся, у хату ўварвалася Паганка.

— Ну трэба ж, паляць без мяне! — з парога зараўла яна. — Зусім ахамелі!

Цыкута зашастала капшуком.

— На вось, — Паганка сунула Лілле мяшэчак з чымсьці скамечаным усярэдзіне. — Твой падарунак. Гэй, гэй, не скнарнічай, сяброўка! — крыкнула яна траўніцы, якая круціла цыгарку. Здаецца, Паганка ў добрым настроі. Праўда, яна прыцягнула з сабой аб'ёмную бутлю мухаморавай настойкі, а гэта, як Лілле цьмяна помніла з мінулай вечарынкі, можа ператварыць свята ў нешта іншае.

Паганка шпурнула на стол ірваныя, даўно не мытыя пальчаткі і зацягнулася. Яна паліла прагна і нервова, моршчыла лоб і ўцягвала без таго запалыя шчокі. Вочкі бегалі сюды-туды, нібы ўсюды вышуквалі ворагаў. Вечны бруд пад пазногцямі і чорныя махры сукенкі, калісьці белай, складалі яе нязменны ўбор. І вядома, капялюш…

— Гэта хто ж так абгрыз твой капялюш? — прысвіснуў Паслён.

— Ваверкі, каб іх, — прамармытала Паганка. — За хвост іх ды аб дрэва… Гадуеш грыбок для сябе, пялегуеш, песціш, а гэтыя рудыя, нахабныя… хоп — і пацягнуць…

Так, цалкам у яе духу: ужыць павелічальнае вядзьмарства, нават не паклапаціўшыся адшукаць цэлы грыб. Гэта яшчэ нічога, неяк яна прымудрылася разам з капялюшыкам павялічыць тоўстага, нехлямяжага вусеня. Тады адбылася вельмі непрыемная гутарка з наглядчыкам кузурак, ледзь да бойкі не дайшло.

Госці паселі за сталом, хто абапёршыся, хто адкінуўшыся назад. Пятае крэсла непрыкаянна пуставала і нібы саромелася сваёй незанятасці. Цыкута паглядзела на яго скептычна, але нічога не сказала. Заўважыла яго і Паганка.

— Мы чакаем кагосьці яшчэ?

Лілле счырванела па самыя вушы.

— Не, не, — паспешна адказала яна. — Гэта так… раптам спатрэбіцца…


Графіка Марыны Жвірбля.

— Што чуваць? — пацікавілася Паганка. — Ці шмат людзей?

— Шмат — не тое слова, — паскардзіўся Паслён. — Ніякага супакою няма, ідуць і ідуць, і кошыкі цягнуць — большыя за сябе! Ну нічога. Я ўздоўж сцяжынак ваўчынага лыка насадзіў. Ягадкі апетытныя, пунсовенькія, так у рот і просяцца. А ў брусьнічнік падмяшаў мучану. Кусцікі адзін у адзін, не адрозніш…

— Так ім і трэба, чалавекам, — прабурчала Паганка. — Няма чаго ў наш лес, як у свой, хадзіць! Вунь, Цыкута ўсе лясныя пашы калючым бадаком засмеціла і з’едлівымі казяльцамі. Каровам, ведаеш, як казяльцы не падабаюцца. А яшчэ палын. Каровы наядуцца палыну — і малако будзе ёлкім.

— Так, але хутка Ляснік ізноў з праверкай пройдзецца, — нагадала Цыкута. — Трэба б люцэрны і белай канюшыны бліжэй да ўзлеску насадзіць. І вам не замінае папрацаваць. На дзесяць паганых грыбоў не адшукаць і адной сыраежкі. У малінніку павукі замест ягад, а ад ажыны толькі калючкі леташнія засталіся. Мала вас угаворвалі? Карціць яшчэ лупцоўку атрымаць?

Паганка надзьмулася і прамармытала, што «яна не наймалася». А Паслён, як звычайна, легкадумна хмыкнуў. Вось яшчэ, прыносіць карысць людзям, не дачакаецеся. Куды больш цікава заблытваць і атручваць, рабіць лес дрымучым і непраходным. Што ні куток — то карчакі ды вываратні, што ні вадаточніца — то балотца з п’яўкамі, што ні сцяблінка — то пустазельная…

— Давайце вып’ем нарэшце! — абурылася Паганка. Стрэсла попел, за ім на падлогу паляцеў і недакурак. Лілле акругліла вочы, але нічога не сказала, а Паслён ужо выцягваў корак з аплеценай быльнікам пузатай бутлі…

Традыцыйна першы тост яны паднімалі за суладдзе.

Хоць якое там суладдзе? Злым і небяспечным станавіўся лес, і ўсё радзей чалавечыя галасы перагукваліся пад яго дрымучымі шатамі. Даўно ўжо, пакрыўдзіўшыся на прагных і жорсткіх людзей, чараўнікі схавалі, у клубок зматалі ўсе сцяжынкі. Адвялі звяроў і птушак у зялёную змрочную глыбіню, у запаведную глухмень. Зацягнулі гнілатой гаючыя раўчукі, засеялі пашы чэмерам. Парассаджвалі, куды ні плюнь, чырвоныя капялюшыкі мухамораў ды горкія жоўцевыя грыбы. І нават малая Лілле сумнявалася часам, ці патрэбнай занята справай. Клапоцішся, дбаеш, начэй не спіш — а дзеля чаго? Каб нейкія выпадковыя мінакі загледзеліся і сказалі адзін аднаму — «Глядзі, як буяна сёлета заквітнелі барвінкі!»… Альбо лядашчая стагадовая бабулька прыцягнулася збіраць ліпавы цвет і праклінала дрэвы з залішне высокімі галінкамі. Альбо закаханыя змарнавалі цэлую паляну канюшыны, аддаючыся няхітрым чалавечым забавам. Ці варта турбавацца пра кветкі, калі людзі так несур’ёзна да іх ставяцца? Можа, лепш ткаць павуцінне з павукамі, выпускаць заспалых матылькоў з коканаў ды проста махаць рукавамі, рассыпаючы грыбныя зярліцы. Але… Лілле ўспамінала радасную ўсмешку Лесніка, — і зноў і зноў натхнялася ёю.

Лілле летуценна падперла кулачком падбародак. Ах, як добра, што ёсць Ляснік. Добры і справядлівы, ён трымае раўнавагу паміж дабром і злом.

— Ну хопіць пра Лесніка, — раззлаваўся Паслён. Нарабіўшы бед з ваўчыным лыкам і мучанам, ён прадчуваў добрую лупцоўку. І ўжо вядома, не жадаў піць за здароўе лупцоўшчыка.

— Маеш рацыю. Не ў Лесніка сягоння дзень нараджэння, а ў нашай малюпахтачкі Лілле, — сказала Цыкута, адным поглядам утаймоўваючы раздражнёнага сябра.

— Налівай, — буркнула Паганка і першая працягнула чарачку.

І рушыў услед тост за імянінніцу, потым за кветачкі, за грыбкі, за ягадкі, за зёлкі, і паступова Лілле перастала ўлоўліваць сутнасць падзей. Мухамораўку піць — гэта не канюшынавы мёд пацягваць пад узнёслыя гутаркі. Чым больш пусцела бутля, тым зласлівейшыя станавіліся твары, тым больш жоўці чулася ў гаворках. Калі б ліхія і брыдкія словы мелі звычку ўвасабляцца, то цяпер пад столлю ўжо кружыла б чорная драпежная зграйка і зласліва шчэрыла б зубкі.

— Чагі збіваюць з дрэў, таўкачыкі пхаюць нагамі, — гула Паганка, калышучы абгрызеным капелюшом. — Ну нічога. Я адпомшчу! Учора я падсунула нейкім тупеням маладзенькіх паганачак. Яны ўзрадаваліся — «Сыраежкі, сыраежкі! ». Цяпельца развялі, супчыку згатавалі, елі і нахвальвалі. Потым ляжалі ў страшэнных курчах. А потым заціхлі, — яна пажадліва ўсміхнулася. — Невукі. Наступны раз навучацца адрозніваць атрутны грыб ад ядомага.

— Ну які наступны раз? — скрывілася Цыкута. — Яны ж смяротныя.

— Я ўчора таксама пазабавіўся, — хмыкнуў Паслён. — Праходзіў міма чарнічніка, гляджу, а там нейкія гідасныя істоты ягаду граблямі дзяруць, — ён змоўк і пакруціў скрэблам. — Тыя, што выжылі, больш у лес не сунуцца. І мяне наўрад ці забудуць.

— Дзіўлюся я табе, — сказала Цыкута. — І навошта да людзей чапляешся?

— Ну не выношу я іх, — Паслён выскаліў жаўтаватыя вострыя зубы. — Не выношу.

— Згодна, — кіўнула Цыкута. — Людзі ёсць людзі, прымітыўныя стварэнні. Уздоўж рэчкі ім патрэбныя парэчкі, пад асінай — падасінавік, а ў лесе — пралескі. Ніякай фантазіі. Але навошта прычыняць відавочную шкоду? Нам жа забаронена. Што, калі Ляснік даведаецца?

— Табе добра, — чмыхнула Паганка. — Атачыш запаветныя палянкі дзядоўнікам ды жыгучкай, і туды ніхто не сунецца, абдзярэ ногі да крыві і згорне назад. А мне як? Спакойна глядзець, як мае ненаглядныя рыжыкі і груздочкі разам з грыбніцай з зямлі выдзіраюць? Порхаўкі топчуць?

— Але ж не ўсе людзі такія! — умяшалася Лілле.

Разгарачаныя твары сяброў здзіўлена павярнуліся да яе.

— Ёсць і добрыя, — пралапатала Лілле, збянтэжыўшыся свайго парыву.

— А чаго ты іх абараняеш? Што табе людзі зрабілі добрага, малюпахтачка, што ты перайшла на іх бок? — узвілася Паганка.

— Я не пераходзіла, — нясмела абаранялася Лілле.

— І імя табе пара змяняць. Ніякая ты не Лілле, — працягвала Паганка. — Ты наша, лясная! Дзікая і неядомая Камвалея!

— А можа, яна закахалася ў чалавека і хоча сысці з ім? — прамармытаў п'яны Паслён і драпежна правёў скрэблам па абрусе, пакінуўшы на тканіне рваныя палосы. Лілле здрыганулася. Ну чаму так заўсёды: варта сябрам надзюбацца — і яны ператвараюцца ў сапраўдных монстраў? Гадзіну назад была прыстойная лэдзі ў капялюшыку і брудна-белых пальчатках, а цяпер — жудасны кашмар з дрымучага лесу. І Паслён сквапна пазірае ў бок кухні. Скрэбла, нябось, загадзя навастрыў перад паходам у госці. Крыкнуць, ці што, Нікчэмку, каб пагуляць сышоў? А то боязна за яго.

Сябры глядзелі на яе, нібы чакалі адказу на пытанне.

— Ні ў каго я не закахалася, скажаце яшчэ, — адказала Лілле ціха. — Людзі мне зусім не даспадобы.

— Усе да аднаго? — удакладніў Паслён.

— Абсалютна.

— Так дакажы! Калі не хлусіш, то вось, — ён памацаў у кішэнях, — пачастуй свайго служку… давай… з тваіх рук ён што заўгодна з'есць.

Лілле ўспыхнула. У далоні Паслёна паблісквалі шызаватым налётам смяротна небяспечныя для людзей ягады варонінага вока, цёмныя, круглыя, на выгляд — наўрад ці адрозніш ад ганаболелю.

— Збаялася?! — капялюш Паганкі з'ехаў на патыліцу, валасы растрапаліся, нос счырванеў.

— Нічога я не збаялася!

— Так давай, пакліч яго! Дакажы, што табе пляваць на людзей!

— Ну хопіць! — выклікнула Цыкута, і мяцёлкі пырніку на яе панамцы абурана закалыхаліся. — Не чапайце яе. Яна не абавязана нічога вам даказваць. А ты загадай служку падаваць гарбату, тую, з майго мяшэчка. Яна хутка выцверазіць гэтых дваіх.

Паганка пакрыўджана тузанула плячом, маўляў, ну вось, сапсавалі забаўку. Паслён пратэстуючы хлюпнуў носам, але запярэчыць не асмеліўся. Траўніца ў іх хаўрусе старэйшая, і калі ўжо яна падвысіла голас…

Лілле ўцякла на кухню. Нікчэмка, засмучаны, сядзеў ля акенца.

— Ты чаго? — спытала Лілле.

— Твае сябры. Яны… атрутныя нейкія…

— Мы чараўнікі. Табе цяжка зразумець, — прагаварыла яна. — Пастаў чайнік на агонь. І старайся не паказвацца на вочы без патрэбы. Прынёс, забраў, і сядзі паціху ў кухні.

І вось ужо дыміцца гарбата у касабокіх шчарбатых кубачках, расхапаны лепшыя кавалкі пірага і разліта па місачках сочыва. Лілле безуважліва назірала, як госці паляць і п'юць, сумна глядзела на пятае крэсла, што так і не спатрэбілася. Яна яшчэ паглядала зрэдку ў акенца, але разумела, што Ляснік не прыйдзе, вядома, не прыйдзе. А ёй так хацелася зноў убачыць яго ўсмешку, і, можа, нават дакрануцца да яго рукі, і сказаць яму што-небудзь добрае.

Сэрцайка Лілле затрымцела. Што ж, як Лесніку няма калі зазірнуць да яе, то яна сама прыйдзе да яго ў госці! Каханне робіць цуды, асабліва ў спалучэнні з мухаморавай настойкай.

Яна вынырнула з кругазвароту любоўных думак і прыслухалася, пра што гутараць сябры. А яны сёрбалі гарбату, макалі кавалкі пірага ў сочыва і спрачаліся пра тое, дзе ў лесе самае вусцішнае месца. Бо ёсць, ёсць яны, гэткія дрымучыя нетры, куды не тое, што чалавек, нават чараўнік не ўсякі сунецца.

— Калючы раўчак — ён нібы саракуш, так і марыць уздзець цябе на вострую галінку, — казала Цыкута. — Цярновыя кусты, абляпіха, глог, а панізе ажына пляцецца. Кроку не ступіш, каб у цябе сотня шыпоў не ўпілася.

— Няма нічога гідчэйшага, чым Павуцінневы гушчар! — запярэчыла Паганка. — Ужо такая поскудзь — горш не адшукаеш. Павук на павуку! І густа-густа павуціннем усё заплецена. Не паспееш апамятацца, як з ног да галавы цябе аблепіць…

— Ты яшчэ не бачыла Слізкую багну! — заспрачаўся Паслён. — Галава ад выпарэнняў закруціцца, спатыкнешся, з купіны звалішся — і ўжо не выкараскаешся. Зацягне ў каламутны глей — і капялюшыка твайго потым не знойдуць. Нават тыя, хто ўмее хадзіць па вадзе, гэтага балотца цураюцца. Прапашчае, гнілое мястэчка…

— І як гэта Ляснік зносіць такія жахі? — уразілася Лілле.

— Хіба ты не ведаеш? — здзівілася Паганка. — Ён сам іх і стварыў!

— Гэтыя перашкоды ахоўваюць яго леснічоўку ад няпрошаных гасцей, — пацвердзіла Цыкута. — Каб не зайшлі выпадкова людзі, каб не надакучалі траўнікі ды кветачніцы сваімі дурасцямі.

Нічога сабе… Лілле і не ведала, што раней з любым дробязным пытаннем, з кожнай сваркай усе беглі да Лесніка, замінаалі яму ў важных справах. Бо ён не толькі амарылісамі ўвесну любуецца. Яму трэба шмат чаго паспець: загасіць забытыя вогнішчы, дрывасекам паказаць хворыя камлі, адшукаць ды разламаць пасткі, прасачыць, каб паляўнічым не надта ўжо везла. Балота гладчэе-распаўзаецца, сакавіты лужок захапіла ды палянку з меданосамі? Сухастой зацяняе маладыя дрэўцы, не пускае іх у рост? Непарадак, трэба разабрацца!

А тут звяртаецца драбяза са скаргамі: у каго жукоў ды матылькоў перавабілі, у каго верасовую пустэчу без дазволу грыбамі абтыкалі … Шуму больш, чым толку, разбіраць гэтыя звады — толькі час каштоўны марнаваць. І Ляснік вырашыў адгарадзіцца. Тры разы ён узмахнуў рукой — і акальцавалі яго леснічоўку багна, павуцінне ды калючкі. Зараз толькі той, у каго сапраўды сур'ёзная справа, рызыкне прадзірацца ў госці.

Лілле нахмурылася, поўная рашучасці.

— Ці не збіраешся ты да Лесніка? — прагаварыла Цыкута, узіраючыся ў спалатнелы твар маленькай кветачніцы. — Не рызыкуй. Можаш і не дайсці.

— Нікуды яна не збіраецца, — гігікнуў Паслён. — Навошта ёй Ляснік, калі яна чалавека кахае. Чалаве-ека, — з агідай працягнуў ён. — Нікчэмнага, пустагаловага, бясталентнага чалавечышку. Дзіўны густ у малюпахтачкі Лілле!

— Закахалася па вушы, — падтакнула Паганка. — Успомні, як яна ўзвілася, калі ты атруціць яго жадаў! Як абараняць кінулася бедненькага салодзенькага Нікчэмку!

— І зусім я яго не кахаю! — закрычала Лілле. — І не патрэбны ён мне зусім! Прыблудзіўся на маю галаву… беспатольны й нікчэмны… вось і трымаю яго… з жалю…

На кухні штосьці грукнула і, здаецца, разбілася.

— Я зараз, — збянтэжылася Лілле і кінулася туды. Нікчэмка сядзеў на кукішках і збіраў аскепкі. Выгляд у яго быў самы няшчасны.

— Што ж ты? — прагаварыла Лілле.

Ён паглядзеў ёй у вочы. Спытаць штосьці жадаў ці, наадварот, растлумачыць, ды не вырашаўся. Сэрцайка Лілле пачало стукаць усё часцей і часцей. Яна хацела было нешта сказаць, ды так і прамаўчала. Нікчэмка ўздыхнуў і зазвінеў аскепкамі. Што гэта было — талерка? Кубачак? Пабітае сэрца? Лілле ўздыхнула таксама і вярнулася да гасцей.

— Жывы? — кпліва спытала Паганка. Паслён пырснуў у гарбату. Цыкута пакруціла галавой.

— Ну роўна дзеці, — яна ўстала. — Што ж, з вамі добра, але мне трэба ісці. Заўтра мята павінна заквітнець. Абыду, праверу, ці ўсё гатова. Сустрэнемся досвіткам, Лілле.

Яна прашамацела абтрапанымі бранзалетамі, пагладзіла імянінніцу па галаве і выйшла. На ганку сядзеў Нікчэмка. Ці то Цыкуце здалося, ці то ў яго вачах і праўда стаялі слёзы.

— Паліць будзеш? — спытала яна, дастаючы капшук.

Ён памарудзіў — і кіўнуў. Траўніца ўселася побач, і яны моўчкі задымілі. Яна разглядала сваю ўсеяную дзядоўнікам спадніцу, ён глядзеў кудысьці ўдалячынь.

— Вось так, — сказала Цыкута, дакурыўшы. Шпурнула недакурак пад ганак і сышла. Нікчэмка пасядзеў яшчэ хвіліну, нібы вырашаў для сябе штосьці важнае. Потым падняўся і рашуча закрочыў прочкі ад Ліллінай хаткі…

Паслён і Паганка таксама неўзабаве зазбіраліся. Ён адправіўся дахаты лячыць свае балотныя соплі, яна спяшалася праверыць, як там пасеяныя на мінулым тыдні смаржкі.

Дзень нараджэння выпетрываўся з парадзелымі клубамі дыму, раствараўся ў звычайных кветкавых буднях. Лілле агледзела растрыбушаны, абрынданы абрус, рэшткі пачастунку, брудны посуд. На падлозе бялелі купкі попелу і недакуркі. З зярліц, шчодра рассыпаных Паганкай, дзе-нідзе ўжо прараслі бледныя грыбкі на лядашчых ножках. Што ж Нікчэмка не спяшаецца падмесці і вымыць гэты гармідар? Лілле зазірнула на кухню, але Нікчэмкі там не знайшла. Гуляць сышоў, ці што? — здзівілася яна. Звычайна не сыходзіў, не прыбраўшыся. Добра, вернецца, куды ён дзенецца. Ад мухаморавай настойкі зліпаліся вочы, і Лілле без сіл паваліласяна пасцель.

Прачнулася яна пад вечар. У кухні было цёмна, посуд так і стаяў брудны на стале. Нікчэмка не вярнуўся. Лілле зразумела гэта, і яе сэрца спалохана сціснулася. Няўжо ён пакрыўдзіўся і сышоў? Зусім сышоў? Хата выглядала такой пустой, зімнай, сумнай. Не жыллё, а так, сцены й дах, дзе можна абначаваць і спехам паабедаць. Як раней…

Лілле ж так і жыла, пакуль не сустрэла Нікчэмку. Ён сядзеў ля раўчука і глядзеў на каменьчыкі, пясок, скокі вадамерак — і на кветачніцу, якая той раніцай нашэптвала белым кальчакам стрэліцы, што пара б ужо і заквітнець. Яна стаяла на каленах ля самай вады, здаецца, нават замачыла падол. Кветкі чамусьці маўчалі, нібы саромеліся староннiх. Лілле падняла галаву і ўбачыла цікаўныя сінія вочы. Так і пазнаёмілася — страшна падумаць — з чалавекам. І калі яна скончыла працу і адправілася дахаты, Нікчэмка пайшоў следам — ну не гнаць жа яго было, а?

Як і ўсе людзі, Нікчэмка не верыў у чараўніцтва і спачатку прыняў Лілле за звычайную чалавечую дзяўчынку. Ах, як папаўзлі ўгару яго бровы, калі ад лёгкага ўзмаху Ліллінай рукі

заквітнела паляна ліловых званкоў. Хіба магла Лілле адправіць яго, зачараванага і заваяванага, прочкі? Тое, што яна лічыла штодзённым, для яго з'яўлялася цудам. А якая ж кветачніца адмовіцца ад захопленых поглядаў ды слоў?

Смешны, Нікчэмка жадаў таксама навучыцца вядзьмарству.

— Як ты гэта робіш?! — увесь час усклікаў ён.

Лілле смяялася, паціскала плячамі. Яна ж чараўніца. Гэта ў яе з нараджэння.

— Але што ты адчуваеш пры гэтым? — дапытваўся Нікчэмка.

— Я проста люблю мае кветачкі. І я дару ім дробачку маёй любові.

— Значыцца, калі кагосьці моцна кахаеш, тады й атрымліваецца чараўніцтва?

— Ізноў ты з рознымі дурасцямі! — адмахвалася ад яго Лілле. Але неяк задумалася і зразумела: так, так і ёсць, чараўніцтва — гэта любоў. Каханне.

Яна любіла ўсе кветкі: і смярдзючы шэранькі клапоўнік, і несамавітыя ракавыя шыйкі, і нікому не прыкметныя, дробныя зелянявыя суквецці крапівы. Памыляўся той, хто палічыў яе амарылісавую палянку імкненнем вылучыцца, уразіць некага, пусціць пыл у вочы. Не, Лілле не харахоня. Ёй толькі хацелася даць свету яшчэ кропельку прыгажосці. І калі сыпаліся на яе папрокі ў пазёрстве і зайздросныя словы, яна з пяшчотай успаміналa ўсмешку Лесніка. Ён адзіны правільна зразумеў матывы яе ўчынку, не падумаў пра малютку-кветачніцу горш, чым яна ёсць. І ад усведамлення гэтага ў яе сэрцы стала прарастаць, чапляцца карэньчыкамі каханне. Расло, спела — і вось цяпер рыхтавалася заквітнець.

Лілле сабрала падарункі ў торбу і пайшла з хаты, усё далей і далей адыходзячы ад роднай і знаёмай Мядовай прасекі. Ах, як узрадуецца Ляснік, убачыўшы яе на парозе! Як успыхнуць яго вочы! Ён далікатна абдыме яе і скажа:

— Як даўно я цябе чакаў! Чаму ты так доўга не прыходзіла? З таго дня, калі ты стварыла тую выдатную палянку, я толькі пра цябе і мроіў, малая!

А потым Лілле ўявіла сабе пацалунак. Іх першы пацалунак, гарачы і рамантычны. Цікава, яго барада калючая ці не? Лілле войкнула, таму што адчула балючы ўкол. Барада?

Прахапіўшыся ад летуценняў, яна ўбачыла, што стаіць каля суцэльнай сцяны абляпіхавага зарасніку. Наперадзе, выставіўшы насустрач вострыя шыпы, пачынаўся Калючы раўчак. І каб яго прайсці, не хопіць Лілле яе ўласнай слабенькай кветкавай магіі. Яна зірнула на неба. Зоркі не спяшаліся паказвацца, сонца толькі хілілася да заходу. Ну што ж, кепска парушаць традыцыі, але чакаць яна не можа. Лілле ўселася на траву і прынялася разгортваць падарункі.

Усярэдзіне Паслёнавага скрутка, як яна і падазравала, апынуўся збанок. «У цяжкую хвіліну з'ясі лыжачку сочыва — і жыццё стане саладзейшым», — было карава выведзена на прыкладзенай паперцы. Лілле так і ўявіла сабе ўхмылку Паслёна, калі ён гэта пісаў.

З брудна-белага мяшэчка Паганкі яна выняла бязлітасна змяты, скручаны так і гэтак капялюшык. Пасыпаліся зярліцы, з дзірачкі выпаўз здзіўлены чарвячок. Вядома, як заўсёды, Паганка не знайшла часу праверыць грыб перад тым, як вядзьмарыць. І паштоўку падпісаць не знайшла часу таксама. Мабыць, палічыла, што словы тут залішнія. Лілле прымерала капялюшык. З далікатна-крэмавымі пласцінкамі і тонкай скуркай, падыдзе, мабыць, да бальнай сукенкі з павою. Але якая карысць зараз Лілле ад гэтага капялюшыка? У ім, як і ў збанку Паслёна, не было ані унцыі, ані грама чараўніцтва.

Ужо амаль без надзеі яна расчыніла падарунак Цыкуты. Усярэдзіне ляжалі цыгарка і цыдулка: «Не рабі глупстваў. Пакуры і шыбуй дахаты».

Яна склала ўсё ў купку і расплакалася. Ніхто не падзяліўся з ёй сваёй магічнай сілай. Падарункі апынуліся такімі ж легкадумнымі, як і дарыльшчыкі. Яны жылі ў змрочным атрутным

сусвеціку, дзе зусім не патрэбныя сябры. Ды і што такое сябры? Разам выпіць мухамораўкі ды абмяняцца брыдкімі навінамі? А Лілле здавалася, што сябры — гэта ўзаемадапамога, давер, цеплыня.

— Як шмат чалавечага ты нахапалася, — сказала б Цыкута, даведаўшыся пра гэтыя думкі.

Лілле ўздыхнула. І дрыготкімі пальцамі разгарнула апошні, чацвёрты падарунак. У прывялым лопухавым лісці ляжаў бранзалет. Круглы, невялікі, як раз на Лілліна запясце. На яго драўлянай спінцы мясціліся крыва выразаныя і зусім незразумелыя словы. Старажытная замова, здагадалася Лілле. Дзіўна — яна не адчувала вядзьмарства і ў гэтым падарунку. Пэўна, Ляснік схаваў чары глыбока ўнутры. Ну што ж, тым больш дзейснымі яны павінны быць!

Калючы раўчак тапырыў шыпастыя галінкі й чакаў.

— А ну, паспрабуй сунься! — так і чулася ад кожнага кусціка і дрэўца.

Лілле выцягнула наперад руку з бранзалетам.

— Расступіцеся, дайце дарогу! Загадваю! — прагаварыла яна. Мабыць, прыкладна так трэба размаўляць з магічнымі бранзалетамі? Яна прыгледзелася — і ахнула, бо заўважыла сярод калючак шырокі, нібы адмыслова пад пульхную спаднічку Лілле прасечаны, праход. Ніводны ажынавы флянс не асмеліўся ўчапіць яе, разумеючы недалёкім раслінным розумішкам, што кветачніца знаходзіцца пад магутным заступніцтвам. Адным скокам Лілле абмінула страшны раўчак — і вось наперадзе ўжо злавесна булькалі зялёныя бурбалкі Слізкай багны.

— А ну-ка, ну-ка… — замармытала Лілле. І што б гэта загадаць? «Усохні й не булькачы?» Яна моўчкі ўзмахнула рукой. Потым агледзелася, куды б ступіць. Ах, чараўніцтва! Ад купіны да купіны цягнулася вузенькая ляжнёўка з жэрдак і галля. Месцамі яна сыходзіла пад ваду, і чаравічкі значна змакрэлі. Але ўжо лепш чаравічкамі ахвяраваць, чым па вушы ўехаць!

— Не так ужо тут і слізка, — прагаварыла Лілле, калі балотца засталося ззаду. Маленькая кветачніца вельмі ганарылася сабой. Трэба ж, пераадолела такое вусцішнае месца!

А наперадзе паблісквала серабрыстая кудзеля Павуцінневага гушчару. Тысячы, мільёны павуцінак. А ўсярэдзіне кожнай павуцінкі перабірае лапкамі брыдкі тоўсты павук. Лілле ўявіла сабе гэтыя казытлівыя кашлатыя лапкі, — і яе перасмыкнула ад агіды… А леснічоўка ўжо побач! Калі прыгледзецца, можна заўважыць спічасты дах і дымок з коміна. Гаспадар адасоблена сядзіць ля загнета, пыхкае люлькай і марыць пра Лілле. І не здагадваецца, як блізка яна… Лілле расчулена ўсміхнулася.

— Згіньце, гадкія павукі! — загадала яна. І адважна ўступіла ў Павуціннеў гушчар. Тут жа празрыстыя нітачкі наліплі ёй на твар, заблыталіся ў вейках. Лілле спалохана ўскрыкнула. Схапілася за бранзалет. Што ж гэта ён барахліць? Чаму не разганяе паганых танканогіх паўзучак?

Павуцінне закалыхалася, і тысячы павучкоў тут жа спусціліся ніжэй, каб разгледзець, хто трапіў у іх цянёты. Яны адчувалі сполах Лілле, як пчолы адчуваюць водар кветкі. Павуцінкі абляпілі валасы і твар, сухаватыя хуткія лапкі кранулі скуру над бранзалетам… Завішчаўшы ад жаху, Лілле знепрытомнела. Апошняе, што яна адчула, — быццам бы яе падхопліваюць моцныя рукі.

Ачулася яна ў поўнай цемры, толькі квадраты нязыркага святла, што лілося з вокнаў, жоўклі на зямлі. Цыбатыя грыбы-гнаявікі й сухарлявыя галінкі піжмы з асуджэннем глядзелі на нягодніцу, якая паважылася талачыць траву за два крокі ад Ляснікова ганка. Лілле не паверыла вачам. Дабралася! Вось яна — запаветная леснічоўка!

Яна досыць азябла, покуль ляжала без прытомнасці. Але гэта нічога. Напэўна на кухні заварана духмяная гарбата, і адмыслова для дарагой госці каля загнета саграваюцца мяккія пакаёвыя чаравічкі. Яна паднялася, абцерушылася. Яе валасы і адзежа выглядалі зусім

чыстымі, ніводнага павучка, ніводнай бялявай ліпкай нітачкі. Вось дык чараўніцтва! Лілле пагладзіла шчарбатую спінку бранзалета. Так, па-за ўсякім сумневам, Ляснік кахае яе, моцна кахае, раз падарыў такую каштоўнасць.

Глыбока ўдыхнуўшы, набраўшыся адвагі, яна пастукала ў дзверы.

Праз імгненне велізарная постаць з’явілася ў праёме.

— Хто тут? — Ляснік нагнуўся, каб лепей разгледзець маленькую кветачніцу.

Лілле з трапятаннем глядзела ўгару. Яе сэрцайка матлялася, як заціснутая ў кулачку мушка. Зараз, зараз надыдзе салодкае імгненне першага пацалунка! Яна ўстала на дыбачкі і зірнула на Лесніка з усім каханнем, на якое была здольная.

— Ты да мяне, малая? Што зрабілася?

— Я… прыйшла… — піснула Лілле, млеючы ад страху і пяшчоты.

Ён глядзеў, нібы не разумеючы. Лілле разгубілася. Што ж ён марудзіць? Чаму не віншуе яе з днём нараджэння? Чаму не пытае, ці спадабаўся падарунак?

— Паслухай, калі ў цябе нешта здарылася, то выкладвай, — сказаў ён.

— Гэта ж я…. Лілле… з Мядовай прасекі! Хіба ты мяне не памятаеш?

— З Мядовай прасекі? — Яго кусцістыя бровы падняліся. — Няблізкі шлях. І як ты здужала прайсці?..

— Чароўны бранзалет, ён дапамог мне! — Лілле працягнула руку, і бранзалет патануў у вялікай далоні. Ляснік грэбліва паморшчыўся.

— З якога сметніка гэта дзеравяка? Тут чараўніцтвам і не пахне, цябе ашукалі, малая. Хіба што кроў на ім чалавечая, ды і тую па неасцярожнасці плiснулі, ад няўмелага абыходжання са сцізорыкам. Таму яна таксама магіі ў сабе не нясе.

— Як жа не чароўны? — асалапела Лілле. — Там напісаны старажытныя магічныя руны!

— Нічога падобнага, — усміхнуўся Ляснік. — Гэта хтосьці вельмі карава любоўнае прызнанне выцінаў. На чалавечай мове.

— Але я думала…. Хіба гэта не ты мне падарыў?

— Я — табе — падарыў?!

— У мяне сёння дзень нараджэння, — горка сказала Лілле.

— Гм, — толькі і змог адказаць ён.

А ён забыўся. Ці не ведаў. Ды не ведаў, відавочна. Колькі ў лесе кветачніц? І колькі клопатаў у Лесніка. Не да дробязяў.

Ён стаяў, скрыжаваўшы рукі на грудзі, ды чакаў, покуль яна сыдзе. Ад халоднага начнога паветра Лілле зусім задубела, але ніхто і не збіраўся запрашаць яе ў хату, паіць гарачай гарбатай і прапаноўваць пахватныя хатнія чаравічкі. З леснічоўкі даносіліся галасы, мільгалі невыразныя цені ў вокнах. Мабыць, Ляснік прымаў госцяў. А можа, праводзіў важную нараду.

— Выбачай, малая, я вельмі заняты, — сказаў ён. І зачыніў дзверы перад яе прыгожанькім носікам.

Лілле прысела на прыступку ганка. Трэба ісці дахаты — а ў яе не засталося сіл, каб ізноў пераадольваць завады. Праход у калючках, пэўна, ужо зарос, балотную сцяжынку ўначы не відаць, і як зладзіцца з павукамі? Яна гаротна расплакалася. Ну хіба можа ў дзень нараджэння так смяротна не шанцаваць?

Няўтульная, чарнільная цемра атачала леснічоўку. Зрэдку вухкаў сыч, пасапвалі ў сне дрэвы. Страшна… Гэта ж чужая тэрыторыя. Паскрыпвалі, ліха ўхмыляліся грыбы. Светлякі прапаўзалі па чаравічках Лілле, нават і не думаючы пажадаць добрай ночы. Начныя фіялкі кпліва шапталіся, кідаючы ў бок кветачніцы недвухсэнсоўныя погляды. І гойсалі за елкамі жудасныя нявыхаваныя

ваўкі, якім наогул няма справы да чараўніцтва. Для іх што кветачніца, што заяц, — галоўнае, каб косткі на зубах храбусцелі. І быццам бы нечы вялікі мокры нос ужо прынюхваўся, выбіраючы з травы свежыя слядочкі Лілле. Яна сцепанулася — і ўбачыла, як ад сцяны адлучыўся чорны цень…

«Канец мне», — уздыхнула Лілле. І гэтая змрочная думка, як ні дзіўна, прынесла ёй задавальненне. Так, цяпер яе склыгаюць. І ёй нават захацелася, каб яе склыгалі хутчэй, таму што ў яе зусім не ўзнікала жадання вяртацца ў пустую непрыбраную хатку, дзе ніхто не запаліць лямпу, не выхапіць цяжкі кошык, не скажа спагадліва: «Ну што, стамілася? Садзіся, я табе гарбаты прынясу». Яна ўсхліпнула і кінулася насустрач жудаснаму ваўку. Хай з'есць яе, раз нікому яна не патрэбна ў гэтым лесе!

Але замест зблытанай цвёрдай поўсці яна ўткнулася ў адсырэлую тканіну плашча. Лілле ўскрыкнула. І толькі ўпёршыся лбом у плячо, такое знаёмае плячо, зразумела, што перад ёй стаіць Нікчэмка. Ён ступіў у квадрат жоўтага святла, і Лілле ахнула — што за выгляд у яе заўсёды ахайнага слугі! Адзежа вісела жмутамі, пашматаная і брудная, абкачаная ў балотнай ціне. Валасы бялелі, аплеценыя павуцінкамі. На лбе і шчоках барвавела некалькі падсохлых драпін.

— Ты? — прагаварыла яна агаломшана.

Ён засаромеўся свайго выгляду. Каб схаваць збянтэжанасць, прыняўся клапатліва кешкацца ў заплечнай торбе, штосьці шукаць. Анучка на яго запясці бялела ў цемры.

«Я так і не спытала, дзе ён паспеў парэзацца, — успомніла Лілле і сама сабе адказала: — Ну так. Няўмелае абыходжанне са сцізорыкам…» І ніякага чараўніцтва. Усяго толькі Нікчэмка. Гэта ён прасек для яе шлях у Калючым раўчаку. Ён выклаў сцяжынку ў Слізкай багне. І ён перанёс Лілле праз Павуціннявы гушчар, калі яна ўбачыла павука і ад жаху самлела.

Ізноў пацяклі слёзы. Ёй было нясцерпна сорамна, яна не смела паглядзець яму ў вочы, адчувала, як пунсавеюць яе шчокі. А Нікчэмка знайшоў, нарэшце, у торбе і накінуў на плечы Лілле цёплы плашч. Потым узяў яе за руку і сказаў ціха:

— Хадзем дахаты…

Анхела Эспіноса Руіс



**нарадзілася 6 лютага 1993 года ў Малазе (Іспанія). Выпускніца Славянскай філалогіі Гранадскага ўніверсітэта (2015), магістрант кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар зборніка паэзіі «Раяль ля мора» (2015). Часопіс «Маладосць» калісьці першым надрукаваў яе беларускамоўныя вершы.**

*Вершы друкуюцца ў аўтарскай рэдакцыі*

# Цень твайго ценю

## Невуцтва

Каб я ведала, што вясна
Працягнецца толькі хвіліну,
Каб я ведала, што рака
Замерзне ўзімку з табой,
Каб я ведала, што душа
Не вытрывае больш пакут,
Каб я ведала, што пчала
З пчалою — яшчэ не рой...
Я б стала ценем
Тваіх ног,
Каб ісці разам з табою,
Ценем
Тваіх думак,
Каб марыць разам з табою,
Ценем
Твайго ценю,
Каб дыхаць толькі табою
І не замінаць ніколі
Табе, табе, табе...

## Дзверы зачыняюцца

Паветра цяжэйшае на пустым месцы,
Дзе калісь ляжалі ружы
У памяць пра тых, хто сышоў
На пустым месцы.
Кветкі ніколі не павінны ляжаць
Пад зямлёю,
Без святла, без будучыні,
Паміраючы заўчасна,
Нашмат раней, чым настане
Апошні ўздых.
Асцярожна! Дзверы зачыняюцца назаўжды.
Тыя, хто застаўся...
Тых разам з сухімі пялёсткамі
падхопіць вецер,
Якога няма пад зямлёю,
Бо паветра цяжкім зрабілася.

## Зоркі былі супраць нас

*(да А. А.)*

Ты быў маёй недасяжнаю марай,
Я — твой пякельны экстаз.
Катам ты стаў, я ж — тваёю ахвярай, —
Зоркі былі супраць нас.

Лашчылі спіну нам брызы кахання,
Сцяг наш лунаў напаказ.
Кінула ноч карабель у блуканні —
Зоркі былі супраць нас.

Па навальніцы пасля твайго болю,
Жорсткай вайны мілых фраз
Раны нам прыйдзецца вылечыць соллю —
Зоркі былі супраць нас.

Не вінаваць сябе, мілы, не трэба!
Лёс даў суворы наказ:
Наша расстанне было воляй неба —
Зоркі былі супраць нас.

Ты ў маёй памяці будзеш заўсёды,
Джаліцьмеш сэрца штораз.
Не пераможам мы сілы прыроды —
Зоркі былі супраць нас.

Страчаны вечна, ды вечна чаканы,
Покуль не з'есць мяне Час...
Зоркі былі супраць нас, мой каханы,
Зоркі былі супраць нас.

***

Дождж, дождж першабытны
Ад самога пачатку часу, прасторы,
Мыслення.
Ламаецца ноч, як забытая лялька,
І дождж ідзе.
Абяцаю табе небыццё
Назаўжды. На пяць хвілінаў,
На дзве гадзіны, на дваццатае стагоддзе.
Мімалётная вечнасць. Дождж.
Не абяцай мне сонца,
Якога тут няма,
І святла.
Раніца. Канец часу, прасторы,
Кахання.
Яшчэ адну хвіліну...
Дождж, дождж апошні.
Быццё.

## Чарната

Мяне ніхто не навучыў, што рабіць,
Калі гнеўныя хмары плямяць неба
І не відаць ні зоркі, ні планеты,
А на дварэ прахладна й самотна;
Калі дрымота палоніць галаву,
Імгла напаўняе сэрца
І адказы змешваюцца з пытаннямі;
Калі губляецца ціхі, кволы ранак
І паміж намі нешта адначасова
Здараецца і не здараецца.
Засталося ўстаць з падлогі,
Стрэсці з сябе старажытны пыл
І прайсці свой шлях да канца,
Хоць павольна, хоць у цемры.

## Беларусь спіць

Беларусь спіць пад цёплай шэрай коўдрай
І не можа пазбавіцца кашмараў.
Баіцца зваліцца з ложка,
Амаль не рухаецца.
Я хачу праспяваць ёй калыханку
І пацалаваць на ноч.
Спі ціха, спакойна, мая дзяўчынка,
Прачынайся ранкам з новым днём,
Калі сонца знішчыць цемру
Мячом святла,
Калі прыйдзе вясна ў каляровай сукенцы,
Спі спакойна й прачынайся ў той час,
Калі спакою будзе недастаткова.

## Забыты верш

Хаваецца паперкай у шуфлядзе
Ці постам у мёртвым блогу.
Бывае, тоіцца без слоў
У твары былога каханка,
У нагах чыстае жарсці,
У балючых успамінах
І чакае свайго часу.
Ведае, што паэт яго
Колісь перачытвае.
Нагадвае нам пра час,
Калі мы былі прыгожымі,
Наіўнымі, дурнымі,
І прымушае плакаць,
Калі нас ніхто не бачыць.

## Лістапад

Зіма, як белы павук,
Апаноўвае вокны старажытнымі ўзорамі,
Вусны — крывёю ды болем
І сэрцы абыякавым холадам.
Які люты час лістападаўскі
Для закаханых!
Жарсць кладзецца спаць, і прачынаецца
Свядомая, разумная муза.
Лістападзе, ты — жнівень паэтаў!

Сяргей Белаяр

# Расследаванні інспектара Сарвы

*Цыкл навукова-фантастычных апавяданняў*

(Працяг. Пачатак у №3/2016, №4/2016)

Сарва выцягнуў свой планшэт і пачаў уносіць даныя. Як толькі скончыў, сказаў:

— Наперад!

Каб нічога не прапусціць, тэхнік і інспектар запалілі нашлемныя ліхтары. Ісці было лёгка: субмарына аказалася абсталявана генератарам штучнай гравітацыі. Не лішняе пры шматмесячнай вахце. А вось назваць праход прасторным не паварочваўся язык.

Машыннае аддзяленне займалі механізмы, без якіх «Хрысціян Гюйгенс» быў толькі грудай металалому.

— Будзьце ўважлівыя, спадар Каўрус. Der Teufel steckt im Detail!..

— Разумею, спадар Сарва! — тэхнік раз-пораз спыняўся, каб пераканацца ў спраўнасці абсталявання «Хрысціяна Гюйгенса». Ён жа першым і выявіў другое дзівацтва. — Чорт!

— Што? — інспектар рэзка павярнуўся. У прамень ліхтара патрапіла шэрая слізь, у якой былі выпэцканыя зацягнутыя ў пальчатку пальцы Каўруса. Да алеяў і змазкі яна не мела ніякага дачынення.

— Гэта што яшчэ за дрэнь такая? — тэхнік затрос рукой, спрабуючы стрэсці слізь, але халадцападобнае рэчыва трымалася моцна.

— Спакойна, спадар Каўрус! Ніякай небяспекі няма! — чым бы ні з’яўлялася слізь, тканіну скафандра яна не прапаліла.

Тэхнік супакоіўся, а інспектар узяў пробу слізі ў вакуумную прабірку, пасля чаго дазволіў Каўрусу выцерці руку. З дапамогай лупы Сарва пачаў разглядаць рэчыва, якое лужынкамі рознага памеру і кансістэнцыі пакрывала кажух паветранага кампрэсара.

— Дакладна арганіка!.. Падобная на вараную ў муканазальным сакрэце медузу, — інспектар зусім не адчуваў агіды: спецыфіка прафесіі накладвала свой адбітак на псіхіку. — Але адкуль біялагічныя ўзоры ў машынным аддзяленні?.. Спадар Каўрус, я папрашу вас паглядзець пад машынамі — магчыма, знойдзеце якую-небудзь тару!

— Нічога няма! — праз некалькі хвілін паведаміў тэхнік, і мужчыны рушылі далей. Перагародачныя дзверы ў сумежны адсек былі задраеныя, але не заблакіраваныя. Гэта магло служыць яшчэ адным доказам таго, што нічога надзвычайнага на борце не здарылася.

Ні ў жылых памяшканнях, ні ў складах, ні на камбузе, ні ў кают-кампаніі нікога не аказалася. Як і раней, ніякіх слядоў узгарання, уцечкі таксічных рэчываў або разгерметызацыі корпуса. Тэрмометр паніжэння тэмпературы не паказваў.

— Усё гэта вельмі дзіўна, спадар Сарва! Я дапускаю, што стыкоўку «Уюна» яны маглі і не заўважыць, але ж мы б’ём малаткамі па пераборцы праз кожныя дзесяць метраў! Мёртвага падняць можна!.. Дзе водгук?

— Я пакуль не гатовы даць адказ на ваша пытанне! — у адрозненне ад тэхніка, інспектар не меў права на сумнеў. Рабіць высновы можна будзе толькі пасля праверкі апошняга — насавога адсека, у якім размяшчаліся лабараторыі. — І тут слізь!

Сарва быў цалкам упэўнены ў тым, што ўзоры студзяністага рэчыва акажуцца ідэнтычнымі, і ўзяў яшчэ дзве пробы: адну — на камбузе, другую — на складзе расходных матэрыялаў для навуковага абсталявання.

Праходзячы міма прыбіральні, інспектар машынальна націснуў на ручку.

— Замкнёна знутры!

— Думаеце, там хто-небудзь ёсць, спадар Сарва?

— Не будзем выключаць такога варыянта! — інспектар пагрукаў малатком па дзвярах, а затым мужчыны разам ударылі ў палатно плячыма. Хліпкі замок вылецеў з гнязда.

На ўнітазе сядзеў чалавек.

Размяшчэнне цела і стан скурнага покрыва адназначна паказвалі на тое, што навуковец памёр ад асфіксіі.

— Дайце больш святла! — Каўрус уключыў ручны ліхтар, і Сарва схіліўся над целам. — Абтурацыйную асфіксію выключаю... кампрэсійную таксама... падазрэнне на рэфлекторную асфіксію і анаксію...

— Не зразумеў ніводнага вашага слова, спадар Сарва!

— Гэты чалавек не патануў, яго не павесілі, не задушылі, у яго дыхальныя шляхі не траплялі іншародныя прадметы, грудную клетку і жывот не заціскалі, дыхальныя адтуліны не забітыя. А вось пазбавіць паветра маглі. Не выключаны смяротны зыход і праз спазмы галасавой шчыліны ад раздражняльных рэчываў або ўздзеяння паніжанай тэмпературы. Больш дакладна можна будзе сказаць толькі пасля аўтапсіі... Зараз я сфатаграфую цела, і мы вернемся да пошукаў!

Дапаможныя адсекі і капітанскі мосцік падзяляла сховішча балонаў з вадкім кіслародам — аварыйны запас. Рэгенерацыя паветра на «Хрысціяне Гюйгенсе» ажыццяўлялася з дапамогай выкарыстання калоній цыянабактэрый і прымянення $KO_2$ — надпераксіду калію. Балоны былі пакрытыя тоўстым слоем студзяністага рэчыва.

— Манометры паказваюць нуль! — сказаў Каўрус, калі прайшоў уздоўж стэлажа, які сягаў да самай столі. — Ушчыльнікі на ўсіх балонах пашкоджаны!

Сарва наблізіўся да стэлажа і ўзброіўся лупай. Тэхнік меў рацыю: балоны былі дэфармаваныя: у тоўстым метале зеўралі мікраскапічныя расколіны. І ўсе яны з'явіліся ў выніку вонкавага ўздзеяння.

— Не магу зразумець — навошта?

— Мяне, спадар Каўрус, больш цікавіць адказ на пытанне «як»!.. Прабіць у балоне з графенавым напыленнем дзірку магчыма толькі з дапамогай адмысловага абсталявання!.. У выпадку экстраннай неабходнасці ў кіслародзе дастаткова ўсяго толькі павярнуць вентыль... — інспектар зноў скарыстаўся лічбавым фотаапаратам.

У цэнтральным адсеку Сарва і Каўрус наткнуліся ажно на тры целы. Менавіта такія моманты інспектар больш за ўсё ненавідзеў у сваёй працы.

— Божухна! — прамень ручнога ліхтара дробна дрыжаў. Тэхнік аказаўся ўражлівай натурай. Інспектар відавочна падаўся яму цынікам — Сарва пачаў дзяжурны прафесійны агляд цел.

Каб вынесці вердыкт, спатрэбіліся тры чвэрці гадзіны:

— Асфіксія!.. У капітана глотка, насавая і ротавая поласці забітыя слізззю, — тое, як здрыгануўся Каўрус, не мог схаваць нават скафандр. — Патрэбны біяхімічны аналіз крыві. Хоць...

— Што «хоць», спадар Сарва?

— Усе прыкметы гіперкапніі — стану, выкліканага празмернай колькасцю вуглякіслага газу ў арганізме. Дыханне спынілася праз параліч нервовай сістэмы... Я павінен убачыць бартавы журнал! — інспектар кінуўся да камп'ютараў, але аказалася, што камандзір субмарыны вёў запісы на паперы. Прычым не сінтэтычнай, а звычайнай. Гэта з'яўлялася грубым парушэннем карабельнага статута.

У той час, як Сарва гартаў бартавы журнал, Каўрус праверыў працаздольнасць усіх сістэм «Хрысціяна Гюйгенса». Ніякіх няспраўнасцяў.

У поўнай цішыні прайшло некалькі хвілін.

— За мной! — інспектар нечакана ўскочыў і, схапіўшы бартавы журнал, літаральна пацягнуў тэхніка за сабой. Пры гэтым Сарва ігнараваў усе пытанні Каўруса. Праскочыўшы тэхнічны адсек, мужчыны трапілі ў лабараторны, застаўлены разнастайнай навукова-даследчай апаратурай так, што свабодным заставаўся толькі нешырокі праход да насавой дыферэнтнай цыстэрны.

Астатнія члены экіпажа знаходзіліся на працоўных месцах.

Тэхнік ад душы вылаяўся — надзеям сустрэць каго-небудзь жывога не наканавана было спраўдзіцца. Каўрусу не патрабавалася падказка Сарвы для таго, каб зразумець, ад чаго памерлі навукоўцы.

Інспектар закруціў галавой, а затым накіраваўся да аднаго з лабараторных сталоў, на якім у спецыяльных храміраваных зацісках быў пахаваны ледзяны керн. Шкляны каўпак, якім быў накрыты ўзор, перасякала невялікая скразная расколіна.

— Цяпер вы растлумачыце, што адбываецца? — спытаў тэхнік, калі інспектар нарэшце адпусціў яго руку.

— Адказ мы знойдзем тут!.. Лёд падобны на дрэва: слаі, што знаходзяцца ніжэй, старэйшыя за тыя, што вышэй. Па іх, як па колцах дрэва, мы можам узнавіць бесперапынную і дэталёвую карціну геалагічных змяненняў у інтэрвале фарміравання керну... Бачыце гэтыя дробныя ўкрапіны? — тэхнік кіўнуў. Лёд нібы пасыпалі макам. — Калі верыць запісам капітана «Хрысціяна Гюйгенса», знойдзеныя на глыбіні адзінаццаці метраў арганізмы — гэта форма жыцця з альтэрнатыўнай біяхіміяй. Аблігатныя аэробы.

— Як вы сказалі?

— Аэробы. Ад спалучэння грэцкіх слоў «αηρ» — паветра і «βιοζ» — жыццё. Гэта арганізмы, якія маюць патрэбу ў вольным малекулярным кіслародзе для сінтэзу энергіі. А «аблігатны» азначае, што ім для клетачнага дыхання патрабуецца кісларод. У працэсе дыхання кісларод выкарыстоўваецца аблігатнымі аэробамі як канчатковы акцэптар электронаў. Аблігатныя арганізмы добра развіваюцца выключна пры вольным доступе кіслароду.

— І прычым тут аэробы?

— Вось гэта нам і трэба высветліць! — Сарва дастаў з чамаданчыка хірургічны нож і з яго дапамогай адкалупаў кавалачак ільду з двума зернямі аэробаў унутры. Пераканаўшыся ў тым, што чыстага пакрыўнага шкла не знайсці, інспектар выцер адно з іх і змясціў узор на прадметны столік.

— А чаму б нам не скарыстацца данымі, атрыманымі экіпажам, спадар Сарва? — Каўрус стараўся не запэцкацца ў слізі, якая пакрывала не толькі гарызантальныя, але і вертыкальныя паверхні.

— Баюся, спатрэбіцца занадта шмат часу. Дазволю сабе перафразаваць вядомае выслоўе: эксперымент — лепшы настаўнік, — інспектар старанна працёр раствары электронны мікраскоп і пасля праверкі прыбора распачаў абследаванне.

Праз паўтары гадзіны высновы капітана «Хрысціяна Гюйгенса» пацвердзіліся.

— І як толькі гэтыя арганізмы здолелі выжыць на Тытане? — аб’ёмная мадэль аэробаў на дысплэі мімаволі прыкоўвала позірк. Элементы складваліся ў мудрагелістую мандалу.

— Нягледзячы на нізкія тэмпературы, крыявулканізм і высокі ціск, на Тытане існуе дастаткова падстаў для пачатку хімічнай эвалюцыі, спадар Каўрус. Апошні запіс адносіцца да часу размарозкі ўзору. Капітан піша, што агульная колькасць аэробаў перавышала тры сотні адзінак.

— А засталося толькі два тузіны, — на твары тэхніка пачало праступаць разуменне.

— Згодна з законам захавання масы, нішто не можа ўзнікнуць з нічога, і ніяк не можа тое, што ёсць, знішчыцца... Слізь не магла паўстаць з ніадкуль!.. Давядзецца паўтарыць вопыт!.. Спадар Каўрус, вы павінны сысці!

— Я не ваш падначалены, спадар Сарва! І нікуды не збіраюся сыходзіць!

— Гэта можа быць небяспечна для вашага жыцця!

— Не думаю, што вы б паставілі пад лішнюю рызыку ўласнае... Вам ад мяне так проста не адчапіцца!

— Добра! — кіўнуў інспектар, зразумеўшы, што спрачацца бессэнсоўна.

У якасці месца для эксперыменту быў абраны герметычны бокс з куленепрабівальным шклом і магутнымі выцяжкамі. Кіраванне маніпулятарам узяў на сябе Сарва. Цеплавы прамень за лічаныя імгненні падпаліў лёд, аднак ніякай рэакцыі не адбылося. Тады інспектар правёў комплексную лабараторную праверку аэробаў.

— Вы ўпэўненыя, што справа ў аэробах, спадар Сарва? — пацікавіўся тэхнік, убачыўшы, што інспектар чакаў зусім іншай рэакцыі.

Замест адказу Сарва зноў пачаў гартаць бартавы журнал, спужаўшыся, што прапусціў штосьці важнае. Нічога новага выціснуць з тэксту не ўдалося. Гэта прымусіла інспектара задумацца.

— Падобна на тое, што давядзецца прыслухацца да вашай рады, спадар Каўрус! — Сарва сеў за камп’ютар і ўвайшоў ва ўнутраную сетку «Хрысціяна Гюйгенса». Працаваць у тоўстых пальчатках было нязручна, таму інспектар скарыстаўся алоўкам.

— Ну што? — пацікавіўся Каўрус, калі Сарва адсунуў клавіятуру.

— Упэўнены, разгадка наўпрост звязана з чужой формай жыцця, але я ніяк не магу ўхапіцца за ніць Арыядны!.. Нечага не хапае. Аднаго, але вельмі важнага элемента!

— А з чаго вы ўвогуле вырашылі, спадар Сарва, што адказ варта шукаць менавіта ў гэтых вашых аэробах?

— Прадчуванне, спадар Каўрус!.. Падсвядомасці часам падуладна бачыць тое, што не можа ўбачыць розум! — інспектар наблізіўся да куленепрабівальнага шкла і прыціснуўся да яго шлемам.

— Ці не лічыце вы, спадар Сарва, што экіпаж «Хрысціяна Гюйгенса» забілі аэробы?

— Гэта ж космас, спадар Каўрус. Тут можа здарыцца ўсё, што заўгодна! — Сарва выклаў змесціва вакуумнай прабіркі на прадметны стол, затым зноў узяўся за мікраскоп. — Аднастайная бесструктурная маса... Маецца падабенства з карыяплазмай, але... Ні храмаціна, ні ядзерка, ні ўнутрыядзерных гранул, ні бялковага ядзернага матрыкса... Дзіўнае стварэнне!

Тэхнік зірнуў на дысплэй з-за пляча інспектара: ніякай сувязі паміж сліззю і аэробамі не назіралася.

— У такім выпадку адкуль узялася слізь?.. У бартавым журнале ніякіх згадак пра яе няма... — Сарва адчыніў дзверы бокса і зайшоў унутр. Аэробы не падавалі прыкмет жыцця, што яшчэ больш узмацняла асацыяцыю з макавымі зернямі. — Ці я памыліўся ў пабудове прычынна-выніковай мадэлі?

Інспектар у задуменні наблізіўся да лабараторнага стала і пасля некалькіх хвілін бясплённых разважанняў падаўся наперад. У наступнае імгненне аэробы з сілай ударылі ў пярэдні шчыток шлема, прымусіўшы Сарву інстынктыўна адскочыць, а Каўруса — вылаяцца.

— Ім патрэбен кісларод, — сказаў інспектар, калі сэрца перастала калаціцца аб рэбры. — То дамо яго ім!

Варта было слабаму струменю паветра патрапіць на зярняткі, як аэробы зведалі імклівую метамарфозу. Новае стварэнне захоўвала сваю форму нядоўга — вакуум прымусіў чужую форму жыцця ператварыцца ў слізь. Датчыкі зарэгістравалі рэзкі выкід дыяксіду вугляроду.

— Экспанентны рост выключна ў прысутнасці кіслароду... Мы знайшлі забойцу, спадар Каўрус!

## Новы Бермудскі трохвугольнік

Радыёграма з Зямлі на імя Ратаўта Сарвы, інспектара Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў, была атрымана, калі навукова-даследчы брыг «Абуль-Хасан Алі ібн Абдурахман ібн Юнус ас-Садафі аль-Місры» знаходзіўся за чатырыста тысяч кіламетраў ад Урана. У графе «адпраўшчык» значыўся інспектар Айнбунд.

— Прадпісваю вам накіравацца ў пояс Эджворта-Койпера, да цэнтаўра Хірон, дзе прыступіць да высвятлення абставін знікнення турыстычнага судна «Жан-Жак Русо». На месца вас даставіць яхта «Аякс». Дадатковыя інструкцыі атрымаеце ў Геда Дальніковіча, капітана «Аякса».

Загад да вяртання Сарва прыняў устойліва — за час службы ён даўно прывык да пастаянных раз’ездаў. Інспектар сабраў рэчы і па заканчэнні тармажэння надзеў скафандр, а затым прайшоў у шлюзавую камеру. Праз чвэрць гадзіны яхта састыкавалася з брыгам.

— Добры дзень, спадар Сарва! Дазвольце прадставіцца — Гед Дальніковіч. Мне даручана ўвесці вас у курс справы і аказаць садзейнічанне ў правядзенні расследавання. Прашу за мной!

Матрос, які суправаджаў капітана, пазначыў намер узяць багаж інспектара, аднак Сарва спыніў яго:

— Я сам!

Каюта, у якой пасялілі інспектара, аказалася прасторнай і раскошнай. Сарву яшчэ не даводзілася падарожнічаць у такіх выдатных умовах. Не хацелася і думаць пра тое, у колькі абыдзецца фрахт «Аякса» — яхта належала мільярдэру Яну Гартэлю.

*Аўтар пра «Расследаванні інспектара Сарвы»:*

Ідэя напісання цыкла навукова-фантастычных апавяданняў пра інспектара Ратаўта Сарву ўзнікла ў мяне пасля азнаямлення з чарговым фанфікам аб паходжаннях Шэрлака Холмса. Я падумаў — чаму б і беларусам не займець свайго сышчыка?

Рызыкуючы быць пахаваным пад стосамі часопісаў «Папулярная механіка», «Discovery», «Вокруг света», «Техника молодежи» і «Юный техник», я дабраўся да камп’ютара і… Самай цяжкай справай аказалася спыніцца. Новыя сюжэты пасыпаліся як з рога дастатку — давялося нават раскласці нататнікі па ўсёй кватэры і ўсюды цягаць з сабой ноўтбук.

Ці атрымаўся новы Холмс, хай мяркуе чытач.

— Спадар Гартэль падахвоціўся дапамагчы Дэпартаменту добраахвотна. — Быццам прачытаўшы думкі інспектара, сказаў Дальніковіч. — Справа ў тым, што на «Жан-Жаку Русо» ляцеў яго малодшы сын Рымша, які пасля трагічнай гібелі Якгінта, старэйшага сына, застаўся адзіным спадчыннікам.

— Раскажыце пра тое, што адбылося, спадар Дальніковіч! — Інспектар дастаў планшэтны персанальны камп'ютар і падрыхтаваўся рабіць пазнакі.

— Сувязь з «Жан-Жакам Русо» знікла каля трыццаці дзвюх гадзін таму. Пошук пры дапамозе радыётэлескопаў і радараў, якія генерыруюць спецыяльныя хвалі, што не рассейваюцца ў прасторы і дазваляюць ігнараваць доплераўскае зрушэнне частаты, нічога не даў. Навуковы зонд «Ра», які знаходзіўся ў раёне знікнення «Жан-Жака Русо», не знайшоў ані судна, ані абломкаў.

— Колькі чалавек было на борце «Жан-Жака Русо»?

— Сто трыццаць чатыры, плюс трыццаць дзевяць членаў экіпажа і абслуговага персаналу. Канчатковай кропкай турыстычнага маршруту значыўся Квавар — адзін з самых буйных транснептунавых аб'ектаў.

Сарва адкрыў Зорны атлас. Каменныя пароды і вадзяны лёд — не самае прыгожае месца Айкумены. Зрэшты, de gustibus non est disputandum.

— Сігналаў бедства «Жан-Жак Русо» не падаваў. Буйных астэроідаў, якія маглі б справакаваць аварыю, паблізу няма.

— Піраты?

— Рымшу суправаджалі ўзброеныя целаахоўнікі. Да таго ж «Жан-Жак Русо» праектаваўся з разлікам на актыўную абарону — у выпадку нападу піратаў экіпаж мог пратрымацца да прыбыцця дапамогі.

— Тэарэтычна. Сярод членаў экіпажа маглі апынуцца людзі, здольныя на выкраданне Рымшы Гартэля з мэтай атрымання выкупу. «Жан-Жака Русо» маглі сагнаць.

— Не думаю, спадар Сарва.

— Вось як?.. А дазвольце пацікавіцца, спадар Дальніковіч, адкуль у вас такая ўпэўненасць? — Інспектар адарваўся ад планшэтнага персанальнага камп'ютара і з недаверам паглядзеў на капітана.

— Раён цэнтаўра Хірона карыстаецца благой славай. «Жан-Жак Русо» — не першае судна, якое там прапала. Два месяцы таму бясследна знік брыг «Карл Янскі», год назад — грузавік «Майкл Фарадэй», да гэтага зніклі грузапасажырскі «Шарль Месье» і рабатызаваны бот далёкага пошуку «Нептун-Х». Ні ў адным з выпадкаў ратавальнікі нічога не выявілі. Ведаеце, як празвалі гэты раён? Новы Бермудскі трохвугольнік!

— І ведаючы пра гэта, спадар Гартэль усё ж дазволіў сыну адправіцца да Хірона?

— Рымша Гартэль — паўналетні. Да таго ж турыстычны маршрут пралягаў у баку ад Хірона.

— Тады як жа «Жан-Жак Русо» апынуўся побач з цэнтаўрам?

— Баюся, што не змагу адказаць на гэтае пытанне, спадар Сарва. Як мяркуецца, уся справа ў непаладках навігацыйнага абсталявання.

У планшэтным персанальным камп'ютары з'явілася новая адзнака — патрабаванні да бяспекі пасажырскіх судоў турыстычнага профілю былі драконаўскімі. Сарва зверыўся з Зорнымі атласам — чорных дзір вакол Хірона адзначана не было. Даныя аб іншых анамаліях адсутнічалі.

— Колькі часу нам спатрэбіцца, каб дабрацца да Хірона?

— На «Аяксе» ўсталяваны звышмагутны гіперпрывод апошняй мадэлі. З улікам часу, неабходнага на разлік каардынат, не болей за адзінаццаць гадзін.

— Дзякую за дапамогу!

— Звяртайцеся!

Час, які застаўся да пагружэння ў гіперпрастору, інспектар выдаткаваў на вывучэнне інфармацыі, якая тычылася Хірона. (2060) Хірон ставіўся да астэроідаў групы цэнтаўраў. Яго пэрыгелій знаходзіўся ўнутры арбіты Сатурна, а афеліі — непадалёк ад арбіты Урана. Хірон быў незвычайны тым, што валодаў комай, характэрнай для каметнага цела, аднак па памерах у пяцьдзясят тысяч разоў перавышаў сярэдні аб'ём камет, і быў больш суразмерны з вялікім астэроідам, да якіх яго першапачаткова і аднеслі. Шчыльнасць цел — к'юбівана, плуціна, астэроідаў, ледзяных груд — не дазваляла меркаваць, што «Жан-Жак Русо» мог з імі сутыкнуцца.

— Ніякай актыўнасці піратаў! — Сарва спецыяльна паслаў запыт у Дэпартамент. — Будзем разбірацца на месцы!

Сігнал абвесткі аб хуткім апусканні на «Аяксе» дублявалі — да інспектара прыйшоў адзін з членаў экіпажа. Сарва ўладкаваўся ў супрацьперагрузачным кокане і, не жадаючы губляць часу, заняў яго складаннем справаздачы аб папярэдняй справе і знаёмствам з Універсальнай энцыклапедыяй. Рух у гіперпрасторы нічым адметным не запамінаўся.

Праз дзесяць гадзін трыццаць хвілін «Аякс» прыбыў да Хірона. Цэнтаўр нагадваў шар, з'едзены ржой.

Сарва вырашыў прыняць Хірон у якасці кропкі адліку — перш-наперш інспектар праверыў яго пры дапамозе дыстанцыйна кіраваных ботаў, забяспечаных відэакамерамі з раздзяленнем матрыцы ў сто восемдзесят мегапікселяў. Дадаткова апараты неслі дэтэктары металу, цеплавізары, сканеры, а таксама ўльтрафіялетавыя і інфрачырвоныя спектрометры.

Пошук нічога не даў.

— Спадар Дальніковіч, хай «Аякс» пачынае рухацца па спіралі, якая пашыраецца. Загадайце, каб экіпаж неадкладна дакладваў аб любых адхіленнях у працы прыбораў. Der Teufel steckt im Detail!

— Не хвалюйцеся, спадар Сарва, Д'яблу ад нас не схавацца!

Пацяклі доўгія гадзіны пакутлівага чакання. Інспектара прыгнятала інертнасць, але іншага шляху знайсці «Жан-Жака Русо», акрамя пошуку ў наваколлях Хірона, не было. Перабраўшы ўсе патэнцыйныя версіі, Сарва пераключыўся на вывучэнне гісторыі астэроіда, спадзеючыся знайсці падказку ў дакументах касмічных агенцтваў і справаздачах місій. Як аказалася, у «новым бярмудскім трохвугольніку» зніклі яшчэ чатыры судны. Колькасць зніклых без вестак набліжалася да адзнакі ў тры сотні чалавек.

— Шкада, Старнэт недаступны.

Інспектар меркаваў, што Гартэль палічыць патрэбным нанесці яму візіт, аднак час ішоў, а мільярдэр не з'яўляўся.

— У спадара Гартэля — параліч левай паловы цела з прычыны перанесенага інфаркту міякарда, — патлумачыў Дальніковіч, калі Сарва звярнуўся да яго з пытаннем, — перасоўвацца самастойна ён не ў стане. Калі вы будзе патрэбны, спадар Сарва, вас запросяць.

Час ад часу інспектар уздымалася на верхнюю палубу, дзе была ўладкавана абсерваторыя, абсталяваная магутнымі радыётэлескопамі. Капрыз мільярдэра, але менавіта дзякуючы гэтаму капрызу да зыходу другіх сутак Сарва і выявіў зніклы «Жан-Жак Русо».

— А гэта што такое? — Увагу інспектара прыцягнуў дзіўны водбліск, які доўжыўся не даўжэй за імгненне. Здавалася, быццам абсалютны змрок побач з каметай нечакана ажыў. — Спадар Дальніковіч, мне патрэбен адзін з вашых ботаў!

— Добра, спадар Сарва, — данеслася з інтэркома. — Кажыце каардынаты!

«Аякс» удвая паменшыў хуткасць і выпусціў бот. Некалькі бясконца доўгіх хвілін тэлеметрыя транслявала толькі цемру, а затым карцінка пачала мяняцца — чарната павольна набывала абрысы, пакуль не ператварылася ў пляскаты авоід, які не меў нічога агульнага з творамі Прыроды.

— Гэта ж зніклы «Жан-Жак Русо»! — ахнуў капітан. — Што з ім сталася?

Каб распазнаць у гладкай, нібы паліраванай, аплыўшай тушы турыстычнае судна, патрабавалася задзейнічаць усе рэсурсы ўяўлення. Занадта ўжо моцным было адрозненне ад першапачатковай формы «Жан-Жака Русо».

— Прырода мудрагелістая, але не настолькі, каб стварыць дакладную копію «Жан-Жака Русо»!

Інспектар вымушана прызнаў, што капітан мае рацыю.

— Спадар Гартэль прыносіць прабачэнні за тое, што не можа з'явіцца асабіста для таго, каб засведчыць сваё шанаванне, — у рубцы кіравання з'явіўся адзін з целаахоўнікаў мільярдэра, — і выказвае шчырую падзяку, спадар Сарва! Ваша праца будзе ўзнагароджана!

— Перадайце гаспадару Гартэлю, што я абмяжуюся вуснай падзякай.

Па загадзе Дальніковіча яхта пачала тармажэнне з паралельным змяненнем курсу. На манеўр сышло больш за гадзіну. На працягу гэтага часу апаратура аналізу «Аякса» была нацэлена на авоід.

Вынікі ашаламілі — корпус «Жан-Жака Русо» падвергнуўся глыбокай прамяністай карозіі. У выніку магутнага імпульсу цалкам выпарыліся знешнія карабельныя надбудовы і механізмы, а асноўны і аварыйны ўваходныя люкі аказаліся залітаваныя, ілюмінатары, шчыліны прыбораў назірання, тэхнічныя адтуліны — шчыльна закаркаваны. Нягледзячы на тое, што абалонка была выраблена з тугаплаўкага металу, яна аплыла, нібы воск. Па характарыстыках метал набліжаўся да абсалютна чорнага цела — ні ў аднаго з прыбораў «Аякса» прабіць скарынку не атрымалася.

— Што будзем рабіць, спадар Сарва?

Інспектар адарваўся ад дысплэя з данымі, якія штосекундна змяняліся, і адказаў:

— Выкрываць. Час гуляе супраць нас — будзем зыходзіць з таго, што на борце ёсць жывыя і ім патрабуецца тэрміновая дапамога!

Гартэль відавочна прадбачыў нешта падобнае — у распараджэнні капітана аказаліся і неабходныя спецыялісты, і патрэбнае абсталяванне. Людзі знаходзіліся ў гатоўнасці — ужо праз трыццаць хвілін бот быў гатовы да выхаду.

Інспектар падахвоціўся ляцець з тэхнікамі.

На Гартэля працавалі лепшыя — у гэтым Сарва пераканаўся вельмі хутка. Бот павольна падплыў да «Жан-Жака Русо», і спецыялісты неадкладна ўзяліся за справу. Неўзабаве высветлілася, што патрапіць унутр судна не так проста — фулерытавыя наканечнікі бураў не вытрымлівалі, энергія ў акумулятарах з дыфтарыда ксенону расходавалася занадта хутка. Не ўзяла метал ані плазменная, ані лазерная рэзка.

— Калі і крыягенная не дапаможа, будзем узрываць! — паведаміў старшы каманды.

Скарынка толькі трохі паддалася вадкаму азоту. У якасці выбуховага рэчыва была абраная сумесь гексанітрагексаазаізавюрцытану і актагену. «Ultima ratio» спрацаваў як належна — накіраваны выбух прабіў у корпусе «Жан-Жака Русо» дзірку, прыдатную для праходу. Каб пазбегнуць разгерметызацыі турыстычнага судна тэхнікі выкарысталі сферу са звышмоцнага палімернага матэрыялу, ціск у якой раўняўся ціску паветра ў адсеках «Жан-Жака Русо».

Лічыльнік Гейгера павышэння радыяцыйнага фону не зафіксаваў, таму людзі Гартэля марудзіць не сталі — адзін за адным яны ступілі на борт турыстычнага судна. Насуперак чаканням, унутры «Жан-Жак Русо» цалкам не пацярпеў, калі не лічыць пашкоджання камунікацый, якія размяшчаліся ў непасрэднай блізкасці да ашалёўкі.

Ляцелі нездарма — са ста сямідзясяці трох пасажыраў «Жан-Жака Русо» выжыла сто сорак пяць чалавек. У тым ліку і Рымша Гартэль. Радасць мільярдэра не ведала межаў. Пасажыры «Жан-Жака Русо» са слязамі на вачах абдымалі тэхнікаў і абсыпалі іх падзякамі.

Па прычыне гібелі капітана, старэйшым афіцэрам на турыстычным судне застаўся першы памочнік. Яго інспектар і выклікаў першым для дачы паказанняў.

— Спадар Маркуш, раскажыце пра тое, як усё адбылося! — Каб не прапусціць ні адной дэталі, Сарва ўключыў лічбавы дыктафон.

— Мы стартавалі з Сатурна дзесяць дзён таму. Маршрут звыклы, даўным-даўно адпрацаваны. Усё ішло строга па плане да таго часу, пакуль «Жан-Жак Русо» не зблізіўся з Хіронам. Навігацыйная апаратура раптам нібы звар'яцела. Усе спробы ліквідаваць непаладкі ні да чаго не прывялі... У нейкі момант мы адчулі рэзкае павышэнне тэмпературы, за якім рушыла ўслед магутнае страсенне корпуса. Па часе гэта заняло не больш за дзве хвіліны... Сітуацыя заставалася пад кантролем да таго часу, пакуль не высветлілася, што мы ў пастцы...

— Паніка?

— Не без гэтага, спадар Сарва. Большая частка загінула з-за няўмення захоўваць кантроль над сваімі эмоцыямі і эгаізму... Мне прыйшлося ўзяць камандаванне на сябе і наводзіць на борце парадак... Некаторыя супакоіліся толькі пасля таго, як да іх былі ўжыты меры фізічнага ўздзеяння. На жаль, іншага выйсця, як застрэліць самага буянага пасажыра, які пагражаў бяспецы судна, у мяне не было...

Інспектар злавіў сябе на тым, што Маркушу яшчэ рана быць капітанам, паколькі ён прымаў неабходнасць занадта блізка да сэрца. Доўг капітана — не дапусціць на караблі бунту.

— Мы паспрабавалі падаць сігнал бедства, але перадатчыкі не працавалі... Іншыя спробы нагадаць пра сябе таксама не ўвянчаліся поспехам... Горш за ўсё было тое, што мы не маглі зразумець, што здарылася.

— «Жан-Жак Русо» трапіў пад накіраваны ядзерны ўдар, у выніку якога ашалёўка ператварылася ў аднастайную масу. Скарынка паралізавала працу абсталявання і ўсіх сістэм, з прычыны чаго судна ператварылася ў груду металалому. Вам невымоўна пашанцавала, спадар Маркуш, што «Жан Жак Русо» заўважылі. Судна магло стаць брацкай магілай — скарынка экрануе любыя віды выпраменьвання.

Бледнасці на твары першага памочніка дадалося.

— Спецыялістам яшчэ трэба правесці поўны аналіз, але ўжо цяпер зразумела, што мы маем справу з выпраменьваннем, якое разбурае крышталічную структуру рэчыва, дробнячы яго да атамнага ўзроўню з наступнай рэкамбінацыяй малекул і буйнейшых адзінак. Ролю каталізатара выконвае пастаяннае магнітнае поле — электронны зарад на паверхні «Жан-Жака Русо» спрыяў інтэнсіфікацыі працэсу рэкамбінацыі.

— І адкуль узялося гэта выпраменьванне, спадар Сарва?.. Прыборы не адзначылі наяўнасці якіх-небудзь крыніц.

— Гэта нам і трэба высветліць.

Апытанне іншых сведак зацягнулася да глыбокай ночы. За выключэннем асобных дэталяў, паказанні цалкам супадалі.

— І што вы пра гэта ўсё думаеце, спадар Сарва? — пацікавіўся капітан, які вырашыў наведаць інспектара ў яго каюце.

— Мы павінны знайсці крыніцу, спадар Дальніковіч. У адваротным выпадку караблі будуць знікаць і далей. Вы можаце адсачыць маршрут руху «Жан-Жака Русо»?

— Думаю, што так, — пасля працяглай паўзы адказаў капітан, — але на гэта можа сысці некалькі дзён, а то і тыдняў.

— Пачынайце прама зараз!

Дальніковічу і ў галаву не прыйшло пярэчыць. Сарва разважыў правільна — не той чалавек Гартэль, каб не расплаціцца па абавязку. Мільярдэр узяў на сябе і клопат пра турыстаў — на покліч «Аякса» адгукнуліся караблі, якія знаходзіліся паблізу.

У велізарным багацці меліся і свае плюсы — праз чацвёра сутак штучны інтэлект яхты выдаў вынік.

— Няма неабходнасці выклікаць паліцэйскі крэйсер, спадар Сарва, — сказаў Дальніковіч, бачачы, што інспектар мае намер звязацца з Дэпартаментам. — Спадар Гартэль гатовы аддаць «Аякс» поўнасцю пад вашу ўладу.

— Ніхто не ведае, што нас чакае. Крыніцай выпраменьвання можа аказацца ўсё, што заўгодна.

— У рандэву адправяцца выключна добраахвотнікі, спадар Сарва. Камандуйце!

Разумна вырашыўшы, што залішняя рызыка можа толькі нашкодзіць, інспектар выслаў наперад два боты, а таксама загадаў задзейнічаць усе прыборы назірання і аналізу, якія меліся на «Аяксе».

— У выпадку найменшай небяспекі неадкладна адварочвайце, спадар Дальніковіч!

— На гэты конт можаце не хвалявацца, спадар Сарва. Я не дапушчу, каб хто-небудзь з маіх людзей пацярпеў.

Гартэль таксама падахвоціўся ляцець, хоць інспектар праз капітана і целаахоўнікаў спрабаваў адгаварыць яго пад падставай смяротнай небяспекі, якая патэнцыяльна магла пагражаць экіпажу «Аякса».

— Спадар Гартэль прасіў перадаць, што ён не прывык адступаць! — данёс да Сарвы словы мільярдэра Дальніковіч.

На шостыя суткі боты бесперашкодна дасягнулі арбіты Хірона. Інспектара ўсё мацней асільвалі сумневы ў правільнасці абранай тактыкі, аднак адмаўляцца ад пошуку ён не спяшаўся. І не памыліўся.

Варта было толькі першаму робату апусціцца на арбіту астэроіда, як раптам знікла тэлеметрыя.

— Машынам — стоп! — Закрычаў Дальніковіч. У наступнае імгненне ўключыліся насавыя тармазныя рухавікі. Інерцыі не назіралася, таму што хуткасць «Аякса» была невялікай. Другі бот, які рухаўся ў тысячы кіламетраў ззаду першага, спыніўся. — Максімальнае набліжэнне!

Кадры на цэнтральным дысплеі пачалі хутка мяняцца, пакуль увесь экран не заняў першы бот. Апарат ператварыўся ў запечаны антрацытавы шар.

— Хто-небудзь бачыць крыніцу? — інспектар беспаспяхова спрабаваў разглядзець на шэра-чорным фоне хоць нешта. — Спадар Дальніковіч, трэба разлічыць траекторыю!

Праз некалькі хвілін, якія здаліся вечнасцю, штучны інтэлект выдаў каардынаты.

Форма аб’екта паказвала на яго тэхнагенны характар.

— Ваенны зонд! — рэзюмаваў Сарва. — Калі мне не змяняе памяць, савецкі… Бачыце чырвоны сцяг з сярпом-молатам і абрэвіятуру «СССР»?

## Спайк

Зіма ў Паўднёвым паўшар'і Марса выдалася як ніколі халоднай — тэмпература нават днём рэдка паднімалася вышэй за адзнаку ў дзвесце дзесяць кельвінаў. З неба раз-пораз сыпаў цвёрды дыяксід вугляроду, які разам з густым туманам над Раўнінай Элады зусім не надаваў прывабнасці нізіне ўдарнага паходжання.

Расследаванне гібелі прафесара Ждана Гідлеўскага было скончана — інспектар Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў Ратаўт Сарва закрыў ноўтбук і з задавальненнем адкінуўся на спінку крэсла, выцягнуўшы ногі, якія гудзелі. Для ўстанаўлення забойцы прыйшлося прыкласці нямала намаганняў — інжынер-фізік аказаўся на рэдкасць цямлівым і вынаходлівым злачынцам.

Аднак атрымаць асалоду ад заслужанага адпачынку інспектару не дазволілі — нагадаў пра сябе камунікатар, які знаходзіўся ў рэжыме вібрацыі. Па танальнасці Сарва заключыў, што прыйшло паведамленне ад камісара Айнбунда.

— Што і патрабавалася даказаць! — Падазраючы, што атрымае новы загад, інспектар дакрануўся да піктаграмы. І не памыліўся: — Вам прадпісваецца тэрмінова выехаць у раён Патэры Амфітрыты, на станцыю «Джавані Скіяпарэлі», і высветліць прычыны радыёмаўчання.

Да паведамлення былі прымацаваныя тэкставы дакумент у некалькі старонак і файл з аўдыязапісам. Сарва прабег вачыма па тэксце: персанал, характар работ у калоніі, план-схема, коды доступу, кароткія інструкцыі. Нашмат цікавейшым аказаўся аўдыяфайл. Як толькі інспектар націснуў на кнопку прайгравання, дынамік літаральна выбухнуў крыкамі, напоўненымі нянавісцю і злосцю. Крыкі разводзілі гукі ўдараў. Як мог зразумець Сарва, смяротных.

Запіс доўжыўся ўсяго чвэрць хвіліны, але прымушаў кроў стыць у жылах.

— Дзіўным у іх атрымаўся апошні сеанс сувязі! — Інспектар вывеў на дысплэй панарамную карту Раўніны Элады і хутка адшукаў шчытападобны вулкан. «Джавані Скіяпарэлі» размяшчаўся за дзвесце пяць кіламетраў ад «Веста Мелвіна Слайфера». — Не менш за дзесяць гадзін маршу.

Сарва накіраваўся да кіраўніка калоніі.

— Спадар Замосцін, мне патрэбны ўсюдыход, а таксама запас паліва, кіслароду, вады і харчавання з разліку на аднаго чалавека на пяць сутак.

— Усюдыход я вам дам, спадар Сарва. Пра паліва, кісларод, харчаванне і ваду таксама можаце не турбавацца. Але ці разумна будзе адпраўляцца да Патэры Амфітрыты ў адзіночку?.. Мікракратэры зімой вельмі небяспечныя.

— Космас наогул вельмі небяспечнае месца, спадар Замосцін.

— Вымушаны настойваць на тым, каб вы ўзялі з сабой чалавека, спадар Сарва. Усе нашы экіпажы складаюцца з двух-трох каланістаў. Я ніколі не дарую сабе, калі з вамі што-небудзь здарыцца!.. Неспакойна ў нас!

Памеркаваўшы, інспектар быў вымушаны прызнаць, што кіраўнік калоніі мае рацыю. Марс — не месца для безразважнай рызыкі.

— Добра, толькі падбярыце разумнага чалавека.

— Монтаўт Юдзін. Былы армейскі пілот. Магістр тэхнічных навук. Механік ад Бога.

— Перадайце яму, што мы выязджаем праз гадзіну.

Час, які заставаўся да выезду, Сарва выдаткаваў на вывучэнне плана-схемы і запамінанне кодаў. Зборы былі нядоўгімі — інспектар абыходзіўся мінімумам рэчаў. І не толькі ў камандзіроўках.

І ён, Прымітыў Пратакола, са сваім законным цэтлікам, *нумар адзін* па рахунку, быў забыты на пероне, без кроплі спрычыненасці, з кучай пакінутых рэчаў пад канец чаргі.

Ён там і дагэтуль, у чаканні сваёй чаргі; усё чакае, як чакалі козы Санчаса з гісторыі пра Дон Кіхота...

Ён ідзе і ідзе, таму што дабрыня Бога бязмежная... але адзін Бог ведае, калі на баль вялікай літасці завітае... *нумар адзін*!

*Пераклад з іспанскай Дар'і Шостак*

Крыніца арыгінала: https://es.wikisource.org/wiki/Leopoldo_Alas_%C2%ABClar%C3%ADn%C2%BB



## **Шырлі Джэксан.** Shirley Jackson

**Творы Шырлі Джэксан (1916—1965) — класіка амерыканскай літаратуры XX стагоддзя. Надрукаванае тут апавяданне «Латарэя» — адно з самых вядомых. Скандальна вядомых. Пасля яго публікацыі ў 1948 годзе ў штотыднёвіку** The New Yorker **ад чытачоў пасыпаліся лісты з нападамі і пытаннямі. Аўтарка тлумачыла з'яўленне такога апавядання тым, што, узнавіўшы жорсткія рытуалы з мінулага ў сваім часе і родным горадзе, спадзявалася выклікаць у чытачоў шок ад бессэнсоўнай бесчалавечнасці ў іх жыцці.**

## Латарэя

Раніца дваццаць сёмага чэрвеня была сонечная і бясхмарная, дзень быў напоўнены свежаю цеплынёй, усё вакол квітнела, рунела. Каля дзесяці гадзін на плошчы, паміж поштай і банкам, пачалі збірацца жыхары вёскі; у некаторых гарадах было вельмі шмат людзей, таму латарэя там займала два дні і павінна была пачынацца дваццаць шостага чэрвеня. Але ў гэтай вёсцы было толькі каля трохсот чалавек, і латарэя праходзіла менш чым за дзве гадзіны, таму яна пачыналася а дзясятай і заканчвалася якраз к таму часу, каб жыхары паспелі да абеду.

Вядома, першымі збіраліся дзеці. Улетку школьных заняткаў няма, таму многія з іх моцна зжыліся з пачуццём свабоды; спачатку яны паводзілі сябе ціха, а потым пачалі сваю шумную

гульню. Аднак іх размовы ўсё яшчэ былі пра класы і настаўнікаў, пра кнігі і заўвагі. Бобі Марцін ужо назбіраў у свае кішэні камяні, і астатнія хлопчыкі ўзялі з яго прыклад, абіраючы самыя гладкія і круглыя; Бобі, Гары Джонс і Дзікі Дэлакруа — жыхары вымаўлялі гэта імя як «Дэлакрой» — у выніку сабралі велізарную кучу камянёў на краі плошчы і ахоўвалі яе ад набегаў іншых хлапчукоў. Дзяўчаткі стаялі ўбаку, гаварылі паміж сабой, аглядаліся або чапляліся за рукі сваіх старэйшых братоў ці сясцёр.

Неўзабаве пачалі збірацца мужчыны. Яны шукалі вачамі сваіх дзяцей, гаварылі пра ўраджай і дождж, пра трактары і падаткі. Яны стаялі групамі, удалечыні ад кучы камянёў, і іх жарты былі нягучнымі; яны больш усміхаліся, чым смяяліся. Потым за сваімі мужыкамі сталі падыходзіць жанчыны, апранутыя ў выцвілыя хатнія сукенкі і світары. Па дарозе яны віталі адна адну і абменьваліся плёткамі. Жанчыны знайшлі сваіх мужыкоў і пачалі клікаць дзяцей, якія ішлі неахвотна, і іх даводзілася клікаць па чатыры-пяць разоў. Бобі Марцін ухіліўся ад рукі маці, якая спрабавала яго схапіць, і, смеючыся, ўцёк назад да кучы камянёў. Яго бацька рэзка крыкнуў — і Бобі адразу вярнуўся, устаўшы паміж бацькам і старэйшым братам.

Латарэю праводзіў містар Самерс. Апроч яе ён арганізоўваў мясцовыя танцы, узначальваў моладзевы клуб і падрыхтоўваў мерапрыемствы на Хэлоўін, бо ў яго было досыць часу і энергіі для прысвячэння сябе грамадскаму жыццю. Гэта быў вясёлы мужчына з круглым тварам. У яго быў вугальны бізнес. Людзі спачувалі яму, таму што ў яго не было дзяцей, а жонка была вельмі звадлівай кабетай. Калі ён падышоў, трымаючы ў руках чорную драўляную скрынку, натоўп паціху зашаптаўся. Містар Самерс махнуў рукою і прамовіў:

— Затрымаўся сёння крыху, сябры.

Паштальён, містар Грэйс, ішоў следам з трохногім зэдлікам, які потым паставіў пасярод плошчы, а Самерс змясціў зверху чорную скрыню. Жыхары крыху разышліся, пакінуўшы прастору вакол зэдліка. Містар Самерс спытаў:

— Хлопцы, ніхто не хоча мне дапамагчы?

Дапамагчы пажадалі двое. Містар Марцін і яго старэйшы сын Бакстар выйшлі, каб патрымаць скрыню роўна на зэдліку, пакуль Самерс змешваў унутры паперкі.

Першыя прылады для латарэі згубіліся даўным-даўно, а той чорнай скрыняй, што стаіць цяпер на зэдліку, пачалі карыстацца яшчэ да нараджэння містара Уорнэра, самага старога чалавека ў вёсцы. Містар Самерс часта казаў жыхарам, што трэба зрабіць новую скрыню, але ніхто не хацеў парушаць традыцыю, якую ўвасабляў гэты рэлікт. Казалі, што гэта скрыня была зроблена з рэштказў папярэдняй, што даўней была зладжана людзьмі, якія заснавалі вёску. Штогод пасля латарэі містар Самерс пачынае гутарку пра новую скрыню, і штогод гэтыя гутаркі ні да чаго не прыводзяць. Таму з часам скрыня робіцца ўсё больш брыдкай. На дадзены момант яна ўся ў трэсках і плямах, чорная фарба дзе-нідзе сцерлася ці выліняла.

Містар Марцін і яго старэйшы сын Бакстар моцна трымалі скрыню на зэдліку, пакуль містар Самерс старанна перамешваў паперкі. З прычыны таго, што адны рытуалы забыліся, а ад іншых адмовіліся, Самерс з часам замяніў драўляныя трэскі, якія выкарыстоўваліся мінулымі пакаленнямі, на палосы паперы. Па словах містара Самерса, трэскі былі зручныя, калі жыхароў вёскі было мала, але цяпер насельніцтва складае ўжо болей за трыста чалавек і ўвесь час расце, таму трэба было замяніць іх на штосьці больш прыдатнае для чорнай скрыні. У ноч перад латарэяй містар Самерс і містар Лэйвс выразалі палоскі паперы і паклалі іх у скрыню, якую потым зачынілі ў канторы вугальнай камісіі Самерса, каб наступнай раніцай аднесці на плошчу. У астатнія дні скрыня захоўвалася то ў адным месцы, то ў іншым; адзін год яна была ў свірне

містара Лэйвса, на іншы год валялася на пошце, а аднойчы нехта паставіў яе на паліцу ў краме містара Марціна і так там яе і пакінуў.

Перад пачаткам латарэі на плошчы была мітусня. У Самерса быў спіс гаспадароў сем'яў, а таксама членаў кожнай сям'і. Паштмайстар, як афіцыйны прадстаўнік латарэі, прыводзіў да прысягі Самерса; некаторыя памяталі, што некалі ў прадстаўніка быў цэлы пералік патрэбных фармальнасцяў, напрыклад, гімн, які выконвалі штогод належным чынам і на адным дыханні; некаторыя сцвярджалі, што выканаўца мусіў стаяць роўна, іншыя помнілі, што ён хадзіў сярод людзей, але і ўсё ж з гадамі гэта традыцыя страціла актуальнасць. Было таксама і традыцыйнае вітанне, якім карыстаўся афіцыйны прадстаўнік латарэі для звароту да кожнага ўдзельніка, калі ён даставаў паперку са скрыні, але яно таксама змянілася з часам: зараз прадстаўнік проста вітаў кожнага, хто падыходзіў да яго. Самерс ідэальна падыходзіў для такога мерапрыемства; у чыстай белай кашулі і блакітных джынсах, паклаўшы адну руку на чорную скрыню, ён выглядаў вельмі паважна і пры гэтым безупынна размаўляў з Лэйвсам і Марцінамі.

Толькі містар Самерс нарэшце скончыў гутаркі і павярнуўся да жыхароў, як на плошчу падбегла місіс Гатчасан са світарам, накінутым на плечы, і заняла месца ў задняй частцы натоўпу.

— За прыбіраннем забылася, што сёння за дзень, — сказала яна місіс Дэлакруа, якая стаяла каля яе, і яны абедзве ціха засмяяліся.

— Думала, мой стары на пільні, — працягвала місіс Гатчасан. — Потым убачыла ў акно, што дзеці пайшлі, і тады ўспомніла: сёння ж дваццаць сёмае. І прыбегла.

Яна выцерла рукі аб хвартух, і місіс Дэлакруа сказала:

— Думаю, ты не спазнілася. Яны там усё яшчэ размаўляюць.

Місіс Гатчасан выцягнула шыю, каб знайсці свайго мужа і дзяцей. Яны стаялі спераду. Яна дакранулася да рукі місіс Дэлакруа ў знак развітання і пачала прабірацца праз натоўп. Людзі прапускалі яе; два ці тры чалавека гаварылі досыць гучна, каб чуў увесь натоўп: «Прыйшла місіс Гатчасан» і «Біл, яна ўсё ж прыйшла». Місіс Гатчасан дайшла да свайго мужа і містар Самерс, які чакаў яе, сказаў з усмешкай:

— Мы ўжо думалі пачынаць без цябе, Тэсі.

Місіс Гатчасан з усмешкай адказала:

— Ну як жа я магла кінуць недамыты посуд у ракавіне, праўда, Джо?

І нягучны смех пракаціўся да канца натоўпу, ажно да месца, дзе яна стаяла раней.

— Добра, — сказаў містар Самерс сур'ёзна, — Думаю, трэба пачынаць. Хутчэй скончым — хутчэй вернемся да працы. Хто-небудзь адсутнічае?

— Дэнбер, — адказалі некаторыя. — Дэнбер. Дэнбер.

Містар Самерс звярнуўся да свайго спісу.

— Клайд Дэнбер, — прамовіў ён. — Сапраўды. Ён зламаў нагу, так? Хто ўдзельнічае за яго?

— Відаць, я, — сказала жанчына з натоўпу, і містар Самерс паглядзеў на яе.

— Жонка цягне паперку за мужа, —— сказаў ён. — Хіба гэта не павінен рабіць ваш старэйшы сын, Джэні?

І хоць усе ў вёсцы ведалі прычыну, задаць гэта пытанне было абавязкам афіцыйнага прадстаўніка. Містар Самерс чакаў адказ з выразам ветлівай цікавасці.

— Хорасу яшчэ і шаснаццаці няма, — сказала місіс Дэнбер са шкадаваннем. — Відаць, сёлета я за свайго старога.

— Добра, — прамовіў містар Самерс і зрабіў пазнаку ў сваём спісу. Потым спытаў:

— Хлопец Ватсанаў сёлета ўдзельнічае?

У натоўпе паднялася рука.

— Я тут, — сказаў ён. — Я выцягваю за маці і за сябе.

І тут жа нервова заміргаў і апусціў галаву. Сярод людзей чутны былі фразы: «Добры хлопчык» і «Добра што ў маці есці мужык у хаце».

— Так, — прамовіў містар Самерс, — я думаю гэта усё. Стары Уорнэр тут?

— Тут, — пачуўся голас, і містар Самерс кіўнуў.

Навісла раптоўная цішыня, і містар Самерс, прачысціўшы горла, праглядзеў спіс.

— Усе гатовы? — спытаў ён. — Зараз я зачытваю імёны, спачатку гаспадары сем'яў, мужчыны падыходзяць і выцягваюць паперку са скрыні. Не глядзіце ў паперку, пакуль усе не выцягнуць. Усё зразумела?

Людзі рабілі гэта ўжо шмат разоў, таму слухала толькі палова натоўпу. Многія стаялі ціха, некаторыя кусалі вусны, гледзячы пад ногі. Потым Самерс падняў руку і сказаў:

— Адамс.

З натоўпу выйшаў чалавек і пайшоў наперад.

— Прывітанне, Стыў, — сказаў Самерс.

— Прывітанне, Джо, — адказаў містар Адамс.

Яны павіталі адзін аднаго з нервовай усмешкай. Містар Адамс апусціў руку ў чорную скрыню і дастаў складзеную паперку. Ён моцна ўзяў яе за краёчак і паспешна вярнуўся на сваё месца ў натоўпе, стаўшы крыху далей ад сваёй сям'і і не гледзячы на свае рукі.

— Ален, — сказаў містар Самерс. — Андэрсан… Бэнтам.

— Такое пачуццё, што з мінулай латарэі прайшло зусім мала часу, — сказала місіс Дэлакруа місіс Лэйвс. Жанчыны стаялі ў заднім шэрагу.

— Быццам гэта было толькі на мінулым тыдні.

— Час ляціць хутка, — сказаў містар Лэйвс.

— Гарберт… Гатчасан.

— Прачніся, Біл, — сказала місіс Гатчасан, і людзі каля яе засмяяліся.

— Гларк… Джонс… Дэлакруа.

— Гэта мой стары, — прамовіла містара Дэлакруа. Яна затрымала дыханне, пакуль яе муж ішоў наперад.

— Дэнбер, — сказаў містар Самерс, і містара Дэнбер цвёрдым крокам пайшла да скрыні. Адна з жанчын сказала: «Давай, Джэні!», другая прамовіла: «Малайчына, не хвалюецца».

— Мы наступныя, — сказала місіс Лэйвс. Яна сачыла за тым, як містар Лэйвс абышоў скрыню, з сур'ёзным тварам прывітаўся з Самерсам і выбраў палоску паперы.

Зараз ужо шмат мужчын з натоўпу знервавана церлі складзеныя паперкі ў сваіх вялікіх далонях. Місіс Дэнбер і яе два сыны стаялі разам. Яна трымала паперку.

— Кажуць, — сказаў містар Адамс старому Уорнэру, які стаяў каля яго. — Што на Поўначы вядуць гутаркі пра скасаванне латарэі.

Стары Уорнэр чмыхнуў.

— Дурні ненармальныя, — сказаў ён. — Слухаюць маладых, ды толькі гэта да дабра не давядзе. А што далей? Вярнуцца жыць у пячоры, кінуць працаваць? Раней казалі: «У чэрвені латарэя — ураджай расце хутчэй». Хутка пачнём есці тушаную пясчанку з жалудамі. Латарэя будзе заўсёды, — дадаў ён з раздражненнем. — Адзіная праблема — гэта малады Джо Самерс са сваімі жартамі.

— У некаторых месцах ужо адмовіліся ад латарэі. — сказаў Адамс.

— Нічога добрага з гэтага не выйдзе, — непахісна адказаў стары Уорнер. — Зборня дурных юнакоў!

— Марцін, — Бобі Марцін прасачыў, як яго бацька ідзе наперад.— Овердзік… Персі.

— Толькі б хутчэй, — сказала місіс Дэнбер свайму старэйшаму сыну. — Толькі б хутчэй.

— Ужо амаль усе, — адказаў ён.

— Будзь гатовы бегчы да бацькі, — сказала яна.

Містар Самерс назваў сваё імя, ушчыльную падышоў да скрыні і выцягнуў паперку.

— Уорнэр! — назваў ён наступнае імя.

— Семдзесят сёмы год я ўдзельнічаю ў латарэі, — сказаў стары Уорнэр, прабіраючыся праз натоўп. — Семдзесят сёмы раз.

— Уотсан.

Высокі хлопец стаў прабірацца праз натоўп. Нехта гукнуў: «Не хвалюйся, Джэк».

«Надышоў твой час, сынку!» — сказаў містар Самерс.

— Яніні.

Пасля гэтага наступіла доўгая паўза. Здавалася ўсё стаілі дыханне. Містар Самерс падняў сваю палоску паперы і сказаў:

— Ну што ж, сябры…

Хвіліну ніхто не варушыўся — і раптам вакол зашалясцелі паперкі. Тут жа ўсе жанчыны разам загаварылі.

«Хто гэта?», «Хто атрымаў?», «Дэнберс?», «Уотсан?» Потым галасы пачалі шаптаць, «Гэта Гатчасан, гэта Біл!», «Біл Гатчасан выцягнуў!».

— Бяжы паведамі бацьку, — сказала місіс Дэнбер свайму старэйшаму сыну.

Людзі пачалі азірацца, каб убачыць сям'ю Гатчасан. Біл Гатчасан стаяў ціха і глядзеў уніз на паперку ў сваёй руцэ. Раптам місіс Гатчасан крыкнула Самерсу:

— Ты не даў яму досыць часу, каб выцягнуць паперку, якую ён хацеў. Я бачыла гэта. Гэта несумленна!

— Трымай сябе ў руках, Тэсі, — папрасіла місіс Дэлакруа.

Місіс Грэйвс сказала:

— Ва ўсіх шанцы роўныя.

— Замаўчы, Тэсі, — сказаў містар Гатчасан.

— Добра, — сказаў Самерс. — Усё зразумела, зараз давайце працягнем, каб паспець ў час.

Ён паглядзеў у іншы спіс.

— Біл, — сказаў ён, — ты выцягваў за сям'ю Гатчасан. Ёсць яшчэ дарослыя ў сям'і?

— Ёсць яшчэ Дон і Ева, — выкрыкнула місіс Гатчасан. — Яны таксама павінны выцягваць!

— Дачка адносіцца да сям'і мужа, Тэсі, — сказаў Самерс спакойным голасам. — Усе, і ты таксама, ведаюць гэта.

— Гэта несумленна, — сказала яна.

— Відаць, няма, Джо. — сказаў Біл Гатчасан со шкадаваннем. — Мая дачка адносіцца да сям'і яе мужа: гэта так. Больш нікога няма акрамя дзяцей.

— Значыць ты і прадстаўнік сем'і, і яе гаспадар. Так? — спытаў містар Самерс для дакладнасці.

— Так, — адказаў Біл Гатчасан.

— Колькі дзяцей, Біл? — афіцыйна спытаў містар Самерс.

— Трое, — сказаў Гатчасан. — Гэта Біл малодшы, Нэнсі і маленькі Дэйв. І Тэсі. І я.

— Добра, — сказаў містар Самерс. — Гары, збяры квіточкі назад.

Грэйвс кіўнуў і сабраў паперкі.

— Пакладзі іх у скрыню, — кіраваў містар Самерс. — Вазьмі паперку Біла і пакладзі яе да астатніх.

— Я думаю, мы павінны пачаць нанова, — паспрабавала сказаць місіс Гатчасан спакойным голасам. — Я кажу вам, гэта было несумленна. Ты даў яму мала часу для выбару. Усе гэта бачылі.

Містар Грэйвс паклаў у скрыню пяць паперак, а астатнія выкінуў. Лёгкі ветрык падхапіў іх і панёс прэч.

— Ну паслухайце, людзі!.. — гаварыла місіс Гатчасан натоўпу вакол.

— Гатовы, Біл? — спытаў містар Самерс.

Біл Гатчасан, кінуўшы хуткі позірк на жонку і дзяцей, кіўнуў.

— Памятайце, — сказаў містар Самерс. — Пасля таго як выцягнулі паперку, трымаеце яе складзенай, пакуль усе не выцягнуць. Гары, дапамажы маленькаму Дэйву.

Грэйвс узяў ручку хлопчыка, які ахвотна падышоў з ім да скрыні.

— Вазьмі паперку са скрыні, Дэйві, — сказаў містар Самерс.

Дэйві апусціў руку ў скрыню і засмяяўся.

— Вазьмі толькі адну паперку. — папярэдзіў містар Самерс. — Гары, вазьмі ў яго.

Грэйвс узяў складзены квіточак з ручкі дзіцяці і заціснуў яго ў кулаку. Маленькі Дэйв стаяў побач і глядзеў на яго знізу са здзіўленнем.

— Наступная Нэнсі, — сказаў містар Самэрс.

Нэнсі было дванаццаць, і яе школьныя сябры дыхалі радзей, пакуль яна ішла. Дзяўчынка падышла, па дарозе паправіўшы сваю спадніцу, а потым грацыёзна вярнулася на месца.

— Біл малодшы, — сказаў містар Самерс.

Увесь чырвоны, Біл вялікімі крокамі падышоў да скрыні, стукнуўся аб яе і выцягнуў паперку.

— Тэсі, — сказаў містар Самерс.

Яна марудзіла, глядзела вакол з выклікам, нарэшце, падціснуўшы вусны, падышла да скрыні. Выхапіўшы паперку, жанчына схавала яе ў руцэ.

— Біл, — сказаў Самерс. Біл Гатчасан апусціў руку ў скрыню і доўга шукаў паперку пакуль, нарэшце, не знайшоў.

Наступіла цішыня. Дзяўчынка з натоўпу прашаптала: «Хоць бы не Нэнсі», і яе шэпт пачулі ўсе прысутныя.

— Усё не так, як было раней, — сказаў услых стары Уорнер. — Людзі зусім не такія, як раней.

— Добра, — сказаў містар Самерс. — Адкрывайце паперкі. Гары, адкрый маленькаму Дэйву.

Містар Грэйвс адкрыў квіточак, падняў яго ўверх і натоўп выдыхнуў: пуста. Нэнсі з Білам малодшым адкрылі адначасна. Шырока ўсміхаючыся, яны паднялі свае паперкі, паказваючы іх людзям.

— Тэсі, — сказаў містар Самерс.

Яна маўчала. Тады Самерс паглядзеў на Біла Гатчасана. Той разгарнуў сваю паперку і паказаў. Яна была пустая.

— Гэта Тэсі, — сказаў містар Самерс ціхім і сур’ёзным голасам. — Пакажы нам яе паперку, Біл.

Біл Гатчасан падышоў да сваёй жонкі і забраў паперку. На ёй была чорная пазнака, чорная пазнака, якую мінулай ноччу містар Самерс намаляваў тоўстым алоўкам у офісе сваёй вугальнай камісіі. Біл Гатчасан падняў яе ўверх і ў натоўпе адчулася хваляванне.

— Ну што ж, сябры, — сказаў Самерс. — Давайце скончым гэта хутчэй.

І хоць жыхары пазабывалі рытуалы і страцілі першую чорную скрыню, яны ўсё яшчэ карысталіся камянямі. Куча, сабраная хлопчыкамі, была гатова; камяні ляжалі на зямлі разам з кавалачкамі паперы са скрыні. Місіс Дэлакруа выбрала самы вялікі камень, які магла падняць дзвюма рукамі і павярнулася да місіс Дэнбер:

— Давай, — сказала яна. — Уперад.

Місіс Дэнбер трымала маленькія каменьчыкі ў абедзвюх руках. Цяжка дыхаючы, яна прагаварыла:

— Я ж не ўмею. Ты ідзі наперад, а я за табой.

Дзеці ўжо трымалі камяні напагатове. Нехта даў і Білу Гатчасану некалькі.

Зараз Тэсі Гатчасан была ў цэнтры натоўпу. Яна бездапаможна выставіла рукі, а жыхары ўсё набліжаліся.

— Гэта несумленна, — сказала яна.

Першы камень трапіў ёй у галаву. Стары Уорнер прыгаворваў:

— Падыходзім, падыходзім усе!

Стыў Адамс разам з місіс Грэйвс ішлі наперадзе.

— Гэта несумленна, гэта няправільна! — закрычала місіс Гатчасан, і тут жа дзясяткі камянёў паляцелі ў яе бок.

*Пераклад з англійскай Дар'і Шостак*

Крыніца: https://sites.middlebury.edu/individualandthesociety/files/2010/09/jackson_lottery.pdf

# Праверка боем

Аднойчы ўвечары, калі Эмілі Джонсан вярнулася ў свой мэбляваны нумар, яна выявіла, што тры яе лепшыя хусткі зніклі з камоды. Яна ведала, чыя гэта праца, і ведала, што трэба рабіць. Яна жыла у мэбляваным нумары ўжо шэсць тыдняў, і апошнія два тыдні час ад часу ў яе знікалі маленькія рэчы: некалькі хустак і недарагая брошка з нечымі ініцыяламі, якую яна амаль не насіла. Але аднойчы знік маленькі флакон духоў і адна фігурка з калекцыі парцэлянавых сабачак. Эмілі ведала, хто бярэ рэчы, але толькі сёння яна нарэшце вырашыла, што трэба рабіць. Яна сумнявалася ў неабходнасці паведамляць гаспадыні пра гэта, таму што яе страты былі нязначныя. Яна адчувала, што рана ці позна зможа разабрацца ў сітуацыі самастойна. Адпачатку было відавочна, што адзіны чалавек, які ўвесь час сядзеў дома, і быў галоўным падазраваным. І вось адной раніцай у нядзелю, калі Эмілі спускалася з даху, дзе загарала, яна заўважыла, што нехта выходзіць з яе пакоя і ідзе ўніз. Яна пазнала наведвальніка. Цяпер жанчына ведала, што трэба рабіць. Зняўшы паліто і капялюш, яна расклала пакупкі, і, пакуль вячэра грэлася на пліце, прыдумала, што сказаць.

Пасля вячэры Эмілі замкнула дзверы і спусцілася ўніз па лесвіцы. Яна асцярожна пастукала ў пакой, які знаходзіўся як раз пад яе ўласным. Голас знутры сказаў:

— Увайдзіце.

— Місіс Ален? — спытала Эмілі, потым акуратна адчыніла дзверы і ўвайшла.

Эмілі адразу ж заўважыла, што пакой, быў практычна такі ж як яе: такі ж вузкі ложак з карычневай посцілкай, такая ж шафа з клёну; камора знаходзілася ў іншай частцы пакоя, але акно было на тым жа месцы. Місіс Ален сядзела ў крэсле. Жанчыне было каля шасцідзесяці гадоў.

«Старэйшая за мяне недзе ўдвая», — падумала Эмілі, пакуль стаяла ў дзвярах, а лэдзі маўчала. Госця марудзіла некалькі секунд, гледзячы на акуратна сабраныя сівыя валасы місіс Ален, на яе сінюю хатнюю сукенку, і нарэшце загаварыла.

— Місіс Ален, — сказала яна. — Мяне завуць Эмілі Джонсан.

Пажылая жанчына адклала ўбок часопіс «Дапаможнік хатняй гаспадыні», які чытала да прыходу суседкі, і павольна ўстала.

— Я вельмі рада пазнаёміцца з вамі, — сказала яна ласкава. — Я, вядома, бачыла вас некалькі разоў і адзначыла ваш прыемны выгляд. Гэта рэдкасць сустрэць некага сапраўды… — місіс Ален завагалася. — Сапраўды мілага, — працягнула яна, — у такім месцы.

— Я таксама рада з вамі пазнаёміцца, — сказала Эмілі.

Місіс Ален паказала на крэсла, на якім сядзела да гэтага.

— Не хочаце прысесці?

— Дзякуй, — сказала Эмілі. — Вы заставайцеся ў сваім крэсле, а я прысяду на ложак.

Яна ўсміхнулася.

— Абстаноўка здаецца вельмі знаёмай. У маім пакоі ўсё гэтак жа сама.

— На жаль, гэта так, — сказала місіс Ален, прысаджваючыся ў сваё крэсла. — Я ўвесь час кажу гаспадыні, што людзі не адчуваюць сябе як дома, калі ўсе пакоі аднолькавыя. Але яна сцвярджае, што гэта мэбля з клёну танная і лёгка чысціцца.

— У вас лепей, чым у іншых пакоях, — сказала Эмілі. — Тут утульней, чым у маім.

— Я тут ужо тры гады, — сказала місіс Ален. — А вы каля месяца, ці не так?

— Шэсць тыдняў, — сказала Эмілі.

— Гаспадыня расказвала пра вас. Ваш муж у арміі.

— Так. Я працую тут у Нью-Ёрку.

— Мой муж таксама быў у арміі, — сказала місіс Ален.

Яна паказала на фатаграфіі, што стаялі на камодзе.

— Гэта, вядома, было даўным-даўно. Цяпер ужо амаль пяць гадоў як яго няма.

Эмілі ўстала і падышла да фатаграфій. З адной на яе глядзеў высокі, годны з выгляду чалавек у вайсковай форме. На астатніх былі дзеці.

— Ён быў вельмі станістым мужчынам, — сказала Эмілі. — Гэта вашы дзеці?

— На жаль, у нас не было дзяцей, — сказала пажылая жанчына. — Гэта пляменнікі і пляменніцы майго мужа.

Эмілі стаяла насупраць шафы, аглядаючы пакой.

— Я бачу, у вас таксама ёсць кветкі, — сказала яна. Эмілі падышла да акна і стала разглядаць шматлікія гаршкі.— Я люблю кветкі, — працягвала яна. — Я купіла вялікі букет астраў сёння, каб зрабіць свой пакой ярчэйшым. Але яны так хутка вянуць.

— З гэтай прычыны я аддаю перавагу раслінам у гаршках, — сказала місіс Ален. — Кажуць, калі пакласці таблетку аспірыну ў ваду, кветкі будуць стаяць даўжэй.

— Мусіць, я нічога не ведаю пра кветкі, — сказала Эмілі. — Я, напрыклад, першы раз чую пра аспірын.

— Я заўсёды кладу яго ў вазу са зрэзанымі кветкамі, — сказала місіс Ален. — Мне здаецца, з імі пакой выглядае больш прыязным.

Эмілі пастаяла хвіліну, разглядаючы выгляд з акна: пажарныя ўсходы насупраць, кавалачак вуліцы ўнізе. Потым яна набрала болей паветра і павярнулася.

— На самай справе, місіс Ален, — загаварыла яна. — Я да вас зазірнула з пэўнай мэтай.

— Хіба вы прыйшлі не пазнаёміцца? — усміхнулася місіс Ален.

— Шчыра кажучы, я проста не ведаю, што мне рабіць, — сказала Эмілі. — Я б не хацела казаць пра гэта гаспадыні.

— Гаспадыня не зможа дапамагчы ў неспадзяванай сітуацыі, — заўважыла місіс Ален.

Эмілі зноў села на ложак і ўважліва паглядзела на гэту мілую бабулю.

— Гэта не так ужо сур'ёзна, — сказала яна. — Але нехта бывае ў маім пакоі.

Містара Ален падняла вочы.

— У мяне знікаюць рэчы, — працягвала Эмілі. — Хусткі і танная біжутэрыя. Нічога істотнага. Але ўсё ж нехта бывае ў маім пакоі і гаспадарыць там.

— Так сумна гэта чуць, — паспачувала місіс Ален.

— Разумееце, я не хачу падымаць шум, — сказала Эмілі. — Проста нехта ходзіць у мой пакой. Але нічога каштоўнага не знікла.

— Разумею, — азвалася місіс Ален.

— Я заўважыла гэта некалькі дзён таму. А ў мінулую нядзелю я спускалася з даху і ўбачыла, што нехта выходзіць з майго пакоя.

— Вы каго-небудзь падазраяце? — спытала місіс Ален.

— Мяркую, так, — адказала Эмілі.

Місіс Ален памаўчала хвіліну.

— Я так разумею, вы не збіраецеся казаць гаспадыні? — сказала яна нарэшце.

— Безумоўна, не збіраюся, — сказала Эмілі. — Я проста хачу, каб гэта спынілася.

— Вядома, — сказала містара Ален.

— Разумееце, гэта значыць, што ў некага ёсць ключ ад маіх дзвярэй, — жаласліва вымавіла Эмілі.

— Усе замкі ў гэтым доме аднолькавыя, — сказала місіс Ален. — Старыя.

— Гэта павінна спыніцца, — сказала Эмілі. — Калі гэтага не адбудзецца, мне давядзецца штосьці з гэтым рабіць.

— Я вас разумею, — сказала місіс Ален. — Сітуацыя вельмі непрыемная.

Яна ўстала.

— Прашу прабачыць мяне, — працягвала гаспадыня пакою. — Я хутка стамляюся і таму іду спаць рана. Я рада, што вы зазірнулі да мяне.

— Я рада нарэшце пазнаёміцца з вамі, — сказала Эмілі.

Яна пайшла да дзвярэй.

— Спадзяюся, мне не давядзецца больш турбавацца, — сказала яна. — Дабранач.

— Дабранач, — сказала місіс Ален.

Увечары наступнага дня, калі Эмілі вярнулася з работы, з камоды зніклі пара танных завушніц і дзве пачкі цыгарэт. Увесь вечар яна сядзела ў сваім пакоі ў адзіноце і разважала. Потым напісала ліст мужу і лягла спаць. Наступнай раніцай яна ўстала, апранулася і спусцілася ў аптэку на рагу вуліц, каб патэлефанаваць у офіс з тэлефоннай будкі. Жанчына сказала, што прыхварэла і не зможа прыйсці. Потым Эмілі вярнулася ў свой пакой. Амаль цэлую гадзіну яна прасядзела з прычыненымі дзвярамі, пакуль не пачула, што місіс Ален выходзіць з пакоя, а потым марудна спускаецца па лесвіцы. Крыху пачакаўшы, Эмілі зачыніла свой пакой і, трымаючы ў руцэ ключ, спусцілася да дзвярэй суседкі.

Яна думала: «Калі хто-небудзь зойдзе, зраблю выгляд, што пераблытала паверхі».

Калі яна адчыніла дзверы, то ёй на хвіліну здалося, што яна сапраўды ў сваім пакоі. Ложак быў

акуратна запраўлены, было цёмна. Эмілі пакінула дзверы незамкнёнымі, увайшла і рассунула шторы. Цяпер можна было агледзецца. У яе было пачуццё невыноснай сувязі з місіс Ален, і нават з'явілася думка, што, мусіць, такое самае пачуццё мае суседка ў яе пакоі.

Усё было проста і чыста. Спачатку яна зазірнула ў камору, але там было толькі блакітнае хатняе адзенне місіс Ален і дзве немудрагелістыя сукенкі. Эмілі падышла да камоды. На секунду яна спыніла погляд на фатаграфіі мужа місіс Ален, потым адкрыла скрыню і зазірнула ў яе. Тут яна ўбачыла свае акуратна складзеныя хусткі, а побач цыгарэты і завушніцы. Збоку сядзеў маленькі парцэлянавы сабачка. «Усё тут, — падумала Эмілі. — Усё на месцы і ў поўным парадку».

Яна зачыніла гэтую скрыню і адкрыла дзве іншыя. У абодвух пуста. Яна зноў адкрыла верхнюю. Апроч яе рэчаў тут былі пара чорных баваўняных пальчатак, а пад яе хусткамі такая ж белая пара. Яшчэ была ўпакоўка сурвэтак і аспірын. «Для раслін», — падумала Эмілі.

Яна пералічвала хусткі, калі шум ззаду прымусіў яе павярнуцца. Місіс Ален стаяла ў дзвярах і без слоў глядзела на яе. Эмілі апусціла хусткі назад і адышла. Яна ўся счырванела; рукі задрыжэлі. «Зараз, — думала яна. — Зараз павярніся і скажы ёй».

— Паслухайце, місіс Ален, — сказала яна і запнулася.

— Слухаю, — спакойна сказала місіс Ален.

Нечакана для сябе Эмілі паглядзела на фатаграфію мужа місіс Ален. «Які задуменны позірк, — падумала яна. — Пэўна, яны правялі разам выдатнае жыццё, а зараз яна жыве ў такім жа пакоі, як мой, а ў шафе ў яе толькі дзве пары пальчатак».

— Слухаю, — паўтарыла місіс Ален.

«Што яна хоча, каб я сказала? — падумала Эмілі. — Якога адказу ў такой сітуацыі можа чакаць інтэлігентная лэдзі?»

— Я прыйшла, — няўпэўнена пачала Эмілі.

«У мяне самой голас гучыць, быццам у лэдзі», — падумала яна.

— У мяне моцна балела галава і я спусцілася папрасіць таблетку аспірыну, — хутка прагаварыла яна. — Боль быў проста жудасны, і калі выявілася, што вас няма дома, я вырашыла, што вы не будзеце супраць, калі я вазьму аспірын.

— Прашу прабачэння, — сказала місіс Ален. — Але я рада, што вы лічыце мяне такой добрай знаёмай.

— Я б ніколі не падумала ўваходзіць, — сказала Эмілі. — Калі б не гэты моцны боль.

— Вядома, — сказала місіс Ален. — Давайце болей не будзем пра гэта.

Яна падышла да камоды і адкрыла скрыню. Эмілі стаяла каля яе і глядзела, як жанчына прабеглася вачамі па змесціве і ўзяла аспірын.

— Прыміце дзве таблеткі і кладзіцеся спаць, — параіла місіс Ален.

— Дзякуй, — Эмілі накіравалася да дзвярэй. — Вы былі вельмі добрай.

— Скажыце мне, калі раптам яшчэ спатрэбіцца мая дапамога.

— Дзякуй, — паўтарыла Эмілі, адчыняючы дзверы.

Яна пастаяла з хвіліну і пакрочыла да лесвіцы.

— Я зазірну пазней, — паабяцала місіс Ален. — У адведзіны.

*Пераклад з англійскай Дар'і Шостак*

Крыніца: https://loa—shared.s3.amazonaws.com/static/pdf/Jackson_Trial_by_Combat.pdf

# Эліза Ажэшка: жанчына vs жанчыны?



Гісторыя жаночага руху супраць дыскрымінацыі ў грамадстве досыць працяглая. Асабліва актыўна жанчыны пачалі змагацца за свае правы ў другой палове XIX стагоддзя, што праз пэўны час дало дзейсныя вынікі: у прыватнасці, у многіх краінах, сярод якіх Фінляндыя, Германія, Польшча, Канада, ЗША, жанчыны атрымалі права голасу на выбарах. Зразумела, у баку ад прагрэсіўнага для XIX стагоддзя «руху за эмансіпацыю» не магла знаходзіцца літаратура і ў прыватнасці публіцыстыка. Як ні дзіўна, але ў рэагаванні мастацтва на феміністычную праблематыку ў тагачасным грамадстве, пазначаным «мужчынскай» ідэалогіяй, «мужчынскім шавінізмам», прыярытэтнае месца належыць пісьменніцам-жанчынам, як з заходнееўрапейскіх, так і славянскіх краін. У гісторыка-літаратурнай традыцыі Польшчы другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя адметнае месца належыць Элізе Ажэшка, якая ў сваёй творчай дзейнасці не раз звярталася да праблем эмансіпацыі ў розных этыка-сацыяльных аспектах.

Вядомую пісьменніцу, ураджэнку беларуска-польскага паграніччa, вельмі хвалявалі лёс жанчыны ў сучасным ёй свеце, пытанні яе незалежнасці і самадастатковасці, пра што сведчаць і некаторыя яе артыкулы, надрукаваныя ў тагачаснай перыёдыцы, і шматлікія мастацкія творы, адной з галоўных тэм у якіх з'яўляецца сцвярджэнне чалавечай і грамадзянскай годнасці жанчыны, яе барацьба за права заняць сваё, годнае месца ў жыцці тагачаснага грамадства. Сярод такіх твораў асабліва вылучаюцца раманы «Апошняе каханне» («Ostatnia miłość»), «Пан Граба» («Pan Graba»), «Дзённік Вацлавы» («Pamiętnik Wacławy»), «Марта» («Marta»), «Пані Антаніна» («Panna Antonina»). Так, напрыклад, у «Апошнім каханні» распрацоўка жаночай тэмы спалучаецца з тэмай выхавання новага чалавека, у адпаведнасці з пазітывісцкай ідэалогіяй прапагандуецца культ ведаў, грамадскай карыснасці. Вобраз жонкі пана Грабы Камілы з аднайменнага рамана афарбоўвае жаночую тэму пад пяром пісьменніцы драматычным гучаннем. У трохтомным «Дзённіку Вацлавы» ў кантэксце сацыяльнай крытыкі падаецца гісторыя жыццёвай і светапогляднай эвалюцыі маладой дзяўчыны, яе складаныя пошукі месца ў грамадстве. «Марта» задумвалася Элізай Ажэшка як своеасаблівы «маніфест эмансіпацыі»: у рамане галоўным дзейным персанажам выступае жанчына-працаўніца, а не традыцыйныя для літаратуры Еўропы вобразы-лялькі з арыстакратычнага салону. У гэтым творы пісьменніца ўзнімае праблему жаночай працы, жорсткай эксплуатацыі жанчыны ў буржуазным грамадстве. Такім чынам, бытавыя і маральна-этычныя пытанні жыцця жанчыны польская пісьменніца часта падавала на шырокім сацыяльным фоне, з выразным псіхалагічным акцэнтам. Тэма жанчыны спрыяла пашырэнню тэматыкі і праблематыкі ў творчасці Элізы Ажэшка, дэмакратызацыі яе светапогляду і тагачаснай літаратуры ў цэлым, сцвярджэнню гуманістычных прыярытэтаў, актывізавала зварот да ідэі нацыянальна-класавай кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных колаў польскага грамадства.

Прапанаваны шаноўнаму чытачу пераклад фрагмента з аб'ёмнага нарыса Элізы Ажэшка

«Некалькі слоў пра жанчын» («Kilka słów o kobietach», Lwów, 1873) дасць магчымасць убачыць цікавую пазіцыю пісьменніцы адносна акрэсленай праблемы, актуальнасць якой відавочная і зараз, што, безумоўна, будзе спрыяць рэканструкцыі жаночай літаратурнай традыцыі ў славянскіх краінах, а таксама замацаванню «жывога», непрыглянцаванага вобраза класіка польскай літаратуры.

*Мікалай Хмяльніцкі*

# Некалькі слоў пра жанчын

*Урывак з публіцыстычнага нарыса Элізы Ажэшка*

Паглядзім на мноства маральных і матэрыяльных бед, што псуюць палову людскога грамадства, на змарнелыя ў непатрэбстве розумы і сапсаваныя ў бяздзеянні сэрцы багатых жанчын, на збляднелыя нястачай твары і паніклыя ў боязі за будучыню маральныя сілы бедных жанчын, і забыўшы пра Львіц і Піфій, якія ўсё радзей з'яўляюцца і будуць з'яўляцца сярод нас, паразважаем, ці гэтыя істотныя і бясспрэчныя няшчасці, якія ўсё кідаюцца нам у вочы, не зможа папярэдзіць ці хоць бы часткова зменшыць трапна зразумелая і прыменена на практыцы эмансіпацыя жанчын.

Слова толькі падкрэслівае ідэю: калі ўжо яно існуе, значыць, у грамадстве павінна быць паняцце, якое дала яму нагоду для існавання. У сваю чаргу кожнае паняцце нараджаецца з глыбокага дыхання, якое плыве з улоння чалавецтва тады, калі гэтае чалавецтва патрабуе і прагне чагосьці, і імкнецца да здзяйснення сваіх жаданняў і задавальнення сваіх патрэб.

А выраз «эмансіпацыя жанчын» паўстаў з паняцця пра існуючую ў грамадстве патрэбу скідання з жанчын нейкага ярма, вызвалення іх ад нейкіх ланцугоў, якія абцяжарваюць іх.

Якое ярмо патрабуюць зняць з сябе жанчыны? З якіх звёнаў скаваныя кайданы, якіх яны хочуць пазбавіцца? Гэтым ярмом павінна быць, як некалі лічылася, тыранія мужчын, гэтых катаў, што сваёй фізічнай сілай сцвярджаюць перавагу перад жанчынамі. Але так сцвярджалася калісьці, а сёння фальшывае ўяўленне пра тыранію мужчын у дачыненні да жанчын выпрабаваў таксама і лёс: «чапля на высокіх нагах». Гэта нудой усыпіла тых, хто слухаў, а потым перастала ўсіх займаць. Сёння кожны разважлівы чалавек, а яшчэ і кожная разважлівая жанчына добра ведае, што гэты жорсткі, некалі такі нашумелы мужчынскі род, — звычайная група людзей, вялікіх і малых, благіх і добрых.

Сёння ўсе разважлівыя людзі ведаюць, што, прынамсі, у адукаваным грамадстве мужчыны абсалютна не з'яўляюцца тыранамі ў дачыненні да жанчын, а калі паміж іх знойдзецца нейкі спадкаемца жорсткага ката па імені Сіняя Барада, што так жахліва мучыў сваіх жонак, то таксама варта памятаць, што і сярод прыгожага полу бываюць спадарыні, якія маюць у пантофліках жалезныя падкоўкі. Ды такія, што пра іх адзін раманатворца пісаў наступнае: «Спадар палкоўнік выведзе на шпацыр сабачак спадарыні палкоўнічыхі». (Другая жонка Кажанеўскага).

Але калі мужчыны не з'яўляюцца тыранамі ў дачыненні да жанчын, што ж утварае тое ярмо, што абцяжарвае прадстаўніц прыгожага полу? Сямейнае жыццё? Абавязкі і штодзённая занятасць жыцця гаспадыні? Але ж сямейнае жыццё — гэта краевугольны камень звычаяў, на якія абапіраецца гмах грамадскага парадку і публічнай маралі, гэта ціхі асвечаны храм, у якім жанчына хаваецца ад непагадзяў свету, якія б яе, што самотна крочыць, абавязкова б мусілі закрануць; сямейнае жыццё для жанчыны — крыніца гарачых нявінных радасцяў, гэта дарога, ідучы па якой, нават калі і стоміцца, пахіснецца, яе падтрымае мужчынская любячая далонь, умацуе і ўздыме ўсмешка дзіцяці і ціхая песня над яго апетай калыскай! Без сям'і няма адукаванага і маральнага грамадства, без сям'і няма мужоў, з дзяцінства гадаваных у любові да краю і дабрачыннасці, няма нявест, з дзяцінства прывучаных да людскіх і грамадскіх пачуццяў.

У сям'і ляжаць найважнейшыя абавязкі, найузнёслейшыя заданні і найчысцейшае шчасце жанчыны. Дзе ж тады ярмо, дзе кайданы, што абцяжарваюць жанчыну, калі імі нельга лічыць ані ўжо абсалютна неіснуючую сёння тыранію мужчын, ані святых і мілых заданняў сямейнага жыцця? А ўсё ж такі ёсць у чалавецтва паняцце, што жанчынам патрэбна эмансіпіравацца з-пад нейкіх ланцугоў, якія не дазваляюць ім стаць тым, чым яны павінны стаць для свайго дабрабыту і для ўсяго наогул.



Кабінет Элізы Ажэшка ў яе Доме-музеі.

Бываюць на свеце сем'і, у якіх адно дзіця прыходзіць на свет прыгожае, але слабае і кволае. Бацькі з захапленнем углядаюцца ў бледнае аблічча дзіцяці, а бачачы ягоную слабую і кволую постаць, атуляюць яго наймацнейшай пяшчотай і мноствам клапатлівых перасцярог, не дазваляюць яму самастойна зрабіць крок, хаваюць яго ад сонечных прамянёў і ад марозных павеваў. Для яго найвытанчанейшая, але найменш карысная ежа; прысмакі, што смакуюць паднябенню, але пры гэтым нездаровыя; для яго і цацка — бразготкі, зіхатлівыя забаўкі; няхай прыгожае і слабенькае дзіцятка бавіцца, і апроч таго, хай не працуе!

Няхай не працуе, бо праца і здароўю нашкодзіць можа, і схіліць ладненькую галоўку ці зморшчыць мармуровы лобік.

Навошта прыгожаму дзіцяці ўнутраныя вартасці? Ужо само прывабнае аблічча здолее захапіць усіх і пракладзе роўную дарогу жыцця перад ім. Навошта слабаму дзіцяці праца? Ён мае моцных братоў, якія для яго будуць працаваць. І вырастае ўлюбёны дзіцёнак, а ў пяшчоце яго кволая фізічная сіла, замест таго, каб узмацняцца, хутчэй слабее. Акружанага зіхатлівымі забаўкамі дзіця называюць боствам, найладнейшым стварэннем прыроды, а ён у выніку становіцца няўмелай, пустой істотай, што не мае ў сабе нічога людскага, апроч знешняга выгляду.

Каму ж не здаралася бачыць у свеце мноства падобным чынам распешчаных дзетак, улюбёнцаў сваіх бацькоў?

Такім прыгожым і раздураным дзіцёнкам грамадства з'яўляецца жанчына. Яна прыйшла на свет прыгожая і слабая, і маці-грамадства зрабіла з ёй тое, што з наймілейшым дзіцёнкам робяць неразважлівыя бацькі: пяшчотай яшчэ больш аслабіла яе фізічную сілу, гультайствам і зіхатлівымі забаўкамі сапсавала яе мараль.

Часам жанчыны няслушна кажуць, што яны пакрыўджаныя грамадствам; так, яны занадта распешчаныя і ўзнесеныя, толькі што гэтае аднабаковае і бессэнсоўнае ўзвышэнне іх у большасці сваёй выходзіць бокам, бо ўзносіць іх у анёльскія сферы, а людскім дарогам не вучыць, бо ў паклоне перад іх знешняй прыгажосцю схіляюцца людскія галовы, але паклоны гэтыя зніштажаюць іх людскі бок, дзякуючы якому яны самі сабой маглі б ганарыцца і быць моцнымі.

У гэтым і ёсць ключ да адкрыцця таямніцы выразу «эмансіпацыя жанчын».

Не ад прывіднай тыраніі мужчын, не ад святых і радасных абавязкаў сямейнага жыцця, не ад будзённасці і прастаты — ад фізічнай слабасці, больш навязанай і выдуманай, як прадугледжанай прыродай, ад недахопу маральных высілкаў на самастойнае і лагічнае жыццё, ад прысягання на вернасць вечнаму маленству і анёльству, ад чакання кавалка штодзённага хлеба з чужой рукі, ад вечнага закрыцця перад імі дарог сур'ёзнай і карыснай працы, маюць і павінны эмансіпіравацца жанчыны.

*Пераклад з польскай Аліны Агрэніч*

Крыніца: http://wolnelektury.pl/katalog/lektura/kilka-slow-o-kobietach

**Наступныя старонкі можна падаваць пад якім заўгодна публіцыстычным соусам брэнда «Маладосць»: і як «Літаратурнае падарожжа», і з ярлычком «Гісторыя і постаці», і ў якасці нататак «З вандроўкі», і пад шыльдачкай «Інтэрв'ю». Яны перамяшчаюць чытача і ў прасторы, і ў часе, і па радочках мастацкіх твораў, і па таемных куточках душы, і за межы магчымага. Але гэтыя дзве размовы, якія адбыліся ў Гродне, пададзены пад шыльдай «З нагоды». Бо ёсць для іх сапраўды вартая, цудоўная нагода — юбілей гарадзенкі Элізы Ажэшка.**

**З дырэктарам навуковай бібліятэкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Мікалаем Грынько і выкладчыкам кафедры польскай філалогіі названага ўніверсітэта, доктарам філалагічных навук, прафесарам Святланай Мусіенка гутарыць галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава.**

## Святлана Мусіенка: «Мала такіх пісьменнікаў»



**— Якой вы хочаце, каб атрымалася размова?**

— Мяне цікавіць, ці магчыма ўбачыць Элізу Ажэшка праз паўтара стагоддзя такой, якой яна была... «У паліто і капялюшыку», так бы мовіць. Я хачу ўбачыць яе жывой...

**— Тады вы ўбачыце яе жывой, літаральна зараз.**

### Успамін пра ўспаміны

— Гэта было ў 1892 годзе. Відавочна, 5-га або 6-га чэрвеня. Эліза Ажэшка адзначала двайны юбілей — 50 гадоў з дня нараджэння і 25 гадоў літаратурнай творчасці. Сапраўдны год яе нараджэння — 1841-ы. Ну, але кожная кабета мае сваю слабасць, і Эліза Ажэшка лічыла годам свайго нараджэння 1842-гі. Цікавая тут назіраецца рэч. Зоф'я Налкоўская, яшчэ адна выдатная пісьменніца, у пэўным сэнсе паслядоўніца Элізы Ажэшка — хаця б таму, што палюбіла Гродна ўсім сэрцам і прысвяціла гэтаму гораду лепшыя старонкі сваёй творчасці, — нарадзілася ў 1884-м, а лічыла годам нараджэння 1885-ы. Зноў жа, ці слабасць кабеты, ці слабасць пісьменніцы — як паглядзець. Але я не выпадкова хачу пачаць размову з успамінаў пра той урачысты прыём. Значыцца, 1892 год, пачатак чэрвеня. Дом Станіслава Нагорскага, у якім жыла тады пісьменніца, стаяў трошкі бліжэй да бруку, чым цяпер. Вуліца вяла ад вакзала да цэнтра горада, называлася спачатку пяшчотна па-польску: Roskosz — «задавальненне», «прыемнасць», пасля (і, як мне здаецца, падчас святкавання юбілею Ажэшкі) — Мураўёўская. Мураўёў быў генерал-губернатарам Гродна, які любіў гаварыць, што ён не той Мураўёў, якога павесілі, а той, які вешаў сам. Таму што гэта ён задушыў у 1863 годзе паўстанне, ад якога якраз і пачалася дарослая, я б сказала, трагічная біяграфія Элізы Ажэшка.

Вы зараз убачыце пісьменніцу такой, якой яе ўбачылі прадстаўнікі польскай дэмакратычнай моладзі, што прысутнічалі на гэтым przyjęciu, на гэтым балі. Сярод іх была вось гэтая прыгожая *(Святлана Мусіенка паказвае на партрэт, што вісіць на сцяне ў музеі Зоф'і Налкоўскай, дзе адбываецца размова)* чарнявая жанчына, якую звалі Стэфанія Сэмпалоўская. Выдатная дэмакратка, прадстаўніца камуністычнага руху, значная фігура ў палітыцы і ідэалогіі левай Польшчы мяжы XIX — XX стагоддзяў. Яе даволі падрабязныя ўспаміны пра Элізу Ажэшка былі надрукаваны ў зборы твораў, але вельмі рэдка ўжываюцца. Я нават не ведаю чаму. Мо таму, што змяніліся

часы, і пра дзеячаў дэмакратычнага кірунку цяпер менш гаворыцца. Да таго ж, яны толькі аднойчы выдаваліся. Прычым, яна дыктавала гэтыя ўспаміны сваёй сакратарцы, калі ўжо памірала… Дык вось пра тое, як яна ўбачыла Элізу Ажэшка. Усім тут кіраваў другі муж Элізы, гродзенскі адвакат, вельмі вядомая ў горадзе асоба. Ён вёў і судовыя справы самой Элізы. Звалі яго Станіслаў Нагорскі. І калі пра першага мужа Эліза сказала, што яна яго не кахала, то другі яе муж быў, мне здаецца, вельмі каханы. Гэта быў свядомы саюз ужо немаладых людзей. Толькі ён быў кароткі, гэты саюз: Станіслаў Нагорскі хутка памёр.

Урачысты прыём адбываўся ўнутры дома — там, дзе была іх парадная зала. Эліза Ажэшка прымала зычэнні. А на падворку, на беразе Гараднічанкі, якая цячэ і цяпер, стаялі сталы з пачастункамі, і ўсе месцы за імі былі распісаны po nazwiskach і па рангу знатнасці запрошаных асоб. Людзей было вельмі многа. Сабраліся пісьменнікі з розных краін, далёкія і блізкія сябры. І была дэлегацыя моладзі з Вільні. І ў гэтай дэлегацыі — яна, будучая вядомая дэмакратка Стэфанія Сэмпалоўская, зусім яшчэ маладая. У першую чаргу ёй было цікава, як Эліза Ажэшка wygląda. Па ўспамінах Стэфаніі, Эліза была невысокага росту, але з вельмі высокай прычоскай, у якую быў уплецены букет кветак ліловага колеру. І такога ж колеру, з таго ж матэрыялу была на ёй сукенка. Відавочна, ёй падабаўся гэты колер, і яна выглядала вельмі прыгожа. Заўважалася парода гэтай жанчыны. Яна ж не была прыгажуняй, як мы бачым на фотаздымках. Але відаць яе арыстакратычны «лоск». І вось на гэтым прыёме з аднаго боку — Стэфанія Сэмпалоўская, а з другога —шматлікая дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў. Якім чалавекам была сама Стэфанія Сэмпалоўская? Вельмі прыгожая жанчына, яна ўсё сваё жыццё насіла жалобную сукню, бо яе нарачоны з прычын палітычных скончыў жыццё самагубствам. Тады, у 1892 годзе, яна папракнула Ажэшку ў тым, што тая надае шмат увагі шаноўным гасцям і мала заўважае моладзь. І юбілярка пасля свята спецыяльна прыехала ў Вільню, каб сустрэцца там з дэмакратычнай моладдзю, якой не магла на юбілеі даць больш увагі. Вось такой была першая сустрэча палітычнай дзяячкі-пачаткоўкі і выдатнай пісьменніцы.



Камін і люстэрка яшчэ памятаюць сваю гаспадыню.

Стэфанія ўспамінае яшчэ адну вельмі цікавую рэч. Усе, як адзін, госці былі апрануты, зразумела, святочна: мужчыны — у фракі, кабеты — у балёвыя сукенкі. І раптам яна ўбачыла чалавека, абутага ў сялянскія боты і апранутага ў простую світку. І вельмі было дзіўна бачыць, як гэты чалавек стаў, як рыцар, на адно калена, пацалаваў Элізе руку, разгарнуў скрутак і пачаў на беларускай мове чытаць: «Яснавяльможнай пані Арэшчысе». Ён падарыў ёй свой верш. Гэта быў, як ведаем, Францішак Багушэвіч, вельмі блізкі сябра Элізы Ажэшка. Апрача таго, Стэфанія ўспамінала, як яна з Багушэвічам сталі дзесьці ў куточку параднай залы, і ён расказаў пра лёс беларусаў і беларускую літаратуру, пра адносіны Ажэшка да беларусаў. Сэмпалоўская пазней гаварыла, што гэта было яе першае спатканне з беларускай

культурай. Мне б хацелася яшчэ раз звярнуць увагу на гэтую пару, якая стаяла ў куточку. Ён у сваёй творчасці з незвычайнай чуласцю паказаў не толькі выдатную пісьменніцу, але і добрага да простага люду, да беларусаў чалавека. А яна, маладая прыгажуня, будзе змагацца за лепшую долю людзей, будзе звяртацца да Пілсудскага з патрабаваннем захоўваць правы палітычных вязняў гродзенскай турмы. А тады, у дзень юбілею Ажэшка, яны гаварылі пра тое, як цяжка развівацца літаратуры, бо забаронена была не толькі польская, але і беларуская мова, і што ён — беларускі шляхціч, і што вельмі ганарыцца сваім знаёмствам з Элізай Ажэшка і тым, што яна матэрыяльна і маральна падтрымлівае беларускую культуру. Успаміны Стэфаніі Сэмпалоўскай цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, цяжка пераацаніць, бо яны сведчаць аб тым, як жыла гродзенская інтэлігенцыя, якую цану плаціла яна за сваю смеласць, прынцыповасць і абарону людзей.

Мне б хацелася яшчэ адну рэч тут успомніць. З таго ж прыёму. На ім прысутнічала і дэлегацыя яўрэяў. Таксама шматлікая. Яны прынеслі ў падарунак пані Элізе яе твор — кніжку «Меір Эзафовіч». Гэты раман, мне здаецца, быў вялікай з'явай у літаратуры. Чаму? Таму што большасць твораў пра яўрэяў звязвалася з пагромамі, пераследам і ўціскам іх, а Эліза Ажэшка падышла да праблемы яўрэйства з зусім іншага боку. Да таго ж, яна паказала выдатнае веданне і Торы, і біблейскіх сюжэтаў, і асаблівасцяў жыцця яўрэяў вось тут, на нашых, наднёманскіх землях. Кніга, якую падарыла ёй яўрэйская дэлегацыя, была выдадзена спецыяльна да ўрачыстасцяў, і супервокладка яе была са срэбра. Кажуць, што выданне засталося, а супервокладка знікла бясследна.

## З Эрнестам Хемінгуэем і Генрыхам Манам

— Можна сказаць, што Эліза Ажэшка як пісьменніца належыць многім народам. Рускія лічаць яе сваёй, бо яна дазваляла пераклады на рускую мову сябрам у Санкт-Пецярбургу. Салтыкоў-Шчадрын, вельмі скупы на пахвалу, сказаў, што Элізе Ажэшка належыць адно са значных месцаў у сусветнай літаратуры. Выразным прыкладам яго адносін да творчасці Ажэшка быў яго водгук на апавяданне пісьменніцы, змешчанае ў «Отечественных записках»: «Кожнае слова гэтага апавядання дыхае праўдаю. Спадзяюся, што гэтае чытанне абудзіць добрыя, здаровыя разважанні і прымусіць задумацца аб лепшым, чалавечным значэнні гэтага слова». Гэта вельмі важныя словы. Украінскі паэт, сучаснік Элізы Ажэшка, трохі за яе малодзейшы, Іван Франко напісаў ёй у лісце на ўкраінскай мове, што яна для яго «зорка першай велічыні». Ну, і Францішак Багушэвіч: «А ты, пані, смела заглянула ў хату, усё зразумела і нашаму брату працягнула руку…» Вось што асабліва важна: працягнула руку. І не выпадкова ў гэты самы час творыцца беларускі нацыянальны тэатр, і Эліза Ажэшка з Ігнатам Буйніцкім робяць адаптацыю апавядання «У зімовы вечар» пад тэатральную пастаноўку. Гэта адзін з першых яе твораў. Далей былі розныя, але гэты, першы, вельмі важны для дзвюх культур — польскай і беларускай.

Мне здаецца, што мала такіх пісьменнікаў, якіх іншыя народы лічаць сваімі. Я налічыла на Зямлі толькі трох: Генрыха Мана, якому французы далі права грамадзянства і лічылі сваім пісьменнікам за дылогію аб каралю Генрыху VIII, і Эрнеста Хемінгуэя, якога сваім лічаць кубінцы — за твор «Стары і мора», і да гэтай пары ў той кавярні, дзе ён любіў сядзець і пісаць, вісіць яго партрэт. З Элізай Ажэшка адбываецца тое самае: на гродзенскай зямлі створаны своеасаблівы культ пісьменніцы, і няма значэння, паляк ты ці беларус, яна для кожнага — «наша пісьменніца», пісьменніца наднёманскага краю. А нацыянальнасцяў тут было шмат…

## Хацела жыць як асветніца

— Мне здаецца, як пісьменніца яна была шчаслівая. Бо ведала, што яе любяць і прымаюць. Вось тут ёсць фотаздымак з пахавальнай працэсіі *(Святлана Мусіенка паварочваецца да музейнага стэнда, прысвечанага памяці пра Элізу Ажэшка)* і побач — здымак, зроблены ў дзень адкрыцця помніка. 1910-ы і 1929-ы: і тут, і тут — поўна народу. Чытаючы ўспаміны пра пахаванне і гледзячы на фотаздымак, я заўсёды ўяўляю, што гэта сышлі са старонак твораў усе яе героі, жыхары Наднёмання, каб у апошнюю дарогу праводзіць сваю пісьменніцу. Няшмат такіх пісьменнікаў

на Зямлі, каго б вось так любілі людзі. Вуліца, на якой яна жыла, і цяпер брукаваная. А тады і дом стаяў да яе бліжэй. У Элізы Ажэшка часта і вельмі моцна балелі галава і сэрца, ёй цяжка было слухаць, як ідуць па бруку коні і грукочуць колы. Дык ад скрыжавання да канца вуліцы простыя людзі выслалі дарогу саломай. Гэта агульнавядомы факт. Але не агульнавядомы факт, што яна любіла сядзець каля акна і глядзець на гэтую вуліцу.

А як чалавек яна не была шчаслівая. Яна вельмі любіла свайго бацьку. Ёй здавалася, што яна яго памятае, хоць ёй было толькі два гады, калі ён памёр. Проста аўра гэтага бацькі засталася з дачкою на ўсё яе далейшае жыццё. Ён быў вальтэр'янец, значыцца — дэмакрат. Свядома прымаў прынцыпы Вялікай французскай рэвалюцыі, хоць сам быў дваранінам. Ён не быў нашым земляком, Мількаўшчыну ён купіў. І не проста пабудаваў тут дом, але стварыў сямейнае гняздо, вельмі такое… цікавае. Дом напаўнялі добрыя карціны і добрыя кнігі, у прыватнасці, французскія, дэмакратычнага кірунку. Вось так стваралася тая аўра. І бабуля шмат апавядала маленькай Элізе пра яе бацьку, свайго зяця, якога вельмі любіла, бо хто ж яго не любіў бы? А жонка, мне здаецца, была для яго занадта маладой і не паспела зразумець, хто з ёю побач. Мо таму і склалася жыццё гэтай сям'і пасля смерці бацькі Элізы так няўдала: разышліся між сабой гэтыя людзі. Элізу паслалі ў Варшаву — і на працягу пяці гадоў навучання ў пансіёне ніхто з сям'і да яе не прыязджаў. Як пачувала сябе дзяўчынка, лепшая вучаніца? Яна тады пачала пісаць вершы. Мы б іх і не ведалі, калі б не польскі культурны дзеяч, вельмі вядомы ажэшказнаўца Эдмунд Янкоўскі, з якім я, на жаль, толькі па тэлефоне гаварыла, калі ён ужо хварэў, незадоўга да смерці. Вершы тыя нідзе, вядома ж, не друкаваліся, а былі запісаны ў альбоме сяброўкі. І сяброўка даслала іх Янкоўскаму, калі той працаваў над кнігай. І што яшчэ цікава. Эліза рэгулярна дзённіка не вяла. Але нейкія запіскі, інтэрв'ю, успаміны — гэта ўсё існавала, у раскіданым выглядзе, і ён гэта па кропельках збіраў. І ўвёў у сваю кніжку. Тоўстых кніжак пра Элізу Ажэшка шмат, але з такой канцэнтрацыяй матэрыялу, мне здаецца, толькі дзве — у Эдмунда Янкоўскага і Юзафа Бахужа, прафесара Гданьскага ўніверсітэта, майго сябра, які яшчэ, дзякуй Богу, жывы і здаровы. Юзаф Бахуж знайшоў нават рукапіс рамана «Над Нёманам», які лічыўся страчаным. І да акадэмічнага выдання гэтага рамана напісаў больш чым на сто старонак уступны артыкул, які вельмі дарагога каштуе, таму што ў ім сабраны ўсе магчымыя даследаванні вакол асобы Элізы Ажэшкі і прадстаўлены вельмі цікавы погляд на яе творчасць.

Дык вось, пяць гадоў самотнае дзяўчо ў варшаўскім пансіёне пісала вершы. І не вельмі любіла расказваць пра свае турботы і смутак. Але калі мама даведалася, што яе дачка — лепшая вучаніца, то, канечне, сама прыехала яе забраць. Цікавая была жанчына пані Францішка. Яна зноў выйшла замуж, нарадзіла ад другога мужа сына… Яна заўсёды была свабодалюбівай і, мне здаецца, трошкі свавольнай і капрызнай — як прыгожая жанчына. Эліза была для яе вельмі дарослай дачкой. І вось яна прыехала ў Варшаву забраць гэтую дачку з пансіёна. На поясе ў яе замест спражкі — маленькі штычок. І яшчэ, як сведчаць успаміны, яна любіла задзірацца з рускімі паліцэйскімі. Ну, як прыгожай жанчыне, ёй гэта ўсё выбачалася. Вярнуліся ў Гродна — і паўстала перад пані Францішкай дылема. Яна сама — маладая яшчэ жанчына і хоча такой здавацца. Але Эліза — дарослая, паненка. У сям'і мама вельмі любіла камандаваць. Эліза, відавочна, таксама мела характар. І вось прыязджае да іх з візітам элегантны шляхціч, які хоча паправіць свае справы коштам добрага пасагу. Канечне, Эліза яму пасуе. Ёй 17, яму амаль 35. Ніхто супраць шлюбу не быў. Ва ўсім доме не знайшлося чалавека, які б на самай справе адчуваў тое, што хацелася пра ўсё гэта сказаць. Эліза марыла выйсці з-пад улады маці, пані Францішка — пазбавіцца дачкі, прычым, шляхетнай дарогай, Пётр Ажэшка — паправіць, як ужо сказалі, свае справы. Эліза Ажэшка пісала пра яго, што ён брыдкі не быў. Яснавалосы, кучаравы, элегантны, добра танчыў. «І нарэшце я буду мець свой дом! » Пасля вяселля з белымі коньмі, шыкоўнага, прыгожага, яна апынаецца ў Людвінове. Цяпер гэта вёска ў Брэсцкай вобласці. Маёнтак нібыта нармальны, але трохі доўгу было. Што тут Эліза? Яна ладзіць школку і выконвае тыя заданні, якія сама сабе вымысліла ад таго, што ўвесь час помніла бацьку. Хацела жыць як

асветніца. А Пётр ёй усё гэта дазваляў. Ці мо не так дазваляў, як проста не звяртаў асаблівай увагі. Лічыў, што гэта фанабэрыі маладой жанчыны, пройдзе. Ездзіў на паляванні, любіў выпіць, слова вострае і сальнае кінуць. Тыповы шляхціч. Праўда, правінцыял. І калі б не 1863 год…

## Калі б не 1863 год

— Яна дазваляе арганізаваць у доме склад зброі, перахоўвае параненых, а ён усё ведае і не супраціўляецца. Гэтага ніхто нідзе не пісаў, але мне здаецца, што яна пакахала Рамуальда Траўгута, якога хавала параненым і вывозіла пераапранутым у жаночую вопратку. У сваіх запісках яна адзначала, што Траўгут быў вельмі прыгожы, увогуле, пісала пра яго цёпла і з захапленнем. І рызыкавала сваім жыццём, каб яго ратаваць! А калі даведалася пра яго пакаранне, то перажыла гэта страшна.

Мне здаецца, яна не была б аж такой пісьменніцай, калі б не перажыла ўласным досведам тое паўстанне. Эліза Ажэшка стала першай, хто напісаў пра паўстанне, хоць спачатку алегарычна, не наўпрост. Таму што няможна было пісаць наўпрост, ды яна не магла не пісаць, бо перажыла яго. І страту Траўгута, і канфіскацыю маёнтка, і пазбаўленне мужа ўсялякіх правоў. Пра гэта таксама не пішацца і не гаворыцца прама, але Пётр Ажэшка быў сасланы ў Сібір не за свой, а за яе ўдзел у паўстанні. І гэта высвечвае яго фігуру ўжо з іншага боку. Там мы казалі, што ён хацеў паправіць сваё матэрыяльнае становішча, што ўзяў Элізу за жонку з меркантыльнай мэтай, а тут ужо сама Эліза — іншы чалавек: мужа высылаюць у Сібір, а яна дабіваецца з ім разводу. Гэта нам сёння развод — нічога такога. А ў 1860-я яшчэ жывая была памяць аб кабетах-дзекабрыстках, якія ехалі ў Сібір дабравольна, за мужамі і проста каханымі. Яна напіша ў запісках і ў інтэрв'ю не раз скажа: я таму, маўляў, не паехала з ім у Сібір, таму зычыла сабе разводу, што не кахала. Ці аж так не кахала?.. Ну, але гэтая неахвярнасць абярнулася для яе цяжкім перажываннем на ўсё жыццё: і за тое, што ў Сібір не паехала, і за тое, што пасля амністыі не прыняла, і Пётр Ажэшка быў вымушаны жыць у далёкіх родзічаў і неўзабаве памёр... Так, не любіла, але што з таго? Абавязкі жонкі яна павінна была выканаць. А нешляхетныя намеры Пятра перад пачаткам іх сямейнага жыцця былі кампенсаваны, выкуплены цалкам яго далейшым лёсам. Але яна, Эліза Паўлоўская, стаўшы жонкаю Пятра Ажэшкі, захавала для гісторыі і вечнасці яго імя. А гэта варта пакутаў…

## Легенды «Над Нёманам»

— Цяпер пра творчасць. Найперш, пра раман «Над Нёманам» і дзве легенды, уведзеныя ў гэты раман. Першая звязана з магілай Яна і Цэцыліі. Мы на кожны юбілей Элізы Ажэшка ездзім на месца, дзе ляжыць камень з незразумелымі, дагэтуль не прачытанымі пісьмёнамі. Ці на самай справе гэта была магіла першых палякаў на нашых землях? Ад таго часу, які апісвае Эліза Ажэшка, цяпер ужо налічваецца пяць соцень гадоў. Мы з Бахужам, панам прафесарам, якога я ўжо згадвала, размаўлялі пра гэта. Калі ён знайшоў рукапіс «Над Нёманам», я запытала, як ён лічыць: легенда пра першых палякаў прыдумана Элізай Ажэшка ці існавала на самай справе? Ніякіх яе слядоў у фальклоры не знойдзена — ні ў польскім, ні ў беларускім. А Эліза Ажэшка ўводзіць гэтую легенду ў свой твор як даволі выпакутаваную. Фактычна, гэта ўстаўная навела, у якой апісваецца прыбыццё першых палякаў на нашу зямлю. І магіла — матэрыяльнае сведчанне. Пры тым, што ніхто нічога не можа пацвердзіць, дзякуючы Элізе Ажэшка ўзнікае мясцовы абавязак па падтрымцы легенды і яе матэрыялізацыі. На гэтай магіле кожны раз да нашага прыезду збіраюцца людзі, каб расказваць нам ужо свае легенды. Іх я магла б назбіраць шмат, яны з разраду такіх, якія расказваюцца пра месца апошняга спаткання Адама Міцкевіча і Марылі Верашчакі. Камень там стаіць, і трэба, маўляў, прыкласці да яго рукі і прачытаць малітву, каб жыццё закаханых склалася шчаслівае. Што ж датычыцца магілы Яна і Цэцыліі, то заданне нашчадкам было дадзена Элізай Ажэшка ў гэтым рамане: ставіць над каменем драўлянае распяцце. І мы былі сведкамі, як яго мянялі, бо папярэдняе згніло. Напачатку гэта рабілі жыхары вёскі Багатыровічы, а цяпер ужо гэта справа скульптараў.

Другая легенда рамана «Над Нёманам» звязана з удзельнікамі паўстання. Але паўстанне — гэта для нас легенда, а на час напісання рамана —

жывая гісторыя, трагічная праўда. Што там? Сапраўдная магіла паўстанцаў. Відавочна, так і ёсць. Але ніхто не скажа, колькі іх у той магіле пахавана. Паводле Ажэшкі іх сорак. Як сорак святых пакутнікаў — хрысціян. Вось так на легенду накладаецца яшчэ і Біблія. І зноў жа — ажэшкаўскі запавет: ніякага помніка не трэба, а хто прыйдзе на гэтую магілу, няхай прынясе жменю зямлі. Сучасныя палякі запавет Элізы Ажэшка парушылі — паставілі помнік.

Другі твор, прысвечаны паўстанню, напісаны ў канцы яе жыцця. «Gloria victis» — «Слава пераможаным». Тут мы маем ужо сапраўдныя геаграфічныя назвы і сапраўдныя прозвішчы, бо забарона з тэмы паўстання была знята. Праўда аб паўстанні пададзена ў імпрэсіяністычнай манеры і можна лічыць, што ў творчасці Ажэшка гэта першы зборнік імпрэсіяністычных апавяданняў. Таму што тут побач з праўдай існуе яшчэ і рамантычна-ўзнёслае, легендарнае: памяць пра паўстанне захоўваюць не толькі людзі, але і прырода. І важна, што ў польскай літаратуры XIX і нават XX стагоддзяў годнасць чалавека вызначалася яго ўдзелам у паўстанні 1863 года (Баляслаў Прус, «Лялька»; Мар'я М. Дамброўская, «Ночы і дні»).

## Батанічнае

— Колькі было ў яе альбомаў з гербарыямі, невядома, але яна вельмі любіла іх ствараць. Я трымала ў руках два альбомы 1880-х гадоў, і вось што мяне асабліва здзівіла: не толькі пялёсткі захавалі колер, але і шоўкавы матэрыял — як учора пакладзены. Да кожнай кветкі, кожнага лісточка, кожнай травінкі быў дабраны адпаведны фон. Я ўсе старонкі перагарнула — і нідзе нічога паламанага ці выцвілага не знайшла, усё як учора зроблена. Яна любіла дарыць людзям такія альбомы. Мы не можам іх сабраць, бо не ведаем, каму яна іх падарыла.

Эліза Ажэшка вельмі добра ведала прыроду наднёманскага краю. Невыпадкова ў рамане «Над Нёманам» падаецца два цэнтры — сялянскі, Багатыровічы, і шляхецкі, Корчын. Апошняя назва — геаграфічны псеўданім. На самай справе гэта Міневічы. У Міневічах жылі людзі, якіх Эліза Ажэшка добра ведала, у якіх затрымлівалася, калі пісала свой раман і збірала матэрыял. На жаль, старых дрэваў там засталося вельмі мала, і часам экскурсаводы, якія любяць фантазію, узнёсла паведамляюць: вось дуб, пад якім пісала Эліза Ажэшка. Чаму ёй трэба было пісаць пад дубам?.. Але дом, дзе жылі яе сябры з ліку мясцовых памешчыкаў, напаўразбураны, дагэтуль там стаіць. А ў Мількаўшчыне, апрача студні і часткі ліпавай алеі, не засталося нічога…

І яшчэ. Яна спецыяльна нікога не лячыла, але добра ведала прызначэнне розных траваў. І ў яе творчасці ёсць людзі, якія разумеюць, што такое лячэнне травамі. Вельмі цікавая тут постаць Пятрусі ў «Дзюрдзях». Я неяк падумала: праз цемрашальнасць гэтых Дзюрдзяў, беларусаў, пацярпела Пятруся. А яна ж увасабляла прыгажосць і душу беларускага народа.

Тут можна шмат усяго расказваць… Калісьці я вам раскажу яшчэ што-небудзь. Скажам, пра гісторыю помніка пісьменніцы, які знаходзіцца ў цэнтры Гродна, ці аб кніжцы, якую гарадзенцы выдалі ў гонар любімай пісьменніцы…

# Мікалай Грынько: «І Багушэвіч не быў бы Багушэвічам, калі б не пані Арэшчыха»



**Дырэктар навуковай бібліятэкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Мікалай Грынько выказаў балючую думку пра тое, што хоць кожны гродзенец, сустрэты на тратуары, лёгка адкажа, хто такая Эліза Ажэшка, але не кожны ведае, што дакладна**

**яна напісала. Можна меркаваць, што гэта ніяк не праблема Элізы Ажэшка, а праблема тых, хто не ведае творчасці слаўнай зямлячкі, ды вось які парадокс назіраецца і на ўсе праблемы разам уплывае: наша пісьменніца, якая наміціравалася на Нобелеўскую прэмію, адсутнічае ў нашай школьнай праграме. Нонсэнс?!**

**— Але я чула, што вы якраз і займаецеся тым, каб гэты нонсэнс ліквідаваць.**

— Калі мы прагледзім вучэбныя праграмы па беларускай літаратуры, прагартаем іх хоць бы за апошняе дзесяцігоддзе, то ўбачым, што ў пачатку 2000-х творчасць Ажэшкі была ўключана ў школьны курс: у 8 класе вывучалася аповесць «Раманіха», а ў 9 класе ў межах гісторыка-храналагічнага падыходу ў вывучэнні беларускай літаратуры ў тэме XIX стагоддзя Эліза Ажэшка разглядалася пасля Францішка Багушэвіча. На вялікі жаль, цяпер творы гэтай пісьменніцы ў школьнай праграме або адсутнічаюць, або прапануюцца ў якасці дадатковага чытання. Хоць той самы Багушэвіч, на маё меркаванне, не стаў бы Багушэвічам у тым выглядзе, у якім мы ведаем яго сёння, калі б не пані Арэшчыха. У вышэйшай школе мы, безумоўна, павінны вывучаць творчасць Элізы Ажэшка, і гэта так і ёсць, але тое датычыцца толькі філфака, бо — логіка простая — гэта літаратура. Зноў жа, як на маё меркаванне, вельмі няправільна, што літаратура ў ВНУ вывучаецца толькі на філфаку. Літаратура, як і рыторыка, па вялікім рахунку, павінна вывучацца на кожным факультэце студэнтамі кожнай спецыяльнасці, бо мы ўсё ж рыхтуем спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, хоць і гаворым аб практыкаарыентаваным навучанні. Як мінімум, праз факультатывы літаратуру трэба прапускаць. Творы Элізы Ажэшка, у якіх яскрава прасочваецца беларуская тэматыка, павінны вывучацца філолагамі і беларусазнаўцамі абавязкова. Прынамсі, шэдэўр «Над Нёманам», так званая беларуская трылогія — аповесці «Нізіны» і «Хам», раман «Дзюрдзі». Так, «Дзюрдзі» я б хутчэй назваў раманам. Якраз там — уся Беларусь, прыгожая і арыгінальная. Гэта не ўсходнія крэсы і не Северо-западный край, гэта сапраўдная Беларусь з яе гісторыяй, жыццём людзей, пакутамі і трагічным лёсам. У Элізы Ажэшка так…

**— Ці пашчасціла вам, вывучаючы лёс і творчасць Элізы Ажэшка, убачыць у ёй чалавека, якога вы блізка ведаеце? Якая яна асабіста для вас?**

— Канечне, калі вывучаеш біяграфію Элизы Ажэшка — нарадзілася, вучылася, пісала, сябравала, — хочацца ведаць яшчэ і тое, як гэтая жанчына выглядала не на фотаздымку, а ў жыцці, як магла сябе паводзіць у тых ці іншых сітуацыях, якая была ўвогуле. Я б назваў яе беларускай пані. Выкшталцоная, з харошымі манерамі… Паводзінамі ў маладосці падобная на яшчэ адну вялікую гарадзенку — Алаізу Пашкевічанку, Цётку. Нават імёны падобныя. І ўспамінаючы абедзвюх, прымушаеш сябе думаць, што светам кіруюць жанчыны.

Эліза Ажэшка паказала тое, што да яе не паказваў ніхто, — праблему крызісу сям'і, яе прычыны і шляхі вырашэння. Я не думаю, што сёння трэба даказваць актуальнасць гэтай праблемы…

**— Сёння трэба перакладаць яе «Kilka słów o kobietach» на беларускую і рускую мовы і даваць у шырокі друк з наступным паўсюдным абмеркаваннем. Гэты тэкст прагучаў бы як новае слова. Патрэбнае, актуальнае. Мы друкуем у гэтым нумары яго ўрывак.**

— А вазьміце «Нізіны». Хрысціна, якой яна там паказана, — гэта проста жанчына і маці. І больш ёй нічога не трэба. Эліза Ажэшка паказвае крызіс сям'і ў святле сацыяльнай трагедыі народа, і не проста як факт, а праз прычынна-выніковыя сувязі. Яна паказвае, дзе дакладна схавана праблема. У Хрысціны сям'я разбураецца. Чаму? Яшчэ большая трагедыя здараецца з Пятрусяй у «Дзюрдзях» — яна гіне ад рук быццам бы тых, з кім жыла побач. Але Ажэшка паказвае: не Дзюрдзі тут вінаватыя. Бо яны хто? Злодзеі? — пытаецца Ажэшка. І адразу адказвае: не! Яны працаўнікі! Яны сімпатычныя ёй. І яна перажывае за іх, яна іх любіць. Але вымушана канстата-

ваць: найлепшыя знішчаюць найлепшых. Чаму? У «Хаме», калі ўжо гаворым пра «беларускую трылогію», у прыгажуні Франкі — самы страшны фінал, які толькі можа здарыцца ў хрысціянскім свеце. Чаму? У беларускай літаратуры да Элізы Ажэшка гэтыя «чаму? » ніхто не задаваў, а калі задаваў, то пакідаў без адказаў. Ажэшка — адказвае: трэба браць адукацыю. Лепшае і лепшыя, народнае і народ знішчаюцца праз цемрашальства і забабоны. Каб была разумнейшай Хрысціна з «Нізінаў», каб умела яна чытаць, ці каб іншыя сяляне з вёскі Грынькі гэта ўмелі, не было б той праблемы. Была б адукацыя — была б і зямля. У «Хаме» Ажэшка падыходзіць да думкі, што адукацыі мала. Франка ж яе мае. Але Павел Кабыцкі не мае адукацыі і просіць Франку навучыць яго чытаць. Навошта? Каб кніжкі мог касцельныя чытаць. Мы бачым, чытаючы «Хама», як адукаваны чалавек сябе страчвае — ідзе на вялікі грэх, самагубства. А чалавек неадукаваны — застаецца ў гэтым свеце і просіць доўгімі зімовымі начамі: «Божа, злітуйся над ёю, грэшнай». Тут мы што павінны разумець? Што ёсць адукацыя, але ёсць яшчэ і вера, і мараль. Вера без адукацыі можа быць няправільнай, забабоннай. Такую веру трэба адкінуць, адхрысціцца ад яе. У «Дзюрдзях» вельмі ярка адлюстроўваецца наша існаванне: мы — хрысціяне, і даўно, але як глыбока мы яшчэ язычнікі. І павінны знайсці свой шлях — ісці да хрысціянства і адукацыі.

Увогуле, вельмі многія праблемы, якія падымала Эліза Ажэшка, пішучы па-польску, былі пасля яе ўзняты ў літаратуры па-беларуску. Праз невялікі прамежак часу пасля напісання «Нізінаў» праблема зямлі закранаецца Якубам Коласам — «Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут», Кузьмой Чорным — у яго «Зямлі», і далей — россып такіх твораў, уключаючы і «Людзей на балоце»: каб той зямліцы, што каля цагельні, — памятаеце? Можа быць, у тым праблема, што мы не ўмеем гэтыя творы чытаць? Што для нас калі зямля, то і лапці? А гэта ж абсалютна няправільна. Зямля — гэта не лапці. Зямля — аснова Айчыне, і ніякіх лапцей. Бо будуць толькі лапці, дык зямлі не будзе. Ажэшка пра гэта і гаворыць. Чаму сёння зямлі няма ні ў каго? І крызіс сям'і — адтуль жа каранямі. Таму што ўсе ў лапцях. А трэба скідаць лапці.

**— Элізу Ажэшка часам называюць эмансіпанткай, феміністкай і скандалісткай. Але ці правільнае адценне маюць гэтыя словы, калі размова пра Ажэшку?**

— Слушнае пытанне. Сапраўды, у нашай свядомасці феміністка — гэта хто? Абсалютна незалежная жанчына, якая ўсё вырашае сама, мужчыну да сваіх спраў не падпускае, робіць што хоча. У пэўнай ступені яна і скандалістка… Калі Ажэшка феміністка, то якая *яна* феміністка? Папершае, гэта вельмі разумная, адукаваная кабета, якая ведае, што жыць так, як жывецца, немагчыма, што трэба нешта мяняць, і галоўнае, яна ведае, як гэта рабіць. Ведае, што трэба дапамагаць, і ведае, як дапамагчы. Успомнім пажар 1885 года, калі паўгорада згарэла. Колькі сродкаў яе намаганнямі было тады сабрана, колькім людзям яна дапамагла пры тым, што і сама пацярпела?! Разам з тым, яна проста жанчына, якая хацела ўвагі і разумела, што людзі яе любяць. Што рабілі гарадзенцы, калі яна знаходзілася на Божым ложку? Саломай высцілалі дарогу, каб не дай божа іхняя пані не прачнулася ад таго, што раніцай вазы паехалі. А была б яна эмансіпанткай і феміністкай у сённяшнім шырокім сэнсе гэтых слоў, то ці рабілі б так людзі? Сказалі б: ды што з ёю зробіцца!..

Яна жанчына, сапраўдная жанчына. Хоць і не з такім лёсам, які даецца жанчыне сямейнай. Калісьці гадоў дзесяць таму мне давялося на канферэнцыі весці дыскусію ў секцыі. І нябожчык Мікола Іванавіч Мішчанчук сказаў: «Але ж яна ў адрозненне ад іншых не змяніла прозвішча, яна ж Арэшчыхай засталася! » Так, яна наўмысна засталася pani Orzeszkowej. Калі сёння ў палякаў спытаць пра яе дзявочым прозвішчам — Эліза Паўлоўская, наўрад ці хто будзе ведаць, пра каго гаворка, а прамовіш: pani Orzeszkowa — «O, to pani!».

Сёння з нашым Прэзідэнтам сустракаецца міністр замежных спраў Польшчы і пасля едзе з Мінска ў Гродна. Для чаго? Каб схіліць галаву перад вялікай пані.

**— Ён едзе do Orzeszkowej.**

— Так, едзе do Orzeszkowej. Каб зацвердзіць, што яна сапраўды шмат зрабіла для нашай культуры.

**Маргарыта Дзяхцяр**

**maladost@zviazda.by**







# «Разняволенасць» Таццяны Сівец, або Вайна за каханне

Раней мне здавалася, што пісаць пра каханне можа кожны. Чаму б і не? Кожны ж адчуў каханне, праверыў на сабе, паспрабаваў на смак. Напісаць лёгка, — думала калісьці я. Думала, пакуль сама не паспрабавала. І я зразумела, што пісаць вершы, увогуле вершы, не толькі пра любоў, цяжэй, чым можа падацца: паэзія — гэта, як і каханне, стан душы.

Сентыментальным людзям кнігу Таццяны Сівец «Разняволенасць» лепш нават у руках не трымаць — надта яна эмацыянальная, з зарадам слоў, якія проста прымушаюць расплакацца. Часам наіўныя, часам сур'ёзныя, часам дарослыя, а часам дзіцячыя, — вершы Таццяны кажуць пра тое, што галоўнае ў жыцці — адчуваць.

Адзін з вершаў гэтай паэткі мне дала пачытаць калісьці сяброўка. Гэта быў «Такія хлопчыкі...». У той час, калі знаёмыя казалі штосьці падобнае да «хопіць ужо гэтай лірыкі», я пачала зачытвацца паэзіяй Таццяны Сівец:

«Ты не ведаеш, што твой хлопчык сабраў з ільдзінак
Слова «ключ»? Ён ужо адчыняе дзверы»...

За палатном наіўнасці, дзявочай эмацыянальнасці, рамантычнасці, ёсць яшчэ і праўдзівасць. За жаноцкасцю вершаў можна ўбачыць і жыццёвую мудрасць паэткі. Яна кажа пра простыя рэчы, пра тое, з чым мы сутыкаемся з дня ў дзень, пра тое, чаго некаторыя з нас не бачаць за сцяной праблем.

Вершы Таццяны Сівец было б утульней чытаць пад коўдрай, чым на якіх-небудзь прэзентацыях. Яны такія па-хатняму пяшчотныя, мяккія

Яна і паэткай, і чалавекам стараецца ісці супраць агульнапрынятага — «Ну і што, што ва «ўсіх» — вось так?!», і гэта, зразумела, бачна па зборніку «Разняволенасць».

Кніга, якая з першага позірку падаецца дастаткова важкай (бо дзе вы бачылі тоўстыя паэтычныя зборнікі), чытаецца лёгка, нібы яна пёрка. У «Разняволенасці» на суседніх старонках змешчаны вершы і пра паэзію, і пра шчасце, і вершы паэтаў, якія пішуць на мовах, з якіх, я ўпэўнена, ніводзін беларус яшчэ не перакладаў.

«Разняволенасць» Таццяны Сівец — гэта размова з сабой, роднымі, каханымі. Гэта часам маналог, а часам дыялог, але заўсёды зварот да кагосьці ці чагосьці. Гэта яшчэ і кіно — бо «калі мы побач, то можна здымаць кіно», і сапраўды, некаторыя радкі даволі добра кладліся б на відэашэраг:

Амаль палову «Разняволенасці» займаюць пераклады Таццяны Сівец вершаў азербайджанскіх, армянскіх, казахскіх, славацкіх, украінскіх, калмыцкіх, чачэнскіх, рускіх паэтаў і паэтаў Рэспублікі Комі

«Яна гатуе сабе вяршкова-трускалкавыторт,
Калі вырашае, што ў ейным жыцці бракуе
белага ды чырвонага».

«Разняволенасць» — гэта яшчэ і спроба жанчыны дагрукацца або да такіх, як яна сама самаахвярных, адданых дзяўчат («Я ж — малая... Мне гэтым сэрцам — пагуляцца і падарыць»...), або да тых, для каго яны сабой ахвяруюць («Я ўрастала ў цябе, як трава прарастае ў асфальт»...).

Вершы Таццяны Сівец было б утульней чытаць пад коўдрай, чым на якіх-небудзь прэзентацыях. Яны такія па-хатняму пяшчотныя, мяккія. Але было б памылкай сказаць, што яна піша выключна жаноцкае, выключна «мілае» і наіўнае. Яна можа быць і іншай — непакорлівай, крыху жорсткай і неверагодна сур'ёзнай:

«А я пакахала Чэ, гандлявала душой і зброяй
І ў снежні, здаецца, загінула на барыкадах...»

Асаблівае месца ў зборніку аддадзена вершам і перакладам пра паэзію. Зразумела ж, што гэта і дар, і праклянцце — быць творцам, пра што кажа і Таццяна Сівец («Паэт — гэта ж амаль як даўн, гэта нават горай»). Яна кажа яшчэ і пра тое, што паэзія можа быць падобнай да шкоднай звычкі, пазбавіцца якой вельмі цяжка:

«Добра-добра! Яшчэ адзін верш — і ўсё!
Гэтак сябе падманваю — і правальваюся ў
рыфмаванае забыццё».

А ў перакладзе верша азербайджанскага паэта Чынгіза Аліаглы паэзія паўстае ўжо аджыўшай свой век:

«Бывай, Паэзія! Твой час амаль мінуў.
Зірні, як на цябе рыхтуюць зброю...»

Асаблівай для Таццяны Сівец з'яўляецца і адзіная ў кнізе паэма «Баку», дзе жанчына прызнаецца ў любові сталіцы Азербайджана. Баку для паэткі — як сховішча, як помнік, як вырай, калі хочаце — як каханы мужчына («Я ніколі не буду адна, калі я ў Баку»). Гэта горад, дзе яна можа адчуць сябе вольнай, дзе можа быць сабой, горад, з якім не хочацца развітвацца, але трэба:

«Мне трэба ляцець дадому...
Манеты няма —
дык я кідаю ў мора сэрца».

Амаль палову «Разняволенасці» займаюць пераклады Таццяны Сівец вершаў азербайджанскіх, армянскіх, казахскіх, славацкіх, украінскіх, калмыцкіх, чачэнскіх, рускіх паэтаў і паэтаў Рэспублікі Комі. Тут паэтка стараецца крыху аддаліцца ад тэмы кахання. Яна перакладае верш Адзільбека Ыбырайымулы пра Алматы («Ён не лічыць гадзінаў. Ягоныя плёны — здратаваныя лёсы. Ён жыве як ідзе»), Штэфана Цыфры пра невядомага («Хтосьці жыве як паперчына на вятрыску»), верш-параду Тараса Шаўчэнкі («Ты не вер: найлепей плакаць, як ніхто не бачыць»).

Але і тут каханне застаецца закранутым, бо якая ж Таццяна Сівец без кахання? Без сумнай, як у Бахціяра Вагабзадэ («Сумую па табе, як па сваіх паразах...»), шчымлівай, як у Яна Тазберыка («У тваёй галаве да раніцы стану пылам»), таямнічай, як у Борыса Брэндзы («Бірузовая чараўніца мая, мая пляшка абсенту, ведаю, нам з табою заўжды пашэнціць...»), гісторыі кахання.

Як бы там ні было, якімі б самотнымі, журботнымі вершамі ні пужала нас паэтка, яна не губляе аптымізму, і гэта заўважна ў многіх радках. Сівец быццам змагаецца сама з сабой, адначасова і жалячыся, і шукаючы ва ўсім штосьці добрае:

«Я? Як заўжды! Лепш за лепшых і горш за
горшых!
Я эўрыстычна сведчу, што можна — і без
цябе!»

Паэтка з самаіроніяй ставіцца да ўласнай наіўнасці, да сваёй павышанай «пачуццёвасці». Яна і разумее, што так быццам нельга, але па-іншаму не можа, вось і атрымліваецца, што «самая танная рэч у свеце» — яе каханне.

«Разняволенасць» — гэта спроба Таццяны Сівец аб'явіць вайну свету, дзе няма кахання, свету, дзе праблемы сталі вышэйшымі, чым пачуцці. І яна гэтую вайну не толькі аб'явіла, але і пачала:

Я болей не веру ў правілы <...>
І ўсё, што не забівае, (па змоўчанні) называю
шчасцем...

**Пра гісторыю Нобелеўскай прэміі і лёс яе заснавальніка распавядалася «пяром» Евы Лявонавай у № 2. Цяпер лагічны працяг — пералік літаратараў-набелістаў — і ён жа своеасаблівы ўступ да наступнага матэрыялу, прысвечанага юбілею аднаго з іх.**
**Да 115-годдзя Нобелеўскай прэміі і 170-годдзя Генрыка Сянкевіча.**

# Лаўрэаты Нобелеўскай прэміі па літаратуры* (1901 — 2015)

Агнон (Аньён, Agnon; сапр. — Чачкес) Шмуэль Іосеф Халеві (17.07.1888 — 17.02.1970). Ізраільскі празаік. Прэмія 1966 г. (разам з Н. Закс) «за глыбока тыповае мастацтва паводле матываў жыцця яўрэйскага народа».

Алейксандрэ-і-Мерла (Алейксандрэ; Aleixandre) Вісентэ Піа Марселіна Кірыла (26.04.1898 — 14.12.1984). Іспанскі паэт. Прэмія 1977 г. «за паэтычныя творы, якія адлюстроўваюць становішча чалавека ў космасе і ў сучасным грамадстве, у той жа час уяўляючы з сябе найбуйнейшае аднаўленне традыцый іспанскай паэзіі міжваеннага перыяду».

Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 31.05.1948). Беларуская пісьменніца, журналіст. Прэмія 2015 г. «за шматгалосае гучанне яе прозы і ўвекавечанне пакутаў і мужнасці».

Андрыч (Andrič) Іва (09.10.1892 — 13.03.1975). Сербскі пісьменнік. Прэмія 1961 г. «за эпічную моц, з якой ён даследаваў тэмы і раскрыў прызначэнне чалавека ў звязку з гісторыяй сваёй краіны».

Астурыяс (Asturias) Мігель Анхель (19.10.1899 — 09.06.1974). Гватэмальскі пісьменнік. Прэмія 1967 г. прысуджана «за яскравыя літаратурныя дасягненні, што глыбока палягаюць каранямі ў нацыянальных асаблівасцях і традыцыях індзейскага народа Лацінскай Амерыкі».

Бак (Buck) Перл (сапр. Перл Комфарт Уолш; 26.06.1892 — 06.03.1973). Амерыканская пісьменніца. Прэмія 1938 г. «за глыбокія і праўдзівыя эпічныя адлюстраванні жыцця сялянства ў Кітаі і за біяграфічныя шэдэўры».

Бенавентэ-і-Марцінэс (Benavente-y-Martinez) Хасінта (12.08.1866 — 14.07.1954). Іспанскі драматург. Прэмія 1922 г. «за ўдалую манеру, праз якую ён развівае мастацкія традыцыі іспанскай драмы».

Бергсон (Bergson) Анры Луі (18.10.1859 — 04.01.1941). Французскі філосаф. Прэмія 1927 г. «як прызнанне плённых і жыццёва важных ідэй і бліскучага майстэрства, з якім яны выкладзены».

Бёль (Böll) Генрых (21.12.1917 — 16.07.1985). Нямецкі пісьменнік. Прэмія 1972 г. «за літаратурныя творы, якія, дзякуючы спалучэнню ў іх шырокага асвятлення свайго часу і глыбокага майстэрства яго ўвасаблення, служаць справе адраджэння германскай літаратуры».

Б'ёрнсан (Bjørnson) Б'ёрнстэрнэ Марцініўс (08.12.1832 — 26.04.1910). Нарвежскі паэт, празаік і драматург. Прэмія 1903 г. «як даніна высакароднай, велічнай і шматбаковай паэзіі, заўсёды адметнай свежасцю натхнення і незвычайнай чысцінёй духоўнага пачатку».

Бродскі (Бродский) Іосіф Аляксандравіч (24.05.1940 — 28.01.1996). Расійскі паэт. Прэмія 1987 г. «за ўсёабдымную творчасць, адметную яснасцю думкі і насычаную паэтычнай сілай».

Бунін (Бунин) Іван Аляксеевіч (22.10.1870 — 08.11.1953). Расійскі празаік і паэт. Прэмія 1933 г. «за строгую артыстычнасць, з якой ён прадоўжыў класічныя традыцыі рускай прозы».

Бекет (Beckett) Сэмюэл Барклі (13.04.1906 — 22.12.1989). Ірландскі празаік і драматург. Прэмія 1969 г. «за літаратурныя творы, якія ў новых формах рамана і драмы дасягаюць вяршыняў у адлюстраванні бедстваў сучаснага чалавека».

Бэлаў (Bellow) Сол (сапр. Саламон Белоўс; 10.06.1915 — 05.04.2005). Амерыканскі пісьменнік. Прэмія 1976 г. «за спалучэнне ў яго творах чулага разумення чалавека і тонкага аналізу сучаснай культуры».

Варгас Льоса (Vargas Llosa) Хорхе Марыа Педра (н. 28.03.1936). Перуанскі пісьменнік. Прэмія 2010 г. «за дэталёвае апісанне структуры ўлады і за яскравае адлюстраванне чалавека, які паўстае, змагаецца і церпіць паразу».

Гамсун (Hamsun) Кнут (сапр. Кнут Педэрсен; 04.08.1859 — 19.02.1952). Нарвежскі пісьменнік. Прэмія 1920 г. «за манументальны твор "Плёны зямлі"».

Гао Сіньцзян (Gāo Xingjiàn; н. 04.01.1940). Кітайскі пісьменнік, з 1987 г. жыве ў Францыі. Прэмія 2000 г.

*Напісанне імёнаў і прозвішчаў і гады жыцця ў большасці выпадкаўададзены паводле выдання: Беларуская энцыклапедыя. Т. 1—18.

«за творы сусветнага значэння; поўныя горычы за становішча чалавека ў сучасным свеце, яны адкрываюць новыя шляхі перад кітайскай прозай і драматургіяй».

Гарсія Маркес (García Márquez) Габрыэль Хасэ (06.03.1927 — 17.04.2014). Калумбійскі пісьменнік. Прэмія 1982 г. «за навелы і кароткія апавяданні, у якіх рэальнасць і фантазія ўтвараюць дзіўны ўяўны свет, што адлюстроўвае жыццё і канфлікты кантынента».

Гаўптман (Hauptmann) Герхарт Ёган Роберт (15.11.1862 — 06.06.1946). Нямецкі драматург, празаік, паэт. Прэмія 1912 г. «найперш як прызнанне плённага, шматстайнага і бліскучага ўнёску ў вобласць драматычнага мастацтва».

Гесэ (Хесэ; Hesse) Герман (02.07.1877 — 09.08.1962). Нямецка-швейцарскі празаік і паэт. Прэмія 1946 г. «за натхнёныя творы, якія са смеласцю, што пастаянна ўзрастае, і пранікнёнасцю служаць узорамі класічных гуманістычных ідэй і высокай якасці стылю».

Г'елеруп (Гелеруп, Йелеруп; Gjellerup) Карл Адольф (02.06.1857 — 13.10.1919). Дацкі паэт і празаік. Прэмія 1917 г. (разам з Х. Пантопіданам) «за шматстайную і багатую паэзію, якая народжана ўзвышанымі ідэаламі».

Голдынг (Golding) Уільям Джэралд (19.09.1911 — 19.06.1993). Англійскі пісьменнік. Прэмія 1983 г. «за навелы, якія з яснасцю рэалістычнага апавядальнага мастацтва, разнастайнасцю і ўніверсальнасцю міфа ўвасабляюць чалавечыя ўзаемаадносіны ў сучасным свеце».

Голсуарсі (Galsworthy) Джон (14.08.1867 — 31.01.1933). Англійскі празаік і драматург. Прэмія 1932 г. «за самабытнае мастацтва аповеду, якое дасягнула сваіх вышынь у эпапеі "Сага пра Фарсайтаў"».

Гордымер (Gordimer) Надзін (20.11.1923 — 13.07.2014). Пісьменніца Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Прэмія 1991 г. «за цудоўны эпас, што прынёс велізарную карысць чалавецтву».

Грас (Grass) Гюнтар (н. 16.10.1927). Нямецкі пісьменнік. Прэмія 1999 г. «аўтару, які паклаў новы пачатак нямецкай літаратуры пасля дзесяцігоддзяў слоўнага і маральнага разбурэння, узнавіўшы ў жывых і адначасова самотных сюжэтах забытае аблічча гісторыі».

Дэледа (Deledda) Грацыя (сапр. Грацыя Мадэзані; 27.09.1871 — 15.08.1936). Італьянская пісьменніца. Прэмія 1926 г. «за натхнёныя ідэалістычныя творы, якія з пластычнай яснасцю малююць жыццё на яе родным востраве і з глыбінёй і сімпатыяй адлюстроўваюць чалавечыя праблемы ў цэлым».

Йітс (Yeats) Уільям Батлер (13.06.1865 — 28.01.1939). Ірландскі паэт, драматург, крытык. Прэмія 1923 г. «за заўсёды непаўторную паэзію, якая ў высокамастацкай форме дае выявы духоўнай сутнасці цэлай нацыі».

Елінэк (Jelinek) Эльфрыда (н. 20.10.1946). Аўстрыйская пісьменніца. Прэмія 2004 г. «за музычныя пералівы галасоў і адгалоскаў у раманах і п'есах, якія з экстраардынарнай лінгвістычнай руплівасцю раскрываюць абсурднасць сацыяльных клішэ і іх прыгнятальнай сілы».

Енсен (Jensen) Ёханес Вільгельм (20.01.1873 — 25.11.1950). Дацкі пісьменнік. Прэмія 1944 г. «за нечуваную моц і багацце паэтычнага ўяўлення, якія спалучаюцца з інтэлектуальнасцю, шырынёй кругагляду і выразным, свежым мастацкім стылем».

Жыд (Gide) Андрэ Поль Гіём (22.11.1869 — 19.02.1951). Французскі пісьменнік. Прэмія 1947 г. «за глыбокія і значныя мастацкія творы, у якіх чалавечыя праблемы і абставіны паказаны з мужнай любоўю да ісціны і вострай псіхалагічнай праніклівасцю».

Закс (Sachs) Нэлі Ляоні (10.12.1891 — 12.05.1970). Нямецкая і шведская паэтэса. Прэмія 1966 г. (разам з Ш.І.Х. Агнонам) «за выдатныя лірычныя і драматычныя творы, у якіх з трапяткой сілай перададзены лёс ізраільскага народа».

Зінгер (Singer) Айзек (Іцхак) Башэвіс (14.07.1904 — 27.07.1991). Яўрэйскі амерыканскі празаік. Пісаў на ідыш. Прэмія 1978 г. «за страснае мастацтва празаічнага аповеду, якое, маючы карані ў польскай і яўрэйскай культурных традыцыях, нясе ў сабе агульначалавечыя праблемы».

Кавабата (Kawabata) Ясунары (11.06.1899 — 16.04.1972). Японскі празаік. Прэмія 1968 г. «за пісьменніцкае майстэрства і глыбіню, з якімі ўвасоблена сутнасць японскага ладу мыслення».

Камю (Camus) Альбэр (07.11.1913 — 04.01.1960). Французскі пісьменнік, філосаф і эсэіст. Прэмія 1957 г. «за значныя мастацкія творы, у якіх з прароцкай глыбінёй гаворыцца аб праблемах чалавечага быцця ў наш час».

Канеці (Canetti) Эліяс (25.07.1905 — 14.08.1994). Аўстрыйскі пісьменнік, жыў у Англіі. Прэмія 1981 г. «за літаратурныя творы, адметныя шырынёй поглядаў, багаццем ідэй і мастацкай сілай».

Кардучы (Carducci) Джазуэ (27.07.1835 — 16.02.1907). Італьянскі паэт і філолаг. Прэмія 1906 г. «не толькі за яго глыбокія навуковыя і крытычныя даследаванні, але перадусім як даніна творчай энергіі, свежасці стылю і лірычнай моцы, што характарызуюць яго паэтычныя шэдэўры».

Карлфельт (Karlfeldt) Эрык Аксель (сапр. Аксель Эрыксан; 20.07.1864 — 08.04.1931). Шведскі паэт. Прэмія 1931 г. «за яго паэзію» (пасмяротна).

Квазімада (Quasimodo) Сальваторэ (20.08.1901 — 14.06.1968). Італьянскі паэт. Прэмія 1959 г. «за лірычную паэзію, якая з класічным натхненнем дае ўяўленне пра трагічны жыццёвы досвед нашага часу».

Кертэс (Kertész) Імрэ (н. 09.11.1929). Венгерскі пісьменнік. Прэмія 2002 г. творцу, які «адлюстраваў у сваіх працах крохкі і ўразлівы вопыт асобы, індывідуума ў супрацьстаянні з варварскай несправядлівасцю гісторыі».

Кіплінг (Kipling) Джозеф Рэдзьярд (30.12.1865 — 18.01.1936). Англійскі празаік і паэт. Прэмія 1907 г. за «моц назіральнасці, арыгінальнасць творчай фантазіі, мужнасць ідэй і цудоўны талент аповеду, што характарызуюць творы гэтага сусветна вядомага аўтара».

Кудзей (Coetzee) Джозеф Максвел (н. 09.02.1940). Пісьменнік з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Піша па-англійску. Прэмія 2003 г. «скептыку, бязлітаснаму ў сваёй крытыцы жорсткага рацыяналізму і штучнай маралі заходняй цывілізацыі» за раманы, якім «уласцівы добра прадуманая кампазіцыя, багатыя дыялогі і аналітычнае майстэрства».

Лагерквіст (Lagerkvist) Пер Фабіян (23.05.1891 — 11.07.1974). Шведскі паэт і празаік. Прэмія 1951 г. «за мастацкую энергію і сапраўдную незалежнасць мыслення, з якімі ён спрабаваў знайсці ў сваёй паэзіі адказы на адвечныя пытанні, што стаяць перад чалавецтвам».

Лагерлёф (Lagerlöf) Сельма Атылія Лувіса (20.11.1858 — 16.03.1940). Шведская пісьменніца. Прэмія 1909 г. «у знак прызнання высакароднага ідэалізму, палымянай фантазіі і духоўнасці, якія характарызуюць яе творы».

Лакснес (Laxness; сапр. Гудзьёўнсан) Хальдаўр Кільян (23.04.1902 — 08.02.1998). Ісландскі раманіст, драматург і паэт. Прэмія 1955 г. «за яскравую эпічную сілу, з якой ён адрадзіў вялікае апавядальнае мастацтва Ісландыі».

Ле Клезіа (Леклезіа; Le Clézio) Жан-Мары Гюстаў (н. 13.04.1940). Французскі пісьменнік. Прэмія 2008 г. «аўтару новых напрамкаў, паэтычных прыгодаў, пачуццёвых захапленняў, які даследуе чалавецтва па-за межамі пануючай цывілізацыі».

Лесінг (Lessing) Дорыс (22.10.1919 — 17.11.2013). Англійская пісьменніца. Прэмія 2007 г. аўтару, што «распавядае пра жыццёвы досвед жанчын, са скептыцызмам, пачуццёвасцю і сілай празорцы разглядае падзеленую цывілізацыю».

Льюіс (Lewis) Сінклер Гары (07.02.1885 — 10.01.1951). Амерыканскі пісьменнік. Прэмія 1930 г. «за энергічнае і маляўнічае майстэрства апісання і дасціпнасць і гумар у стварэнні новых тыпаў характараў».

Мадыяно (Modiano) Патрык (н. 30.07.1945). Французскі пісьменнік. Прэмія 2014 г. «за мастацтва памяці, з якім ён раскрывае самае няўлоўнае ў чалавечым лёсе і паказвае жыццё ў акупацыі».

Ман (Mann) Паўль Томас (06.06.1875 — 12.08.1955). Нямецкі пісьменнік. Прэмія 1929 г. «найперш за вялікі раман “Будэнброкі”, які ў якасці аднаго з класічных твораў сучаснай літаратуры атрымаў прызнанне, што няспынна працягвае расці».

Манро (Мунро; Munro) Эліс Эн (н. 10.07.1931). Канадская пісьменніца. Прэмія 2013 г. «майстру сучаснага апавядання».

Мантале (Montale) Эўджэнія (12.10.1896 — 12.09.1981). Італьянскі паэт і крытык. Прэмія 1975 г. «за своеасаблівую паэзію, у якой з вялікай мастацкай глыбінёй увасабляюцца чалавечыя каштоўнасці і жыццё разглядаецца без аніякіх ілюзій».

Мартэн дзю Гар (Martin du Gard) Ражэ (23.03.1881 — 22.08.1958). Французскі раманіст. Прэмія 1937 г. «за мастацкую сілу і праўдзівасць, з якой ён адлюстраваў чалавечыя канфлікты, а таксама некаторыя найважнейшыя рысы сучаснага жыцця ў цыкле раманаў “Сям’я Цібо”».

Марцінсан (Martinson) Хары Эдмунд (06.05.1904 — 11.02.1978). Шведскі паэт і празаік. Прэмія 1974 г. (разам з Э.У.В. Юнсанам) «за літаратурныя творы, у якіх, нібы ў кроплях расы, адлюстроўваецца космас».

Марыяк (Mauriac) Франсуа Шарль (11.10.1885 — 01.09.1970). Французскі пісьменнік. Прэмія 1952 г. «за глыбокае духоўнае разуменне і мастацкую сілу, з якімі ён у сваіх раманах пранікаў у драму чалавечага жыцця».

Махфуз (Mahfouz) Нагіб Абд аль-Азіз ас Сабільгі (11.12.1911 — 30.08.2006). Егіпецкі пісьменнік. Прэмія 1988 г. творцу, які, «дзякуючы багаццю адценняў, то пранікнёна рэалістычных, то ўяўна двухсэнсавых, сфарміраваў арабскае апавядальнае мастацтва, што мае значэнне для ўсяго чалавецтва».

Метэрлінк (Maeterlinck) Марыс Палідор Мары Бернхард (29.08.1862 — 05.05.1949). Бельгійскі дра-

матург, паэт і эсэіст. Прэмія 1911 г. «у знак прызнання шматбаковай літаратурнай дзейнасці і асабліва за драматычныя творы, адзначаныя багаццем уяўлення і паэтычнай фантазіяй, якія адкрываюць, часам пад маскай чароўнага вымыслу, глыбокае натхненне, у той час як форма містэрый прыцягвае чытачоў сваёй пачуццёвасцю і абуджае іх уяўленне».

Мілаш (Miłosz) Чэслаў (30.06.1911 — 14.08.2004). Польскі паэт, жыў у ЗША. Прэмія 1980 г. «таму, хто бескампрамісна і пранікнёна паказаў становішча чалавека ў святле суровых канфліктаў».

Містраль (Mistral) Габрыэла (сапр. Гадой-і-Алькаяга Лусіла; 07.04.1889 — 10.01.1957). Чылійская паэтэса. Прэмія 1945 г. «за лірычную паэзію, натхнёную глыбокімі перажываннямі, якая зрабіла яе імя сімвалам ідэалістычных памкненняў усіх народаў Лацінскай Амерыкі».

Містраль (Mistral) Фрэдэрык (08.09.1830 — 25.03.1914). Французскі паэт і філолаг. Прэмія 1904 г. (разам з Х. Эчэгарай-і-Эйсагірэ) «у знак прызнання свежай арыгінальнасці і сапраўднай натхнёнасці паэтычных твораў, у якіх адлюстраваны пейзажы і праўдзіва паказаны дух народа, а таксама за важную дзейнасць пісьменніка ў якасці правансальскага філолага».

Момзен (Mommsen) Хрысціян Маціяс Тэадор (30.11.1817 — 01.11.1903). Нямецкі гісторык. Прэмія 1902 г. «найбуйнейшаму сучаснаму майстру мастацтва гістарычнага аповеду», са спецыяльнай спасылкай на манументальную працу «Рымская гісторыя».

Морысан (Morrison) Тоні (сапр. Уофард Хлоя Антонія; н. 18.02.1931). Амерыканская пісьменніца. Прэмія 1993 г. творцу, што «ў сваіх поўных мары і паэзіі раманах ажывіла важныя аспекты амерыканскай рэчаіснасці».

Мо Янь (Mò Yán; сапр. Гуань Мое; н. 17.02.1955). Кітайскі пісьменнік. Прэмія 2012 г. «за яго галюцынаторны рэалізм, што аб'ядноўвае ў сабе народныя казкі з гісторыяй і сучаснасцю».

Мюлер (Müller) Герта (н. 17.08.1953). Нямецкая пісьменніца, родам з Румыніі. Прэмія 2009 г. за тое, што яна «з засяроджанасцю ў паэзіі і шчырасцю ў прозе адлюстроўвае жыццё абяздоленых».

Найпал (Naipaul) Сураджпрасад Відх'яхар (н. 17.08.1932). Пісьменнік з Трынідада. Жыве ў Англіі, піша па-англійску. Прэмія 2001 г. «за ўважлівае, эмацыянальнае і непрадузятае даследаванне ў сваіх творах падзей, выцесненых з культуры і гісторыі».

Нэруда (Neruda) Пабла (сапр. Рэес Басуальта Нефталі Рыкарда; 12.07.1904 — 23.09.1973). Чылійскі паэт. Прэмія 1971 г. «за паэзію, якая праз увасабленні стыхійных сіл адлюстроўвае лёсы і памкненні кантынента».

О'Ніл (O'Neill) Юджын Гладстан (16.10.1888 — 27.11.1953). Амерыканскі драматург. Прэмія 1936 г. «за моц, праўдзівасць і глыбокую эмацыянальнасць драматычных твораў, у якіх увасоблена арыгінальная канцэпцыя трагедыі».

Оэ Кэндзабура (н. 31.01.1935). Японскі пісьменнік. Прэмія 1994 г. таму, хто «з паэтычнай сілай стварае ўяўны свет, у якім жыццё і міф зліваюцца ў найдзіўнейшую карціну сучаснага чалавечага быцця».

Памук (Pamuk) Архан (н. 07.06.1952). Турэцкі пісьменнік. Прэмія 2006 г. за тое, што «ў пошуках меланхалічнай душы роднага горада ён знайшоў новыя сімвалы для сутыкнення і перапляцення культур».

Пантопідан (Pontoppidan) Генрык (24.07.1857 — 21.08.1943). Дацкі празаік. Прэмія 1917 г. (разам з К.А. Г'елерупам) «за праўдзівыя апісанні сучаснага жыцця ў Даніі».

Пас (Paz) Актавіа (31.03.1914 — 19.04.1998). Мексіканскі пісьменнік. Прэмія 1990 г. «за палкія творы з шырокімі даляглядамі, глыбокай пачуццёвасцю, інтэлектам і гуманістычнай цэласнасцю».

Пастарнак (Пастернак) Барыс Леанідавіч (29.01/10.02.1890 — 30.05.1960). Расійскі паэт і празаік. Прэмія 1958 г. «за істотныя дасягненні як у сучаснай лірычнай паэзіі, так і ў галіне вялікай рускай эпічнай традыцыі». Пад ціскам савецкіх уладаў ад прэміі адмовіўся.

Пінтар (Pinter) Гаральд (10.10.1930 — 24.12.2008). Англійскі драматург. Прэмія 2005 г. аўтару «п'ес, у якіх ён прыадчыняў бездань, прыхаваную мітуснёй паўсядзённасці, і ўрываўся ў засценкі зняволення».

Пірандэла (Pirandello) Луіджы (28.06.1867 — 10.12.1936). Італьянскі драматург і празаік. Прэмія 1934 г. «за смелае і вынаходлівае адраджэнне драматычнага і сцэнічнага мастацтва».

Ралан (Rolland) Сен-Жуст Рамэн (29.01.1866 — 30.12.1944). Французскі пісьменнік і музыказнаўца. Прэмія 1915 г. «за высокі ідэалізм літаратурных твораў, за спачуванне і любоў да ісціны».

Расел (Russel) Бертран Артур Уільям (18.05.1872 — 02.02.1970). Англійскі філосаф. Прэмія 1950 г. «за шматстайныя і значныя творы, у якіх ён змагаецца за гуманістычныя ідэалы і свабоду думкі».

Рэймант (Reymont; сапр. Рэймент) Уладзіслаў Станіслаў (07.05.1867 — 05.12.1925). Польскі празаік. Прэмія 1924 г. прысуджана «за вялікі нацыянальны эпас «Мужыкі»».

Салжаніцын (Солженицын) Аляксандр Ісаевіч (11.12.1918 — 03.08.2008). Расійскі пісьменнік. Прэмія 1970 г. «за маральную сілу, з якой ён прадоўжыў нязменныя традыцыі рускай літаратуры».

Сарамагу (Сарамага; Saramago) Жазэ (16.11.1922 — 18.05.2010). Партугальскі пісьменнік. Прэмія 1998 г. «за працы, якія, з выкарыстаннем прыпавесці, падмацаванай уяўленнем, спачуваннем і іроніяй, даюць магчымасць зразумець ілюзорную рэальнасць».

Сартр (Sartre) Жан Поль Шарль Эймар (21.06.1905 — 15.04.1980). Французскі празаік, драматург і філосаф. Прэмія 1964 г. «за творы, насычаныя ідэямі і прасякнутыя духам свабоды, якія мелі велізарны ўплыў на наша стагоддзе». Ад прэміі адмовіўся.

Села (Cela) Каміла Хасэ (11.05.1916 — 17.01.2002). Іспанскі пісьменнік. Прэмія 1989 г. «за выразную і магутную прозу, якая са стрыманай пакутлівасцю дае кранальнае ўяўленне пра чалавечыя слабасці».

Сеферыс (Seferis; сапр. Сеферыядыс) Гіоргас (19.02.1900 — 20.09.1971). Грэчаскі паэт і эсэіст, дыпламат. Прэмія 1963 г. «за ўзвышаныя лірычныя творы, выкліканыя да жыцця глыбока ўспрынятым светам старажытнагрэчаскай культуры».

Сіланпя (Сіланпяа; Sillanpää) Франс Эміль (16.09.1888 — 03.06.1964). Фінскі пісьменнік. Прэмія 1939 г. «за глыбокае веданне сялянства сваёй краіны і бліскучае майстэрства, з якім ён адлюстраваў яго жыццё і ўзаемаадносіны з прыродай».

Сімон (Simon) Клод Эжэн-Анры (10.10.1913 — 06.07.2005). Французскі пісьменнік. Прэмія 1985 г. творцу, які «ў сваіх раманах дзеля апісанняў чалавечых узаемаадносін аб’яднаў творчы дар паэта і мастака з глыбокім адчуваннем часу».

Стэйнбек (Steinbeck) Джон Эрнст (27.02.1902 — 20.12.1968). Амерыканскі пісьменнік. Прэмія 1962 г. «за рэалістычны і паэтычны талент, які спалучае ў сабе мяккі гумар і вострае сацыяльнае бачанне».

Сейферт (Seifert) Яраслаў (23.09.1901 — 10.01.1986). Чэшскі паэт. Прэмія 1984 г. «за паэзію, што са свежасцю, пачуццёвасцю і багатым вынаходствам стварае свабодны вобраз неўтаймоўнага духу і паказвае шматстайнасць чалавека».

Сэн-Жон Перс (Saint-John Perse; сапр. Лежэ Мары-Рэнэ-Аўгуст Алексіс; 31.05.1887 — 20.09.1975). Французскі паэт. Прэмія 1960 г. «за высокі палёт і глыбокую метафарычнасць паэзіі, якая ў мастацкіх вобразах адлюстроўвае стан нашага часу».

Сюлі-Прудом (Prudhomme) Арман (сапр. Прудом Рэнэ Франсуа Арман; 16.03.1839 — 06.09.1907). Французскі паэт. Прэмія 1901 г. «найперш у знак прызнання паэтычнай кампазіцыі, якая сведчыць пра ўзвышаны ідэалізм, мастацкую бездакорнасць і рэдкае спалучэнне сардэчнасці і розуму».

Сянкевіч (Sienkiewicz) Генрык Адам Аляксандр Пій (05.05.1846 — 15.11.1916). Польскі празаік. Прэмія 1905 г. прысуджана «за выдатныя заслугі ў галіне эпасу».

Тагор (Тхакура; Tagore) Рабіндранат (07.05.1861 — 07.08.1941). Індыйскі паэт, празаік і драматург. Прэмія 1913 г. за «глыбокую пачуццёвасць, свежасць і хараство вершаў, у якіх ён з дасканалым мастацтвам выказаў сваю паэтычную думку, што стала ў яго ўласных англійскіх варыянтах часткай літаратуры Захаду».

Транстрэмер (Tranströmer) Тумас (13.04.1931 — 26.03.2015). Шведскі пісьменнік. Прэмія 2011 г. «за яго сціслыя, напаўпразрыстыя вобразы, якія прапануюць нам абноўлены погляд на рэальнасць».

Унсет (Ундсет; Undset) Сігрыд (20.05.1882 — 10.06.1949). Нарвежская пісьменніца. Прэмія 1928 г. «галоўным чынам за яскравыя апісанні жыцця Поўначы з часоў Сярэднявечча».

Уайт (White) Патрык Віктар Мартындэйл (28.05.1912 — 30.09.1990). Аўстралійскі пісьменнік. Прэмія 1973 г. «за эпічнае і псіхалагічнае апавядальнае мастацтва, якое ўвяло ў літаратуру новы кантынент».

Уолкат (Walcott) Дэрэк (н. 23.01.1930). Паэт, драматург, мастак з вострава Сент-Лусія (Вест-Індыя). Піша па-англійску. Прэмія 1992 г. «за яскравую паэтычную творчасць, што насычана гістарызмам і з’яўляецца вынікам адданасці культуры ва ўсёй яе шматстайнасці».

Фо (Fo) Дарыа (н. 24.03.1926). Італьянскі драматург і паэт. Прэмія 1997 г. творцу, які «спаборнічае з сярэднявечнымі камедыянтамі ў выкрыцці ўлад і падтрымцы зняважаных».

Фолкнер (Fauikner) Уільям Катберт (25.09. 1897 — 06.07.1962). Амерыканскі пісьменнік. Прэмія 1949 г. «за яскравы і ўнікальны ўнёсак у сучасную амерыканскую прозу».

Франс (France) Анатоль (сапр. Цібо Жак Франсуа Анатоль; 16.04.1844 — 12.10.1924). Французскі пісьменнік. Прэмія 1921 г. «у знак прызнання бліскучых літаратурных дасягненняў, адзначаных як высакароднасцю стылю, так і глыбокай сімпатыяй да чалавека, вытанчанасцю і нязменным гальскім тэмпераментам».

Хейдэнстам (Гейдэнстам; Heidenstam) Карл Густаў Вернер фон (06.07.1859 — 20.05.1940). Шведскі паэт і празаік. Прэмія 1916 г. «у знак прызнання яго значнасці як вядучага прадстаўніка новай эры ў нашай літаратуры».

Хейзэ (Гейзэ; Heyse) Паўль Ёган Людвіг (15.03.1830 — 02.04.1914). Нямецкі паэт, драматург і празаік. Прэмія 1910 г. «як даніна непераўзыдзенай, прасякнутай ідэалізмам артыстычнасці, якую ён дэманстраваў на працягу сваёй доўгай і прадуктыўнай кар’еры лірычнага паэта, драматурга, навеліста і аўтара сусветна вядомых кароткіх апавяданняў».

Хіменес (Jiménez) Хуан Рамон (24.12.1881 — 29.05.1958). Іспанскі паэт. Прэмія 1956 г. «за лірычную паэзію, якая на іспанскай мове стварае ўзоры высокай духоўнасці і мастацкай чысціні».

Хіні (Heaney) Шэймас (13.04.1939 — 30.08.2013). Ірландскі пісьменнік. Прэмія 1995 г. «за творы, поўныя лірычнай прыгажосці і эпічнай глыбіні, з якімі ўзнаўляецца мінуўшчына з яе паўсядзённымі цудамі».

Хемінгуэй (Hemingway) Эрнест Мілер (21.07.1899 — 02.07.1961). Амерыканскі пісьменнік. Прэмія 1954 г. «за майстэрства апавядальнага мастацтва, зусім нядаўна прадэманстраванае ў “Старым і моры”, і за ўплыў, які ён аказаў на сучасны стыль».

Чэрчыль (Churchill) Уінстан Леанард Спенсер (30.11.1874 — 24.01.1965). Англійскі палітык і гісторык. Прэмія 1953 г. «за майстэрства гістарычнага і біяграфічнага аповеду, а таксама за бліскучае прамоўніцкае мастацтва ў абарону гонару чалавечай асобы».

Шойінка (Soyinka) Воле (сапр. Акінвандэ Олуволе; н. 13.07.1934). Нігерыйскі пісьменнік. Прэмія 1986 г. творцу, які «ў шырокім культурным кантэксце і з паэтычнай тонкасцю раскрывае жыццёвыя драмы».

Шолахаў (Шолохов) Міхаіл Аляксандравіч (11/24.05.1905 — 21.02.1984). Расійскі пісьменнік. Прэмія 1965 г. «за мастацкую моц і паўнату, з якімі ён у сваім эпічным творы пра Дон адлюстраваў важны гістарычны перыяд у жыцці рускага народа».

Шоў (Shaw) Джордж Бернард (26.07.1856 — 02.11.1950). Англійскі драматург і навеліст. Прэмія 1925 г. «за працу, адзначаную ідэалізмам і чалавечнасцю, за хвалюючую сатыру, часта прасякнутую выключнай паэтычнай чароўнасцю».

Шпітэлер (Spitteler) Карл Фрыдрых Георг (псеўданім — Фелікс Тандэм; 24.04.1845 — 29.12.1924). Швейцарскі паэт і празаік. Пісаў па-нямецку. Прэмія 1919 г. у знак «высокай ацэнкі яго эпасу “Алімпійская вясна”».

Шымборска (Szymborska) Віслава (02.07.1923 — 01.02.2012). Польская паэтэса. Прэмія 1996 г. «за творчасць, у якой іранічна-дасканала раскрываецца сувязь гістарычнага і біялагічнага ў фрагментах чалавечай рэчаіснасці».

Эйкен (Ойкен, Эўкен; Eucken) Рудальф Крыстаф (05.01.1846 — 15.09.1926). Нямецкі філосаф. Прэмія 1908 г. «у знак прызнання глыбокіх пошукаў ісціны, пранікальнай моцы думкі, шырокага дыяпазону бачання, сардэчнасці і сілы адлюстравання, з якімі ў шматлікіх працах ён абараняе і развівае ідэалістычную філасофію жыцця».

Элітыс (Elytis) Адысеяс (сапр. Алепудэліс; 02.11.1911 — 18.03.1996). Грэчаскі паэт. Прэмія 1979 г. «за паэзію, што абапіраецца на грэчаскую традыцыю і з высокай сілай пачуццяў і інтэлектуальным прадбачаннем адлюстроўвае барацьбу сучаснага чалавека за свабоду і творчасць».

Эліят (Eliot) Томас Стэрнз (26.09.1888 — 04.01.1965). Англійскі паэт і крытык. Прэмія 1948 г. «за выдатны піянерскі ўнёсак у сучасную паэзію».

Эчэгарай-і-Эйсагірэ (Echegaray y Eizaguirre) Хасэ (19.04.1832 — 16.09.1916). Іспанскі драматург, матэматык і фізік. Прэмія 1904 г. (разам з Ф. Містралем) «у знак прызнання шматлікіх і бліскучых твораў, якія ў арыгінальнай манеры адрадзілі вялікія традыцыі іспанскай драмы».

Юнсан (Йонсан; Johnson) Эйвінд Улаф Вернэр (29.07.1900 — 25.08.1976). Шведскі пісьменнік. Прэмія 1974 г. (разам з Х.Э. Марцінсанам) «за апавядальнае мастацтва, што ахоплівае многія краіны і эпохі і падпарадкавана ідэі свабоды».

*Ева Лявонава*

**Святлана Мусіенка**

# Генрык Сянкевіч на Беларусі

З трох выдатных прадстаўнікоў польскай рэалістычнай літаратуры XIX стагоддзя (Ажэшка, Прус, Сянкевіч) найбольш папулярным і сярод даследчыкаў, і сярод чытачоў быў і застаецца Генрык Сянкевіч. Аднак лёс і гісторыя папулярнасці пісьменніка на Беларусі маюць вельмі цікавы характар. У шматлікіх навуковых крыніцах адзначаецца, што Сянкевіч генетычна і эмацыянальна быў звязаны з нашай краінай. Сянкевіч меў шляхецкае паходжанне. Па лініі матчынай у радаводзе былі такія вядомыя постаці, як капелан Яна Казіміра Яўхім Лялевель, граф Бруна Кіціньскі. Што датычыцца радаводу бацькі пісьменніка Юзафа Сянкевіча, то ён быў больш дэмакратычны і нацыянальна неаднародны. Былі ў ім палякі, беларусы, татары. Прадзеда пісьменніка звалі Міхалам Татарам і паходзіў ён са змешанай беларуска-татарскай сям'і. Трэба адзначыць, што ахрышчаны быў гэты Міхал Татар толькі на 15-м годзе жыцця і прыняў каталіцкую веру. Троху пазней ён пачаў служыць у польскім войску і атрымаў тытул шляхціца. Змены ў сацыяльнай прыналежнасці і ў сям'і адбыліся ў XVIII стагоддзі. Даследчыкі творчасці і генеалагічнага дрэва роду Сянкевічаў і да сённяшняга дня не знайшлі адказу на загадку, чаму паненка з праслаўленай і вядомай сям'і (маці пісьменніка) выйшла замуж за небагатага старшага ляснічага (бацька пісьменніка)[1]. Маладая сям'я пачала жыць на Палессі (цяпер тэрыторыя Беларусі). Такім чынам, паходжанне і асяроддзе вельмі значна ўплывалі на фарміраванне сямейнай атмасферы. Можна сказаць, што гэта быў уплыў генетычны на маленькага сына Генрыка (у будучым пісьменніка сусветнай славы). Будучы ўжо вядомым пісьменнікам і думаючы аб веліччы сваёй Бацькаўшчыны, Сянкевіч не толькі збіраў гістарычныя матэрыялы, але і звяртаўся да дзейнасці і жыцця роду свайго бацькі, звязаных з Беларуссю.

У жыцці самога пісьменніка таксама складаліся сямейныя сувязі з гэтай краінай. Яго першая жонка Марыя з роду Шатковічаў паходзіла з Віленшчыны — мясцін даволі шчыльна населеных беларусамі. Такія падрабязнасці, важныя для даследчыкаў, не маглі быць шыракавядомымі на Беларусі, як і не маглі ўплываць на папулярнасць творчасці пісьменніка ў гэтай краіне.

Калі мы звернемся да беларускіх энцыклапедычна-бібліяграфічных крыніц, то пазіцыя «Сянкевіч» у іх прадстаўлена вельмі сціпла, хоць ужо больш чым сто гадоў творчасць пісьменніка на Беларусі не толькі вядомая, але і вельмі папулярная. Яго творы распаўсюджаны ва ўсіх колах чытачоў, ад дзеячаў культуры да дзяцей і падлеткаў, ад рафінаваных інтэлігентаў да бабуль-пенсіянерак, але чытаюцца яны... на рускай мове. Праўда, у апошнім дзесяцігоддзі XX стагоддзя і на пачатку XXI стагоддзя ў сувязі з ажыўленнем і адраджэннем польскай культуры ў нашай краіне Сянкевіч становіцца папулярным і на яго роднай, польскай мове, асабліва сярод палякаў, якія жывуць на Беларусі. Творчасць Сянкевіча ўведзена ў праграмы па літаратуры ў польскіх і беларускіх школах і ў курсе «Гісторыя польскай літаратуры XIX стагоддзя» для студэнтаў польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. У пададзеных вышэй выпадках творчасць Сянкевіча прадстаўлена на польскай мове.

У пэўным сэнсе праблема перакладаў сусветнай літаратуры на беларускую мову высвятляе два вельмі сур'ёзныя пытанні. Першае — адлюстроўвае сітуацыю з мовай карэннага насельніцтва краіны — беларусаў, згодна з апошнімі звесткамі роднай мовай карыстаюцца 63% беларускага насельніцтва пры агульнай лічбе — 81% тых, што назвалі сябе па нацыянальнасці беларусамі ў нашай краіне[2]. На маю думку, сітуацыя выглядае троху інакш: у гарадах беларуская мова распаўсюджаная ў пераважнай большасці сярод нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. У краіне няма ніводнага ўніверсітэта, у якім бы дыдактычны працэс поўнасцю ажыццяўляўся на беларускай мове. Такім чынам, галоўным носьбітам роднай мовы застаецца вёска, аднак яна ў сучасным працэсе ўрбанізацыі перажывае не лепшыя часы.

Другое пытанне з'яўляецца не менш трывожным. Знаёмства беларускага народа з шэдэўрамі сусветнай класікі адбываецца праз мову-пасрэдніцу, якой з'яўляецца мова руская. Гэты факт, без сумневу, абмяжоўвае сферу ўжывання

беларускай мовы і не толькі... Трэба дадаць, што праблема асэнсавання ўласнай гісторыі, культуры, літаратуры і існавання і прэзентацыі беларускага народа ў сусветнай сацыяльна-культурнай прасторы з уласнай нацыянальнай самасвядомасцю і сістэмай духоўных каштоўнасцей з'яўляецца вельмі сур'ёзнай. У такім укладзе рэчаіснасці кім быў і кім застаецца Сянкевіч для беларусаў у беларускай дзяржаве і чым абумоўліваецца яго блізкасць і роднасць беларусам: перш за ўсё высакароднасцю ідэалаў, ідэй і інтэлектуальных каштоўнасцей, якія прапаведаваў і прадстаўляў у сваёй творчасці Сянкевіч. Ён гаварыў, што піша для «ўзмацнення сэрцаў» палякаў, але зрабіў намнога больш — абудзіў у сваіх суайчыннікаў гістарычную памяць аб трагічным павароце гісторыі польскага народа — страце дзяржаўнасці і падзелах краіны. І галоўнае: захоўваючы рамантычную ўзнёсласць аповеду, ён паказаў высакароднасць натуры чалавека-паляка, які змагаўся за свабоду сваёй радзімы. Часам у творах пісьменніка была гістарычная праўда, часам — чароўная гістарычная казка, часам — поўная трагедый і няшчасцяў сучасная аўтару рэчаіснасць. Але ў кожнай версіі аповеду яму ўдавалася не толькі стварыць непаўторны свет сваіх твораў, але і ўвесці ў яго чытача, напоўніць яго душу высакароднасцю імкненняў, прымусіць яго перажываць і пакутаваць з аднолькавай сілай і напружанасцю як вялікія гістарычныя здарэнні, так і любоўныя перыпетыі і цікавыя прыгоды сваіх герояў. Відаць, таму беларускія пісьменнікі сярод улюбёных твораў называлі творы Генрыка Сянкевіча, а яго самога лічылі вялікім майстрам слова, у якога вучыліся пісаць. Сярод іх былі і класікі беларускай літаратуры такія, як Якуб Колас і Янка Купала, і сучасныя пісьменнікі і паэты, як Уладзімір Караткевіч і Міхась Машара і іншыя.

Даволі часта можна пачуць ад літаратурных крытыкаў, што творы Сянкевіча «лёгкія», пакідаюць прыемнае ўражанне, ствараюць атмасферу бестурботнасці і г. д. Але ці так гэта на самай справе? І пры жыцці пісьменніка, і на працягу амаль дзевяноста гадоў пасля яго смерці вядуцца сур'ёзныя палітычныя, ідэалагічныя і літаратуразнаўчыя дыскусіі аб уплывах яго творчасці. Безумоўна, творчасць гэта патрабуе глыбокіх ведаў у галінах гісторыі, псіхалогіі,

> Даследчыкі творчасці і генеалагічнага дрэва роду Сянкевічаў і да сённяшняга дня не знайшлі адказу на загадку, чаму паненка з праслаўленай і вядомай сям'і выйшла замуж за небагатага старшага ляснічага

культуры і літаратуры, умеласці аналізавання тых матэрыялаў, якія ўводзіў Сянкевіч у свет сваіх твораў. Такія дыскусіі адбываліся ў розных краінах. Але што з'яўляецца значным і знакавым у гэтых выпадках для Беларусі?

Беларусь і Польшча — гэта краіны-суседкі, яны маюць падабенства мовы, культуры і блізкасць гістарычных лёсаў. У мінулых часах абодва народы ўваходзілі ў склад адной дзяржавы — Рэчы Паспалітай, якая аб'ядноўвала Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае. Памятаючы аб магутнасці, велічнасці, дэмакратычнасці і гістарычнай значнасці той вялікай айчыны, Сянкевіч, відавочна, і выбраў сабе псеўданім Літвас. Польшча і Беларусь у часы жыцця і творчасці Генрыка Сянкевіча былі пад уладай адной і той жа дзяржавы — Расійскай імперыі. Абодвум народам было забаронена карыстацца роднай мовай. Абодва народы пакутавалі ў няволі і марылі аб вызваленні. Творчасць Сянкевіча дапамагала фармаванню нацыянальнай свядомасці і заклікала да барацьбы за свабоду. Творчасць яго ахоплівае перыяд ад 70-х гадоў XIX да пачатку XX стагоддзя. Гэта быў час абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў і актывізацыі барацьбы беларускай інтэлігенцыі і беларускага грамадства за права карыстацца роднай мовай, за нацыянальную асвету і адукацыю. У такіх умовах ці маглі распаўсюджвацца творы Сянкевіча ў вуснай форме? Спосабамі традыцыйнымі наўрад ці. Але на мяжы XIX—XX стагоддзяў на Беларусі ствараліся рознага роду асветніцкія гурткі і аб'яднанні, у якіх прадстаўлялася і творчасць Сянкевіча. Пачыналі сваю дзейнасць, хоць і ў невялікай

Яго творы распаўсюджаны ва ўсіх колах чытачоў, ад дзеячаў культуры да дзяцей і падлеткаў, ад рафінаваных інтэлігентаў да бабуль-пенсіянерак, але чытаюцца яны... на рускай мове

колькасці, беларускія перыядычныя выданні, у якіх друкаваліся тлумачэнні на беларускую мову твораў польскага пісьменніка.

Першы пераклад навелы Сянкевіча «Янка-музыка» на беларускую мову выканаў М. Фальскі, яна была апублікаваная ў 1904 годзе ў Кракаве. Трагедыя маленькага хлопчыка — выхадца з сацыяльных нізоў — імпанавала настроям прыгнечаных беларусаў перад рэвалюцыяй 1905 года. Навела выконвала і асветніцка-выхаваўчую функцыю, падобную да пазітывісцкай дактрыны — далучэння беларускага народу да скарбаў сусветнай культуры.

У 1905 годзе газета «Витебский голос» змясціла ілюстрацыі да твораў Сянкевіча. Задума была вельмі арыгінальная і паспрыяла падвойнаму ўздзеянню на чытача твораў пісьменніка. Аднак сапраўднай сенсацыяй быў пераклад на беларускую мову фрагментаў амаль невядомага рамана Сянкевіча «На полі славы», змешчаны ў ангажаванай расійскім урадам газеце «Северо-Западный край» пад назваю «На полі славы і хвалы». У параўнанні з рускімі перакладамі Сянкевіча пераклады на беларускую мову ажыццяўляліся з вялікім спазненнем, але ў дадзеным выпадку адбылася змена, якая здзівіла інтэлектуальную грамадскасць. У правінцыяльнай малавядомай газеце публікаваліся фрагменты яшчэ не скончанага рамана. Гэта было доказам паслаблення палітыкі дзяржавы-захопніцы ў адносінах да «малых», падуладных ёй народаў. Дзіўным быў і той факт, што раман служыў заклікам да барацьбы за свабоду, за шанаванне чалавека, для якога мэтай жыцця і галоўнай каштоўнасцю была вольнасць Айчыны. Для Беларусі, пазбаўленай не толькі ўсіх магчымых правоў, але і самой назвы дзяржавы, гэта праблема была надзвычайна актуальнай.

Да найбольш важных пытанняў у галіне пазнавання беларусамі польскай культуры можна аднесці арганізаваныя ў Мінску ў 1908 годзе першыя публічныя даклады і лекцыі аб творчасці Сянкевіча. Гэта была своеасаблівая навукова-асветніцкая канферэнцыя, матэрыялы якой былі апублікаваны ў тым жа 1908 годзе ў газеце «Окраина». Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года (цяпер часцей яе называюць кастрычніцкім пераваротам) перакладаў Сянкевіча на беларускую мову амаль не было, хоць яны і рабіліся як у Савецкай Беларусі, так і за межамі краіны, асабліва на Віленшчыне і ўсходніх ускраінах Польшчы, на тэрыторыях даволі шчыльна населеных беларусамі.

У 1920-я гады ў Савецкай Беларусі творы Сянкевіча з'явіліся двойчы. Першае выданне было рэалізавана ў перыяд надзей і спадзяванняў на адраджэнне беларускай культуры. У 1921 годзе ў чытанцы пад назвай «Родны край» для вучняў пачатковых школ былі змешчаны дзве невялічкія навелы Сянкевіча «Зубры ў Белавежы» і «У афрыканскіх людаедаў», натуральна, на беларускай мове. Можна толькі пашкадаваць, што перыяд адраджэння беларускасці быў вельмі кароткім і меў вельмі трагічныя вынікі, бо скончыўся ён масавымі рэпрэсіямі супраць дзеячаў беларускай культуры.

Некалькі перакладаў твораў Сянкевіча на беларускую мову з'явілася на «крэсавых» землях Польшчы. У 1924 годзе ў перыядычным беларускім выданні «Грамадскі голас» была апублікаваная навела «Янка-музыка», а ў 1925 годзе — «Ліхтаршчык». Ідэйны змест гэтага твора быў накіраваны на тугу і настальгію па Беларусі (зразумела, шчаслівай, бо савецкай) і менавіта тых беларусаў, якія ці засталіся за межамі Савецкай дзяржавы пасля польска-савецкай вайны 1920 года, ці знаходзіліся здаўна ў «заробкавай» эміграцыі. А тым часам, «прывід» рэвалюцыі, прычым не толькі ў 20-я гады мінулага стагоддзя, блукаў па свеце, раздзьмухваючы міф аб ўсеагульным шчасці і роўнасці, замацаваных у суседняй з Польшчай краіне. Вось і спатрэбіўся «Ліхтаршчык» для агітацыі.

Беларускі даследчык творчасці Сянкевіча М. Кенька падкрэсліў, што прататыпам героя навелы Ставіньскага была рэальная асоба — бела-

рус Сялява з Віцебшчыны, які эміграваў ў Амерыку дзеля заробку. Такім чынам, «Ліхтаршчык» меў падвойны эфект ўздзеяння на беларусаў і з пункту гледжання трагічнага лёсу Ставіньскага, і праз ўвядзенне на старонкі твору паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», паколькі менавіта яна (паэма) выклікае настальгічныя ўспаміны аб роднай старонцы. І, як справядліва лічыць Кенька, у абодвух творах выкарыстоўваліся беларускія матэрыялы[3].

У 1926 годзе «Беларускае выдавецкае таварыства» ў Вільні публікуе на беларускай мове яшчэ адну навелу Сянкевіча «Бартак-пераможца». У ёй падкрэслівалася прымітыўнасць натуры галоўнага героя — чалавека з народных нізоў, наіўнасць якога выкарыстоўвалася як пачуццё патрыятызму. Але была ў дадзеным выпадку і другая, больш значная праблема — адурманьвання народных мас, каб у якасці «гарматнага мяса» пасылаць іх на вайну. Ніхто з даследчыкаў спецыяльна не падкрэсліваў нацыянальнага паходжання героя, лічачы, што прапаганда вайны і адурманьванне «маленькага чалавека» тычылася жыцця ўсіх народаў, якіх хлуслівай патрыятычнай прапагандай штурхалі на масавую пагібель. Навела Сянкевіча набыла значэнне своеасаблівай перасцярогі.

Цікава, а дакладней гратэскна склалася сітуацыя з выданнем па-беларуску навелы Сянкевіча «Янка-музыка». Пасля даволі вялікага перапынку, у 1938 годзе быў выдадзены гэты твор. Прозвішча перакладчыка не было, але звяртала на сябе ўвагу прыпіска: пераклад з рускай мовы. Такім чынам, у 1930-я гады творы Сянкевіча на беларускую мову не перакладаліся. І толькі ў 1955 годзе ўпершыню пасля заканчэння Вялікай Айчыннай (ІІ сусветнай) вайны на беларускай мове выдаецца невялічкі зборнік твораў Сянкевіча пад назвай «Апавяданні» ў перакладах Міхася Машары (1902—1976). У ім было змешчана восем твораў, з іх два («Янка-музыка» і «Ліхтаршчык») былі вядомыя раней, а з шасцю апошнімі («Эскізы вугалем», «Па хлеб», «Орса», «Сахэм», «З дзённіка пазнанскага настаўніка», «Камедыя памылак»)[4] беларускі чытач пазнаёміўся ўпершыню. На жаль, крытыка не ўдзяліла гэтаму выданню належнай увагі. У сувязі з выхадам зборніка ў свет прафесар Сцяпан Аляксандровіч напісаў кароценькую рэцэнзію «Сянкевіч на беларускай мове» (Аб зборніку Г. Сянкевіч «Апавяданні»).

Наступная пазіцыя аб творчасці пісьменніка з'явілася толькі праз 11 гадоў. У 1966 годзе П. Стэфановіч у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» змясціў артыкул пад назвай «Гордасць польскай літаратуры»[5]. Аднак гэты артыкул меў не навуковы, а ганаровы характар. Трэба падкрэсліць, што на Беларусі навуковыя даследаванні пра Сянкевіча, як і пераклады яго твораў і да сённяшняга дня не адзначаюцца шматлікасцю ў адрозненне ад расійскага літаратуразнаўства, дзе аб польскім пісьменніку і ў навуковай літаратуры, і ў перакладах яго твораў пералік пайшоў ужо на сотні. І гэта пры тым, што, далікатна кажучы, Сянкевіч не дэклараваў вялікай любові да Расіі. Чаму такая «пустка» стварылася вакол Сянкевіча на Беларусі? І гэта тады, калі ў бібліятэках нашай краіны твораў Сянкевіча налічваецца велізарная колькасць, толькі... на рускай мове. Як жа можна патлумачыць такую дыспрапорцыю паміж расійскімі і беларускімі выданнямі Сянкевіча? Ці гэта яшчэ адзін паварот у лёсах папулярнасці пісьменніка, ці паўтарылася ў былым СССР палітыка Расійскай імперыі, якая была асабліва чулай на ідэйныя каштоўнасці творчасці Сянкевіча. І ці былі яго беларускія пераклады такімі небяспечнымі ў адносінах да былой Савецкай Беларусі? Дазволю сабе ўсумніцца. Відавочна, была іншая, больш значная прычына, якая не страціла актуальнасці да сённяшняга дня і мае гістарычныя карані.

У Расійскай імперыі, як і ў Савецкім Саюзе, існавала супярэчнасць паміж геаграфічна-тэрытарыяльным і этнічным паняццем Расіі і

Вядома, што Сянкевіч з прычын палітычных ніколі не выяўляў сваіх ведаў ні рускай мовы, ні рускай культуры, ні рускай гісторыі, хоць факты яго жыцця і творчасці сведчаць аб тым, што пісьменнік быў добрым іх знаўцам

Беларусі. Кола ўплываў (а часам і ўціск) рускага этнасу было на многа больш пашырана, чым геаграфічнае паняцце «Расіі». Кола беларускага этнасу, наадварот, сціскалася і паглыналася «рускасцю». Працэс русіфікацыі беларускай культуры ажыццяўляўся рознымі шляхамі. Першы — тэрытарыяльна-этнічны, мэтай якога было перасяленне жыхароў Расіі на тэрыторыю Беларусі. Гэта быў працэс своеасаблівага асадніцтва, але без прымусу. Беларусь лічылася вельмі прэстыжнай рэспублікай у савецкія часы. Важную ролю адыгрывала і папулярызацыя ідэі еднасці і роднасці народаў, якія нібы не маглі жыць адзін без аднаго ці, інакш кажучы, маглі быць толькі жыхарамі адзінай *савецкай* краіны. Важным было і распаўсюджванне на Беларусі рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін, а таксама папулярызацыя, бясспрэчна, вялікай рускай літаратуры і культуры, на развіццё якой урад не шкадаваў сродкаў. Існавала таксама вельмі высокага класа школа перакладаў сусветнай класікі на рускую мову. У той час як на беларускую мову такога роду тлумачэнні ажыццяўляліся не вельмі часта. Класіка сусветнай літаратуры па-беларуску і да гэтай пары прадстаўлена вельмі сціпла. Пераклады замежнай літаратуры выконваліся хутчэй дзеля рэалізацыі ідэі роўных правоў народаў і культур у Краіне саветаў. Хоць і на Беларусі былі і ёсць не толькі выдатныя знаўцы і перакладчыкі высокага мастацкага ўзроўню сусветнай літаратуры (Ю. Гаўрук, У. Дубоўка, М. Танк, Я. Семяжон, В. Сёмуха, Я. Парэцкі, А. Лойка і інш.).

На працы ў Расіі выкарыстоўваліся і беларускія інтэлектуалісты, спецыялісты, вучоныя, пісьменнікі. Некаторыя з іх жылі ў Маскве (А. Адамовіч, В. Быкаў), некаторыя, застаючыся ў Беларусі, пісалі на рускай мове. Такая эміграцыя не была прымусовай. Масква была вельмі прэстыжным горадам і творцы хацелі ў ім жыць і працаваць. Масква вызначала лёс развіцця ўсёй велізарнай шматнацыянальнай дзяржавы. Таму і ў час існавання Расійскай імперыі і ў бытнасць Савецкага Саюза паняцце «расійская (руская) культура» распаўсюджвалася за межы рускага этнасу і ахоплівала ўсю тэрыторыю дзяржавы, уключаючы ў сябе і краіны неславянскія (прыбалтыйскія і азіяцкія рэспублікі).

Такім чынам, і творчасць Сянкевіча даходзіла на Беларусь не з Польшчы, а з Расіі, з Масквы. Папулярнасць і тут чакала пісьменніка, але... паруску. Вядома, што Сянкевіч з прычын палітычных ніколі не выяўляў сваіх ведаў ні рускай мовы, ні рускай культуры, ні рускай гісторыі, хоць факты яго жыцця і творчасці сведчаць аб тым, што пісьменнік быў добрым іх знаўцам. Нягледзячы на негатыўныя адносіны да расійскіх уладаў, Сянкевіч менавіта ў Расіі набывае велізарную папулярнасць і пры жыцці, і пасля смерці. У якасці доказу прывяду некаторыя выказванні на гэтую тэму рускіх і польскіх крытыкаў, змешчаныя ў перыядычных выданнях на мяжы XIX—XX стагоддзяў. У рэдакцыйным артыкуле часопіса «Русская мысль» чытаем: «Генрык Сянкевіч з'яўляецца настолькі вялікім пісьменнікам, што кожны новы яго твор літаральна расхопліваецца перакладчыкамі і друкуецца ў шматлікіх перыядычных і кніжных выданнях, амаль што адначасова з паяўленнем арыгінала»[6].

Папулярная ў Расіі газета «Нива» выказвала захапленне з нагоды выхаду перакладу рамана «Патоп».

«Сярод сучасных польскіх пісьменнікаў, — пісала «Нива», — першынство, безумоўна, мае незвычайна таленавіты раманіст Генрык Сянкевіч... Уласна кажучы, «Патоп» ставіць яго побач з самымі выдатнымі пісьменнікамі Еўропы»[7].

Аб папулярнасці Сянкевіча многа пісалі не толькі ў Расіі. Шмат выказванняў на гэтую тэму пакінулі і польскія даследчыкі. Трэба адзначыць, што апошнія аналізавалі творчасць Сянкевіча з улікам спецыфікі сацыяльна-гістарычных рэаліяў у краіне. Польскі часопіс «Край» змясціў артыкул Ф. Пана, у якім аўтар даказваў, што ў часы ўзрастання напружанасці паміж Расіяй і Польшчай менавіта ў Расіі ствараецца своеасаблівы культ Сянкевіча[8]. Так адбылося, што ў Расіі гэты пісьменнік высока цаніўся перш за ўсё за мастацкую дасканаласць. І калі выкарыстаць мастацкі прыём «накладання», ці аплікацыі ідэі твора (у дадзеным выпадку рамана «Патоп») на сацыяльна-гістарычную ці нацыянальную сітуацыю, якая склалася на Беларусі ў канцы XIX стагоддзя, то можна лёгка заўважыць яе падабенства да сітуацыі ў Польшчы. Аналізуючы творчасць Генрыка Сянкевіча,

можна прыйсці да высновы, што пісьменніку ўдалося «ўзмацніць сэрцы» не толькі польскага, але і беларускага народу. І гэта тлумачыць прычыны папулярнасці Сянкевіча і папулярызацыі яго творчасці на Беларусі і, галоўнае, дазваляе інтэрпрэтаваць яе ў рэчышчы патрыятычна-вызваленчых ідэй. А такога не мог дазволіць урад краіны-захопніцы — Расійскай імперыі, а пазней краіны сацыялістычнай дыктатуры. Відаць, таму расійская крытыка адзначыла высокую мастацкасць рамана «Патоп», аднак раманы «Агнём і мячом» і «Пан Валадыёўскі» разглядала як творы ідэйна-супярэчлівыя і гістарычна недакладныя.

Рэцэпцыя, ці «ўваходжанне» творчасці пісьменніка аднаго народа ў эстэтычную свядомасць і культуру другога народа — працэс вельмі складаны. Ён патрабуе і ад самога пісьменніка, і ад яго інтэрпрэтатара, ці перакладчыка яго творчасці, не толькі дакладнасці трактовак, але і пэўнай далікатнасці, каб не абразіць пачуццяў і годнасці народа, які ўспрымае пераклад. Трэба сказаць, што перакладчык павінен валодаць не толькі тэхнікай перакладчыцкай працы, але і быць таленавітым мастаком на ўзроўні таленту аўтара. Бо толькі тады творчасць пісьменніка становіцца фактам культуры таго народу, на мову якога перакладаецца яго твор. Феномен папулярнасці Сянкевіча на Беларусі пацвярджае гэту ісціну, хоць і ў рускай версіі яе хаджэння тут. Рускія даследчыкі яшчэ ў канцы XIX стагоддзя звярнулі ўвагу на папулярнасць Сянкевіча. «Сянкевіча, — пісаў В. Гольцаў у 1893 годзе, — павінна лічыць сваім кожнае грамадства, для якога з'яўляецца важным распаўсюджанне справы асветы і справядлівасці»[9]. Асаблівую значнасць гэта справа набыла для беларусаў. Аднак, калі рускай інтэлігенцыі імпанавалі пазітывісцкія ідэі навелістыкі Сянкевіча, то праблемы яго «Трылогіі», аб якіх напісала газета «Волынь», маглі выдацца вельмі небяспечнымі расійскаму ўраду. Іх расшыфраваў крытык пад абрэвіятурай Е-н С у артыкуле «Генрык Сянкевіч». Ён адзначыў: «Ідэя гэта наступная. Калі ў паказаных аўтарам такіх цяжкіх умовах Польшча здолела ўсё ж такі ўратавацца, то якімі жудаснымі ні былі б умовы сучасныя, яна выйдзе з іх пераможцай»[10].

Відавочна, значнасць «Трылогіі» разумеў не толькі аўтар артыкула аб Сянкевічу... А на

Першае выданне «Quo vadis» па-беларуску было апублікавана ў Рыме ў 1956 годзе, прычым не кірылічным, а лацінскім шрыфтам

Беларусі з перакладамі Сянкевіча зноў затрымка і расцягнулася яна амаль на 42 гады. У час гэтага перапынку адбыліся вялікія здарэнні і на Беларусі, і ў свеце: распаўся Савецкі Саюз, быў разбураны Берлінскі мур, аб'ядналася Нямеччына, распаўся сацыялістычны лагер і Беларусь атрымала так доўга чаканую незалежнасць. І ў 1997 годзе на беларускай мове ўпершыню быў выдадзены пераклад эпічнага рамана Сянкевіча «Крыжакі», выкананы Міхасём Кенькам. Ва ўступным артыкуле і ў тлумачэннях перакладчыка, аўтарам якіх быў таксама Кенька, падкрэсліваецца думка аб блізкасці Сянкевіча да Беларусі. Як лічыць перакладчык, Сянкевіч звяртаўся да яе паказу даволі часта і ў многіх творах: беларускія краявіды адлюстраваны ў раманах «Патоп», «Крыжакі», эсэ «Белавежская пушча». Постаці беларусаў выступаюць у якасці герояў у раманах «Крыжакі», «Quo vadis» і навеле «Ліхтаршчык». Сюжэт навелы Сянкевічу падказаў яго амерыканскі сябра беларус Юліян Гарайн. Асаблівую ўвагу Кенька звяртае на апісанне гераічных удзельнікаў бітвы пад Грунвальдам ліцвінаў і жмудзінаў — продкаў беларусаў. Праўда, перакладчык выказвае Сянкевічу папрок за тое, што пісьменнік паказаў іх дзікімі, апранутымі ў звярыныя шкуры, што, на думку Кенькі, не адпавядала гістарычнай праўдзе. І ўсё ж, галоўнае заключаецца ў тым, што Сянкевіч паказаў імкненне герояў бітвы да свабоды. Для паляка, як і для ліцвіна і жмудзіна нават на досвітку цывілізацыі самым трагічным было страціць свабоду сваёй Айчыны. Ужо тады паляк адчуваў небяспеку, якая ішла ад крыжакоў, і быў гатовы аддаць жыццё за Радзіму. Ці не было гэта актуальным для беларуса і ці не пагражала падобная небяспека і Беларусі як у канцы XIX, так і ў канцы XX стагоддзя. Ці не таму ў перакладзеным рамане бітва за свабоду набывае асабліва знач-

нае вымярэнне і разглядаецца ў арганічнай сувязі з ідэямі і каштоўнасцямі хрысціянства. Логіка зацікаўленасці на Беларусі творчасцю Сянкевіча падказала наступны твор для перакладу на беларускую мову. Ім стаў раман «Quo vadis».

Пераклад рамана быў зроблены ў 1956 годзе святаром Пятром Татарыновічам. Як піша аўтар уступнага артыкула В. Мартыненка аб Татарыновічу, менавіта ён, «сын Палескіх пушчаў хацеў дасягнуць замірэння сваіх думак аб радзіме з адчуваннямі жыцця эмігранта, «свайго сярод чужых»[11].

Пётр Татарыновіч (1896—1978) нарадзіўся ў вёсцы Гайнін на Случчыне. У 1919 годзе быў узведзены ў сан каталіцкага святара. Большую частку жыцця правёў у эміграцыі ў Італіі, ЗША, Канадзе. Апрача перакладчыцкай дзейнасці, у якой былі такія значныя дасягненні, як пераклад «Бібліі» на беларускую мову, Татарыновіч пісаў артыкулы на гістарычныя тэмы і супрацоўнічаў з беларускім навуковым часопісам «Litva», што выдаваўся ў Чыкага.

Першае выданне «Quo vadis» па-беларуску было апублікавана ў Рыме (выдавецтва «Źnič») у 1956 годзе, прычым не кірылічным, а лацінскім шрыфтам. Дарэчы, Татарыновіч у пераважнай большасці пісаў лацініцаю, захоўваючы гістарычныя моўныя традыцыі. Таму вялікую працу па выданні рамана на Беларусі выканаў і аўтар каментарыяў і ўступнага артыкула Мартыненка. Па-першае, ён зрабіў транслітарацыю перакладу з лацініцы на кірыліцу і пры гэтым праявіў не толькі шанаванне ў адносінах да аўтара, але імкнуўся захаваць нормы і тарашкевічавай граматыкі, і сучаснай беларускай мовы. Сам Мартыненка адзначыў, што «транслітарацыя рабілася без інтэрвенцыі ў стылістычную стыхію перакладчыка»[12]. Але ўсё ж такі мова Татарыновіча адрозніваецца і ад жывой, і ад сучаснай літаратурнай беларускай мовы, і гэта патрабавала сур'ёзнага каментарыя, якім суправаджаецца твор і паясняюцца моўныя, гістарычныя і літаратуразнаўчыя яго асаблівасці.

Такім чынам, выкананне і ўвядзенне ў беларускую інтэлектуальную прастору рамана Сянкевіча «Quo vadis» (дарэчы, нядаўна перакладзенага і на рускую мову) абумоўлена актуальнасцю твора ў сучаснай сацыяльна-гістарычнай сітуацыі ў свеце. Сянкевіч глядзеў на сваю зняволеную Айчыну праз прызму агульначалавечых каштоўнасцей і хрысціянскіх ідэй. У рамане цікава і шматколерна паказаны свет антычнай язычніцкай культуры, але ў часы Нерона дэфармаванай дыктатурай. Сянкевіч адзін з першых паказаў небяспечнасць дыктатуры, якая імкнулася да знішчэння хрысціянства. Гэта праблема, вызначаная Сянкевічам, набыла незвычайную актуальнасць на мяжы XX—XXI стагоддзяў. Пісьменнік для яе вырашэння выкарыстаў новы для свайго часу мастацкі прыём — гістарычны касцюм. Што ж датычыцца дыктатуры, то яе дзейнасць і вынікі добра вядомыя кожнаму жыхару нашай планеты, якая перажыла дзве сусветныя вайны, Хірасіму, чарнобыльскую аварыю і шмат іншых трагедый. Можна толькі пажадаць, каб дыктатура адышла нарэшце ў гісторыю і споўнілася мара вялікага пісьменніка і гуманіста, якога так любяць чытачы і даследчыкі абодвух народаў.

**Літаратура**


1. Krzyżanowski J. Henryka Sienkiewicza żywot i sprawy. Warszawa, 1966, s. 12.
2. Гусев Н. Русский язык как родной. «Народная воля», 20 мая, 2000.
3. Кенька М. Генрык Сянкевіч і яго раман «Крыжакі» // Сянкевіч Г. Крыжакі. Мінск, 1997, с. 9.
4. Сянкевіч Г. Апавяданні. Мінск, 1955.
5. Стэфановіч П. Гордасць польскай літаратуры. Да 120-годдзя з дня нараджэння Генрыка Сянкевіча // Літаратура і мастацтва, 1966, 4 мая.
6. Русская мысль, 1895, кн. 3, с. 108.
7. Нива, 1885, № 27, с. 633.
8. Pan F. O Sienkiewiczu. «Kraj», 1897, nr 14, s. 140.
9. Гольцев В. Предисловие // Сенкевич Г. Повести и рассказы. Москва, 1893, с. VII.
10. Э-н С. Генрик Сенкевич // Волынь, 1900, № 271, s. 2.
11. Сянкевіч Г. Quo vadis. Мінск, Медысонт, 2002, с. 7.
12. Тамсама, с. 8.

Кірыл Мяцеліца

# Кейданскі здраднік

**У многіх фігура Януша Радзівіла (1612—1655) асацыюецца з «Патопам» Генрыка Сянкевіча. У сваім рамане-эпапеі пісьменнік прадставіў вялікага гетмана літоўскага ў якасці здрадніка, які, заключыўшы Кейданскую унію з Карлам Х Густавам, аддаў Вялікае Княства Літоўскае пад шведскі пратэктарат. Гэты акт вызначыў наступнае ўспрыманне гетмана нашчадкамі. Аднак гэта выключна польскі погляд на падзеі тых далёкіх гадоў, для беларусаў жа асоба Януша Радзівіла з'яўляецца нашмат больш складанай.**

Януш Радзівіл лічыўся адным з самых адукаваных людзей сваёй эпохі. Ён вучыўся ў Лейпцыгскім, Альтдорфскім і Лейдэнскім універсітэтах, валодаў некалькімі мовамі і быў блізка знаёмы з многімі ўплывовымі еўрапейскімі арыстакратамі. Нягледзячы на тое, што ў маладосці гетман быў свецкім франтам, дзяржаўныя справы заўсёды заставаліся для яго прыярытэтнымі. Знаходзячыся ў самы разгар Смаленскай вайны (1632—1634) у Галандыі, Радзівіл на ўласныя грошы сабраў там атрад з тысячы пехацінцаў і двухсот драгунаў, з якім і вярнуўся на радзіму, каб абараніць Вялікае Княства Літоўскае ад войскаў рускага цара.

Аднак разам з тым гетман быў чалавекам гарачым і неўраўнаважаным. Ад свайго бацькі — перакананага кальвініста Крыштафа Радзівіла — ён атрымаў у спадчыну не толькі сварлівы характар, але і непрыязнасць да палякаў і каралёў Рэчы Паспалітай, якія, на яго думку, хацелі толькі аднаго — абмежаваць самастойнасць Вялікага Княства. Пры ўсім гэтым тагачасны кароль Уладзіслаў IV любіў Януша і ўсяляк імкнуўся аказваць яму пратэкцыю, нават калі той выходзіў за ўсе дапушчальныя рамкі. Так, падчас аднаго з пасяджэнняў Віленскага сойма малады Радзівіл сказаў сваю знакамітую фразу: «Прыйдзе час, паны-палякі да дзвярэй Віленскага замка не трапяць: праз вокны іх выкідваць будзем». Гэта быў відавочны намёк на знакамітую «Пражскую дэфенестрацыю», калі чэшскія дваране выкінулі з акна габсбургскіх намеснікаў. Параўнанне становішча ліцвінаў у Рэчы Паспалітай са становішчам чэхаў пад скіпетрам Габсбургаў было празмернай дзёрзкасцю нават для Януша, але Уладзіслаў дараваў яму гэта. Кароль выбачаў свавольнага Радзівіла, калі той выклікаў на паядынкі яго дарадцаў, выбачаў, калі князь распальваў у Вільні беспарадкі на рэлігійнай глебе, якія заканчваліся крывавымі сутычкамі, выбачаў, калі п'яны Януш размахваў шабляй і пагражаў спаліць Варшаву. Кароль праз пальцы глядзеў на ўсе правіны свайго ўлюбёнца і нават паспрыяў таму, каб у 1646 годзе той стаў гетманам польным літоўскім. Гэтую пасаду князь атрымаў у рамках падрыхтоўкі да вялікай вайны з Турцыяй, якая так і не адбылася з-за процідзеяння шляхты. Складзіся гісторыя інакш — і хто ведае, можа, не Ян Сабескі, а Януш Радзівіл увайшоў бы ў гісторыю як выратавальнік Еўропы ад асманаў...

Жыццё Рэчы Паспалітай і самога князя ішло сваім ходам, пакуль вясной 1648 года над Рэспублікай Абодвух Народаў не грымнула навальніца. Казакі на чале з Багданам Хмяльніцкім пры падтрымцы татараў разбілі польскія войскі ў бітвах на Жоўтых Водах і пад Корсунем. Катастрафічнае становішча Варшавы ўзмацняў той факт, што ў палон трапілі абодва каронныя гетманы — Мікалай Патоцкі і Марцін Каліноўскі. У дадатак да ўсяго 20 мая памёр Уладзіслаў IV Ваза. Калі ў Польшчы ўсіх шакавалі гэтыя нечаканыя бедствы, то ў Літве мясцовая шляхта была адносна спакойнай. Казацкія паўстанні здараліся і раней, таму многія думалі, што выступ Хмяльніцкага атрымаецца падавіць

Кароль выбачаў свавольнага Радзівіла, калі той выклікаў на паядынкі яго дарадцаў, выбачаў, калі князь распальваў у Вільні беспарадкі на рэлігійнай глебе, якія заканчваліся крывавымі сутычкамі, выбачаў, калі п'яны Януш размахваў шабляй і пагражаў спаліць Варшаву

Нягледзячы на тое, што ў маладосці гетман быў свецкім франтам, дзяржаўныя справы заўсёды заставаліся для яго прыярытэтнымі

без асаблівых праблем. Ніхто тады і ўявіць не мог, якую высокую цану давядзецца заплаціць ліцвінам за гэтую самаўпэўненасць.

Вельмі хутка казацкае паўстанне перакінулася і на беларускія землі. Паўднёвыя землі ВКЛ былі перапоўнены апранутымі ў жабракоў, манахаў і гандляроў людзьмі Хмяльніцкага. Яны мелі пры сабе ўніверсалы ад гетмана Войска Запарожскага, у якіх беларускіх мужыкоў заклікалі выступіць супраць паноў. Услед за прапагандыстамі ішлі і ўзброеныя атрады казакоў. Насенне вайны ўпала ў добрую глебу, і ў казачыя харугвы сталі збягацца не толькі сяляне, але і многія дробныя шляхцічы і проста шукальнікі прыгод. Тыя, каму не было чаго губляць, не шкадавалі ні сябе, ні іншых. Паўстанцы рабавалі, забівалі, спальвалі ўшчэнт маёнткі мясцовай шляхты і грамілі яўрэйскія мястэчкі. Адзін за адным падалі гарады Вялікага Княства — Старадуб, Гомель, Рэчыца, Мазыр, Пінск. Невялікае войска ВКЛ не магло даць годнага адпору паўстанцам, таму ў бой ішлі харугвы, якія многія магнаты выстаўлялі за ўласны кошт. Толькі праз некаторы час гэтыя войскі, сабраныя на асабістыя сродкі Сапегаў, Пацаў, Валовічаў і многіх іншых, перайшлі на ўтрыманне дзяржавы.

У верасні 1648 года на тэатр ваенных дзеянняў прыбыў Януш Радзівіл, які пачаў агнём і мячом наводзіць парадак у княстве. Таксама, як і Ерамія Вішнявецкі, што падаўляў казацкае паўстанне на ўкраінскіх землях, гетман быў бязлітасным да бунтаўшчыкоў. Паўстанцаў саджалі на кол, секлі ім галовы, рукі, адразалі языкі і вушы. Пры гэтым Януш уважліва сачыў за ўзроўнем дысцыпліны сярод сваіх воінаў, якіх без жалю вешалі пры падазрэнні ў марадзёрстве ці гвалце над мірным насельніцтвам. Да канца 1649 года практычна ўся тэрыторыя ВКЛ была вызвалена. Войскі Радзівіла ўжо стаялі ля мяжы княства і рыхтаваліся да паходу ва ўкраінскія землі, калі прыйшла вестка пра тое, што кароль заключыў перамір'е з Хмяльніцкім. Аднак неўзабаве баявыя дзеянні аднавіліся. У канцы ліпеня 1649 года Януш атрымаў пад Лоевам адну з самых бліскучых сваіх перамог. Харугвы пад яго кіраўніцтвам ушчэнт разбілі ўтрая большыя сілы саперніка (гэты трыумф гетмана ўвекавечаны на многіх карцінах). Ужо ў жніўні быў падпісаны Збароўскі мір, але праіснаваў ён нядоўга. Усё скончылася тым, што ў 1651 годзе Радзівіл увайшоў у Кіеў. 18 верасня ваюючыя бакі падпісалі Белацаркоўскае перамір'е, якое, як здавалася, надоўга забяспечыць мір ва ўсім спустошаным краі. У той момант цяжка было знайсці ў Рэчы Паспалітай чалавека, які не захапляўся б гетманам.

Адным з такіх людзей быў новы манарх Ян Казімір. У 1648 годзе Януш падтрымаў яго кандыдатуру на каралеўскі трон, аднак неўзабаве іх сяброўства астыла. Кароль, які неаднаразова негатыўна выказваўся ў адрас палякаў, атачыў сябе польскай шляхтай і стаў імкнуцца да ўмацавання каралеўскай улады і абмежавання правоў магнатаў. Да таго ж ён стаў набліжаць да сябе Сапегаў, якія былі лютымі ворагамі Радзівілаў. Януш узненавідзеў Яна Казіміра. Многія гісторыкі небеспадстаўна лічаць, што гетман падбухторваў некаторых дэпутатаў выкарыстоўваць права liberum veto і тым самым блакіраваць усе рашэнні караля. Разам з Янам Ляшчынскім, Хрыстафорам Апалінскім і Юрыем Себасцьянам Любамірскім Радзівіл заключыў так званую «магнацкую дамову», скіраваную супраць манарха. Загаворшчыкі планавалі здзейсніць дзяржаўны пераварот, і хто ведае, як крута б павярнула наша гісторыя, калі б яны аказаліся крыху больш рашучымі.

Між тым над Рэччу Паспалітай зноў сталі збірацца хмары. Хмяльніцкі вырашыў шукаць падтрымкі ў рускага цара Аляксея Міхайлавіча, які пасля некаторых ваганняў пагадзіўся пачаць вайну супраць свайго заходняга суседа. Ужо ў сакавіку 1653 года Масква стала рыхтавацца да вайны. Чуткі пра гэта даходзілі да Радзівіла, але ён толькі адмахваўся, мяркуючы, што ў выпадку прамой пагрозы палякі і ліцвіны змогуць абараніць свае землі. Неўзабаве лёс чарговы раз пакараў гетмана за самаўпэўненасць.

У чэрвені 1654 года на ВКЛ рушыла статысячная армія маскавітаў. Княства было зусім не падрыхтавана да вайны: прыгранічныя гарады не

былі ўмацаваны належным чынам, а літоўскае войска існавала, па вялікім рахунку, толькі на паперы. У выніку Радзівілу, які атрымаў булаву вялікага гетмана, удалося сабраць 10-12 тысяч чалавек, з якіх толькі трацiна з'яўляліся прафесійнымі ваярамі, але што яны маглі зрабіць супраць добра адладжанай ваеннай машыны цара? Людзей у арміі ВКЛ магло быць і больш, калі б многія магнаты (і ў першую чаргу Сапега) пагадзіліся аддаць свае войскі пад кіраўніцтва князя. На жаль, асабістыя інтарэсы для часткі магнатаў стаялі вышэй за дзяржаўныя. Тым не менш час ад часу ліцвінам удавалася нанесці праціўніку даволі адчувальныя ўдары, хоць у цэлым войскам гетмана даводзілася адступаць. У заслугу Радзівіла можна занесці той факт, што яго харугвы ніколі не беглі, а кожны раз адыходзілі ў арганізаваным парадку. Ніводнага разгромнага паражэння Януш не зазнаў.

Калі пала Вільня і сітуацыя на фронце стала крытычнай, у справу ўмяшаўся новы нечаканы фактар — шведы. Шведскі кароль Карл X Густаў даўно ўжо прыглядаўся да Лівоніі, якая тады належала Рэчы Паспалітай. Гэты разумны і дальнабачны палітык выдатна разумеў, якія перспектывы адкрыюцца перад яго краінай, калі ўся ўсходняя Балтыка апынецца ў руках шведаў. Аднак аднаго жадання было мала, і кароль не наважваўся пачынаць вялікую вайну з адной з найбуйнейшых еўрапейскіх дзяржаў. Толькі поспехі рускага цара, які таксама прэтэндаваў на Лівонію, прымусілі Карла прыступіць да рашучых дзеянняў. Упэўненасці яму дадавалі і пасланцы ад Радзівіла, які праз сваіх людзей намякаў каралю, што Вялікае Княства Літоўскае гатова разарваць унію з Польшчай і заключыць падобную дамову са Швецыяй...

Цяжка дакладна вызначыць час, калі Януш адважыўся на гэты адчайны крок, аднак наўрад ці будзе вялікім перабольшаннем сказаць, што да падобнага рашэння гетмана падштурхнулі не столькі паразы ад маскавітаў, колькі расчараванасць у суайчынніках. Па-першае, Карона не хацела слаць свае войскі ў дапамогу ліцвінам, па-другое, магнаты не хацелі аб'ядноўваць свае намаганні для барацьбы з агульным ворагам, а па-трэцяе, значная частка беларускай шляхты папросту не хацела ваяваць і адкрывала перад царскімі ваяводамі вароты аднаго горада

Януш уважліва сачыў за ўзроўнем дысцыпліны сярод сваіх воінаў, якіх без жалю вешалі пры падазрэнні ў марадзёрстве ці гвалце над мірным насельніцтвам

за другім. Дык хто тут здраднік? Бачачы, што ад маскоўскага прыгнёту ВКЛ можа выратаваць толькі Швецыя, Януш цалкам свядома звярнуўся па дапамогу да шведскага караля, які бачыўся гетману адзіным чалавекам, здольным выратаваць яго бацькаўшчыну ад маскоўскага цара. Цікава, што пасля таго, як шведская армія ўварвалася ў межы Польшчы, многія мясцовыя шляхцічы добраахвотна прысягнулі Карлу і нават прапаноўвалі яму заняць пасад Рэчы Паспалітай. Пры гэтым у гістарычнай памяці палякаў менавіта Радзівіл з'яўляецца здраднікам. Між тым, асноўная віна гетмана заключаецца толькі ў тым, што ён хацеў разарваць ненавісную яму унію.

Нельга сказаць, што Януш быў адзінокі ў сваіх поглядах. Ідэю цеснага саюза са Швецыяй падтрымалі многія ліцвіны. Пад падпісанай 20 кастрычніка 1655 года ў Кейданах уніяй паміж Швецыяй і ВКЛ стаялі подпісы многіх уплывовых людзей Вялікага Княства. Зрэшты, не ўсе былі задаволены дамовай са шведамі. Першым супраць Радзівіла выступіў Ян Павел Сапега, які сам да гэтага меў цесныя кантакты з царом і потым прыняў бок законнага караля. У лістападзе 1655 года гетман з двухтысячным атрадам адступіў у Падляшша, дзе ён валодаў некалькімі буйнымі маёнткамі. Войска яго змяншалася, паколькі Карл цягнуў з выкананнем свайго абяцання — забяспечыць армію Радзівіла грашыма, узбраеннем і харчаваннем. Неўзабаве апальнага Януша пакінула практычна ўсё яго атачэнне. З невялікай жменькай людзей ён апынуўся зачыненым у замку ў горадзе Тыкоцін. Тут, кінуты ўсімі, ён і памёр у апошні дзень 1655 года. На целе мёртвага гетмана былі заўважаны цёмныя плямы, і гэта паслужыла прычынай чутак пра атручванне. Гаварылі, што атрутнікаў падаслаў Сапега. Так гэта ці не, мы, мабыць, ніколі ўжо не даведаемся.



Фаіна Наканечная

**нарадзілася 10 жніўня 1993 года ў Слоніме. Студэнтка 5-га курса Інстытута журналістыкі БДУ. Працуе ў газеце «Універсітэт». Піша на трох мовах — англійскай, рускай, беларускай — артыкулы, апавяданні і казкі для дзяцей. Захапляецца гісторыяй свайго роду, шукае звесткі пра паходжанне прозвішчаў роду.**

## Алізар

Ён быў дужы і моцны чалавек, мой дзядуля. Але аднойчы і ён плакаў. Гэта здарылася, калі ён захварэў.

Дзядуля баяўся заставацца адзін, таму я часта сядзела з ім. Пра што размаўляць двум людзям, зусім розным паводле светапогляду і ўзросту?

Дзядуля Віця разгаварыўся пра сваё дзяцінства. Апісваў дзіўныя рэчы. Як яго аднойчы выратавалі ад смерці незнаёмыя людзі. Як сустрэў нячыстую сілу, гуляючы па полі глыбокай ноччу. Ён смяяўся, мой дзядуля. Я вырашыла спытаць дзядулю Віцю пра вайну:

— Дзядуля, а што на вайне было? Як ты выжываў?

Пачуўшы маё пытанне, Віця спыніўся на паўслове. Павярнуў галаву і паглядзеў у акно. Студзеньская мяцеліца, здавалася, прабіралася праз дом. Хацела ўкусіць і раніць сваім холадам. Такім жа халодным заставалася яго сэрца, сэрца майго дзядулі. Здавалася, гэтую вайну ён не раскажа ні ў якім разе. Яго тонкія пальцы сціснуліся ў замок. Як па інерцыі, мае пальцы таксама апынуліся счэпленымі. Як быццам нас злучыла агульнае гора. Гісторыя, якую я не перажыла. Але адчуванне жаху мне перадалося. Па яго капілярах, артэрыях, венах — у мае. З яго тонкіх пальцаў — у мае. З яго сэрца — у маё.

Ён пачаў вельмі ціха:

— Ты ж ведаеш прозвішча свайго роду, праўда? Алізар. Мы ж Алізары. Паводле звычаяў, спадчына нашага роду перадавалася ад маці. Ад маёй маці гэта перадалося мне. Ад мяне — тваёй маме. Але ў цябе, у адрозненне ад яе, жыццё больш складанае. Як і маё. Як быццам ты мая копія. Мне цяжка...

Ён закашляў і спыніўся. Ніколі Віця не прамаўляў гэтае слова. Яно было выкраслена. Забыта. Пакінута. Пахавана пад зямлю. Двойчы перакапана і спалена. Гэтак жа, як спаліў ён свой стары пашпарт, каб не значылася ў графе «нацыянальнасць» небяспечнае слова «габрэй».

Па расказах маіх знаёмых, якія збіралі архівы сваіх даўно загінулых родных, у Мінскае гета немцы збіралі людзей наўпрост з вуліцы. Мужчыны самі казалі, хто з іх якога роду і прозвішча. Немцы прымушалі збіраць рэчы і пераязджаць на іншае месца. Ніхто і здагадвацца не мог, што гэта не прапанова новай працы, а прапанова аб смерці. А смерць новай не бывае...

Яму не было ні лёгка, ні цяжка, майму Віцю. Ён проста расказваў. Спыняўся. Падоўгу маўчаў. Зноў працягваў, часам зусім іншую гісторыю. Не думаю, што ён усё мне расказаў. Ён не хацеў. Не, ён не адважыўся трывожыць мае розум і душу. Па ягоных вачах было відаць, што ніхто не павінен чуць такія апавяданні. Ніхто. Але я была бліжэй да яго ў той момант. Плоць — ад плоці. Кроў — ад крыві. Яго дачка зразумела б, але плакала б. Ён ненавідзеў гэта. А я не плакала.

Яго гісторыі больш падобныя на лісты з дзённіка, калісьці схаваныя ў маленькі патайнік за печкай. У гэтым патайніку — бляшанай скрыначцы з немудрагелістым ручным узорам — захоўваліся лісты. Бязладна даставаліся з памяці і зноў аказваліся за печкай.

Магчыма, ён не хацеў, каб я зноў збірала яго ўспаміны. Вечнасці яму не трэба было. Дастаткова толькі слухаць. Вушамі, вачыма, позіркам... Я напісала ЎСЁ з яго слоў. Словы Віці, магчыма, будуць перабівацца маім невыразным мармытаннем. Але гэта нічога. Я думаю, мяне зразумеюць. Не, нас зразумеюць. Зразумеюць і прабачаць. Што ж, я пачынаю.

## Я — не герой

*Вайна — гэта не час, унучка. Вайна — гэта стан. Нельга сказаць: «Ну ўсё, цяпер будзе цяжка!» Нават калі будзе цяжка ўдаве з пяцярымі дзецьмі-рахітыкамі (я бачыў гэтыя ножкі-трасцінкі і круглыя жывоцікі), нават тады жанчына будзе спадзявацца. Вось ніхто і не верыў.*

*Да канца жніўня ў маю вёску Нізы, дзе я жыў да вайны і падчас яе, прыехалі з плакатам «Радзіма-Маці кліча!». Каго яна клікала? Я і мае сябры былі жаўтаротымі. Мне так страшна стала — не перадаць. Я думаў, што з'еду і больш нікога не ўбачу. Уначы да прызыву мне прысніўся сон: «Каля ракі Ісы лаўлю я рыбу, а з вады вылятае велізарны пугач. Падлятае ён да майго твару і вухкае. Ды так вухкае, што дрэвы калышуцца, і па вадзе хвалі, а я нічога не чую».*

*Расказаў я свой сон бацьку Лявону. Ён падумаў-падумаў і гаворыць: «Аглухнеш на вайне».*

*Бацька мой, Лявон Сідаравіч Алізар, — просты быў чалавек, любілі яго людзі. І Сідара — дзеда майго — таксама любілі і... баяліся. Прадзед мой быў багаты чалавек. Палац, лес, поле, луг — усё яго было. Людзі потым усё забралі ў яго. Нам не толькі таму, што багатымі былі, не давяралі. Мы ж Алізары. Прозвішча немясцовае нейкае.*

*Хто ж будзе працаваць у полі, на гародах? Увесь наш аглаеднік карміць. Не бацька ж адзін будзе. Вось я і не захацеў ісці ў салдаты. Спаліў свой пашпарт у лесе. Узяў дакумент меншага брата. Там было напісана, што мне пятнаццаць. Ваяваць нельга.*

*Таму я — не герой. Які герой прамяняе ўсю краіну на нейкіх васьмярых чалавек? Сорамна сказаць. Я і ў партызаны пайшоў толькі з-за таго, каб ежу крадзеную дадому насіць. Які герой крадзе? А я так, проста Віця. Заўсёды быў ім. Нават на вайне выжыў. Відаць, пашанцавала.*

Прозвішча Алізар паходзіць ад царкоўнага імя Елізар. Мужчынскае хрысцільнае імя Елізар у перакладзе са старажытнаяўрэйскай азначае «Бог дапамог». У аснову прозвішчы лягла вытворная форма імя — Алізар. Заступнікам гэтага імя з'яўляецца Вялебны Елезар, Аланецкі цудатворац, заснавальнік Прадцечавай мясціны (XV стагоддзе).

## Хрысцілі мяне агнём. Двойчы

Мне было сем гадоў. Жнівень. Гэта быў сонечны дзень. Віця не казаў тады пра вайну. Яго больш захапляў агарод: бульба, памідоры, гуркі, морква. Усё павінна быць праполатым, чыстым. Дзед не любіў непавагу да зямлі.

Што ж, я прапалваць градкі. Віця бурчаў: «Вось тут і тут не прыбрала! Не будзе расці, прыглушыць гародніну! Хто ж так прапалвае!»

Я толькі смяялася і пакрыквала з-пад градак: «Дзед, ты хочаш, каб я і гародніну прапалола ўсю? Чыста ж!»

Сабраўшы прыстойнае для сямігадовай дзяўчынкі вядзерца (у ім было больш зямлі, вядома), я пабегла выкідаць пустазелле пад вінаграднік. Гэта ў другім канцы градак.

Я бачыла, што дзед расклаў вогнішча. Для яго гэта быў рытуал. Ён спальваў сухую траву, непатрэбныя лісты паперы, ваенны кіцель і бушлат, нашыўкі, медалі, ордэны... Што? Медалі? Ордэны? Я быццам не паверыла вачам. Вядро з грукатам пакацілася... Я пабегла да вогнішча. Яно гарэла вельмі моцна. Не разумею, чаму я скокнула. Спачатку было не балюча. Напэўна, адрэналін. Толькі потым я зразумела, што апякла рукі, — калі даставала гарачы метал і тканіну.

Мы сядзелі пад вялікай яблыняй. Я, Віця і рэшткі яго мінулага.

Віця доўга тады гаварыў.

*Ты не ведаеш, унучка, я ж быў двойчы ахрышчаны агнём. Чаго вочы вылупіліся?*

*16 снежні 1942 года прыехалі яны. Смяюцца. Ды не, рагочуць. Весёленькія такія. Сытыя, моцныя. А я хлеба тыдзень не бачыў. Я пытаюся ў бацькі: «А чаго гэта немцы сюды прыехалі?»*

*Лявон падумаў трохі: «Відаць, працу прапаноўваць».*

*Яны пачалі збіраць мужчын да 45 гадоў. Гаварылі пра працу ў лесе. Сказалі хлеба ўзяць на два дні. У нас з бацькам нічога не было. Паставілі нас усіх, чалавек трыста. Пачалі нам план нейкі маляваць. Бацька тады адразу прыкмеціў нядобрае, сказаў: «Бяжы, сыночак. Гэта не план. Гэта фікса». Так ён падман раскрыў.*

*Да нас падбег знаёмы бацькі, які стаў паліцаем. «Лявон, — казаў паліцай Мікіта, — ты… гэта… ідзі дадому на Нізы, не твая гэта праца». Пабачыў гэта адзін немец, нешта па-свойму крычаць пачаў. Мікіта адбег і больш да бацькі не падыходзіў.*

*Нас, чалавек з паўсотні, загналі ў невялікую саламяную хатку. Майго бацьку павялі за хлеў два немцы. Я пачуў: «Црынк»! Стралялі... Я толькі потым у бацькі спытаў, што адбылося. Яму і яшчэ чалавекам дзесяці, мужчынам, стралялі ў галаву. Куля прайшла праз вуха. Навылёт. Лявона аглушылі. Але не забілі.*

*Я тады за сябе больш турбаваўся і за братоў і сясцёр маіх. Я памру, а іх хто накорміць?*

*Я нават не зразумеў, што хату падпальваць пачалі. Немцы ўсё «шпрэхалі». Потым я прапоўз у нейкі пакойчык. Там быў яшчэ пацан гадоў дзевяці і баба — гаспадыня дома. І вось хатку пачалі падпальваць. А баба гэтая, дурніца, як заверашчыць: «Курачкі ж мае знікнуць! Ой!»*

*Нават хлопчык зразумеў, што калі немцы пачуюць бабу, нам канец. Супакойваў яе: «Усё добра будзе! Выратуюцца курачкі. Я ўпэўнены. Яны ведаюць, дзе выбягаць. Ведаюць ход».*

*А яна не супакойвалася. Злосць мяне ўзяла. Яна, дурніца гэтакая, пра сваіх курачак галосіць. А я памру, мае сёстры, браты памруць.*

*У мяне было шмат сіл. Я схапіў яе рот і заціснуў. Мне было ўсё роўна. Я хацеў жыць. Гэты пацанёнак хацеў жыць. «Дзе ход гэты?» — спытаў я ў яго.*

*Пад падлогай было некалькі фальшывых дошак. Склеп. Праз склеп гэты мы і выйшлі з хаты. Лес быў далёка. Было толькі поле і яма. Не ведаю чаму, я пабег да ямы. Нездарма. Пацанёнка і бабу заўважылі немцы і «прашылі» кулямі. Я падбягаў да ямы і чуў «тра-та-та» за спінай. Страшна не было. Я ўсё думаў, што вось бягу, яны страляюць і не могуць патрапіць. Мазільё!*

*Я скокнуў у яму. Праз нейкі час расплюшчыў вочы і ўбачыў цемру. «Ну, усё, забілі», — падумаў я. Але няўжо ў пекле такі смурод? Свінні рохкаюць. Яны ядуць нешта. І адразу мяне званітавала. Людзі, людзі, вакол людзі. Усе яны... ляжаць тут. Так, гэта была магіла. Яма была глыбокая. Дзесяць метраў. Караскаўся па тоўстых спінах дзікіх свіней. Гэта былі мае паўзкі з пекла. Я быў знясілены.*

*«Сына? Віцечка!» — паклікаў знаёмы голас.*

*Лявон цягнуў руку насустрач цемры. Мы падняліся адны. І яшчэ дзед Бардун з груднічком на руцэ. Больш ніхто не вярнуўся адтуль. Многія мае родныя-любімыя сышлі навечна.*

*Другі раз я вырашыў наведаць сяброў, сяброўак у Зэльве. Да вёскі не дайшоў. Нас сагналі ў кароўнік. Такія ж, як мы, са стрэльбамі наперавес. Абзывалі нас свіннямі, габрэйскімі мордамі. Нас было трое супраць пяці. Я не ганаруся тым, што зрабіў. Але мне трэба было жыць... У гэтых хлопчыкаў мы потым знайшлі хлеб і гарэлку. Я з гора выпіў. Свой кавалачак хлеба данёс дадому. Хлеб быў патрэбны маёй сям'і...*

Мая мама стаяла за спінай дзеда з ёдам і бінтамі. Памятаю, і дзеду, і мне тады добра дасталася ад яе. Атрымалася — я хрышчоная агнём, дзед — двойчы.

## Воля

Гэта было 22 снежня 2008 года. Калі шчыра, не памятаю, якое надвор'е было за акном. Зіма і зіма. Вечар снежны быў бы нічым не характэрны для мяне, калі б не адзін факт: год таму ў гэты ж дзень памерла мая бабуля Вольга. Гэта ж, здаецца, дзень зімовага сонцастаяння. Самая доўгая ноч... Яна была для мяне такой. У той час я засталася начаваць у доме дзядулі. Ці то ад таго, што яе больш няма, а можа таму, што было жудасна сумна глядзець чорна-белы тэлевізар у прыцемак... Можа, таму Віця і распавёў мне гэту гісторыю.

*Лета 1944 года. У ліпені не было надта горача. А можа быць, мне не было горача. Бо я заўсёды быў галодны. У гэты час я і апынуўся ў Слоніме. Перашывалі рэчы для заможных. Я навучыўся шыць папросту. Нічога для гэтага не патрабавалася акрамя нажніц. Бацька дастаў іх з складоў немцаў.*

*У той час навіны ўжо дасягнулі і нашых забытых усімі Нізоў. Армія немцаў адыходзіла.*

*На галоўнай вуліцы збіраўся народ. Я не мог не бачыць гэтага відовішча. Салдаты на танках пранесліся па галоўнай вуліцы. Некаторыя спыняліся. З кабін выглядалі і спускаліся ўніз нашы. Многія людзі проста кінуліся ў абдымкі да маіх аднагодкаў у старой форме. У нейкі момант мне стала зайздросна. Але я хутка забыўся на свае думкі. Праз натоўп жанчын з кветкамі прабіралася дзяўчынка. Блакітнавокая, з сівымі валасамі. Я б не здзівіўся, калі б не быў таксама блакітнавокім і сівым. У руках яе моцна сціснуліся званочкі. Дзяўчынка прабралася праз натоўп. Так жа хутка, як яна знікла, гэтак жа яна з'явілася побач са мной.*

*Я спытаў:*

*— Чаму не захацела пакатацца з салдатамі?*

*— А, ну яго. Што я там не бачыла! — Адказала дзяўчынка. — Я і сама, можна сказаць, герой!*

*— Хм, і чаму ж гэта? — усміхнуўся я.*

*— А я параненым дапамагала, і гранаты пад цягнікі варожыя ўсталёўвала. Можа, мне за гэта медаль дадуць! — весела гаварыла яна.*

*— А як цябе завуць, герой радзімы? — спытаў я.*

*— Воля... Вольга Зуй, — нерашуча адказала Вольга.*

*— А я — Віктар Алізар.*

*— Алізар прозвішча лепшае, — пачасала патыліцу Вольга. — Можа, убачымся яшчэ, Алізар!*

*Яна зноў знікла ў натоўпе і зноў з'явілася ў маім жыцці праз восем гадоў. Так я потым і ажаніўся з Воляй.*

Зуй у старажытнарускай гаворцы азначала птушку з роду кулікоў. Мянушку Зуй часта давалі вельмі спрытным, жыццярадасным дзіцяткам-гарэзнікам. Так, існавала прымаўка «вяртлявы, як зуй». Магчыма, менавіта такім характарам валодаў продак роду Зуй.

Мая бабуля Вольга Мікалаеўна Зуй да самага сыходу ў нябыт дапамагала сваёй сястры Веры і ўсім нашым родным. Да 73 гадоў яна магла прайсці адлегласць каля 20 кіламетраў з цяжкай торбай на плячы. Яна заўсёды хацела стаць лекарам. Марыла, каб я ратавала жыццё людзям.

10 ліпеня 1944 года войскі 65-й арміі 1-га Беларускага фронту ўвайшлі ў Слонім і выбілі ворага з горада. Бабулі было 10 гадоў. Дзеду — 18.

## Люты

У лютым Віцю заўсёды рабілася дрэнна. Мая мама ў такіх выпадках казала: «У піліпаўку воўк нема вые». Хоць гэты Купалаўскі выраз больш адносіўся да студзеня, усё ж ён падыходзіў па сэнсе. Дзед адчуваў нейкую небяспеку. За акном гурбы і цемра. У адзін з такіх дзён ён вырашыў распавесці гісторыю.

Сярэдзіна вайны. Люты. Было невыносна холадна. Мяне паслалі ў лес па дровы. Шлях быў не такі далёкі. Але я вырашыў адправіцца завідна, каб да абеду прыехаць дадому. Нейкім цудам бацька змог здабыць качан капусты і муку.

*Гурбы ў лесе былі з палову мяне. Было цяжка прабірацца па снезе так, каб сляды былі непрыкметныя. Таму, трохі перадумаўшы, я вырашыў змяніць маршрут. Трэба было, каб мяне ніхто не бачыў.*

*Ты ж ужо ведаеш, што я любіў лес. І не толькі таму, што ён карміў мяне і хаваў, але і падсвядома. Мой прадзед гэты лес садзіў. Вось я іду і разумею: гэты лес, луг, поле, рэчка калісьці былі яго. Нейкая памяць крыві.*

*Нязвыкла, калі ў лесе няма гукаў. Толькі хруст снегу і звон сякеры. Больш нічога.*

*Адна маленькая елка. На большае мяне не хапіла. Каб не заўважылі, прыйшлося зноў мяняць напрамак. Праходзячы праз знаёмы ўзлесак, я бачыў нейкую жывёлу. Яна ляжала. Падышоў бліжэй. Змёрзлы, у ваенным шынялі ляжаў на снезе чалавек.*

*Як ён сюды трапіў? Хто гэта? Як змёрз? Форма была нямецкая. Хто гэты салдат, я не даведаўся і зараз не даведаюся. Яго твар, прамерзлы і белы, часта мне сніцца. Тады я зразумеў, што смерці ўсё роўна. Што і я мог таксама ляжаць на снезе.*

Гэта быў апошні аповед, які я пачула ад Віці.

25 лютага 2014 года ноччу яго не стала. Яму было 88 гадоў. Столькі ж, колькі пражыў яго бацька.

## Генрых Далідовіч:

# «Я адзін з першых дзяцей спаленай вёскі»

**Журналіст Дзмітрый Гурневіч як аднавясковец Генрыха Далідовіча можа падцвердзіць: сёмы па ліку галоўрэд «Маладосці», сёлетні юбіляр – шчыры патрыёт і пясняр Налібоччыны, якую натхнёна і глыбока ўвёў у сілавое поле былой і цяперашняй рэчаіснасці ўсёй Беларусі.**
**У розных энцыклапедыях зазначана, што пісьменнік нарадзіўся ў вёсцы Янкавічы Стаўбцоўскага раёна. Але пачаць аповед пра земляка трэба з удакладнення: ён пабачыў свет у зямлянцы на хутары Амшарок, што размяшчаўся ў двух кіламетрах ад Янкавіч і з 1961 года не існуе.**

## Сын Яе Вялікасці Налібоцкай пушчы

Вёску Янкавічы ўлетку 1943 года спалілі акупанты, а мясцовы люд пагналі на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Бацька будучага пісьменніка Вацлаў здолеў больш чым па саракакіламетровай дарозе да стаўбцоўскай чыгункі ўцячы з-пад канвою, туляўся ў бежанстве, а пасля вызвалення родных мясцін разам таксама з бежанкай, маладой жонкай Янінай вярнуўся «дадому». Да амаль цалкам згарэлых колішніх будынін, размытых дажджом печаў. Некаторыя нюансы тагачаснага лёсу вёскі і хутара, бацькоў Генрых Далідовіч апісаў у апавяданні «Спечаныя яблыкі на галінах», у аповесці «Жывы покліч», а ў цыкле аўтабіяграфічных мініяцюр «Сярод лесу, сярод поля» даў дакументальныя рыскі: *«Бацька сумеўся сяліцца на дзедаўшчыне — на папялішчы ў пустэльнай, адзічэлай, па начах нават прывіднай вёсцы, падаўся, як раней і ягоныя бацькі, на хутар, у Амшарок. Там зладзіў зямлянку — выкапаў яміну, абклаў яе падвалінамі, абставіў жэрдкамі, абкрыў іх галлём, кавалкамі з цёмна-зямлістага дзірвану. З ацалелай цэглы былой печы зляпіў грубачку з плітой, змайстраваў з плашак стол, ляжак, на ім матрац з сенам — вось першы іхні, Далідовічаўскі, хутаранскі «палац», што спрыяў выцерпець гора, выжыць і па-свойму непаўторна цешыцца маладосцю».*



Ля роднай хаты. 1995 год.

У гэтым «хораме» і нарадзіўся 1 чэрвеня 1946 года першынец, як у нас кажуць, Гэнік — адзін з першых хлопчыкаў у вёсцы і на хутары, што пачалі пакрыху адраджацца (за ім ужо ў хаціне народзяцца яшчэ дзве сястры і два браты, самая малодшая сястра, жартуе Далідовіч, самая цывілізаваная: заявіцца не дома, пры лучыне, пры павітусе, а ў бальніцы і пачне жыць у вёсцы з электрычнасцю). Гэніку з пятага класа па дзясяты прыйшлося хадзіць у школу за сем кіламетраў (аўтобусы тады не хадзілі, а снежнымі зімамі — і грузавікі, пад'ехаць можна было толькі на прычэпе гусенічнага трактара. Але закінуты куток зямлі не стаў ад гэтага нялюбым, больш — часамі трывожна, часамі хораша сніцца яму і сёння, таму зноў і зноў ажывае на новых старонках. Вось



З бацькамі на хутары Амшарок. 1948 год.

запісанае на тэхніцы яго прызнанне: *«У рамане Івана Буніна "Жыццё Арсеннева" герой часамі перажываў, што ён жыве ў пэўнай глухамані, што бачыць мала людзей, што слухае выццё мяцеліцы, ходзіць сцежкамі, дзе поўна снегу. А мне жыццё на хутары Амшарок дужа падабалася. Вясной там усё квітнела ад ранніх кветак, пасля зелянела жыта, бегла хвалямі як мора. А гульні з сябрамі на хутары, з якімі мы заўсёды былі радыя сустракацца. Яшчэ — пушчанскі прылесак, невялікая, але глыбокая рака, возера каля былога млына. Змалку праца ў агародзе, у лесе, на сенакосе, у жніво. А побач былі і іншыя маляўнічыя хутары, яны і сёння ў маёй памяці: Палько, Засценак, Ляжджа, Падзера, Ляйтаркі. Ды ўсё было непаўторнае».*

## Першыя літаратурныя ўрокі

Ахвотны да чытання юны хутаранец асвоіў азбуку яшчэ да пяці гадоў. Бацькі, якія хадзілі ў школу «за польскім часам», навучылі чытаць па-польску. Родную пісьмовую мову ён спазнаў у 1-ым класе Янкавіцкай пачаткоўкі. У Амшарку ўсе насельнікі пражылі 15 гадоў, а пасля пры палітыцы дэхутарызацыі мусілі вяртацца ў вёску, якую пакінулі пры польскай уладзе і яе палітыцы хутарызацыі. Пераборы пры невялічкай падмозе дзяржавы не маглі не давесці вялікую сям'ю да нястачы. У Янкавічах у класе сёмым Гэнікавы заметкі пачалі друкаваць у раённай «Ивенецкой правде», праз год-два ён — пазаштатны карэспандэнт стаўбцоўскага «Праменя», з 10 класа — «Сельской газеты». Старшакласнікам у поўным сэнсе вобмацкам пачаў спрабаваць свае здольнасці ў прозе, дасылаць іх у любімы часопіс «Маладосць». Адтуль Міхась Стральцоў і Вячаслаў Адамчык пісалі яму лісты, знаходзілі ў яго творах некаторыя ўдалыя задумы, асобныя сцэны, словы і сказы, падказвалі, што трэба пазбягаць агульнавядомага і штучнага, вельмі ж ужо надуманага, раілі больш асэнсоўваць жыццё роднай вёскі, характары, паводзіны аднавяскоўцаў. Аўтар, вядома, засмучаўся, што не ўцэльвае ў сапраўднае і, зразумела, нават падумаць не мог, што праз пэўны час стане намеснікам галоўнага рэдактара, а пасля і галоўным рэдактарам гэтага паважанага дэмакратычнымі коламі і моладдзю выдання.

*«Стральцоў і Адамчык пісалі мне, што напачатку, калі малады нявопытны аўтар пачынае пісаць, то міжволі імкнецца пераймаць таго, хто яму падабаецца (Я — Якуба Коласа). І яны падкрэслівалі: у цябе там багатае жыццё, цікавыя людзі і розныя мясцовыя падзеі, адпаведна, ты не пераймай кагосьці і лішне не сачыняй, апішы тое, што ёсць, што ты сам бачыш і чуеш. Апішы бабулю, якая прыходзіць да вас у госці з бліжэйшага хутара, пра што і як яна расказвае, як збіраюцца і пра што гавораць суседзі. Гэтая парада мне вельмі была дарэчы. У адных з першых апавяданняў пад агульнай назвай "Цяпло на першацвет" я падрабязна апісаў некаторыя моманты са свайго маленства, цяжкую, але загартоўчую працу з бацькам у кузні, сваю радасць, калі мне купілі першы касцюм, каб хадзіў у школу апрануты "па-людску". Калі ў часопісе*



Сямейнае фота. 1996 год.

*"Полымя" надрукавалі гэты трыпціх, я нават здзівіўся, што столькі ўхвальных водгукаў, што твор прызналі лепшым у жанры апавядання за год і прысудзілі за яго прэмію.»*

Калі пачыналася перабудова і пісьменнікі адчулі сябе свабадней, Генрых Вацлававіч не толькі яшчэ раз палічыў патрэбным звярнуцца да заходнебеларускай тэмы, але і напісаць пра тое, пра што і сам не пісаў, і іншыя мала закраналі. У выніку з'явіўся раман «Заходнікі», за які аўтару зноў была прысуджана палымянская прэмія, а ў 1976-м — Дзяржаўная.

*«Я панамагаўся расказаць пра пакуты землякоў у час вайны і пасля яе, пра знявагі, а то і здзекі над імі прыезджымі начальнікамі, якія гвалтам гналі ў сацыялістычны рай, неразумна адбівалі любоў да зямлі, мянялі сялянскую, гаспадарскую псіхалогію, прывучалі быць найперш паслухмянаю рабсілай за нейкія містычныя, амаль пустапарожнія працадні. Многія гэтыя кіроўцы не маглі адрозніць ячменю ад пшаніцы, зусім не ведалі, што і калі сеяць, але за імі была ўлада і сіла. Гаспадаркі, падпарадкаваныя ім, дасягалі там поспеху, дзе не слепа выконваліся розныя адарваныя ад жыцця дырэктывы, планы, а дзе болей слухалі сялян-гаспадароў, умелі ўдала спажыць іхнюю любоў да зямлі, працавітасць і дзе гэтых "заходнікаў з кулацкім настроем" цанілі як паўнавартасных людзей. Янка Брыль, якога я глыбока паважаю і цаню як пісьменніка, як аднаго з тых, хто быў маім негалосным настаўнікам па ўжыванні мастацкіх сродкаў, па абыходжанні з мовай, аднойчы ўздыхнуў пры мне прыкладна так: "Ну, Генрых, табе пашанцавала. Нам бы ў свой час не дазволілі паказваць выбрыкі старшыні калгаса, які дазваляў сабе са зброяй хадзіць і здзекавацца з людзей, і іншыя рэчы, якія наш люд вытрымаў". Калі я ствараў станоўчыя вобразы, я не мог не паказаць, што бачыў на ўласныя вочы і што, сапраўды, вытрымалі нашы людзі. Яны вельмі годна сябе паводзілі і засталіся людзьмі высокага гарту. Як і ў большасці ўсе беларусы. Не кожны з нашых суседзяў-народаў столькі і гэтак зведаў гора, напакутаваўся, але таксама не страціў сваёй годнасці. Праўда, на жаль, не ва ўсім. Асабліва цяжкія страты панёс у гістарычнай памяці, нацыянальнай свядомасці. "Дабрадзеі" вытрасалі гэта з душы, з розуму нашых прадзедаў не адно стагоддзе».*

## «Сваімі творамі я аддаю даніну старой вёсцы»

З прымусовым пераходам на «сацыялістычныя рэйкі», г. зн. калгасную сістэму з абразаннем асабістай маёмасці не пагадзіліся ўсе і ў Янкавічах. Паколькі тут была большасць каталікаў, а некаторыя з іх звыкліся па ідэалогіі ўлад панскай Польшчы лічыць сябе і палякамі, то паводле пагаднення паміж СССР і ПНР пра абмен насельнікамі, многія янкоўцы падаліся за Буг у 1945-м, а пасля і ў 1956-м. Людзі лічылі, што там не такія прымусовыя калгасы, там ім дадуць больш зямлі і іх будуць больш цаніць як гаспадароў. Па падліках Генрыха Вацлававіча, тады Янкавічы абяднелі амаль на палову гаспадарак. Іх засталося толькі крыху за 60. Пакінулі спрадвечны родны кут і яго бабуля па бацьку, тры дзядзькі і цётка (бабуля жыла ў ПНР на «нямецкай» зямлі каля 95 гадоў і размаўляла толькі «па-свойму», цяпер з жывых цётка і 10 стрыечных братоў і сясцёр з іх шматлікімі дзецьмі і ўнукамі. Асобы-мужчыны маюць прозвішча Далідовіч, але ўжо ўсе, народжаныя там, лічаць сябе палякамі).



Ля руін Навагародскага замка.

*«Але ў нашай радні была і іншая бабуля — маміна мама. Яна ў 1956 годзе мелася разам з сынамі і іхнімі дзецьмі таксама выехаць у Польшчу са свайго хутара Ляйтаркі (цудоўныя былі мясціны, а цяпер там суцэльны падрослы лес), але пасля перадумала і вырашыла застацца пры адзінай дачцэ. Нашай маме Яніне. Паколькі гэтая бабуля трымала маленькую гаспадарку, то я, як старэйшы ўнук, ёй дапамагаў. Дровы калоць, сена касіць. Калі не трэба было хадзіць у школу, то я там і начаваў . Яна мне расказвала вечарамі столькі розных бываліц, што часам я нават засынаў пад яе аповеды: хто з кім кахаўся, а каго з кім бацькі не дапускалі асямеіць. Я шмат даведаўся ад яе пра наш старэйшы люд, але і думаць не думаў, што пасля мне ўсё гэта спатрэбіцца. У прыватнасці, мой раман "Гаспадар-камень" — гэта адзін з трох раманаў пра ўтварэнне дзяржаўнасці Беларусі ў XX стагоддзі. У першай кнізе больш побытавага, мне хацелася паказаць жыццё ў звычайнай налібацкай вёсцы. Эпізоды, дзе апісваюцца людзі, хутары і вёска, то я напісаў гэта дзякуючы таму, што мне расказала бабуля. І калі потым маладзейшыя чыталі гэта сваім бацькам у вёсцы, то тыя дзівіліся, адкуль гэты пасляваенны Гэнік ведае даўнія рэаліі. Бабуля была вясковым акадэмікам па разуменні жыцця, чалавечых дум і пачуццяў. І пры гэтым яна не павучала, а разважала, тлумачыла. У яе, напрыклад, было не толькі слова "трава", яна ведала назву кожнай травінкі, яна ведала ўсе зёлкі і што чым лячыць. Яна ведала ўсе назвы грыбоў. Дзякуючы ёй я спазнаў тое, што патрэбна кожнаму чалавеку, а пісьменніку асабліва. Веданне, асэнсаванне і адлюстраванне народнага — жыватворнае для творчасці. Але з яе расказаў пра вайну я стараўся не пісаць (апроч спалення хутароў і вёскі ў 1943-м): у нашай літаратуры пра яе столькі напісана на высокім узроўні, што я б там нічога новага не сказаў. Хоць зведваю віну, скажам, перад Налібакамі, дзе ў адзін дзень вайны там быў забіты не адзін дзясятак людзей. І не фашыстамі ды паліцэйскімі. І мая будучая маці была таму сведкай. І ад таго, што бачыла ручаёк крыві, што цёк вуліцай, анямела, раптоўна пасівела, а пазней зведала жудасныя сны… Так што тэматыка старой вёскі яшчэ зусім не вычарпаная…».*

## Свой дом

Раман «Гаспадар-камень» запачаткаваў трылогію паказу станаўлення беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі. Як у першай, так і ў наступных частках «Пабуджаныя» і «Свой дом» героямі кнігі сталі не толькі Янка Купала, Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Чарвякоў, іншыя беларускія дзеячы (яны ў савецкі час праз пільнасць цэнзуры былі выведзеныя пад псеўданімамі), а таксама і жыхары Налібацкай пушчы. У трылогіі Далідовіч пастараўся паглыбіцца ў падзеі ад Першай сусветнай вайны па 1919 год.

*«У Першую сусветную вайну многія нашыя людзі нацярпеліся і ад расійскіх войскаў, і ад нямецкіх, многія былі ў бежанстве, мала каму патрэбныя, нахапаліся ліха. То і міжволі задумаліся*

*над тым, што лепш мець уласны дом. І ў многіх прарэзалася адчуванне, што яны — не проста люд з Паўночна-Заходняга краю, што ў іх ёсць свая даўняя радзіма з даўняй гісторыяй, культурай, мовай, а некалі была і свая ў сілу гістарычных абставін форма дзяржаўнасці. І тады, калі лепшыя сыны нашага народа насуперак амаль усім уладным сілам пачалі ўтвараць БНР, а пасля БССР, многіх кранула пагалас: трэба, ой як трэба гэтае БР — Беларуская Рэспубліка. Яна — наш Дом. Ранейшага, ВКЛ, ужо не адновіш, а вось БР магчыма. Толькі трэба вялікія намаганні, воля, каб пераадолець варожы супраціў. Каб паказаць гэта і іншае, тут адных бабуліных успамінаў было мала. Як паветра, як вада і хлеб патрэбны былі дакументы. А многае з іх было знішчана ці вывезена, а тое-сёе схавана за сяміпудовымі замкамі. Як да таго-сяго я дабіраўся, трэба асобны расказ. Было, напрыклад, што паэтэса Валянціна Коўтун выдадзенае пра БНР за мяжой употай прывезла мне схаваным пад вокладкамі "История КПСС…". Сёння многае ўжо адкрытае, сёння не трэба заўзятараў, стваральнікаў БНР хаваць пад псеўданімы, лысага рабіць кучаравым і наадварот, але тая мая 15-гадовая праца ў сваім накірунку і са сваімі прыёмамі не натхняе на пераапрацоўку. Буду шчыра рады, калі хтосьці іншы назаве ўсё сваімі імёнамі і дасведчана, па-мастацку напіша пра тое пераломнае ў жыцці нашай нацыі лепш і глыбей".*

**— Пазней вы ідэю свайго Дому «пастарылі», па-свойму намалявалі карціну яе рэалізацыі з пачаткам утварэння ВКЛ на нашых землях, з цэнтрам у сённяшнім Навагрудку. Гэта — ваш раман «Кліч роднага звона», які пісаўся ў канцы 1990-х і на пачатку 2000-га. Да гэтага мы яшчэ вернемся. ВКЛ, як лічаць, заявіла пра сябе ў 1230—1240 гадах. А наколькі вы ведаеце свой род Далідовічаў?**

— Да нядаўняга мае невялікія звесткі абмяжоўваліся другой паловай XIX стагоддзя. Цяпер, дзякуючы даследаванню кандыдата медыцынскіх навук К. Далідовіча «Родословная семьи Далидовичей» (я рэдагаваў гэтую працу і напісаў да яе прадмову) мае пазнанні пабольшалі да 1710 года. Прыемна, што ў дзвюх лініях (з адной я), 12-ці нашых пакаленняў сёння ва ўсім свеце больш за 1450 непасрэдных нашчадкаў роду. Як і адкуль ён заявіўся, пра гэта патрэбны яшчэ новыя даследаванні. Але і цяпер ясна: Дойліды, Да(й)ліды, Дайлідчыкі, Да(й)лідовічы ўжо працавалі на карысць ВКЛ. Не выпадкова непадалёку нашых Янковіч (так мясцовая назва вёскі) знаходзіцца паселішча Далідавічы. Мабыць, там Радзівілы сабралі дойлідаў — па-сённяшняму будаўнікоў, прарабаў, кавалёў. Як у недалёкім былым Сабачым сяле — трымальнікаў выжлаў для палявання ў Налібацкай пушчы. Як і адпаведныя назвы маюць нашы Рудні.

## Бацькоўская навука

**— З нашых, прыналібацкіх Далідовічаў ваш бацька Вацлаў Уладзіслававіч быў адным з самых вядомых. Як майстравіты каваль. Вы неяк на сустрэчы з чытачамі гаварылі пра тое, што ён даваў не толькі бацькоўскія, кавальскія, а і літаратурныя ўрокі. Цікава, у чым яны заключаліся?**

— Бацька мой з 1922-га. У 16 гадоў прайшоў сур'ёзнае навучанне ў вопытнага каваля, ад якога набыў шмат сакрэтаў. Бацькаву працу я заўсёды цаніў вельмі высока. Пра многія рэчы я ўжо напісаў. Сапраўды, ад бацькі я атрымаў навуку, здавалася б, далёкую ад літаратуры. Калі мы з ім рабілі, скажам, серп з кавалка жалеза, я мяхі раздзімаў, браўся за малаток. Пасля ён клаў нарыхтоўку на жалезны вал і я памагаў яму зубіць. Ён настаўляў зубільца, а я стукаў малаточкам. Слаба ўдарыш — не дасячэш. Моцна — рассячэш. Потым ён пасылаў з сярпамі на поле, каб маці праверыла, які серп лепш жне. Калі нейкі серп рваў, то мы перараблялі нанава. І я засмучаўся: Божа мой, зноў гэты горн раздзімаць, зноў тачыла круціць, зноў зубіць. Я ледзь не плакаў, хацелася ж і пагуляць. А бацька казаў мне: сын, вось такая наша справа. Калі нешта зробіш добра, то скажуць: ну добра. І ўсё. А не дай Бог схібіш, то адразу ж папікнуць: няўмека! Альбо яшчэ: як казалася, вучнем і мне захацелася напісаць у раённую газету пра наша. Пачалі друкаваць і нават дасылалі капейчыну. Аднойчы змясцілі мой крытычны матэрыял пра загубу лёну. Старшыню калгаса прапясочылі на бюро райкама. Той — да нас. Былы партызан, зух, царок. «Вацлав, уйми своего писаку. Я получил за его каверзы выговор». Бацька паабяцаў пагаварыць. Але на гэты раз не ўзяўся за такі

важны выхаваўчы элемент, як рэмень. Толькі ўздыхнуў: «Вось так, сын. Людзі паважаюць, калі ты праўдзівы. Але за праўду ненавідзяць тыя, каму яна непрыемная. Мы выжылі толькі таму, што навучыліся не крычаць яе, а часам змаўчаць. Так што прыйдзецца і табе падумаць: дзе і калі яе гаварыць, а калі не». Што — кожнаму творцу ў любой галіне не ўрок?!

## Дарога ў свет

**— А якія былі пісьменніцкія, прафесійныя ўрокі?**

— Былі. Калі ў 1960-я студэнтам філфака БДУ ужо не дасылаў, а прыносіў апавяданні ў «Маладосць», там мне прыязна памагалі «каваць», «тачыць», «зубіць» кожныя слова і сказ ужо названыя Стральцоў і Адамчык. У «Полымі» — Барыс Сачанка, Іван Пташнікаў (яны яшчэ паспрыяюць у 1973-м трапіць на працу ў аддзел прозы гэтага выдання). Дзякуючы ім, упершыню надрукаваўся ў рэспубліканскай




перыёдыцы (першая заяўка на празаіка адбылася публікацыяй апавядання ў 1966-м у стаўбцоўскім «Прамені», значыць, ажно 50 гадоў таму), а ў 1974-м выдаў напісаны на Барысаўшчыне рукапіс прозы кнігаю (там паўдзясятка гадоў працаваў настаўнікам і завучам). На кнігу даслаў цёплы водгук Васіль Быкаў. Яшчэ да яе адзін з лепшых нашых празаікаў Іван Мележ паклікаў, падрабязна, па-бацькоўску пагутарыў са мной па змешчаных ужо ў друку творах, асабліва па першай аповесці «Усё яшчэ наперадзе», прапанаваў афармляць дакументы для паступлення ў Саюз пісьменнікаў. Алесь Пальчэўскі прапісаў на сваёй жылплошчы ў Мінску, Іван Шамякін дапамог атрымаць кватэру. Так што, бачыце, плакаць на няўвагу старэйшых калег не выпадае. За выключэннем некалькіх балючых, помслівых уколаў (за яе, матухну-праўду!) меў спрыяльную падтрымку. Таму мне было вельмі ўцешна, што за раман «Гаспадар-камень» прысудзілі літаратурную прэмію менавіта імя Івана Мележа.

## На новы парог

**— Зразумела, патрапіць пачаткоўцу, яшчэ без кнігі і не членам Саюза пісьменнікаў у тагачаснае «Полымя» было вялікім авансам і даверам. Ды ўсё ж нельга не адзначыць: значны перыяд у вашым жыцці і творчасці больш чым 20-гадовая праца (1979—2002) намеснікам галоўнага і галоўным рэдактарам у часопісе «Маладосць».**

— У нагаданым 1979-м назначэннем галоўнага «Маладосці» займаліся ЦК КПБ і Саюз пісьменнікаў, намесніка — з партыйнага ведама СП і ЦК ЛКСМБ, паколькі часопіс фармальна лічыўся яго друкаваным органам у галіне літаратуры і мастацтва (такога яшчэ ў 1953-м дабіўся першы сакратар ЦК ЛКСМБ Пётр Машэраў). Тады ў «Маладосці» галоўнічаў выдатны паэт і чалавек дэмакратычнага, трохі асцярожнага складу Васіль Зуёнак. Вось яго і падбіў яшчэ адзін мой зычлівец Уладзімір Дамашэвіч: а давайце не будзем чакаць прысланцоў, а сваім калектывам прапануем вам намесніка. Карацей, сход чамусьці выказаўся за мяне. І я патрапіў туды. Не толькі быў адным з кіраўнікоў, але і атрымаў новыя ўрокі. Па сваёй і іншых творчасці, па грамадзянстве. Да слова, вось пра такое. Тады ў СССР тлеў «развіты сацыялізм», але ў грамадстве многае і абуджалася, яго цяжка было ўжо заглушыць. У тым ліку і ў нас, у многім пасіўных. У прыватнасці, пачала набіраць моц прага адрадзіць нашу гістарычную памяць, нацыянальную свядомасць. Улавіўшы тэндэнцыю, загадчык аддзела публіцыстыкі Алесь Гаўрон і я прапанавалі Міколу Ермаловічу напісаць артыкул пра Полацкае княства як пра аснову нашай самабытнасці, культуры, мовы, дзяржаўных пачаткаў. Напісаў. Новы галоўны Анатоль Грачанікаў (заканчваў Гомельскі інстытут чыгуначнікаў і літаратурныя курсы ў Маскве) здзівіўся, што такое ў нас было і блаславіў нарэшце не сфальсіфікаванае слова.



Хутарское поле.

Адразу ў органе ЦК КПБ, у газеце «Звязда» лямант: адыход ад марксісцка-ленінскіх пазіцый, нацыяналізм! Нас змушалі пакаяцца, змясціць ідэалагічную водпаведзь. Мы былі гатовыя даць слова «секачу» з яго аргументамі і нападкамі (дасведчаныя чытачы маглі самі ўступіць у дыскусію). Ды мы не пачалі чакаць, узяліся рыхтаваць іншы адказ — публікацыю ермаловічавай «Старажытнай Беларусі», дзе пасля Вацлава Ластоўскага і іншых, але больш разгорнута, на аснове больш чым 1000 дакументальных крыніц была выкладзена наша гістарычная канцэпцыя. Вось тут можна пахваліцца ўжо: прыкрыя абвінавачванні, пагрозы «стереть в порошок» мы з Грачанікавым выслухалі ў ЦК КПБ у сакратара па ідэалогіі. Але пра гэта больш іншым разам. «Старажытная Беларусь» дагэтуль трапляла ў іншыя рукі, з яе бессаромна кралі некаторыя канцэпцыі, довады, але яна нарэшце была надрукавана! Яна была ўдастоена Дзяржаўнай прэміі. Як справядліва казаў незабыўны Ніл Гілевіч, гэта ўжо дзяржаўны клопат, каб гэтая асветніцкая кніга патрапіла не толькі ў кожную бібліятэку, але і ў кожны дом. Менавіта як па-сапраўднаму «социально значимая!».

**— Вы прызнавалі ў друку, што і Мікола Ермаловіч адыграў у вашай творчасці вялікую ролю.**

— Так. У прыватнасці, ён яшчэ ў 1976-м напісаў на маю другую кнігу «Цяпло на першацвет» рэцэнзію з прыемнай мне назвай «Экзамен вытрыманы». Але яшчэ для мяне дарага, што мы з ім поплеч за дзясятак гадоў аб'ездзілі паў-Беларусі і я ад яго пачуў гістарычныя лекцыі пра гісторыю кожнай мясціны. Іменна ён натхніў напісаць раман («з вашым уменнем апісваць прыроду, каханне, сямейныя нюансы») пра пачаткі ВКЛ — «Кліч роднага звона». І даў матэрыялаў на мноства твораў. Як я справіўся з яго даручэннем, меркаваць не мне. Але і я на аснове самых розных даследаванняў Ермаловіча схіляюся да высновы, што ВКЛ са сталіцай у Навагародку было заснавана ў 1246-м — 770 гадоў таму. І заадно ў асноўным падаў сваю версію прозай ермаловічаўскай канцэпцыі, у сілу якіх тагачасных гістарычных абставін на карце Еўропы ўзнікла новая дзяржава і з часам стала адной з вялікіх і вядомых і ў сілу чаго яе стараліся знішчыць, прыгарнуць да сябе і найперш пазбавіць памяці, абязмовіць.

**— Зноў жа, некаторыя падзеі ў рамане разгортваюцца і ў нашых, налібацкіх абшарах.**

— А як жа. Ермаловіч на грунце летапісаў вызначае, што колішняе пазначанае ў іх Булевіцкае княства магло быць у блізкім да Янковіч і Налібак цяперашнім урочышчы Балевічы. Таму я не мог героя твора Міндоўга не прывесці сюды: ён жа ў сілу тагачасных абставін бязлітасна знішчаў сапернікаў, у тым ліку і булевіцкіх князёў. Так што на цяперашнім полі, лесу вакол Балевіч маглі ў свой час кіпець крывавыя бойні…

**— Сярод названых ужо твораў нібы асобна вылучаюцца ваша аповесць «На новы парог» і кніга навел «Жар кахання. Апавяданні пра жанчын». Каб прачытаць іх, гэтыя апавяданні, у часопісах, мы, вучні старэйшых класаў, станавіліся ў чаргу па выданні. Хоць настаўнікі не зусім ухвалялі гэта: маўляў, наш Далідовіч піша ўжо не пра свой Амшарок, не пра нашу пушчу, а пра секс! Хоць самі таксама хацелі прачытаць.**

— Тэма «Новага парога» з машэраўскіх часоў. Тады наш лідар заклапаціўся становішчам маленькіх, так званых неперспектыўных вёсак. Ён загарэўся адсяліць іх у буйныя і ўтварыць на аснове гэтага аграгарадкі. З эканамічнага боку гэта мо было і выйсце. А з іншага, таксама важнага? З руйнаваннем соцень вёсак хіба не знішчаліся традыцыі, матэрыяльны і маральны уклад, псіхалогія, маральнасць? Гэтыя, іншыя пытанні я і завастрыў у аповесці «Бабчын скон». Каб суцішыць мой запал, у «Полымі» далі ёй больш аптымістычную назву — «На новы парог». А «Жар кахання» падказалі напісаць слухачы. На шматлікіх выступленнях я не мог высока не ацэньваць беларускую прозу, называў дзясяткі яе выдатных майстроў. Але аднойчы адна бойкая шпільнула: усё гэта, паважаны, так, але хіба наша проза не сумнаватая? Хіба не мала, апроч Івана Мележа з яго «Людзьмі на балоце», піша пра такія неад'емныя ад кожнага чалавека з'явы, як каханне, зямную плоцкую любоў? Хіба не часта героі многіх твораў кахаюцца толькі ў валёнках і кажуху? Выкініце так званыя сексуальныя сцэны з Рыгорам і Аксінняй у «Ціхім Доне», хіба гэты твор застанецца такім прыцягальным?

Думка. Я ў сваіх буйных рэчах не пазбягаў любоўных сцэн, а тут рашыў напісаць асобную кнігу пра тое, чым Бог па-нябеску надзяліў нас, даў спазнаць не толькі матэрыяльнае, але і духоўнае — пачуцці, блізкасць Яго і Яе, іхні свет кахання, што ўсё можа як прынізіць, так і ўзвысіць, абвысакародзіць самога чалавека, прынесці пакуты ці радасць іншаму. Напісаў. Пра нечаканае, наіўнае і боязнае зараджэнне дзіцячага пачуцця, пра ўзбуджанае юнацкае, пра бурлівае сталейшае, што ніяк не можа быць у валёнках і кажуху (там па прыкладзе Івана Буніна я дазволіў сабе апісаць хараство жаночага цела), і пра складанасць узаемаадносін у сямейным жыцці. Гэтая кніга разышлася за тыдзень-другі. Аднойчы на выступленні ва ўніверсітэце лінгвістыкі (там я падпісаў больш 200 экзэмпляраў) у мяне гарэзна запытала адна студэнтка наконт прататыпаў герояў: «Хто вы? Дон-Жуан ці Дон-Кіхот?» — «Дон», — быў мой адказ…

**— У першай частцы рамана «Рурыкавічы і Рагвалодавічы» вы засяродзіліся на паказе лёсу ўдаленых з Кіева прыкладна ў 988 годзе Рагнеды і яе сына Ізяслава, на адлюстраванні барацьбы, у тым ліку і іхніх родных дзяцей, братоў, за кіеўскі пасад пасля смерці Уладзіміра. А што з другой часткай? І пра што яна, калі не сакрэт?**

— Другую частку заканчваю (а гэта мноства прачытаных летапісаў, хронік, даследаванняў, не менш 10 гадоў карпення, стварэння і перапісвання рамана). У ёй мая спроба расказаць, як урэшце на Русі і ў Полацкай зямлі настаў мір, як пачалі правіць сыны Рагнеды і Уладзіміра, іхні ўнук Брачыслаў. Вачыма герояў гляджу на тагачасныя цэнтры падзеленай паміж братамі Русі — Кіеў і Чарнігаў, на незалежны Полацк, на тады ў многім роднасныя радзіміцкія і вяціцкія землі. Да перыяду ўзыходжання на гістарычную арэну славутага і ў той жа час з трагічным лёсам Усяслава Чарадзея, які зрабіў асабліва важкі ўклад у далейшае станаўленне нашага Дома (нават такі дэмакратычны, знешне аб'ектыўны гісторык, як Дзмітрый Ліхачоў, папракаў яго і Полацкую зямлю за «сепаратызм») . На шчасце, у нас пра яго ўжо ёсць не адзін вядомы твор, што дапамагае чытачу ўсвядоміць ягоныя гераічныя, патрыятычныя і мудра дзяржаўныя дзеі.

**Ад рэдакцыі.** *Разам з аўтарам гэтага матэрыяла прыемна павіншаваць Генрыха Далідовіча з 70-гадовым юбілеем, пажадаць здароўя і новых поспехаў.*



Зміцер Давідоўскі

# Хто забіў Юдаля Пэна

**Працуючы з фондам «4п» у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, я выпадкова натрапіў на дакументы аб святкаванні 50-годдзя мастацкай творчасці Юдаля Маісеевіча Пэна. Яны знаходзіліся ў так званым «Асобым аддзеле», у якім у храналагічным парадку збіраліся перапіска НКУС БССР з ЦК КП(б)Б і звышсакрэтныя дакументы.**

У маі 1933 года грамадскасцю вельмі шырока адзначалася 50-годдзе мастацкай творчасці Ю.М. Пэна. Ніжэй друкуюцца дакументы, якія стварылі юрыдычны падмурак для правядзення юбілейных мерапрыемстваў.

4п. 1. 6907, л. 68 (без адв.).

Строга сакрэтна
Галасуецца апросам

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БАЛЬШЭВІКОЎ) БЕЛАРУСІ

ПРАТАКОЛ

Паседжаньня Сакратарыяту ЦК КП(б)Б
№.......§.......ад....193...

*<u>Слухалі:</u>*

*Аб правядзеньні юбілею «50-ці годзьдзя мастацкай творчасці ПЭНА» (Уносіць Культпром ЦК КП(б)Б)*

*<u>Пастанавілі:</u>*

*Лічыць неабходным адзначыць «50-ці годзьдзе мастака ПЭНА» выстаўкай яго работ і дакладам аб яго дзейнасці, даручыўшы газэтам надрукаваць адпаведны матар'ял аб яго юбілеі, высьвятляючы, як дадатковыя, так і ідэёва адмоўныя бакі яго работы. Арганізацыю гэтага ўскласьці на т.т. Дунца, Гурэцкага, Гаўрыленка.*

4п. 1. 6907, л. 69 (без адв.). Копія

В Ы П І С К А

з пратаколу *ад II/V-33 г. Дэрыктэрыяту Ін-ту Літаратуры і Мастацтва*

*<u>Слухалі:</u>*

*Аб 50-ці годзьдзі творчай дзейнасці заслужанага мастака Віцебшчыны ПЭНА.*

*<u>Пастанавілі:</u>*

*Адзначыць 50-ці годзьдзе творчай дзейнасці мастака ПЭНА правядзеньнем яго юбілею і арганізацыі ў гор. Менску юбілейнай выстаўкі. Для ўдзелу ў арганізацыі выстаўкі вылучыць тав. Касталянскага.*

*Верна:*
*Навуковы сакратар*
*З арыгіналам згодна*
*Сакратар ССМ Касталянскі*

4п. 1. 6907, л. 70 (без адв.). Копія

В Ы П І С К А

Пратаколу пасяджэньня Праўленьня Саюзу Савецкіх Мастакоў Беларускай ССР.

*<u>Слухалі:</u>*

*Аб правядзеньні юбілею заслужанага мастака Віцебшчыны Ю. ПЭНА (т. Касталянскі).*

*<u>Пастанавілі:</u>*

*Улічваючы доўгатэрміновую працу т. Пэна на Беларусі і яго заслугі перад выяўленчым мастацтвам БССР ухваліць правядзеньне 50-ці гадовага юбілею яго творчасці, прасіць Наркамасьветы падрыхтаваць юбілейную выстаўку мастацкіх твораў т. Пэна ў г. Менску. Для арганізацыі юбілею вылучыць мастакоў Гаўрыленку, Волкава і Бразара, і І. Акрэмчыка.*

*Сакратар Касталянскі*

4п. 1. 6907, л. 71 (без адв.). Апросам.
Праект

*<u>Слухалі:</u>*

*Аб правядзеньні юбілею 50-годзьдзя ПЭНА (Уносіць Культпром ЦК КП(б)Б)*

*<u>Пастанавілі:</u>*

*Лічыць неабходным адзначыць 50-годзьдзе мастака ПЭНА выстаўкай яго работ і дакладам аб яго дзейнасці, даручыўшы газэтам надрукаваць адпаведны матар'ял аб юбілеі, высьветляючы як дадатковыя, так і ідэёва адмоўныя бакі яго работы. Арганізацыю гэтага ўскласьці на т.т. Дунца, Гурэцкага і Гаўрыленка.*

Гэтыя чатыры дакументы з цалкам захаваным тагачасным правапісам сведчаць аб вялізарнай ўвазе, якая надавалася святкаванню 50-гадовага юбілея мастацкай творчасці Пэна. Канешне, усе

яны павінны былі знаходзіцца сярод дакументаў «Аддзела культуры і прапаганды ленінізма», а не ў «Асобым аддзеле». Так было б лагічней, бо менавіта Культпропам была ўнесена прапанова святкавання гэтага апошняга для Юдаля Маісеевіча юбілея.

У мерапрыемствах былі задзейнічаны ЦК КП(б)Б, Саюз Савецкіх мастакоў Беларусі, навуковыя работнікі Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, а таксама супрацоўнікі газет і часопісаў — для аператыўнага і поўнага асвятлення саміх мерапрыемстваў.

Я наўмысна падаў адзін дакумент у двух варыянтах — канчатковым і ў праекце (праўда, размешчаны яны ў той паслядоўнасці, у якой знаходзяцца ў архіўнай справе), — каб чытач зразумеў, што праект амаль цалкам супадае з канчатковым варыянтам, а гэта значыць, што падзеяй вельмі цікавіліся — як з боку ЦК, так і з боку Саюза мастакоў.

Цяпер давайце паглядзім, як рэалізоўваліся ідэі запланаваных мерапрыемстваў.

Па-першае, выстаўкі работ Юдаля Маісеевіча Пэна ў Мінску не было, як не было яе і да самай яго гібелі і пасля яе. Першая выстаўка работ Пэна ў Мінску адбылася нядаўна — з 16 снежня 2008 года па 28 лютага 2009 года, прысвячалася 155-годдзю з дня нараджэння мастака. А павінна была адбыцца яшчэ ў 1933 годзе падчас святкавання 50-годдзя мастацкай творчасці. У дні святкавання 50-гадовага юбілею выстаўка карцін Юдаля Маісеевіча адбылася толькі ў Віцебску.

Па-другое, асвятленне юбілею ў друку сапраўды прайшло, як прайшлі і даклады па гэтым пытанні. Той факт, што не ўсе пункты былі выкананы, сведчыць аб змене стаўлення ўлады да мастака ў горшы бок. А тыя мерапрыемствы, якія былі праведзены, здзейсніліся дзеля адпаведнай справаздачнай адзнакі — не больш. Ды і праводзіліся яны не па запатрабаванні душы і сэрца, а толькі таму, што Юдаль Маісеевіч быў сусветна вядомым мастаком і абысці яго юбілей азначала нанесці удар па сваім раздутым аўтарытэце. Гэта было першае мерапрыемства Саюза Савецкіх мастакоў БССР. Неабходна было паказаць, што ён сапраўды створаны дзеля таго, каб дапамагаць мастакам, а не наадварот. Але першы блін аказаўся сапраўдным камяком. Неабходна адзначыць і той факт, што падзея і ўзрадавала мастака, і не: яму, ужо старому і вельмі хвораму чалавеку такія мерапрыемствы — залішняя нагрузка, але ён спадзяваўся на будаўніцтва галерэі, якая была для яго неабходнай.

У маі 1934 года Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР А.Р. Чарвякоў у час свайго знаходжання ў Віцебску наведаў кватэру Ю.М. Пэна, і калі дакладна азнаёміўся з карцінамі мастака, то назваў яго «Народным мастаком». Ю.М. Пэн сапраўды ім быў, па сутнасці, а не паводле звання.

Прыезд Чарвякова быў значнай падзеяй. Дагэтуль кіраўнікі дзяржавы мастакоў не наведвалі. Вельмі правільна быў выбраны час — 80-годдзе Ю.М. Пэна, якое адзначалася 5 чэрвеня 1934 года. Пэн карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам, як сярод мастакоў, так і сярод простых людзей. Яго па-сапраўднаму любілі і шанавалі віцебляне. Так што прапусціць такую падзею было нельга. Па існуючай версіі пасля прыезду Чарвякова Юдалю Маісеевічу пачалі плаціць 350 рублёў пенсіі. Але, як паказалі далейшыя пошукі, пенсіі ў тыя гады не плацілі наогул. Але Пэн на той час меў ганаровае званне «Заслужаны мастак БССР» і таму па тагачасных законах яму павінна была выплачвацца персанальная пенсія. 350 руб. — гэта максімум.

У пачатку 1930-х гадоў адносіны ўлады да Пэна пачалі мяняцца ў горшы бок. Ад мастака пачалі патрабаваць пісаць партрэты калгаснікаў, кіраўнікоў дзяржавы і г.д. Але амаль што 80-гадовы мастак не мог перабудавацца да новых рэалій. Ён працягваў сваю любімую яўрэйскую тэматыку.

Давайце паглядзім, хто герой карцін Пэна. Кравец, краўчыха, гадзіннікавы майстар, тынкоўшчык, майстар па рамонце і пашыве абутку, прадстаўнікі іншых рабочых прафесій — прасты працоўны люд, які адрозніваецца ад іншых толькі сваёй яўрэйскай нацыянальнасцю.

Канешне з боку ўладаў патрабаваць ад вельмі пажылога мастака хуткай ідэалагічнай перабудовы было вялізарным злачынствам.

Давайце ўспомнім словы Пэна, сказаныя ім на гэты конт: «*Читал о выставке в газете "Правда", где Д. Заславский разбирает, критикует и хвалит. Пишет он очень хорошо, но немножечко*



Аўтапартрэт з Музай і смерцю.

*модерно, как требует теперь время. Будь я участником, то получил бы от него трепку по заслугам, т. к. я не колхозничаю и не заискиваюсь...»* Вось так пісаў мастак у Маскву свайму любімаму вучню І.Я. Мальцыну.

Разам з Чарвяковым Пэна наведаў кіраўнік Віцебскага НКУС старшы лейтэнант дзяржбяспекі Іван Гарбаленя. У той момант ён быццам бы ў ролі целаахоўніка выступаў, але вельмі ўважліва вывучаў планіроўку кватэры, не прапускаючы дробязей. Паводзіны Гарбалені больш нагадвалі падрыхтоўчую работу да нейкай вельмі важнай справы. Так вывучаюць кватэру ці перад тым як купіць яе, ці кіраўнікі ЖЭСа перад пастаноўкай дома на капітальны рамонт. Пра прыезд Чарвякова да Пэна дакументальнага пацвярджэння не знойдзена. Але ёсць успаміны родных (артыкулыўспаміны ўнучатай пляменніцы Пэна Ганны Рыгораўны Герштэйн), у якіх вельмі падрабязна згадваецца візіт Чарвякова на кватэру Пэна.

Давайце разгледзім карціну Юдаля Маісеевіча «Аўтапартрэт з Музай і смерцю» (1934). Яна цалкам пабудаваная на алегорыях. Дзяўчына, якая іграе на арфе (Муза), — сімвал актыўнай творчасці, мужчынскага пачатку і сілы, а жаночы шкілет насупраць, які іграе на фіялетавай флейце, — сама смерць, якая выводзіць сваю мелодыю і ёю кліча ў сваё царства самога аўтара — Пэна. Фіялетавы колер — гэта быццам ахалоджаны чырвоны, таму ён гучыць крыху хваравіта, як нешта патухлае і засмучанае. Тут ідзе барацьба актыўнага творчага жыцця мастака са смерцю, якая ўсім сваім выглядам дэманструе, што ў гэты дом прыйшла не з жартамі, а па чарговую сваю ахвяру.

За Музай стаіць скульптура аголенай жанчыны (Венера, сімвал кахання), якая з вялікім сумам паглядае на мужчынскія партрэты на сцяне. Яе выгляд быццам гаворыць, што яна вельмі сумуе аб хуткай смерці мастака, гаспадара кватэры, але перамагчы смерць яна не можа, бо не мае супраць яе чароўных сіл.

Смерць, як мы ведаем, не проста перамагла — яна перамагла трагічна і жудасна, рукою таямнічага забойцы (ці двух).

## Афіцыйны ход следства і арышт «забойцаў»

Вось першы дакумент, які даў старт афіцыйнаму следству.

4п. 1. 10882, л. 10.

*<u>Цэнтральны Камітэт</u>*
*<u>Камуністычнай Партыі (бальшэвікоў)</u>*
*<u>Беларусі:</u>*

*<u>Слухалі:</u>*
*О убийстве художника ПЭНА.*
*(т. Волкович, Сурта)*

*<u>Пастанавілі:</u>*
*Поручить НКВД и Прокуратуре республики — т. Глезерову в 5-ти дневный срок распутать убийство художника ПЕНА и результаты доложить Бюро ЦК КП(б)Б.*

На адвароце пастановы ад рукі напісана: *т.т. Каруцкаму, Глезерову, (кантроль).*

Хто забіў? За што? І чаму так жорстка? У архіўных дакументах ёсць шмат цікавых звестак па акрэсленых пытаннях. Ніжэй я змяшчаю поўны тэкст дакументаў, знойдзеных у фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (далей НАРБ) з поўным захаваннем правапісу і мовы.

У архіве КДБ Рэспублікі Беларусь і ў архіве МУС Рэспублікі Беларусь захоўваюцца падрабязныя матэрыялы па гэтай

крымінальнай справе. Каб мець поўную карціну, неабходна наведацца і ў гэтыя установы.

Неабходна адзначыць і той факт, што ў Віцебскім гарадскім аддзяленні НКУС БССР следства было толькі распачата, а асноўная справа па забойстве Пэна вялася ў Мінску — у Следчым камітэце НКУС БССР. Усё ж такі Пэн быў не селянін, ад якога можна было проста адмахнуцца ці праігнараваць наогул.

Іна Абрамава ў сваёй кнізе па гісторыі Віцебскай міліцыі выказала меркаванне, што калі б НКУС БССР не забраў справу з Віцебска ў Мінск, то следчыя Віцебскага НКУС абавязкова знайшлі б забойцу Пэна. Яна лічыць, што забойцаў было двое. Адзін аглушыў мастака сякерай па галаве, а другі накінуўся на яго і перарэзаў горла.

На шыі мастака сапраўды быў глыбокі разрэз. Чэрап быў прабіты абухом сякеры для раздзелкі мяса. Але які матыў?

Стаўшы вядомым мастаком, Пэн атрымліваў прыстойныя ганарары. Яму прызначылі 350 рублёў пенсіі. Арганізатары выставак пераводзілі долары з-за мяжы. На сябе ён практычна не траціўся: эканоміў на дровах, вячэраць хадзіў да суседзяў ды знаёмых. Грошы захоўваў дома. Мог сабраць вялікую суму. Прычым, у горадзе пра гэта ведалі. Сярод паказанняў 24 сведак ёсць упамінанне пра вучня, які ўкраў у Пэна 20 тысяч рублёў. А студэнт мастацкага тэхнікума Яша Бак украў у настаўніка фарбы, пэндзлі і кнігі. Следчыя зацікавіліся хлопцам, але потым высветлілася, што ў яго алібі: вечар 28 лютага ён правёў у бібліятэцы і інтэрнаце. Вывучыўшы матэрыялы справы і параіўшыся з сучаснымі супрацоўнікамі крымінальнага вышуку, Іна Абрамава прыйшла да высновы, што мастака маглі забіць заезджыя рэцыдывісты. Не выключана, што міліцыянеры нават выйшлі на іх след. Але ўлады не маглі пагадзіцца з крымінальнай версіяй. Не захацелі прызнаць, што знакаміты майстар забіты ў сябе дома ў цэнтры горада нейкімі злачынцамі.

Вернемся да матэрыялаў з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Наступны дакумент — пра заканчэнне следства.

4п. 1. 10990, л. 18.

ПРАТАКОЛ
пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б
№242 п. 14 ад 3.04.1937

*Слухалі: Вынікі забойства мастака ПЭНА Ю.М. (т.Яноўскі).*

*Пастанавілі:*

*1) Прыняць да ведама, што следства па забойству ПЭНА скончана і да адказнасці прыцягнута 9 чалавек.*

*2) Лічыць неабходным разабраць справу аб забойстве ПЭНА на выязной Сэсіі Верхсуда з удзелам дзяржаўнага абвінаваўцы.*

*3) Прыняць да ведама заяву т. Галадзеда, што 4.IV СНК будзе разглядаць пытанне аб прыёме мастацкай спадчыны ПЭНА.*

На адвароце пастановы ад рукі напісана: *т.т. Ткачэвічу, Пасюкевічу, Галадзеду, Суханавай.*

На Бюро ЦК КП(б)Б не ставілася задача назваць забойцу. Справа скончана, арыштавана пэўная колькасць чалавек, якіх на выязным пасяджэнні Вярхоўнага Суда БССР будуць судзіць.

Вось што пісаў сакратару ЦК КП(б)Б Д.І. Валковічу камісар 3-га ранга Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР В.А. Каруцкі:

4п. 1. 10990, л. 135.

*14 марта 1937 г., №239*

Совершенно секретно

Секретарю Центрального Комитета
КП (б) Белоруссии

*Тов. Валковичу.*

*Направляю Вам спецсообщение по делу об убийстве в гор. Витебске художника ПЕН Ю.М.*

*Расследованием установлено, что убийство художника ПЕН, было осуществлено с целью ограбления его племянником Файнштейном Абрамом и Бак Яковом (бывш.[ий] ученик ПЕН, студент Витебского художественного техникума), при участии племянницы ПЕН — студентки Витебского медтехникума Файнштейн Нэхи.*

*Ими убийство ПЕН, намечалось еще в 1936 году, о чем были осведомлены родители Файнштейн.*

*По делу орестовано 9 человек:*

*1. Файншнейн Абрам Рувимович, 1910 г. рождения,*
*2. Файнштейн Неха Рувимовна, 1919 г. рожд.*
*3. Бак Яков Семёнович, 1918 г. рожд.,*
*4. Соломоник Рива Рувимовна,*
*5. Файнштейн Хаим-Шлеме Рувимович,*
*6. Файнштейн Залман Рувимович,*
*7. Файнштейн Рувим Залманович,*

*8. Файнштейн Лея Гиршевна и*

*9. Олифсон Михаил (студент КИЖа).* [Камуністычны Інстытут журналістыкі (сёння факультэт журналістыкі БДУ)]

*Следствие по делу будет закончено в ближайшие дни. —*

*Зам. Народного Комиссара*
*Внутренних Дел БССР —*
*Комиссар Государственной*
*Безопасности 3-го ранга Каруцкий*

Вяртаемся да поўных тэкстаў дакументаў з фонду Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь — ф. 4п, воп. 1 — справаводства ЦК КП(б)Б. Ніжэй змешчаны справаздача аб ходзе следства і «паказанні» Абрама і Нэхі.

4п. 1. 10990, л. 136—139.

*Секретно*

*Заместителю Народного Комиссара Внутренних Дел БССР — Комиссару Государственной Безопасности 3-го ранга тов. Каруцкому*

СПЕЦ-СООБЩЕНИЕ

*В городе Витебске в ночь на 1 марта 1937 года в своей квартире был убит ПЭН Юрий Моисеевич.*

*Пэну около 90 лет, проживал в изолированной квартире состоящей из 4-х комнат, жил одиноко. Квартиру его убирала приходящая работница.*

*При осмотре места преступления установлено:*

*Труп убитого ПЭНА лежал между кушеткой и печью на полу в пальто, брюках, на ногах одеты чёрные резиновые старые боты. На голове и лице трупа лежало красное ватное одеяло, подушка и две подушки на кушетке у изголовья. Все подушки с пятнами крови. Под трупом обнаружен маленький топорик весь в крови, а на кушетке нож. На голове имелось ряд повреждений костей черепа и перерезано горло* (падкрэслена мной. — З.Д.).

*Убийцей оставлены следы крови на кителе, и пальто висевших в шкафу и на кармане пальто одетом на ПЭНЕ.*

*В кухне на раковине умывальника также следы крови, что даёт [основание] полагать, что убийца умывал руки.*

*В одном из письменных столов обнаружено — 600 руб. денег и две сберегательные книжки с вкладами на — 1305 руб.*

*Расследованием установлено, что убийство художника ПЭН совершено с целью ограбления его племянником Файнштейном Абрамом (рабочим обувной фабрики) и бывшим учеником ПЭНА — БАК Яковом (студентом Витебского художественного техникума). Соучастницей в убийстве являлась племянница ПЭНА — студентка Витебского медтехникума — Файнштейн Неха.*

*Файнштейн и Бак совершив убийство ПЭНА, забрали деньги и ценности (золото), которые им удалось найти в его квартире.*

*Убийство художника ПЭН, намечалось Файнштейном ещё в 1936 г. Родители Файнштейн были не только осведомлены об этом, но и сами вели разговоры об убийстве ПЭНА, завладении его деньгами и ценностями.*

*Файнштейн Нэха признавая себя виновной в соучастии в убийстве ПЭНА, на следствии по этому поводу, показала следующее:*

*«Художника ПЭН все члены семьи считали большим скрягой, каковым он и был в действительности. Семья наша знала, что у ПЭНА имееться много денег. С осени 1936 г. все члены нашей семьи — отец, мать, братья Абрам и Сёма, моя сестра Соломоник Рива и её муж Соломоник Мотя, обсуждая вопрос о том, что ПЭН старик, скряга, имеет много денег, многие об этом знают и поэтому все мы особенно моя мать — Лея приходили к выводу, что ПЭН всё равно своей смертью не умрёт, что его обязательно кто либо убьёт из посторонних и завладеет его богатством. Поэтому ещё с осени 1936 г. моя мать, да и другие члены нашей семьи говорили, что чем ждать, когда его ПЭНА убьют другие, лучше убить его — самим и воспользоваться его деньгами. С намерением убить ПЭНА в его квартире, члены нашей семьи ходили неоднократно, однако это не осуществилось».*

*Далее, по вопросу организации убийства художника ПЭН, Файнштейн Нэха показала:*

*«В 20-х числах февраля для убийтсва ПЭНА, брат Сёма наточил нож. Числа 22 февраля мой брат Абрам при обсуждении вопроса о необходимости убить ПЭНА, в нашем доме среди членов нашей семьи говорил, что студент БАК Яков, который топит печи у ПЭНА, поможет убить ПЭНА...*

*28 февраля 1937 г. в нашей семье было решено убить ПЭНА сегодня же. С этой целью на квартиру к ПЭНУ пошли мой брат Абрам и я... из дома мы вышли часов в 6 вечера. Придя на квартиру ПЭНА, там находился БАК Яков».*

*Допрошенный по делу Файнштейн Абрам, после долгих запирательств, подтверждал показания своей сестры Файнштейн Нэхи, признал себя виновным в совершении, совместно с БАК Яковом и своей сестрой Нэхой, убийства художника ПЭНА.*

*Файнштейн Абрам дал на следствии следующие показания:*

*«ПЭНА убил я совместно с моей сестрой Нэхой и нашим близким другом БАК Яковом...*

*...Мы втроём подошли к лежавшему на кушетке ПЭНУ и стали требовать, чтобы он сказал, где у него хранятся деньги. ПЭН отдать деньги отказался. Чтобы понудить ПЭНА отдать деньги, я нанёс ему удар обухом топорика по голове. ПЭН вскрикнул и тут же на мой вопрос, жестом указал на дверь второй комнаты...*

*БАК вырвал у меня из рук топорик и сам стал наносить удары по голове ПЭНУ. Когда ПЭН лежал в бесчувтвенном состоянии, БАК взял у меня из рук нож и перерезал ПЭНУ горло. В этот момент я держал голову ПЭНА.*

*Когда мы увидели, что ПЭН мёртв, начали обыскивать карманы его одежды, я растегнул брюки ПЭНА и отвязал мешочек с деньгами, который был привязан на теле ПЭНА, под бельём.*

*В моём присутствии БАК подставил табуретик, проник в трубу печки, откуда извлёк несколько пачек денег, завёрнутых в бумагу и коробку с золотыми монетами царской чеканки... Всю сумму денег (сколько точно не помню) и золото мы разделили на три равные части — мне, БАКУ и моей сестре Нэхе...*

*В поисках денег, вместе с нами принимала участие Нэха.»*

*Бак Яков в совершении убийства художника ПЭН пока не признался, хотя полностью изобличён.*

*По показаниям ФАЙНШТЕЙН Нэхи, в квартире её родителей, обнаружено 1000 рублей денег, которые были зашиты небольшими суммами в различной одежде.*

*По делу арестованы:*

*1. ФАЙНШТЕЙН Абрам Рувимович 1910 г. рожд., рабочий обувной фабрики, племянник ПЭНА;*

*2. ФАЙНШТЕЙН Нэха Рувимовна, 1919 г. рожд., студентка Витебского медтехникума, племянница ПЭНА.*

*3. БАК Яков Семёнович, 1918 г. рожд., студент Витебского художественного техникума, бывш. ученик ПЭНА.*

*4. ФАЙНШТЕЙН Хаим-Шлёма Рувимович — брат Абрама и Нэхи, племянник ПЭНА;*

*5. ФАЙНШТЕЙН Залман Рувимович — брат Абрама и Нэхи, племянник ПЭНА;*

*6. Соломоник Рива Рувимовна — старшая сестра Абрама и Нэхи, племянница ПЭНА;*

*7. ФАЙНШТЕЙН Лея Гершевна — мать Абрама, Нэхи, Залмана, Хаима и Ривы;*

*8. ФАЙНШТЕЙН Рувим Зеликович — отец Абрама, Нэхи, Хаима, Залмана и Ривы;*

*9. ОЛИФСОН Михаил — 1916 г. рожд., студент Белорусского Коммун. Института журналистики.*

*Следствие по делу будет закончено в ближайшие дни.*

*Приняты меры к обнаружению и изъятию остальных денег и ценностей, похищенных после убийства художника ПЭН. —*

*Начальник Управления РК милиции НКВД Белорусской ССР —*

*старший майор милиции*

*№390129 (А.Клочков)*

*14 марта 1937 года*

*гор. Минск.*

Мастак быў у паліто, партках і старых гумавых ботах. Значыць, толькі што прыйшоў з вуліцы, а ў кватэры яго ўжо чакаў забойца. І гэты чалавек вельмі добра ведаў планіроўку, бо змог схавацца там, дзе гаспадар бачыць яго не мог.

У кватэры Юдаля Маісеевіча было дзве печы. Адна ў пакоі, дзе жыла маці (менавіта ў ім і быў забіты Пэн), ніколі не тапілася, другая — печляжанка для самога мастака ў наступным пакоі, калі-нікалі тапілася. З кухні ў двор вялі жалезныя дзверы і лесвіца. Забойца мог пакінуць месца здарэння незаўважаным і, хутчэй за ўсё, добра пра гэта ведаў. Ён вымыў рукі пад кранам у кухні і спакойна спусціўся па жалезнай лесвіцы ў двор.

Калі чытаеш у паказаннях родных Пэна пра тое, як яны дзялілі нарабаваныя грошы і золата (24 000 рублёў і 200 залатых манет царскай чэканкі), то адразу разумееш, якім чынам паказанні здабываліся. Справа ўся ў тым, што на момант забойства ў мастака ўсяго было 2400 рублёў, а золата — не было наогул. Грошы, якія прысылаў Марк Захаравіч Шагал праз свайго сябра ў Рызе, Юдаль Маісеевіч траціў на вучняў. У кватэры Пэна не было ніякіх схованак. Пячныя коміны былі так сканструяваны, што ніякай схованкі ў іх нельга было зрабіць. Як не было ў кватэры ніякіх кладовак ці пакояў, на іх падобных.

Забойцам хутчэй за ўсё быў свой чалавек, які вельмі добра арыентаваўся ў кватэры мастака. Гэты чалавек да прыхода Пэна падрыхтаваў сякеру, нож і ўжо ўзброены чакаў гаспадара.

Прыведзенае спецпаведамленне можна лічыць пратаколам допыту абвінавачаных у забойстве Пэна пляменнікаў. Я напісаў «можна лічыць пратаколам» таму, што ў сапраўдным пратаколе ёсць пытанні следчага і адказы арыштаванага, а тут — толькі адказы на пытанні (не заўжды поўныя), якія пададзены разам са справаздачай аб ходзе следства. Дакумент яўна сфабрыкаваны. Аб няпоўнасці адказаў сведчаць шматкроп'і паміж сказамі, у сярэдзіне сказа і г.д.

На першы погляд усё зразумела — забойцы знойдзены, справа ў належны тэрмін перададзена ў суд. Але пры ўважлівым разглядзе атрымліваецца наадварот.

Віцебскі НКУС даволі ўмела выкарыстаў факт частага наведвання Абрамам і Нэхай дзядзькі. На сваю бяду яны за дзень да забойства якраз былі ў Пэна і атрымалі ад яго грошы (1000 рублёў). Мастак дапамагаў гэтай сям'і. Калі б не Пэн, Файнштэйны маглі проста памерці з голаду, бо гэта сям'я нават для тых галодных часоў жыла занадта сціпла. А руку, якая дае, хіба можа секчы меч?

Не будзем забываць пра той час, у які быў забіты Пэн, — 1937 год, самы разгар масавых палітычных рэпрэсій. У тыя гады следства ішло ў напрамку, які ўкажа ЦК КП(б)Б і НКУС СССР і БССР.

Хоць дакументы сведчаць аб забойстве з рабаваннем, ніякага рабавання не было: у Пэна не было чаго красці.

На Бюро ЦК КП(б)Б было вырашана правесці выязное пасяджэнне Вярхоўнага Суда БССР з дзяржаўным абвінаваўцам. На пасяджэнні выязной калегіі Вярхоўнага Суда БССР арыштаваным быў вынесены прысуд.

Адбылася гэта падзея ўвечары 22 красавіка 1937 года. З моманту забойства прайшло менш за два месяцы! За гэты час органы следства і суда паспелі знайсці «забойцаў», здолелі прымусіць іх «даць» прызнальныя паказанні, аформіць абвінавачванне і справу, перадаць яе ў суд ды правесці судовыя слуханні. Цяперашнім следчым і судовым работнікам пра такія тэмпы работы марыць не даводзіцца! Зрэшты, яно і не дзіўна: ішоў 1937 год. На «палітычных» абвінавачаных не трацілі і столькі часу... Усё гэта была вельмі добра распрацаваная працэдура, якая ніколі не давала збою і прыносіла следчым чарговыя званні, узнагароды, граматы, падзякі кіраўніцтва і г. д.

Нягледзячы на тое, што на судзе абвінавачаныя не прызналі сябе вінаватымі, расказалі суду, якім чынам з іх выбілі прызнальныя паказанні і прасілі іх апраўдаць, калегія Вярхоўнага суда БССР засудзіла Лею і Абрама Файнштэйнаў да 10 гадоў пазбаўлення волі (столькі і прасіў пракурор), Нэху — да 8 (столькі і прасіў пракурор), Рувіма і Залмана — да 3 гадоў (пракурор прасіў для першага 3 гады, для другога — адзін год), Сямёна — да 2 гадоў (пракурор прасіў 4). Рыву Файнштэйн-Саламонік асудзілі на 3 гады, але ўмоўна (пракурор прасіў той жа тэрмін, але не ўмоўна), з пяцігадовым выпрабавальным тэрмінам. Міхаіл Аліфсон і Мордух Саламонік былі апраўданы — так, дарэчы, і прасіў пракурор.

Відаць, суддзі самі не верылі ў тое, што Файнштэйны вінаватыя. Прысуд вынеслі, але тэрміны зняволення прызначылі як не для жорсткіх забойцаў, якія мала што жорстка забілі, дык яшчэ і абрабавалі свайго таленавітага родзіча.

Па ўспамінах сведак суда прысутныя на ім карэспандэнты сядзелі ў самоце. Таму што добра разумелі і невінаватасць Файнштэйнаў, і той факт, што праўду напісаць ім ніхто не дазволіць.

Падчас следства ўсе карціны Пэна апынуліся ў памяшканні міліцыі. Нягледзячы на тое, што кватэра Пэна была апламбаваная следчымі і ўваход у яе быў забаронены, і нават супрацоўнікі пракуратуры не маглі ў яе трапіць без адпаведнага дазволу генеральнага пракурора, нейкім загадкавым спосабам уся калекцыя карцін забітага мастака апынулася ў міліцыі.

4п. 1. 10990, л. 140.

*Упраўленне па справах мастацтва пры Савеце Народных Камісараў БССР*
*Менск, Дом Урада, левае крыло 6 паверх, пакой 601-604*
*тэл. №№ 25-499, 25-081*

*Культпрос* *Председателю СНК БССР*

(ад рукі) *тов. Голодеду Н.М.*

Докладная записка
о художнике Пэне

*В связи со смертью художника Пэна после него осталось много работ.*

*Мною ещё до смерти Пэна была послана комиссия, которая составила опись всем этим работам. По описи числится 753 работы. Но кроме этих картин есть много еще в музеях и на руках у частных лиц (частью украденых у него), которые необходимо собрать.*

*Кроме картин у Пэна осталась большая переписка даже с известными художниками (Репин и др.), которые надо разобрать и изучить. Пока всё это опечатано органами охраны и находится в бывшей квартире Пэна.* (падкрэслена мной. — *З.Д*).

*У Пэна остались некоторые родственники и одна из них, якобы, претендует на наследство (заявление зам. предс. Горсовета тов. Эстрина), но соглашается, чтобы картины были переданы государству, а ей назначена была бы пенсия, ибо ей Пэн систематически помогал. Лично Пэн давал согласие все свои картины передать государству, об этом имеется ряд свидетелей, но письменного заявления об этом не оставил.*

*Вношу следующее предложение для увековечивания памяти Пэна:—*

*1. Организовать либо самостоятельную галлерею работ художника Пэна или же в общей картинной галлерее БССР отвести ему специальное место. В первом случае галлерею надо оставить в Витебске, поскольку там с помещениями легче устроиться.*

*2. Все работы Пэна считаются собственностью государства и должны быть собраны и отобраны от всех частных лиц.*

*3. Провести оконтовку (взять в рамку) и остеклить все работы художника Пэна.*

*4. Организовать в 1937 г. выставку работ художника Пэна в Минске.*

*5. Создать комиссию из представителей Академии Наук, Управления по делам искусств и научных сотрудников музея БССР для изучения всей переписки Пэна.*

*6. Подготовить в 1937 г. монографию работ художника Пэна.*

*7. Поставить на могиле (интернациональное кладбище в Витебске) памятник.*

*8. Осуществление всех этих мероприятий возложить на специальную комиссию, выделенную СНК БССР, или на Управление по делам искусств, ассигновав ему для этой цели необходимые средства.*

*Решение этого вопроса необходимо ускорить в связи с тем, что оставление картин в таком состоянии невозможно.*

*Начальник Управления по*
*делам искусств при СНК БССР (П.Пасюкевич)*

З усяго пералічанага я дакладна ведаю пра стварэнне галерэі Пэна ў Віцебску і пра помнік на магіле мастака.

Наконт слоў: *«Лично Пэн давал согласие все свои картины передать государству, об этом имеется ряд свидетелей, но письменного заявления об этом не оставил»*. У Пэна не было думкі аб тым, каб пакінуць сваю калекцыю карцін ў спадчыну гораду Віцебску. Калі пачалася валакіта з выдзяленнем мастаку належнага памяшкання пад галерэю, Юдаль Маісеевіч сур'ёзна пачаў думаць аб ад'едзе са сваімі карцінамі за мяжу. І гэтай думкай ён таемна падзяліўся са сваім любімым пляменнікам Рыгорам Маісеевічам Герштэйнам. Пра гэта я даведаўся ад Ганны Рыгораўны Герштэйн — траюраднай пляменніцы Юдаля Пэна.

Неабходна адзначыць і той факт, што помнік неаднаразова разбураўся вандаламі. Аднойчы нехта раскраіў бронзавы бюст мастака сякерай, быццам бы гаворачы гэтым учынкам, што той жа зброяй, якой быў забіты Пэн, мы выб'ем і памяць аб ім. Але прайшло каля васьмі дзесяцігоддзяў пасля забойства мастака, а памяць не проста жыве, але і прымушае нераўнадушных людзей да доследаў яго жыцця і творчасці.

Труп мастака быў знойдзены а 10-й гадзіне раніцы 1 сакавіка 1937 года. Першай знайшла

забітага Пэна малочніца. Яна была насцярожана тым, што дзверы ў кватэру адчынены. Тэлефона ў Пэна не было, таму міліцыю выклікалі ад суседзяў. Пазней тыя вельмі шкадавалі, што не падняліся, калі пачулі незразумелую валтузню ў кватэры мастака. Магчыма, тады можна было б раскрыць злачынства па гарачых слядах. Але...

***

У 1939 годзе ў Віцебску была адкрыта галерэя мастака Юдаля Маісеевіча Пэна. Там экспанаваліся ўсе палотны з яго кватэры і тыя, што былі знойдзены ў музеях і прыватных калекцыях. Усяго больш за 800 карцін.

У 1941 годзе карціны эвакуіраваны ў Саратаў. Там, па ўсёй верагоднасці, калекцыя была распрададзена. У фондзе Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь захаваліся дакументы з прозвішчамі калекцыянераў, якія набывалі карціны Пэна. Канешне, амаль за 80 гадоў маглі змяніцца адрасы, частка карцін магла быць перапрададзена іншым калекцыянерам ці на Захад. Але ведаючы прозвішчы калекцыянераў, лягчэй шукаць творы мастака і прасачыць іх лёс.

Праўда, па некаторых звестках з Віцебска паспелі вывезці толькі частку работ Пэна, а большасць — загінула недзе пад Віцебскам пасля авіяналёту. Яшчэ па адной версіі, у 1948—1953 гадах, калі пачалася барацьба з касмапалітызмам, работы мастака былі пушчаны пад бульдозер і зарыты невядома дзе.



На фотаздымку відаць, што Юдаль Маісеевіч аказваў супраціўленне. Аб гэтым сведчыць поза, у якой мастак быў знойдзены а 10-й гадзіне раніцы 1 сакавіка 1937 года.



Нож і сякерка, якімі, па афіцыйнай версіі, быў забіты мастак.

## Спроба разгадкі

Серыя «Ню», партрэты знакамітых жанчын Віцебска і не толькі Віцебска. Для гэтай серыі пазіраваць Пэну прыязджалі дамы з усёй тагачаснай Беларусі. І дамы далёка не простыя, а як раней казалі велікасвецкія. Мо адна з іх мае ўскоснае дачыненне да забойства? Але жаночая лінія не з'яўляецца галоўнай у гэтай крымінальнай справе. Жанчыны выконвалі ў ёй падрыхтоўчую работу — не больш.

Каля Пэна пастаянна знаходзіліся дзве жанчыны — Марыя Самсонава, прыстаўленая гарадскім кіраўніцтвам Віцебска дапамагаць мастаку — прыбіраць кватэру, купляць прадукты і лекі, і Юлія Гуркіна, якая (па ўспамінах і паказаннях суседзяў) шмат што сабе дазваляла.

Непрафесіяналізм следства вельмі раздражняў С.Я. Прытуляка, і ён пачаў паралельна праводзіць сваё расследаванне. На адным з алоўкавых накідаў «ню» следчы пазнаў жанчыну, якую сустрэў у кабінеце Гарбалені. Яна вельмі рэзка размаўляла з камісарам НКУС, а такое магла дазволіць сабе толькі жанчына, якая была ў вельмі блізкіх адносінах з камісарам.

Як высветлілася, дачка апошняга віцебскага генерал-губернатара, жонка старшыні Віцебскага НКУС

Івана Гарбалені і славутая Марыя Самсонава — адзін чалавек. Можна здагадацца, што тварылася на душы камісара НКУС Гарбалені, калі ён убачыў партрэт сваёй жонкі ў майстэрні мастака. Калі б «наверсе» даведаліся, што яго жонка класавы вораг, ягонай кар'еры (як і жыццю) быў бы пакладзены канец.

Самае галоўнае, што Пэн адмовіўся прадаць гэты партрэт Івану Гарбаленю.

Мастак нікому свае карціны не прадаваў, не зрабіў выключэнне і камісару НКУС. Такога свавольства ў тыя гады ніхто сабе не дазваляў. Гэты ўчынак Пэна вельмі раззлаваў Гарбаленю. Ён — улада, а Пэн — мастак, а значыць ніхто.

Раз не ўдалося ўзяць дабром, то неабходна ўкрасці. Ну, а каб украсці, неабходна забіць гаспадара і аўтара партрэта.

Але нават галоўнаму нкусаўцу Віцебска зрабіць такое аднаму вельмі цяжка. Вось тут мог спатрэбіцца Якаў Бак. Ён мог намаляваць падрабязны план кватэры Пэна і прадставіць дакладны распарадак дня мастака. На плане мог быць пазначаны асобым значком той пакой, з якога можна выйсці незаўважаным. Зрабіць сваю чорную справу і па маршруце (які таксама мог быць пазначаны на плане) выйсці з кватэры праз чорны ход (калі такі існаваў). Сам жа Якаў Бак выйшаў праз галоўны, дзе і сутыкнуўся з пляменнікамі Пэна Абрамам і Нэхай Файнштэнамі. А тыя прыйшлі да ўжо мёртвага мастака.

Якаў Бак працаваў у Пэна апальшчыкам і таму вельмі добра ведаў усе куточкі кватэры і распарадак дня. Але Якава Бака на кватэры Пэна 28 лютага 1937 года не было — ён быў у бібліятэцы. І я не магу ўявіць Якава Бака забойцам свайго настаўніка. Роля арганізатара яму больш падыходзіць…

Пачнём з таго, што ў заключэнні следчага, зробленым адразу на месцы злачынства, і ў паказаннях так званых «забойцаў» — пляменніка і пляменніцы размова ідзе проста пра нож. Слова «кухонны», відаць, было наўмысна выкраслена следчымі. Дык чаму сярод «вещдоков» замест кухоннага (ці прафесійнай заточкі) з'явіўся звычайны сталовы нож, якім можна нанесці толькі драпіну, але не забіць? Па нейкай прычыне ў Віцебскай справе па забойстве Пэна не хапае вялікай колькасці старонак. Можа на іх і былі вельмі непажаданыя для віцебскіх нкусаўцаў заключэнні экспертаў, і паказанні сведак (я упэўнены ў іх наяўнасці). Куды зніклі пратаколы першапачатковых допытаў, чаму засталіся толькі пратаколы паўторных? І хто перамяшаў усе дакументы справы так, што была парушана храналогія падзей?

Неабходна адзначыць, што на самым пачатку следства быў сапраўдны нож. Падмена адбылася значна пазней (прыкладна праз месяц), калі даведаліся аб тым, што з Мінска едзе намеснік пракурора Прытуляк.

Тут віцебскія нкусаўцы пачалі нервавацца. Значыць, добра ведалі забойцу і таму рабілі ўсё, каб выгарадзіць таварыша па працы (праўда, неўзабаве самі яго і знішчылі). Было вырашана як мага хутчэй пазбавіцца ад назойлівага пракурора, які сапсаваў справу. А яна, як ім здалося, была так удала зроблена. Дык жа не, знайшліся два пракуроры, якія адразу заўважылі хібы. Вось і распачалося на іх паляванне. Першай ахвярай стаў С.Я. Прытуляк, якога знайшлі у сваёй кватэры застрэленым з уласнага пісталета. Выглядала як самагубства. Але пры гэтым на ручцы пісталета не было адбіткаў пальцаў. З другім пракурорам, Глезеравым, расправіліся мінскія нкусаўцы — як з чалавекам, які не вядзе барацьбу з класавымі ворагамі.

Хто такі старшы лейтэнант дзяржаўнай бяспекі Іван Гарбаленя?

Сумнавядомы і вельмі страшны чалавек, які знішчыў сотні, калі не тысячы віцяблян. Менавіта ён — І. Гарбаленя — распрацаваў так званую справу «ПКА» — «Польскай контррэвалюцыйнай арганізацыі». І ўсе простыя і сумленныя людзі, якія мелі хоць нейкае самастойнае мысленне, траплялі пад артыкул членства ў гэтай арганізацыі. Жыхары Віцебска пракліналі Гарбаленю і жадалі яму толькі хуткай смерці. Ніхто з жыхароў Віцебска не сумняваўся — мастака забіў Іван Гарбаленя. І каб адвесці ад сябе падазрэнні, сам узяўся весці справу аб забойстве.

***

Тое, што прадстаўлена ў гэтым артыкуле, толькі думкі падчас даследавання, якое працягваецца.



**Айцец Агапій (Голуб)**

## Мае кантакты: girovichi@yandex.ru

*Калі мільёнам цікава, куды ляціць шайба, то куды ж ляціць свет?*
*Б. Ганага*

Паколькі я працую па аказанні інфармацыйна-кансультацыйнай дапамогі сем'ям, у чыё жыццё ўвайшла хімічная залежнасць, то не абыходжу ўвагай публікацыі, на вядомым партале TUT.BY кшталту сакавіцкай «Число наркопреступлений среди подростков в Минской области за три года выросло в 10 раз» (http://news.tut.by/society/490290.html).

Такая інфармацыя там не рэдкасць. Але я ніколі не сустрэў на гэтым партале больш ці менш сур'ёзную спробу асэнсаваць: чаму маса людзей з самых розных слаёў грамадства, абодвух полаў, з рознымі адукацыямі, розных узростаў — ідуць насустрач уласнаму самазнішчэнню. І рэдка сустракаю публікацыі на тэму, што рабіць сям'і, у жыццё якой увайшла хімічная залежнасць.

Сёння хачу падзяліцца думкамі па першым пытанні.

Шмат хто разглядае праблему ў эканамічнай, сацыяльнай, псіхалагічнай плоскасцях. Але ж факт — залежнасць распаўсюджваецца не толькі сярод «нешчаслівых» сем'яў. Духоўнасць… Так, глыбінныя прычыны — у бездухоўнасці. Але гэтыя словы — духоўнасць і бездухоўнасць — так часта гучаць, што іх сэнс зашмальцоўваецца. Як менавіта, *якая* бездухоўнасць з'яўляецца прычынай адсутнасці імунітэту супраць залежнасцей?

Прыкладна праз год працы ў сваёй галіне, разважаючы пра гэтую самую бездухоўнасць, я часцей пачаў успамінаць прачытаную некалі… фантастыку — Оруэла («1984»), Хакслі (*«О дзівосны новы свет»*), Брэдберы (*«Вельд», «451 градус па Фарэнгейце», «Бетонамяшалка»*).

На сённяшнім узроўні цывілізацыі homo sapiens можа выбіраць паміж кока- і бела-колай, «Клинским» і «Балтикой», «таётай» і «мерсэдэсам», кандыдатамі на пост прэзідэнта і мэра горада — а не ведае, што існуе і іншы выбар: вертыкалі жыцця. Фактычна, мы назіраем мадэль, якая апісана ў фантастычных светах згаданых аўтараў. Самая таталітарная ідэалогія — гэта ідэалогія «Снікерса», «МакДональдса», чыпсаў, гаджэтаў, «Комсомолки», «Стервы», жавальных гумак, сексу і прымітыўных набораў гукаў і слоў, якія чамусьці называюцца музыкай і песнямі і якія ломяцца ў нашу свядомасць з вокнаў аўтамабіляў, што пралятаюць міма і ў салонах маршрутных таксі. Згодна з законам Оруэла (хто кантралюе язык, той кантралюе свядомасць), выпрацавана сістэма «слэнгаў», калі існуючым словам даюцца новыя значэнні, з'яўляюцца проста немагчымыя з літаратурнага боку тэрміны («снікерснуць»). Тое, што традыцыйна называлася распустай, атрымала назву «грамадзянскі шлюб». Прыгожая «абгортка». Яркі прыклад дзеяння тэхналогій кіравання свядомасцю мас.

Мы з'явіліся сведкамі стварэння новай мовы. Прыводзіць іншыя прыклады мне не хочацца[1].

[1] У цэнтры рэабілітацыі нарказалежных, дзе я нясу адно са сваіх паслушэнстваў, на занятках і ў пісьмовых работах не дазваляецца выкарыстанне «слэнгу». Як бы паспяхова чалавек ні праходзіў рэабілітацыю, ён залежыць ад ранейшага асяроддзя, пакуль не вызваліцца ад засвоенай «мовы». На маю думку, выздараўленне наркамана пачне замацоўвацца толькі тады, калі ў яго свядомасці слова «баян» зноў будзе азначаць старажытнарускі музычны інструмент, а не шпрыц.

**Абкружаны з калыскі рэаліямі Дзіўнага Новага Свету, чалавек нават не ведае, што свет можа быць іншым. Ён ужо ў дватры гадкі падсаджваецца з бацькамі да тэлевізара, атрымлівае мадэль паводзінаў з мультфільмаў кшталту «Маша і мядзведзь». Потым — некантралюемы доступ да камп’ютара, у восем гадкоў — ужо свой мабільны тэлефон… Галоўныя творы кінамастацтва — «Шрэк», «Бэтмэн», «Чарепашкі-ніндзя», «Пакемоны». Твораў, дзе няма пагоні і крыві, але ёсць хоць нейкі сэнс, ён не прымае. Пра існаванне «Чараўніка Смарагдавага горада», як правіла, не падазрае. У чатырнаццаць ён цалкам дэтэрмінаваны на пэўны лад жыцця і іерархію каштоўнасцей, дзе месца такім паняццям як абавязак, гонар, цнатлівасць, сумленне — няма. З практыкі скажу: многія 14—18-гадовыя хлопцы і дзяўчаты не знаёмыя нават са словам «цнатлівасць». А калі гаворыш пра свабоду, узнікаюць асацыяцыі з палітычнай свабодай і «правамі». Пра свабоду ўнутраную ўяўленні цьмяныя. І добра, калі ўвогуле ёсць. Гадоў у шаснаццаць (плюс-мінус два гады) з’яўляецца досвед ужывання піва і слабаалкагольных напояў, цыгарэт. А яшчэ — ён абкружаны бессэнсоўнай інфармацыяй і навінамі, у якіх нават няма навін, 98 % якіх робяцца старымі ранкам наступнага дня. Грукат цывілізацыі, які прымушае чалавека быць экстравертам (павернутым вонкі), не дае пачуць ціхі заклік Неба і нават адчуць уласную пустату. А калі раптам яна і адчуецца, дык спрацуе такая рэакцыя: хутчэй сысці ад яе ў далейшае ўжыванне таго, што ёсць пад рукой. Для хрысціянства гэты чалавек ужо непранікальны.**

Мяркуеце, перабольшваю?

Самі ўжо знайдзіце дадзеныя па падлеткавай злачыннасці, іграманіі — на TUT.BY публікацый хапае.

І гэтыя ж дзеці і падлеткі — далёка не заўсёды з нешчаслівых сямей. Шмат у каго — поўная сям’я, бацькі з вышэйшай адукацыяй і «фасадам прыстойнасці». Запэўніваю вас у гэтым як чалавек, які некалькі гадоў працуе з сем’ямі залежных.

І ніводзін чалавек не можа сказаць, што ён не мае дачынення да глебы, якая спараджае залежнасці. І ўсё гэта адбываецца пастаянна, на нашых вачах. У калег на працы і іх сем’ях. У суседзяў па пад’ездзе. У сяброў. У родных. У асяродку студэнтаў і школьнікаў, з якімі сябруюць сын ці дачка. Справа датычыцца ўсіх нас. Пытанне толькі ў тым, наколькі мы гатовыя глядзець рэаліям у вочы — і браць на сябе адказнасць. Не мяняць свет. Пачаць з сябе і сваёй сям’і. І рабіць тое, што дадзена рабіць. Я наколькі дазваляюць сілы і здольнасці, працую. Хочаце — далучайцеся. Мне дапамога не перашкодзіць ніколі.

Мае кантакты: (+375 29) 1717938; 2977891; girovichi@yandex.ru

**Ліна Багданава**

## Нічога асаблівага

Яна чакала свой тралейбус. Думала ні пра што. Дакладней, пра ўсё патроху. Спяшаючыся — раптам зараз з’явіцца чаканая «шасцёрка» — даядала сочнік, куплены ў ларку. Раптам захацелася адчуць смак, знаёмы з самага дзяцінства. Расчаравалася — калі толькі трошкі. Але сэрцу было соладка. І чаканне рабілася амаль прыемным.

«І што за жыццё? — круціўся ў галаве калейдаскоп думак. — Усюды бегма — і нікуды не паспяваю. Вунь у Жэнькі ў школе праблема на праблеме. Трэба было збегаць, адзначыцца хаця б, а тут…

Пральная машынка капрызіць. Час мяняць. Ды і ў адпачынак збірацца трэба. Куды гэтым разам? Думай за ўсіх, а потым сама ж і застанешся вінаватай — не тое выбрала. А што вам усім трэба? Што? Хоць бы калі-небудзь выбраліся куды ўсе разам!

А так… Мужу на рыбалку трэба, хоць рэж. Дачка зноў з’едзе з сяброўкамі. Сыну ў турпаход. Ды каб надзейней было (раптам мама далучыцца), на байдарках, на веласіпедах. Не, я, канечне, на веласіпедзе магу яшчэ. Але ж не ў паход! Мне на мора хочацца…

Лета на носе, а басаножкі не купіла… Давядзецца ў старых да пенсіі хадзіць…

У Наталлі чарговы кавалер вымалёўваецца… Мама крыўдуе, што прыязджаю раз на ты-

дзень… Трэба часцей, у яе са здароўем нядобра, ды як тут выберашся — пасля работы ніякіх сіл няма… Заўтра залік па тэхніцы бяспекі, а я так і не зазірнула ў даведнік…»

У галаве вінегрэт, перад вачыма слуп з абрыўкамі аб'яў…

«Што там у нас? Здаецца… Прыму ў дар… Аддам у харошыя рукі… І хто толькі лепіць гэтыя экзерсісы? І хто чытае? Хаця… Кхм, чытаю я, напрыклад. Не сур'ёзна. Так, ад няма чаго рабіць. А што тут асаблівага? Роўным лікам нічога. Адны пішуць, другія чытаюць. А нехта яшчэ ўхітраецца дзейнічаць. Іначай не пісалі б…»

Позірк перамясціўся трохі вышэй, зачапіўся за багоўку з наліплай на вусік хлебнай крошкай. Прыгажунька з чорнымі кропачкамі была так блізка, што здавалася, чуваць тупат яе ножак па бетоне.

Топ-топ, топ-топ…

«Божае стварэнне, — усмешка кранула вусны. — Недзе спяшаецца, нечага дабіваецца. Вунь як актывізавалася, натыкнуўшыся на гумку. Дзіця прагрэсу! — позірк слізгануў па людзях, што сабраліся на прыпынку. — З працы, відаць. Стомленыя. У вачах пустэча.

Жанчыны на сваёй хвалі — крама, кухня, мыццё бялізны, хатняе заданне па матэматыцы. Мужчыны… О, тут спектр шырэйшы. Гэтаму ў піўную заскочыць хочацца. Хлапцу ў бейсболцы — от бы сыну такую купіць, на руках насіў бы тры дні… ну, не насіў бы, але дыванок са свайго пакоя дакладна выбіў бы ад пылу… Хлапцу ў бейсболцы — не цярпіцца прагуляцца ў інтэрнэце. Гэтаму, відаць, дзяўчына тэлефануе: прыемны вечар гарантаваны. Хаця… як пашанцуе. Акулярыку каля шапіка… А сімпатычны ж мужчынка. Акуратны, з фігуркай, у паглядзе так шмат цікавага. О, здаецца, сімпатыя ў нас узаемная! А што калі плюнуць на штодзённыя замарочкі — як-небудзь абыдуцца мае вячэрай з лядоўні — і фліртануць вечарок?

Канечне, да сур'ёзнага не дойдзе. Так, нічога асаблівага… Бакал шампанскага, марожанае… Хоць я і ад піва не адмовілася б… Ну, а там размова ні пра што, вочы ў вочы. Руку, можа быць, пацалуе… Словы прыемныя знойдзе…

А раптам на рэстаран раздобрыцца? І на тур вальса? — яна ў думках правяла інвентарызацыю сваіх рэзерваў. — Не, на рэстаран я не пагаджуся. Няхай і не спадзяецца! Панчохі з зацяжкамі — у буфеце зноў за крэсла зачапілася, каб іх чорт, гэтыя крэслы! Абутак на нізкім хаду, а магла ж і на абцасах сёння абуць! Разленавалася апошнім часам. Ды і хто ведаў, што сустрэнемся… Давядзецца абыходзіцца кавярняй. А шкада… Харошы мужчына. Вось бы летам такога сустрэць… На курорце! Мара!

Госпадзі, што за дурасць лезе ў галаву. Німфаманка знайшлася! Сорак гадоў, а ў галаве жалейкі іграюць! А ўсё ж… усё ж… усё ж… Я на сёння жанчына вольная. Ён, мяркуючы па пагלядзе, таксама…»

Віск тармазоў раздаўся зусім побач. Мары і роздумы рассыпаліся па хвалях больш яркіх эмоцый. І патанулі ў іх хвалюючай бездані… Іх нядаўняя гаспадыня адскочыла ў бок яшчэ раней. І своечасова.

Матацыкл на поўным хаду ўрэзаўся ў апору прыпынку, вадзіцель брудна вылаяўся, выпісаў выкрунтас і знік з тым жа поспехам, што і з'явіўся. Яшчэ б пара сантыметраў — і…

У вачах пацямнела, ногі падкасіліся, цела здзейсніла зусім не мяккую пасадку на краёчак лаўкі, бокам абапёршыся на таварыша па выпрабаванні. А мо і сяброўку… Тут не да падрабязнасцей — сябе б знайсці…

Падышла «шасцёрка». Амаль пустая...

— Шанцуе часам! — яна ўскочыла ў пярэднія дзверы райскай птушкай. Расправіла крыльцы. Прывяла ў парадак пёркі. Уселася з камфортам. Прыстроіла побач сумкі.

«Цяпер і адпачыць можна, — і паглядзела ў запыленае акно, кінуўшы развітальны позірк на аб'ект няўдалай прыгоды. — Не лёс… А, паспееца… Вось прыдурак! — з некаторым спазненнем пачала рэфлексаваць. — І як такім правы выдаюць?! Іх бы… — тралейбус прыпыніўся каля пераходу. Малыя з featureнакаляровымі ранцамі за спінамі пабеглі па белых палосах. — А ў Жэнькі ў школе зноў праблемы…»

Дзень змяніўся на вясёлыя бэзавыя прыцемкі. Да дома заставалася тры прыпынкі.

Што гэта было? Нічога асаблівага — маленькая кропелька задавальнення, трошкі клопату, трошкі здзіўлення, драбочак кахання, прыкладна столькі ж страху… Пяць хвілін жаночага жыцця сышлі ў нікуды.

«Так і жывём…»




Маргарыта Латышкевіч. "Рыбны дзень"


ква
Капялюшык з багавіння, клюшні рака ў барадзе...


буль
буль
буль
буль
Песню булькае нявінна Вадзянік, пакуль ідзе.


Гарррр
Хоць Вадзяніку на вуха неяк наступіў мядзведзь,


ла-ла-ла
ла-ла-ла
ла-ла-ла
Сэрца як яму не слухаць? Як не марыць? Як не пець?
угх


буль
буль
Ён пяе пра карпаў ціхіх, Пра імклівы хвост ліня,


шчоўк!
шчоўк!
Пра чырвоны нос бусліхі,


пра сям'ю
баброў
з-пад пня.


Ла-ла-ла
Ла-ла-ла
Ла-ла-ла
По дрыгве блукае рэха
І губляецца ў гаі.
За аерам хрыплым смехам
адзавуцца бугаі.


Ла-ла-ла
Ла-ла-ла


Там, на возеры - лілеі,
бы аблокі на вадзе.


Ноч,
калі зара
затлее
туманоў
з іх
напрадзе.